Пераклад Васіля Раманава 2016 г.

Віктар Сувораў
(Уладзімір Багданавіч Рэзун)

# Ледакол

## Змест



## Да майго рускага чытача

«Я не згодзен ні з адным словам, якое Вы выказкаеце, але гатовы памерці за Ваша права гэта выказваць.»

Вальтэр

«Меркаванне Віктара Суворава ў вобласьці абароны робіцца грамадзкай думкай. Ён яе фармуе».

«Інтэрнэшнл дэфанс рэвю», Жэнева, верасень 1989 г.

«Гэтая кніга напісана прафесійным выведнікам, а не гісторыкам, і гэта рэзка павялічвае яе каштоўнасць. Савецкія таварышы і іхныя заходнія сябры будуць у дзікай лютасьці. Без бою яны не аддадуць апошнюю „белую пляму“ ў іхнай гісторыі. Не слухайце іх, чытайце „Ледакол“! Гэта сумленная кніга».

«Дзі Вельт», 23 сакавіка 1989 г.

«Сувораў спрачаецца з кожнай кнігай, з кожным артыкулам, з кожным фільмам, з кожнай дырэктывай НАТО, з кожнай здагадкай брытанскага ўрада, з кожным урадаўцам Пентагона, з кожным акадэмікам, з кожным камуністам і з кожным антыкамуністам, з кожным неакансерватыўным інтэлектуалам, з кожнай савецкай песняй, паэмай, раманам, з кожнай мелодыяй, якія былі пачуты, напісаны, праспяваны, выпушчаны, выкананы за апошнія 60 гадоў. Нават за адно гэта „Ледакол“ патрэбна лічыць самым арыгінальным творам у сучаснай гісторыі».

«Таймс», 5 траўня 1990 г.

Прабачце мяне.

Калі не гатовы даравать, не чытайце далей гэтых радкоў, кляніце мяне і маю кнігу – не чытаючы. Так робіць шмат хто.

Я замахнуўся на самае сьвятое, што ёсць у нашага народа, я замахнуўся на адзіную сьвятыню, якая ў народа засталася, – на памяць пра Вайну, пра так званую «вялікую айчынную вайну». Гэтую назву я бяру ў двухкоссе і пішу з малой літары.

Прабачце мяне.

Другая сусьветная вайна – гэта тэрмін, які камуністы прывучылі нас пісаць з малой літары. А я пішу гэты тэрмін з вялікай літары і даводжу, што Савецкі Звяз – галоўная яе падстава і галоўны завадатар. Савецкі Звяз – удзельнік Другой сусьветнай вайны з 1939 года, з самага яе першага дня. Камуністы склалі легенду пра тое, што на нас напалі і з таго самага моманту пачалася «Вялікая Айчынная Вайна».

Гэтую легенду я выбіваю із-пад ног, як кат выбівае лавачку. Трэба мець жорсткае сэрца ці не мець яго цалкам, каб працаваць катам, тым больш – катам, забіваючым нацыянальныя сьвятыні вялікага народа, свайго ўласнага народа. Няма нічога больш жахлівага, чым выконваць працу ката. Гэтую ролю я ўзяў на сябе згодна са сваім жаданнем. І яна даводзіць мяне да самагубства.

Я ведаю, што ў мільёнах нашых сядзіб і кватэр на сьценах вісяць фотаздымкі тых, хто не вярнуўся з вайны. Такія фотаздымкі вісяць і ў маёй сядзібе. Я не маю намеру абражаць памяць мільёнаў загінуўшых, але зрываючы арэол сьвятасьці з вайны, якую задумалі камуністы на нашу агульную бяду, я нібы мімаволі абражаю памяць пра тых, хто з вайны не вярнуўся.

Прабачце мяне.

Зараз Расія пазбаўляецца ад гвалтоўна нададзенай ёй ідэалогіі, і таму памяць пра справядлівую вайну засталася як бы адзінай падпоркай грамадства. Я разбураю яе. Прабачыце мяне, і давайце шукаць іншую падпорку.

Але не падумайце, што, разбураючы і абражаючы сьвятыні, я адчуваю ад гэтага задавальненне. «Ледакол» не прынёс мне радасьці. Наадварот. Праца над кнігай спустошыла мяне. У мяне пустая душа, а галава перапоўнена нумарамі

дывізій. Насіць у галаве такую кнігу я доўга не мог. Яе ПАТРЭБНА было напісаць. Але для гэтага патрэбна было збегчы з краіны. Для гэтага патрэбна было стаць здраднікам. Я ім стаў.

Гэтая кніга прынесла столькі гора ў маю сядзібу! Мой бацька – Разун Багдан Васільевіч – прайшоў вайну з першага да самага апошняга дня, ён быў паранены некалькі разоў і аднойчы цяжка, амаль смяротна. Яго я зрабіў бацькам здрадніка. Як ён з гэтым жыве? Не ведаю – у мяне не хапае адвагі гэта ўявіць… Апроч усяго, я разбурыў яго ўяўленне пра вайну, як пра вайну вялікую, вызваляючую, айчынную. Мой бацька быў маёй першай ахвярай. Я ў яго прасіў прабачэння. Ён мяне не прабачыў. І я зноў прашу прабачэння ў свайго бацькі. Перад усёй Расіяй. На каленях.

Гэтая кніга несла гора ўсім, хто побач са мной. Каб напісаць «Ледакол», я ахвяраваў усім, што ў мяне было: дзеля кнігі свайго жыцця, якая мне не дае нічога, акрамя начэй няспання і лютых нападкаў крытыкі. Зараз «Ледакол» прызнаны ў шмат якіх краінах. Але не заўсёды так было…

Мае прысуды заслужаны мной цалкам. Я не прашу прабачэння за сваю здраду і не жадаю прабачэння за яе. Прабачце за кнігу. Мае прысуды да смяротнага пакарання справядлівыя да апошняй кропкі. І хай не турбуюцца тыя, каму загадана прывесьці іх у выкананне: я сам сябе пакараю.

Я не баюся сьмерці. Было боязна памерці, не напісаўшы гэтай кнігі, не выказаўшы таго, што адкрылася мне. Было боязна, калі ўсе выдаўцы рускіх кніг на Захадзе груба ці ветліва мне адмовілі. Кніга ўжо надрукавана на адзінаццаці мовах. У Германіі вытрымала восем выданняў, у Польшчы тры выданні толькі за травень 1992 года. Але на рускай мове ніводзін выдавец, пачынаючы з 1980 года, так і не адважыўся надрукаваць яе поўны тэкст. Вось гэта было жахліва. Зараз першы із трох тамоў, нарэшце, выходзіць на рускай мове, і таму я больш нічога не баюся. Лайце кнігу, лайце мяне. Праклінайце.

Але – праклінаючы – паспрабуйце зразумець і – прабачыць.

Маю дзёрзкую кнігу, мой выклік грамадству даравалі шмат хто. Пасярод замежных выдаўцоў рускіх кніг адважных не знайшлося, але главы із «Ледаколу» друкавалі вольныя рускія газеты і часопісы. Мяне адразу і да канца падтрымлівалі праваабаронцы Уладзімір Букоўскі, Эдуард Кузняцоў, Ірына Ратушынская, Ігар Герашчанка,. Арына і Аляксандр Гінзбургі, Ірына Аляксееўна Ілавайская, галоўны рэдактар «Рускай думкі» – газеты, друкаваўшай главы із маёй кнігі на працягу сямі гадоў, заслугоўваючы ўхвалы трыўмвірат із рускай службы БІ-БІ-СІ ў складзе Леаніда Ўладзімірава, Усевалада Наўгародцава, Аляксея Леанідава. У цяжкія гады майго жыцця мяне падтрымлівалі шматлікія людзі, і кожнаму з іх я ўдзячны. Мне давялося прабіваць «Ледакол», даводзіць і настойваць, давялося забіраць час і нервы ў шмат каго. Абараняючы сваю ідэю, я быў вымушаны гыркаць, крыўдзіць і абражаць супернікаў і апанентаў, а часам – рваць глоткі. Усіх, каго мімаволі пакрыўдзіў, яшчэ раз прашу: прабачце мяне.

Я здраднік, здраднік… Такіх не даруюць, але я ўсё адно прашу:

ПРАБАЧЦЕ МЯНЕ.

Віктар СУВОРАЎ, 21 кастрычніка. 1992 гады, Брысталь.

# Хто пачаў Другую Сусьветную вайну?

«…Захад з яго імперыялістычнымі людаедамі ператварыўся ў агмень цемры і рабства. Задача складаецца ў тым, каб знішчыць гэты агмень на радасць і суцяшэнне працоўных усіх краін»

І. Сталін, 1918 г.

На гэтае пытанне адказваюць па-рознаму. Адзінай думкі няма. Савецкі ўрад, напрыклад, шматразова пераменяў адказ на гэтае пытанне.

18 верасня 1939 года савецкі ўрад у афіцыйнай ноце абвясьціў, што віна за пачатак вайны ўскладаецца на Польшчу.

30 лістапада 1939 года Сталін у газеце «Праўда» назваў яшчэ «вінаватых»: «Англія і Францыя напалі на Германію, узяўшы на сябе адказнасць за цяперашнюю вайну».

5 траўня 1941 года ў сакрэтнай прамове перад выпускнікамі вайсковых акадэмій Сталін назваў яшчэ аднаго вінаватага – Германію.

Пасьля заканчэння вайны кола «вінаватых» пашырылася. Сталін заявіў, што Другую Сусьветную вайну пачалі ўсе капіталістычныя краіны сьвету. Да Другой Сусьветнай вайны ўсе суверэнныя дзяржавы сьвету, акрамя СССР, адпаведна са сталінскім падзелам, лічыліся капіталістычнымі. Калі верыць Сталіну, то самую крывавую ў гісторыі чалавецтва вайну пачалі ўрады ўсіх краін, уключаючы Швецыю і Швейцарыю, але выключаючы Савецкі Звяз.

Сталінскі погляд пра тое, што вінаваты ўсе, за выключэннем СССР, надоўга стабілізаваўся ў камуністычнай міфалогіі. У часы Хрушчова і Брэжнева, Андропава і Чарненкі абвінавачванні супраць усяго сьвету неаднаразова паўтараліся. У часы Гарбачова ў Савецкім Звязе перамянілася шмат што, але не сталінскі погляд пра вінаватых у вайне. Так, у гарбачоўскія часы галоўны гісторык Савецкага Войска, генерал-лейтэнант П. А. Жылін паўтарае: «Вінаватымі ва ўзнікненні вайны былі не толькі „імперыялісты Германіі, але і ўсяго сьвету“ („Чырвоная зорка“, 24 верасня 1985 года).

Маю адвагу заявіць, што савецкія камуністы абвінавачваюць усе краіны сьвету ў развязванні Другой Сусьветнай вайны толькі для таго, каб схаваць сваю ганебную ролю падпальшчыкаў.

Давайце згадаем, што пасьля Першай Сусьветнай вайны Германія страціла права мець вялікае войска і наступаючае ўзбраенне, уключаючы танкі, цяжкую артылерыю, баявыя самалёты. На сваёй уласнай тэрыторыі германскія камандыры былі пазбаўлены магчымасьці рыхтавацца да вядзення наступальнай вайны. Германскія камандыры не парушалі забарону да вызначанага часу і не рыхтаваліся да наступальнай вайны на сваіх палігонах, яны рабілі гэта… на тэрыторыі Савецкага Звязу. Сталін даў германскім камандырам усё тое, чаго яны не мелі права мець: танкі, цяжкую артылерыю, баявыя самалёты. Сталін даў германскім камандырам навучальныя класы, палігоны, стрэльбішчы. Сталін адкрыў доступ германскім камандырам на самыя магутныя ў сьвеце савецкія танкавыя заводы: глядзіце, запамінайце, пераймайце.

Калі б Сталін імкнуўся да міру, то ён павінен быў бы ўсімі сродкамі перашкаджаць адраджэнню ўдарнай магутнасьці германскага мілітарызму: у такім выпадку Германія заставалася б слабай у вайсковым дачыненні краінай. Акрамя слабай у вайсковым дачыненні Германіі ў Яўропе была б Брытанія, не меўшая магутнага сухапутнага войска; Францыя, якая амаль увесь свой вайсковы бюджэт выдаткавала выключна на абарончыя праграмы, будуючы падабенства Вялікай Кітайскай сьцяны ўздоўж сваёй мяжы, і іншыя слабейшыя ў вайсковым і

эканамічным дачыненні краіны. У такім становішчы Яўропа была б зусім не такой пажаранебяспечнай… Але Сталін з нейкімі мэтамі не шкадуе сродкаў, намаганняў і часу на адраджэнне германскай ударнай моцы. Навошта? Супраць каго? Вядома, не супраць самога сябе! Тады супраць каго? Адказ адзін: супраць усёй астатняй Яўропы.

Але адрадзіць магутнае войска ў Германіі і такую ж магутную вайсковую прамысловасць – гэта толькі палова справы. Нават самае агрэсіўнае войска само вайну не пачынае. Патрэбен акрамя усяго фанатычны, вар'яцкі лідар, гатовы пачаць вайну. І Сталін зрабіў вельмі шмат для таго, каб на чале Германіі апынуўся менавіта такі лідар. Як Сталін стварыў Гітлера, як дапамог яму захапіць уладу і ўмацавацца – асобная вялікая тэма. Кнігу на гэтую тэму я рыхтую. Але пра гэта гаворка наперадзе, а зараз мы толькі згадаем, што прыйшоўшых да ўлады нацыстаў Сталін зацята і настойліва падштурхоўваў да вайны. Вяршыня гэтых намаганняў – пакт Молатава-Рыбентропа. Гэтым пактам Сталін гарантаваў Гітлеру свабоду дзейнасьці ў Яўропе і па сутнасьці адкрыў шлюзы Другой Сусьветнай вайны. Калі мы ліхім словам згадваем сабаку пакусаўшую палову Яўропы, давайце не забудземся і пра Сталіна, які гэтую сабаку выгадаваў, а потым і спусьціў із ланцуга. Яшчэ да прыходу яго да ўлады савецкія лідары назвалі Гітлера таемным тытулам – Ледакол Рэвалюцыі. Імя дакладнае і ёмістае. Сталін разумеў, што Яўропу можа зрабіць слабой толькі война і што Ледакол Рэвалюцыі здольны паслабіць Яўропу. Адольф Гітлер, не ўсведамляючы таго, расчышчаў шлях сусьветнаму камунізму. Імгненнымі войнамі Гітлер руйнаваў заходнія дэмакратыі, пры гэтым распыляючы і раскідаючы свае войска ад Нарвегіі да Лівіі. Ледакол Рэвалюцыі здзяйсняў самыя вялікія злачынствы супраць міру і чалавецтва і сваімі дзеяннямі даў Сталіну маральнае права ў кожны момант абвясьціць сябе Вызваліцелем Яўропы, замяніўшы карычневыя канцлагеры на чырвоныя. Сталін разумеў, што ў вайне будзе пераможцам не той, хто пачне яе першым, а той, хто пачне апошнім, і саступіў Гітлеру ганебнае права быць завадатарам вайны, а сам цярпліва чакаў моманту, «калі капіталісты перагрызуцца паміж сабой» (Сталін, прамова 3 снежня 1927 года).

Я лічу Гітлера злачынцам і нягоднікам. Я лічу яго людаедам еўрапейскага маштабу. Але калі Гітлер быў людаедам, то із гэтага зусім не вынікае, што Сталін быў вегетарыянцам. Зроблена нямала для таго, каб выкрыць злачынствы нацызму і знайсьці катаў, здзейсніўшых цяжкія злачынствы пад яго сьцягам. Гэтая праца павінна быць працягнута і ўзмоцнена. Але выкрываючы фашыстаў, мы абавязаны выкрываць і савецкіх камуністаў, заахвочваўшых нацыстаў на здзяйсненне злачынстваў і меўшых намер скарыстацца вынікамі іхных злачынстваў.

У Савецкам Звязе даўно і старанна пачышчаны архівы, а тое, што засталося, дасьледчыкам амаль недаступна. Мне пашчасьціла вельмі нядоўга папрацаваць у архівах Міністэрствы Абароны СССР, але я цалкам сьвядома амаль не карыстаюся архіўнымі матэрыяламі. У мяне шмат матэрыялаў із германскіх вайсковых архіваў, але і імі я практычна не карыстаюся. Мая галоўная крыніца – адкрытыя савецкія публікацыі. Нават гэтага цалкам дастаткова для таго, каб паставіць савецкіх камуністаў да сьцяны ганьбы і пасадзіць іх на лаву падсудных каля германскіх фашыстаў, а то і наперадзе.

Мае галоўныя сьведкі: Маркс, Энгельс, Ленін, Троцкі, Сталін, усе савецкія маршалы падчас вайны і шмат хто із вядучыя генералаў. Камуністы самі прызнаюць, што рукамі Гітлера яны развязалі ў Яўропе вайну і рыхтавалі раптоўны

напад на самога Гітлера, каб захапіць разбураную ім Яўропу. Каштоўнасць маіх крыніц у тым і складаецца, што злачынцы самі паказваюць на свае злачынствы.

Ведаю, што ў камуністаў знойдзецца шмат абаронцаў. Спадары, я злавіў камуністаў на слове і дазвольце ім бараніцца самастойна.

Віктар СУВОРАЎ, снежань 1987 года, Брысталь

# Глава І

## Шлях да шчасьця.

"Мы партыя класа, ідучага на заваёву сьвету."
М.Фрунзе

Маркс і Энгельс прадракалі сусьветную вайну і яе працягласць не менш за 15, 20, 50 гадоў. Такая перспектыва іх не палохала. Аўтары «Камуністычнага маніфеста» не заклікалі пралетарыят запабегчы вайну, наадварот, для Маркса і Энгельса будучая сусьветная вайна пажадана. Вайна – маці рэвалюцыі, сусьветная вайна – маці сусьветнай рэвалюцыі. Вынікамі сусьветнай вайны, лічыў Энгельс, будуць «усеагульнае знясіленне і стварэнне ўмоваў для канчатковай перамогі працоўнага класа».

Маркс і Энгельс не дажылі да сусьветнай вайны, але ў іх знайшоўся пасьлядоўнік – Ленін. На самым пачатку Першай Сусьветнай вайны партыя Леніна выступіла за паразу сваёй уласнай краіны. Хай вораг зьнішчыць і спустошыць краіну, хай зрыне ўрад, хай растопча нацыянальныя сьвятыні: у пралетараў, як вядома, няма бацькаўшчыны. У спустошанай, пераможанай краіне куды як лягчэй «вайну імперыялістычную ператвараць у вайну грамадзянскую». Такім чынам, хай мацней грымне бура!

Ленін спадзяваўся, што і ў іншых краінах знойдуцца сапраўдныя марксісты, здольныя падняцца «над вузка нацыянальнымі інтарэсамі» на змаганне супраць сваіх уласных урадаў дзеля ператварэння сусьветнай вайны ў сусьветную грамадзянскую вайну. Але такіх у іншых краінах не знайшлося, і таму перспектыва сусьветнай рэвалюцыі адсунулася ў недасягальную будучыню. Нічога. Калі не сусьветная рэвалюцыя, так хаця б першы крок да яе. Ужо восенню 1914 года Ленін вылучае адмысловую праграму-мінімум: калі ў выніку Першай Сусьветнай вайны сусьветная рэвалюцыя не адбудзецца, дык хаця б клок адарваць. Не ва ўсім сьвеце, дык хаця б у адной краіне. Усё адно ў якой. Спачатку захапіць адну краіну, а потым скарыстаць яе як базу для падрыхтоўкі новай сусьветнай вайны і развіцця рэвалюцыі ў іншых краінах. «Перамогшы пралетарыят гэтай краіны паднімецца супраць усяго астатняга сьвету», распальваючы хваляванні і паўстанні ў іншых краінах «ці проста выступаючы супраць іх з узброеным войскам» («Пра лозунг Злучаных Штатаў Яўропы»).

Вылучаючы праграму-мінімум пра захоп улады ў адной краіне, Ленін не забываецца і пра перспектыву. Для Леніна, як і для Маркса, сусьветная рэвалюцыя застаецца шляхапазначаючай зоркай. Але згодна з праграмай мінімум у выніку Першай сусьветнай вайны магчыма рэвалюцыя толькі ў адной краіне. Як жа потым адбудзецца сусьветная рэвалюцыя? У выніку чаго? У 1916 годзе Ленін дае выразны адказ на гэтае пытанне: у выніку ДРУГОЙ ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЫ («Вайсковая праграма пралетарскай рэвалюцыі»).

Магчыма я памыляюся, але прачытаўшы шмат чаго, што напісаў Гітлер, я не знайшоў ніякіх указанняў на тое, што Адольф Шыкльгрубер у 1916 годзе марыў пра другую сусьветную вайну. А вось Ленін марыў. Мала таго, Ленін ужо ў той час тэарэтычна абгрунтоўвае неабходнасць такой вайны для пабудовы сацыялізму ва ўсім сьвеце.

Падзеі развіваюцца імкліва. У наступным годзе адбываецца рэвалюцыя ў Расіі. Ленін спяшаецца ў Расію. Тут, у віры блытаніны і ўсёдазволенасьці ён і яго невялікая, але арганізаваная на вайсковы лад партыя, захопліваюць раптоўным пераваротам дзяржаўную ўладу. Захады Леніна простыя, але падступныя. У першы момант стварэння камуністычнай дзяржавы Ленін абвяшчае «Дэкрэт пра мір». Гэта вельмі нядрэнна для прапаганды. Але мір Леніну патрэбен не дзеля міру, а толькі дзеля таго, каб утрымаць ўладу. Пасьля дэкрэту мільёны ўзброеных жаўнераў кінуліся з фронту дахаты. Дэкрэтам пра «мір» Ленін ператварыў вайну імперыялістычную ў вайну грамадзянскую, апусьціў краіну ў хаос, кансалідуючы ўладу камуністаў і адваёўваючы патроху тэрыторыі і падначальваючы іх сабе. Бягучыя з фронту жаўнеры выканалі ролю ледакола, разламаўшага Расію. Вынікам грамадзянскай вайны было пажаданае яшчэ Марксам «усеагульнае знясіленне», якое і дазволіла Леніну ўтрымаць і замацаваць уладу.

Учынкі Леніна ў знешняй палітыцы не менш падступныя. І тут ён выкарыстоўвае той жа прынцып: вы біцеся, а я пакуль паназіраю з боку, а калі вы адзін аднаго паслабіце…

У сакавіку 1918 года Ленін заключае Берасьцейскі мір з Германіяй і яе хаўруснікамі. У гэты час становішча Германіі ўжо безнадзейнае. Ці разумее гэта Ленін? Вядома. Таму і падпісвае мір, які:

— развязвае Леніну рукі для захадаў накіраваных на ўмацаванне камуністычнай дыктатуры ў краіне;

— дае Германіі значныя рэсурсы і рэзервы для працягу вайны на захадзе, якая яшчэ больш знясіліла як Германію, так і заходніх хаўруснікаў.

Заключыўшы сепаратнае пагадненне з супернікам, Ленін здрадзіў хаўруснікам Расіі. Але Ленін здрадзіў і самой Расіі. Напачатку 1918 года перамога Францыі, Вялікабрытаніі, Расіі, ЗША і іншых краін над Германіяй і яе хаўруснікамі была ўжо блізкай і няўхільнай. Расія страціла ў вайне мільёны жаўнераў і мела поўнае права быць у шэрагу пераможцаў нароўні са сваімі заходнімі хаўруснікамі. Але Леніну такая перамога была не патрэбнай, яму патрэбна была сусьветная рэвалюцыя. Ленін прызнае, што Берасьцейскі «мір» быў заключаны не ў інтарэсах Расіі, а ў інтарэсах сусьветнай рэвалюцыі, у інтарэсах усталявання камунізму як у Расіі так і ў іншых краінах. Ленін прызнае, што «паставіў сусьветную дыктатуру пралетарыяту і сусьветную рэвалюцыю вышэй якіх бы то ні было нацыянальных ахвяр» (Справаздача ЦК VIII з'езду РКП (б)).

Параза Германіі была ўжо блізкай, а Ленін заключае «мір», згодна з якім Расія адмаўляецца ад сваіх правоў на ролю пераможцы, наадварот, без бою Ленін аддае Германіі мільён квадратных кіламетраў самых урадлівых земляў і самыя каштоўныя прамысловыя раёны краіны, ды яшчэ і кантрыбуцыю золатам выплочвае. Навошта?!

А вось навошта. Берасьцейскі «мір» зрабіў непатрэбнымі мільёны рускіх жаўнераў, і гэтыя мільёны нікім не кіруемых людзей пайшлі па хатах, знішчаючы на сваім шляху падмуркі дзяржаўнасьці і толькі што народжаную дэмакратыю. Берасьцейскі «мір» стаў пачаткам вельмі жорсткай грамадзянскай вайны, значна

больш крывавай і жорсткай, чым Першая Сусьветная вайна. Пакуль кожны ваяваў супраць кожнага, камуністы ўмацоўвалі і пашыралі сваю ўладу, а потым праз некалькі гадоў падначалілі сабе ўсю краіну.

Берасьцейскі «мір» накіраваны не толькі супраць нацыянальных інтарэсаў Расіі, але ён накіраваны і супраць Германіі. Згодна з сэнсам і духам Берасьцейскі «мір» – ГЭТА правобраз пакта Молатава-Рыбентропа. Разлік Леніна ў 1918 годзе і разлік Сталіна ў 1939 годзе той жа самы: хай Германія ваюе на захадзе, хай яна знясільвае сябе, а заадно і заходніх хаўруснікаў да апошняй магчымасьці. Мы ўсімі сродкамі будзем дапамагаць Германіі знясільваць сябе да краю, а потым…

Калі згодна з загадам Леніна ў Бярэсьці падпісваецца «мір» з Германіяй, у Петраградзе ідзе інтэнсіўная праца па падрыхтоўцы да звяржэння германскага ўрада. У гэты час у Петраградзе паўмільённым тыражом выдаецца камуністычная газета на нямецкай мове «Die Fackel», яшчэ да падпісання Берасьцейскага «міру» ў студзені 1918 года ў Петраградзе створана германскае камуністычнае згуртаванне «Спартак». Газеты «Die Weltrevolution» і «Die Rote Fahne» таксама нарадзіліся не ў Германіі, а ў камуністычнай Расіі згодна з загадам Леніна, які падпісаў «мір» з Германіяй. На працягу 20-х гадоў камунізм у Германіі пусьціць глыбокія карані. Не забудземся, што да гэтага прыклаў руку Ленін і менавіта ў той момант, калі Германія вяла знясільваючую безнадзейную вайну на захадзе, а Ленін меў з германскім урадам «мірную» дамову.

Разлік Леніна дакладны: знясіленая вайной Германская імперыя не вытрымала напружання вайны. Вайна завяршаецца крушэннем імперыі і рэвалюцыяй. Ленін неадкладна скасоўвае дамову. У спустошанай вайной Яўропе на парэштках імперый узнікаюць камуністычныя дзяржавы, надзіва падобныя на ленінскі рэжым бальшавікоў. Ленін радуецца: «Мы на парозе сусьветнай рэвалюцыі!» У гэты час Ленін адкінуў сваю праграму-мінімум, ён больш не выказваецца пра патрэбу другой сусьветнай вайны, верачы, што сусьветную рэвалюцыю можна здзейсніць ужо ў выніку Першай Сусьветнай вайны.

Ленін стварае Камінтэрн, які вызначае сам сябе як Сусьветную камуністычную партыю і ставіць сваёй мэтай стварэнне Сусьветнай савецкай сацыялістычнай рэспублікі.

Але сусьветная рэвалюцыя не наступіла. Камуністычныя рэжымы ў Баварыі, Брэмене, Славакіі, Вугоршчыне выявіліся чэзлымі і нежыццяздольнымі, левыя партыі заходніх краін выявілі слабасць і нерашучасць у справе захопу і ўтрымання ўлады, а Ленін мог іх падтрымваць у той час толькі маральна: усе магчымасьці бальшавікоў былі кінуты на ўнутраныя франты, на змаганне супраць народаў Расіі, не жадаўшых камунізму.

Толькі ў 1920 годзе Ленін дастаткова ўмацаваў сваё становішча ўнутры Расіі і неадкладна накіраваў велізныя сродкі ў Яўропу, каб падштурхнуць рэвалюцыю.

Самы спрыяльны момант у Германіі ўжо прапушчаны, і ўсё ж Германія 1920 года – гэта вельмі прыдатнае поле для класавых бітваў. Германія раззброена і зняважана. Усе ідэалы зняважаны і аплёваны. У краіне вельмі жорсткі эканамічны крызіс: у сакавіку 1920 года Германію ахапіў усеагульны страйк, у якім, згодна з некаторымі сведчаннямі, узяло ўдзел больш чым 12 мільёнаў чалавек. Германія – парахавая бочка, і патрэбна толькі адна іскра… Афіцыйны марш Чырвонай арміі (марш Будзённага) утрымлівае словы: «Даеш Варшаву! Дай Берлін!» Тэарэтык савецкіх камуністаў Мікалай Бухарын у газеце «Праўда» абвяшчае яшчэ больш рашучы лозунг: «Непасрэдна да сьцен Парыжа і Лондана!»

Але на шляху чырвоных легіёнаў – Польшча. Паміж Савецкай Расіяй і Германіяй няма агульнай мяжы. Каб запаліць пажар рэвалюцыі, патрэбна знішчыць падзяляючы бар'ер – вольную, незалежную Польшчу. На бяду камуністаў, на чале савецкага войска апынуўся камандыр, не разумеўшы сутнасьці стратэгіі, – М. Н. Тухачэўскі. Войска Тухачэўскага было пабіта пад Варшавай і ганебна збегла. У самы крытычны момант у Тухачэўскага не выявілася стратэгічных рэзерваў, гэта і вырашыла вынік грандыёзнай бітвы. Параза Тухачэўскага не была выпадковай: за паўгода да пачатку савецкага «вызвольнага паходу» на Варшаву і Берлін Тухачэўскі «тэарэтычна абгрунтаваў» непатрэбнасць стратэгічных рэзерваў у вайне.

Стратэгія мае простыя, але няўмольныя законы. Галоўны прынцып стратэгіі – канцэнтрацыя. Галоўны «сакрэт» стратэгіі – пад час вырашаючага моманту, у рашаючым месцы сканцэнтраваць пераважаючую магутнасць супраць самага слабага месца суперніка. Каб сканцэнтраваць магутнасць, патрэбна мець яе ў рэзерве. Тухачэўскі гэтага не разумеў і заплаціў за сваё неразуменне. А рэвалюцыю ў Германіі давялося адкласьці да 1923 года…

Разгром арды Тухачэўскага ў Польшчы меў для бальшавікоў вельмі непрыемныя наступствы. Расія, якую бальшавікі, здавалася б, цалкам утапілі ў крыві і падначалілі свайму кантролю, раптам схамянулася ў роспачнай спробе скінуць камуністычную дыктатуру. Застрайкаваў працоўны Пітар – зыбка рэвалюцыі. Працоўныя патрабуюць хлеба. Працоўныя патрабуюць волі. Бальшавікі душаць працоўныя выступленні, але на баку працоўных раптам выступае эскадра Балтыйскага флота. Матросы Кранштата, тыя самыя, якія падаравалі ўладу Леніну і Троцкаму, патрабуюць ачысьціць Рады ад камуністаў. Па краіне пракацілася хваля сялянскіх паўстанняў. У тамбоўскіх лясах сяляне стварылі добра арганізаванае, але дрэнна ўзброенае антыкамуністычнае войска.

Што ж, Тухачэўскі, вырашай праблему. І Тухачэўскі чужой крывёй змывае ганьбу свайго стратэгічнага правалу. Зверствы Тухачэўскага ў Кранштаце сталі легендарнымі. Жахлівае вынішчэнне сялян у Тамбоўскай губерніі стала адной із самых жахлівых старонак ва ўсёй гісторыі чалавецтва. І аўтар гэтай старонкі – Тухачэўскі. XX стагоддзе ведае нямала вялікіх злыдняў: Яжоў, Гімлер, Пол Пот. Па колькасьці разлітай крыві Тухачэўскі цалкам заслужыў месца ў адным шэрагу з імі, а адносна часу – Тухачэўскі быў іхным папярэднікам.

У 1921 годзе Ленін абвяшчае Новую Эканамічную Палітыку – НЭП. У гэтай палітыцы не было нічога новага – гэта быў стары добры капіталізм. Камуністам патрэбна было захаваць уладу, і яны ідуць на ўсе магчымыя паслабленні, аж да ўвядзення элементаў вольнага рынку. Прынята лічыць, што Кранштат і Тамбоў – гэта галоўныя нагоды вымусіўшыя Леніна ўсталяваць элементы вольнага рынку і паслабіць ідэалагічную пятлю на шыі грамадства. Я думаю, што падставы патрэбна шукаць глыбей: у 1921 годзе Ленін зразумеў, што Першая Сусьветная вайна не завяршылася сусьветнай рэвалюцыяй. Патрэбна, згодна з парадай Троцкага, пераходзіць да перманентнай рэвалюцыі, наносячы ўдар за ўдарам па слабых звёнах вольнага грамадства і адначасова рыхтаваць другую сусьветную вайну, наступствам якой і будзе канчатковае «вызваленне». Перад самым абвяшчэннем НЭПа ў снежні 1920 года Ленін выказваўся пра сусьветную вайну: «…новая такая ж вайна непазбежна».

І зноў я згадваю Гітлера. Я яго не абараняю, я проста канстатую, што ў 1920 годзе ён нічога публічна не казаў пра непазбежнасць і пажаданасць другой

сусьветнай вайны. А вось заява Леніна таго часу: «Мы скончылі адну чараду войнаў, мы павінны рыхтавацца да другой». Для гэтага і абвяшчаецца НЭП. Мір – гэта адпачынак перад вайной. Так выказваецца Ленін, так выказваецца Сталін, так выказваецца «Праўда». НЭП – гэта кароткі адпачынак неабходны для будучых войнаў. Камуністам патрэбна ўпарадкаваць сваю краіну, умацаваць і кансалідаваць уладу, стварыць звышмагутную вайсковую прамысловасць, падрыхтаваць насельніцтва да будучых войнаў, змаганняў, «вызвольных паходаў». Гэтым яны і заняты.

Усталяванне элементаў вольнага рынку зусім не азначала адмову ад падрыхтоўкі сусьветнай рэвалюцыі і другой сусьветнай вайны, якая павінна такую рэвалюцыю спарадзіць. Ужо на наступны год быў створаны Звяз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік – ЗССР. Дэкларацыя пра стварэнне ЗССР абвяшчала, што ЗССР – гэта толькі першы рашучы крок у стварэнні Сусьветнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі: планавалася колькасць рэспублік павялічваць да таго часу, пакуль увесь сьвет не далучыцца да складу ЗССР .

Дэкларацыя пра ўтварэнне ЗССР была адкрытым і непасрэдным АБВЯШЧЭННЕМ ВАЙНЫ ЎСЯМУ АСТАТНЯМУ СЬВЕТУ. Гэтая дэкларацыя дзейнічае да гэтага часу. Яе ніхто не скасоўваў. Паміж кнігай Гітлера «Майн кампф» і дэкларацыяй існуе адрозненне. Гітлер напісаў сваю кнігу пазьней і яна з'яўляецца канстатаваннем поглядаў аднаго чалавека: МАЁ змаганне. Дэкларацыя пра ўтварэнне ЗССР – гэта афіцыйны дакумент пра галоўную мэту вялізнай дзяржавы: разбурыць і падначаліць усе астатнія дзяржавы сьвету.

# Глава II

## Галоўны вораг.

> «Калі із нейкага канца і пачнецца рэвалюцыйнае ўзварушэнне Яўропы, то гэта із Германіі… і перамога рэвалюцыі ў Германіі з’яўляецца забеспячэннем перамогі міжнароднай рэвалюцыі.»
>
> І.Сталін

У 1923 годзе Германія зноў на парозе рэвалюцыі. Ленін ужо не бярэ ўдзел ў кіраванні краінай. Стырны кіравання амаль цалкам захапіў Сталін, хаця ні краіна, ні сьвет, ні нават яго супернікі па партыі гэтага яшчэ не зразумелі.

Вось як сам Сталін апісвае сваю ролю ў падрыхтоўцы германскай рэвалюцыі 1923 года: «…германская камісія Камінтэрна ў складзе Зіноўева, Бухарына, Сталіна, Троцкага, Радэка і некалькіх нямецкіх таварышаў мела некалькі распрацаваных рашэнняў пра прамую дапамогу германскім таварышам у справе захопу ўлады» (Прамова на пленуме ЦК і ЦКК ВКП (б) 1 жніўня 1927 года).

Асабісты сакратар Сталіна Барыс Бажанаў апісаў падрыхтоўку больш падрабязна. Ён паведамляе, што сродкі на германскую рэвалюцыю былі выдаткаваны вялізныя, а потым было прынята рашэнне сродкі наогул не абмяжоўваць. У Савецкім Звязе былі мабілізаваны ўсе камуністы нямецкага паходжання і ўсе камуністы, валодаючыя нямецкай мовай. Іх рыхтавалі і выпраўлялі ў Германію для падпольнай працы. У Германію выпраўляліся не толькі шараговыя савецкія камуністы, але і кіраўнікі самага высокага рангу, у тым ліку

наркам В. Шміт, намесьнік старшыні ДПУ Уншліхт, сябры савецкага ЦК Радэк, Пятакоў і іншыя.

Савецкі паўпрад у Германіі Красцінскі наладзіў магутную сетку таемнай агентуры. Савецкае паўпрадства ў Германіі ператварылася ў арганізацыйны цэнтр рэвалюцыі. Праз паўпрадства ішлі ўказанні із Масквы і рэкі грошай, якія тут жа ператвараліся ў вагоны падрыўной літаратуры, у лавіны зброі і боепрыпасаў. «На Уншліхта была ўскладзена арганізацыя атрадаў узброенага паўстання для перавароту, іх рэкрутаванне і забеспячэнне зброяй. На яго ж быў ускладзены абавязак арганізацыі германскага ЧК для вынішчэння буржуазіі і супернікаў рэвалюцыі пасьля перавароту»

Савецкае Палітбюро распрацавала і зацьвердзіла дэталёвы план перавароту і была прызначана дата – 9 лістапада 1923 года.

Але рэвалюцыя не адбылася.

Дзякуючы шматлікім нагодам.

Першая: масы выбралі залатую сярэдзіну – ішлі не за камуністамі, а за сацыял-дэмакратамі. Германская кампартыя не мела патрэбнай для захопу ўлады падтрымкі мас, акрамя таго, партыя раскалолася на дзьве фракцыі, і лідары абедзьвюх фракцый не выявілі рашучасьці падобнай Леніну і Троцкаму.

Другая: паміж Савецкім Звязам і Германіяй не было агульнай мяжы. Як і тры гады назад, Польшча падзяляла іх. Калі б была агульная мяжа, то Чырвонае войска мела б магчымасць дапамагчы германскай камуністычнай партыі і яе нерашучым правадырам…

Трэццяя нагода, магчыма, самая галоўная; Ленін ужо даўно не кіруе ні Савецкім Звязам, ні сусьветнай рэвалюцыяй. Ён памірае. У Леніна шмат спадчыннікаў: Троцкі, Зіноўеў, Каменеў, Рыкаў, Бухарын. Каля адвочных супернікаў працуе сьціплы Сталін, якога ніхто прэтэндэнтам на ўладу не лічыць, але які, згодна са словамі Леніна, ужо «засяродзіў у сваіх руках неабмежаваную ўладу».

Германская рэвалюцыя 1923 года кіравалася із Крамля, але каля руля сусьветнай рэвалюцыі ішла жорсткая бойка. Ніводзін із відавочных прэтэндэнтаў на ўладу не жадаў бачыць свайго суперніка ў ролі правадыра германскай і, такім чынам, еўрапейскай рэвалюцыі. Правадыры штурхаліся каля руля, даючы падначаленым супярэчачыя адно аднаму ўказанні. Гэта ніяк не магло скончыцца перамогай.

Мудры Сталін у гэтай сітуацыі не лез у рулявыя. Ён вырашыў спачатку ўсю ўвагу засяродзіць пытанням канчатковай кансалідацыі сваёй аднаасобнай улады, а ўжо потым займацца ўсімі астатнімі праблемамі, у тым ліку і сусьветнай рэвалюцыяй.

На працягу самых блізкіх пасьля гэтага гадоў Сталін апусьціць усіх прэтэндэнтаў на ўладу паверхам ніжэй, а потым будзе іх апускаць усё ніжэй і ніжэй – да самых лубянкаўскіх склепаў. Захапіўшы ўладу, Сталін знішчыць усе бар'еры, перашкаджаючыя германскай рэвалюцыі:

— ён навядзе парадак у германскай кампартыі і прымусіць яе без пярэчанняў выконваць загады Масквы;

— ён усталюе агульную мяжу з Германіяй;

— ён знішчыць германскую сацыял-дэмакратыю. Сацыял-дэмакратыю знішчыць, вядома, не сваімі рукамі. Хіба Сталін забіў некага сваімі рукамі?

Згодна з Марксам і Леніным, рэвалюцыя ўзнікае ў выніку вайны. Вайна абвастрае супярэчнасьці, разбурае гаспадарку, набліжае нацыі і дзяржавы да фатальнай рысы за якой ломіцца звыклы парадак жыцця. Сталін быў сапраўдным марксістам-ленінцам і заняў у пытаннях вайны і міру прынцыповую пазіцыю: калі сацыял-дэмакраты сваім пацыфізмам адцягваюць пралетарыят ад рэвалюцыі (і ад войн, нараджаючых рэвалюцыі), то гэта азначае, патрэбна абвясьціць бязлітасную вайну сацыял-дэмакратам. 7 лістапада 1927 года Сталін кінуў лозунг: «Немагчыма пакончыць з капіталізмам, не пакончыўшы з сацыял-дэмакратызмам» («Праўда», №255, 6-7 лістапада 1927 года). У наступным годзе Сталін абвясьціў змаганне з сацыял-дэмакратыяй галоўным заданнем камуністаў: «Па-першае, нястомнае змаганне з сацыял-дэмакратызмам па ўсіх накірунках… уключаючы сюды выкрыццё буржуазнага пацыфізму» (Т. 11, с. 202).

У дачыненні да тых, хто жадае рэваншу і вайны, напрыклад, у дачыненні да германскіх нацыстаў, пазіцыя Сталіна такая ж простая і прынцыповая: іх патрэбна падтрымліваць. Хай фашысты знішчаць пацыфістаў і сацыял-дэмакратаў, хай фашысты пачнуць новую вайну. Усім вядома, што ідзе за вялікай вайной… У 1927 годзе Сталін прадбачыць прыход фашыстаў да ўлады ў Германіі і лічыць такое развіццё пажаданым: «Менавіта той факт, што капіталістычныя ўрады фашызуюцца, менавіта гэты факт вядзе да абвастрэння ўнутранага становішча ў капіталістычных краінах і да рэвалюцыйных выступленняў працоўных» (Прамова на аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК 1 жніўня 1927 года. Апублікавана ўпершыню толькі праз 25 гадоў. Т. 10, с. 49). Рэжым Гітлера Сталін характэрызаваў тэрмінам «тэрарыстычная дыктатура» і падкрэсліваў, што «рэвалюцыйны крызіс будзе нарастаць тым хутчэй, чым больш буржуазія будзе заблытвацца ў сваіх камбінацыях, чым часьцей яна будзе карыстацца тэрарыстычнымі метадамі», і ў справаздачным дакладзе XVII з'езду партыі падкрэсліваў; «Я маю на ўвазе не фашызм наогул, але, перадусім, фашызм германскага тыпу».

І Сталін падтрымлівае фашыстаў. Заўзятыя рэвалюцыянеры, напрыклад сябра Палітбюро германскай кампартыі спадар Ремеле, цалкам адкрыта падтрымліваюць германскіх фашыстаў рвучыхся да ўлады. Роля Сталіна ў захопе ўлады фашыстамі ў Германіі вялізная. Кніга пра гэта будзе. Зараз я прывяду толькі думку Льва Троцкага, выказаную ў 1936 годзе: «Без Сталіна не было б Гітлера, не існавала б Гестапа!» Пра праніклівасць Троцкага і веданне дадзенага пытання сведчыць яго другая заўвага ў лістападзе 1938 гола: «Сталін канчаткова развязаў рукі Гітлеру, як і яго супернікам, і падштурхнуў Яўропу да вайны». Гэта сказана ў час, калі Чэмберлен цешыцца, што войны не будзе, Мусаліні лічыць сябе міратворцам, а Гітлер яшчэ не даваў дырэктыву пра падрыхтоўку нападу на Польшчу – і тым больш – на Францыю.

У момант, калі Яўропа з палёгкай уздыхнула і паверыла, што войны не будзе, Троцкі ўжо ведае, што яна хутка будзе, і ведае, хто ў гэтым вінаваты. Каб канчаткова паверыць Троцкаму, паслухаем яшчэ адно яго прароцтва, выказанае 21 чэрвеня 1939 года. У гэты момант ідуць інтэнсіўныя перамовы паміж Вялікабрытаніяй, Францыяй і ЗССР супраць Германіі. Нішто не паказвае на магчымасць нейкіх нечаканасьцей і ўскладненняў. А Троцкі выказваецца: «ЗССР наблізіцца ўсёй сваёй масай да межаў Германіі якраз у той момант, калі Трэцці рэйх будзе ўцягнуты ў змаганне за новы перадзел сьвету». Германія будзе ваяваць у Францыі, а Сталін «усёй сваёй масай» будзе руйнаваць нейтральныя дзяржавы на сваіх заходніх межах, набліжаючыся да межаў Германіі.

Чытаючы абагульненні і прадказанні Троцкага праз 50 гадоў і зараз ацаніўшы іхную праўдзівасць, мы задаём пытанне: як жа ён гэта мог ведаць? Троцкі не рабіў сакрэту. Ён – аўтар камуністычнага перавароту, стваральнік Чырвонага войска, савецкі прадстаўнік на берасьцейскіх перамовах. Ён – першы лідар савецкай дыпламатыі і экс-камандуючы Чырвоным войскам, ён былы правадыр ЗССР і былы рулявы сусьветнай рэвалюцыі. Ужо ён-та ведае, што такое камунізм, Чырвоная войска і хто такі Сталін. Троцкі паведамляе, што ўсе яго прадказанні заснаваны на адкрытых савецкіх публікацыях, у прыватнасьці на заявах сакратара Камінтэрна Дзімітрава.

Троцкі самым першым у сьвеце зразумеў гульню Сталіна, якую не зразумелі заходнія лідары, якую не зразумеў спачатку і Гітлер.

А гульня Сталіна была вельмі простай. Троцкі – сам ахвяра такой гульні, таму і разумее яе. Троцкага Сталін адхіліў ад улады ў хаўрусе з Зіноўевым і Каменевым, потым Сталін адхіліў Зіноўева і Каменева ў хаўрусе з Бухарынам, потым Сталін прыбраў і Бухарына. Пакаленне чэкістаў Дзяржынскага Сталін адхіліў ад улады рукамі Генрыха Ягады, потым Генрыха Ягаду і яго пакаленне Сталін прыбраў рукамі Яжова, потым Яжова і яго пакаленне Сталін прыбраў рукамі Берыі і г.д. Сталін працягвае сваю гульню і на міжнароднай арэне, і Троцкі бачыць гэта. Германскі фашызм для Сталіна – гэта прылада.

Германскі фашызм – гэта Ледакол Рэвалюцыі. Германскі фашызм у стане пачаць вайну, а вайна будзе мець наступствам рэвалюцыю. Хай жа Ледакол ломіць Яўропу! Гітлер для Сталіна – гэта ачышчаючая навальніца Яўропы. Гітлер можа зрабіць тое, што Сталіну самому рабіць не да твару.

У 1927 годзе Сталін абвясьціў пра тое, што Другая імперыялістычная вайна цалкам непазбежна, так жа як і непазбежным з’яўляецца тое, што Савецкі Звяз будзе браць удзел у гэтай вайне. Але мудры Сталін не жадае быць пачынальнікам вайны і быць яе ўдзельнікам з першага дня: «Мы выступім, але выступім апошнімі, каб кінуць на чарку шаляў гіру, якая магла б пераважыць» (Т. 7, с. 14).

Сталіну патрэбны ў Яўропе крызісы, войны, разбурэнне, голад. Усё гэта можа зрабіць Гітлер. Чым больш Гітлер будзе здзясняць у Яўропе злачынстваў, тым лепш для Сталіна, тым больш у Сталіна падставаў аднойчы пусьціць у Яўропу Чырвонае Войска-вызваліцеля. Троцкі ўсё гэта разумее яшчэ да пачатку Другой сусьветнай вайны і нават да прыходу Гітлера да ўлады. У 1932 годзе Троцкі патлумачыў стаўленне Сталіна да германскіх фашыстаў: «Хай яны прыйдуць да ўлады, хай скампраметуюць сябе, а тады…»

Пачынаючы з 1927 года, Сталін усімі сродкамі (праўда, публічна гэтага не паказваючы) падтрымлівае фашыстаў, рвучыхся да ўлады. Калі фашысты прыйдуць да ўлады, Сталін усімі сродкамі будзе падштурхоўваць іх да вайны. Калі яны пачнуць вайну, Сталін загадае камуністам дэмакратычных краін часова стаць пацыфістамі, знішчаць войскі заходніх краін, патрабуючы спынення «імперыялістычнай вайны» і падрываючы вайсковыя намаганні сваіх урадаў і краін.

Але падштурхоўваючы Ледакол на дэмакратычную Яўропу, Сталін ужо вынес яму сьмяротны прысуд. За пяць гадоў да прыходу фашыстаў да ўлады ў Германіі Сталін ужо плануе іхнае знішчэнне: «…разграміць фашызм, знішчыць капіталізм, усталяваць савецкую ўладу, вызваліць калоніі ад рабства» (Т. 11, с. 202).

Фашызм – кат Яўропы. Сталін падтрымлівае ката, але яшчэ да таго як кат пачаў сваю крывавую працу, Сталін прыгатаваў кату такі ж лёс, як і яго ахвярам.

# Глава III

## Навошта камуністам зброя.

Людзі гінуць за метал…

У 1933 годзе германскі палкоўнік Гейнц Гудэрыян наведаў савецкі паравозабудаўнічы завод у Харкаве. Гудэрыян даведаўся, што, акрамя паравозаў завод выробляў пабочную прадукцыю – танкі. Колькасць вырабляемых танкаў – 22 за дзень.

Для таго каб ацаніць ПАБОЧНУЮ прадукцыю АДНАГО савецкага завода Ў МІРНЫ ЧАС, патрэбна нагадаць, што ў 1933 годзе Германія танкаў зусім не выробляла. У 1939 годзе Гітлер пачаў Другую сусьветную вайну, маючы 3195 танкаў, г.зн. менш, чым Харкаўскі паравозабудаўнічы завод мог вырабіць за палову года, працуючы ў рэжыме мірнага часу.

Для таго каб зразумець, што такое 22 танкі ў дзень, патрэбна нагадаць, што Злучаныя Штаты ўжо пасьля пачатку Другой Сусьветнай вайны, у 1940 годзе, мелі ЎСЯГО каля 400 танкаў.

А зараз пра якасць танкаў, якія Гудэрыян бачыў на Харкаўскім паравозабудаўнічым заводзе. Гэта былі танкі, якія стварыў амерыканскі танкавы геній – Дж. У. Крысьці. Дасягненняў Крысьці не ацаніў ніхто, акрамя савецкіх канструктараў. Амерыканскі танк быў куплены і перапраўлены ў Савецкі Звяз з дапамогай падробленых дакументаў, у якіх ён лічыўся сельскагаспадарчым трактарам. У Савецкім Звязе «трактар» выробляўся ў вялізных колькасьцях пад маркай БТ – хуткаходны танк. Першыя БТ мелі хуткасць 100 км. за гадзіну.

Савецкія крыніцы даюць лічбу 86 км/гадзіну, часам нават 70. Тлумачэнне простае: на савецкіх дарогах занадта магутны рухавік уяўляў пагрозу ўласнаму руху, таму даводзілася ставіць абмежавальнікі магутнасьці. На аўтастрадах абмежавальнік можна было проста зняць… Лепшыя заходнія выпрабаванні танкаў БТ даюць хуткасць не 70 км/гадзіну, а 70 міль/гадзіну. Праз 60 гадоў кожны танкіст пазайздросьціць такой хуткасьці.

Форма корпуса танка БТ была простай і рацыянальнай. Ніводзін танк ва ўсім сьвеце ў той час, уключаючы і танкі вырабляемыя для войска ЗША, не мелі такой формы брані. Лепшы танк Другой Сусьветнай вайны Т-34 – непасрэдны нашчадак БТ. Форма яго корпуса – гэта далейшае развіццё ідэй вялікага амерыканскага танкавага канструктара. Пасьля Т-34 прынцып нахільнага размяшчэння лабавых бранявых лістоў быў выкарыстаны на германскай «Пантэры», а потым і на ўсіх астатніх танках сьвету.

На працягу 30-х гадоў практычна ўсе танкі сьвету выробляліся згодна са схемай: рухавік – на карме, трансмісія – у насавой частцы. БТ быў выключэннем: рухавік і трансмісія – на карме. Праз 25 гадоў увесь сьвет зразумее перавагу кампаноўкі БТ.

Танкі БТ увесь час удасканальваліся. Іхны запас ходу быў даведзены да 700 км. Праз 50 гадоў – гэта ўсё яшчэ мара для большасьці танкістаў. У 1936 годзе серыйныя танкі БТ фарсіравалі па дне амаль пад вадой глыбокія рэкі. На прыканцы XX стагоддзя не ўсе танкі верагодных супернікаў Савецкага Звязу маюць такую

здольнасць. У 1938 годзе на танках БТ пачалі ўсталёўваць дызельныя рухавікі. Астатні сьвет пачне гэта рабіць праз 10-20 гадоў. Нарэшце, танкі БТ мелі магутнае згодна з тым часам узбраенне. Паведаміўшы столькі дадатнага пра колькасць і якасць савецкіх танкаў, патрэбна дзеля справядлівасьці, пазначыць вельмі невялікі недахоп: гэтымі танкі было НЕМАГЧЫМА КАРЫСТАЦЦА НА САВЕЦКАЙ ТЭРЫТОРЫІ.

Асноўная перавага танка БТ – хуткасць. Гэтая якасць была дамінуючай над астатнімі якасьцямі настолькі, што нават была вынесена ў назву танка – хуткаходны.

БТ – гэта танк-агрэсар. Адносна ўсіх сваіх характарыстык БТ падобны на невялікага, але выключна мабільнага коннага ваяра із незлічоных ордаў Чынгісхана. Вялікі заваёўнік сьвету перамагаў усіх сваіх ворагаў з дапамогай раптоўнага ўдару каласальных мас выключна рухомага войска. Чынгісхан знішчаў сваіх супернікаў галоўным чынам не магутнасьцю зброі, а імклівым манеўрам. Чынгісхану патрэбныя былі не цяжкія непаваротлівыя рыцары, а орды лёгкіх, хуткіх, рухомых ваяроў, здольных праходзіць вялізныя прасторы, фарсіраваць рэкі і выходзіць у глыбокі тыл суперніка.

Менавіта такімі былі танкі БТ. Іх было выраблена больш, чым УСІХ тыпаў ва ЎСІХ краінах свету на 1 верасня 1939 года. Рухомасць, хуткасць і запас ходу БТ былі куплены за кошт рацыянальнай, але вельмі лёгкай і тонкай броні. БТ можна было скарыстаць толькі ў агрэсіўнай вайне, толькі ў тылах суперніка, толькі ва ўмовах імклівай наступальнай аперацыі, калі орды танкаў раптам урываліся на тэрыторыю суперніка і, абыходзячы кропкі супраціўлення, накіроўваліся ў глыбіню, дзе вайсковых частак суперніка няма, але дзе знаходзяцца яго гарады, масты, заводы, аэрадромы, парты, склады, камандныя пункты і вузлы-сувязі.

Здзіўляючыя агрэсіўныя характарыстыкі танкаў БТ былі дасягнуты таксама за кошт выкарыстання ўнікальнай хадавой часткі. БТ на палявых дарогах рухаўся на гусеніцах, але, патрапіўшы на добрыя дарогі, ён скідаў цяжкія гусеніцы і далей нёсся наперад на колах як гоначны аўтамабіль. Але добра вядома, што хуткасць супярэчыць праходнасьці: ці – хуткасны аўтамабіль, які ходзіць толькі па добрых дарогах, ці – ціхаходны трактар, які ходзіць дзе заўгодна. Гэтую дылему савецкія маршалы вырашылі на карысць хуткаходнага аўтамабіля: танкі БТ былі цалкам бездапаможнымі на дрэнных дарогах савецкай тэрыторыі. Калі Гітлер пачаў «Аперацыю „Барбароса“, практычна ўсе танкі БТ былі кінуты. Нават на гусеніцах выкарыстаць іх па-за дарогамі было амаль немагчыма. А на колах яны не ваявалі НІКОЛІ. Патэнцыял выдатных танкаў БТ не быў рэалізаваны, але яго і НЕМАГЧЫМА БЫЛО РЭАЛІЗАВАЦЬ НА САВЕЦКАЙ ТЭРЫТОРЫІ.

БТ ствараўся для дзеянняў толькі на замежных тэрыторыях, прытым толькі такіх, дзе былі добрыя дарогі. Паглядзім на савецкіх суседзяў. Тады, як і зараз, Турцыя, Іран, Афганістан, Кітай, Манголія, Маньчжурыя, Паўночная Карэя добрых дарог не мелі. Жукаў скарыстаў танкі БТ у Манголіі, дзе мясцовасць роўная як стол, але скарыстаў іх толькі на гусеніцах і застаўся вельмі незадаволены: гусеніцы па-за дарогамі часта злятаялі, а дзякуючы адносна вялікаму ціску кола па-за дарогамі і нават на палявых дарогах танкі правальваліся ў грунт і буксавалі.

На пытанне, дзе ж можна было паспяхова рэалізаваць патэнцыял танкаў «БТ», ёсць толькі адзін адказ – у Цэнтральнай і Паўднёвай Яўропе. А пасьля скідання гусеніц танкі БТ маглі паспяхова выкарыстоўвацца толькі на тэрыторыі Германіі, Францыі, Бельгіі.

На пытанне, што з'яўляецца галоўным для танкаў БТ – колы ці гусеніцы, савецкія падручнікі тых гадоў даюць выразны адказ: колы. Галоўная якасць БТ – хуткасць, а яна дасягаецца на колах. Гусеніцы – гэта толькі сродак патрапіць на чужую тэрыторыю, напрыклад, на гусеніцах пераадолець Польшчу, а патрапіўшы на германскія аўтастрады, скінуць гусеніцы і дзейнічаць на колах. Гусеніцы разглядаліся як дапаможны сродак, які ў вайне меркавалася скарыстаць толькі аднойчы, а потым іх скінуць і забыцца пра іх. Дакладна гэтак жа парашутыст выкарыстоўвае парашут толькі для таго каб патрапіць на тэрыторыю суперніка. Там ён парашут скідае і дзейнічае ў тыле, не абцяжарваючы сябе цяжкім і больш не патрэбным грузам. Менавіта такое стаўленне было і да гусеніц танкаў. Савецкія дывізіі і карпусы, узброеныя танкамі БТ, не мелі ў сваім складзе аўтамабіляў, прызначаных для збору і перавозкі скінутых гусенічных стужак: танкі БТ пасьля скідання гусеніц павінны былі завяршыць вайну на колах, ідучы па выдатных дарогах у глыбокі тыл суперніка.

Некаторыя тыпы савецкіх танкаў мелі назвы ў гонар камуністычных лідараў: КВ – Клім Варашылаў, ЕС – Ёсіф Сталін, але большая частка тыпаў савецкіх танкаў атрымала назвы, у якіх утрымліваўся індэкс «Т». Часам гэты індэкс акрамя «Т» утрымліваў літару «О» (агнямётны), «Б» (хуткаходны), «П» (плаваючы). Дарэчы, Савецкі Звяз быў адзінай краінай сьвету, якая ў масавых колькасьцях вырабляла плаваючыя танкі. У абарончай вайне танку нікуды плыць не патрэбна, таму, калі Гітлер пачаў аперацыю «Барбароса», савецкія плаваючыя танкі давялося кінуць праз непрыдатнасць у абарончай вайне, а іхную вытворчасць неадкладна спыніць, як і вытворчасць БТ. «БТ» – гэта наступленне.

Галоўнае ў іншым. У 1938 годзе ў Савецкам Звязе пачаты інтэнсіўныя працы па стварэнні танка зусім новага тыпу «А-20». Чым з’яўляецца «А-20»? Ніводзін савецкі вайсковы падручнік на гэтае пытанне не адказвае. Магчыма, пасьля публікацыі маёй кнігі камуністы заднім днём прыдумаюць нейкае тлумачэнне гэтага індэкса, але пакуль для шматлікіх экспертаў сьвету індэкс застаецца не расшыфраваным. Я доўга шукаў адказ на пытанне і знайшоў яго на заводзе №183. Гэта ўсё той жа лакаматыўны завод, які, як і раней, акрамя лакаматываў, вырабляе пабочную прадукцыю. Не ведаю, ці слушным з’яўляецца тлумачэнне, але ветэраны сведчаць, што першапачатковы сэнс індэкса «А» – аўтастрадны. Тлумачэнне асабіста мне здаецца пераканаўчым. Танк «А-20» – гэта далейшае развіццё сямейства БТ. Калі ў БТ галоўная характарыстыка вынесена ў назву, чаму ў А-20 галоўная характарыстыка не можа быць вынесена ў назву? Галоўнае прызначэнне А-20 – на гусеніцах дапаўзці да аўтастрады, а там, скінуўшы гусеніцы, ператварыцца ў караля хуткасьці.

А зараз нагадаем, што і на заканчэнні XX стагоддзя Савецкі Звяз не мае ніводнага кіламетра дарогі, якую можна было б пазначыць тэрмінам – аўтастрада. 50 гадоў назад аўтастрад на савецкай тэрыторыі тым больш не было. І ніводная із сумежных дзяржаваў у 1938 годзе аўтастрадаў не мела. А вось у наступным, 1939 годзе, Сталін пактам Молатава-Рыбентропа раскалоў Польшчу і стварыў агульную мяжу з дзяржавай, якая мела аўтастрады. Гэта дзяржава мела назву Германія.

Кажуць, што сталінскія танкі былі не гатовы да вайны. Гэта не так. Яны былі не гатовы да абарончай вайны на сваёй тэрыторыі. Іх проста рыхтавалі для вайны на іншых тэрыторыях.

Колькасьці і якасьці савецкіх танкаў адпавядала колькасць і якасць савецкіх самалётаў. Камуністычныя фальсіфікатары зараз пераконваюць нас: так, было

шмат самалётаў, але гэта былі дрэнныя самалёты. Гэта былі састарэлыя самалёты, і іх не патрэбна браць у разлік, давайце лічыць толькі навейшыя савецкія самалёты: МІГ-3, Як-1, Пе-2, Іл-2 і іншыя, а тыя, якія вырабляліся за некалькі гадоў да вайны, у разлік браць не будзем – старызна.

А вось што думае наконт «састарэласьці» брытанскі лётчык Альфрэд Прайс, лётаўшы на працягу свайго жыцця на сарака тыпах самалётаў і правёўшы ў паветры больш 4000 гадзін. Яго думка пра «састарэлы» савецкі знішчальнік: «Самае магутнае ўзбраенне сярод серыйных знішчальнікаў сьвету ў верасні 1939 года меў рускі І-16 канструктара Палікарпава…

Па агнявой магутнасьці І-16 удвая перавышаў «Месершміт-109Е» і амаль утрая «Спітфайр-1». Сярод усіх перадваенных знішчальнікаў сьвету І-16 быў унікальным у тым сэнсе, што толькі ён адзін меў бранявую абарону вакол пілота. Тыя, хто думаюць, што рускія былі цёмнымі сялянамі перад Другой Сусьветнай вайной і потым рушылі наперад толькі пад уплывам выкарыстання германскага досьведу, павінны згадаць пра факты» (A. Price. World War II Fighter Conflict. P. 18-21).

Да гэтага патрэбна дадаць, што ў жніўні 1939 года савецкія знішчальнікі ўпершыню ў сьвеце ў якасьці зброі выкарысталі ў баявых абставінах ракеты. Патрэбна дадаць яшчэ, што савецкія канструктары ўжо стварылі адзіны ў сьвеце самалёт з бранявым корпусам – сапраўдны лятучы танк Іл-2, які меў звышмагутнае, у параўнанні з якімі заўгодна стандартамі, узбраенне, уключаючы 8 рэактыўных снарадаў.

Дык у чым жа спрва? Дзякуючы чаму падчас вайны савецкая авіяцыя з першага дня саступіла панаванне ў паветры? Адказ просты: пераважаючая частка савецкіх лётчыкаў, уключаючы лётчыкаў знішчальнікаў, НЕ БЫЛА НАВУЧАНА ВЯДЗЕННЮ ПАВЕТРАНЫХ БАЁЎ. Чаму ж іх вучылі? Іх вучылі наносіць удары па наземных цэлях. Статуты савецкай вынішчальнай і бамбавальнай авіяцыі арыентавалі савецкіх лётчыкаў на правядзенне адной грандыёзнай раптоўнай наступальнай аперацыі, у якой савецкая авіяцыя адным ударам накрывае ўсю авіяцыю суперніка на аэрадромах і захоплівае панаванне ў паветры. Яшчэ ў 1929 годзе савецкі часопіс «Вайна і рэвалюцыя» ў фундаментальным артыкуле «Пачатковы перыяд вайны» зрабіў выснову, якую потым паўтарылі савецкія авіяцыйныя статуты, улучаючы статуты 1940 і 1941 гадоў: «Вельмі выгадным уяўляецца выявіць ініцыятыву і першымі напасьці на ворага. Выявіўшы ініцыятыву нападам паветранага флота на аэрадромы і ангары свайго ворага можа потым разлічваць на панаванне ў паветры».

Савецкія тэарэтыкі авіяцыі мелі на ўвазе не нейкага абстрактнага ворага наогул, а вельмі вызначанага. Галоўны тэарэтык савецкай авіяцыйнай стратэгіі А.Н.Лапчынскі свае кнігі ілюстраваў вельмі падрабязнымі мапамі стандартных аб'ектаў бамбавання, сярод іх Лейпцыгскі чыгуначны вузел, Фрыдрыхштрасэ і Цэнтральны вакзал Берліна і г.д. Лапчынскі тлумачыў, як патрэбна абараняць савецкую тэрыторыю: «Рашучае наступленне на зямлі прыцягвае да сябе, як магніт, непрыяцельскую паветраную моц і служыць лепшым сродкам абароны краіны ад паветранага суперніка… Паветраная абарона краіны ажыццяўляецца не манеўрам із глыбіні, а манеўрам у глыбіню».

Менавіта для гэтага ўся савецкая авіяцыя ў 1941 годзе была засяроджана каля самай мяжы. Палявы аэрадром 123-га знішчальнага авіяцыйнага палка, напрыклад, знаходзіўся на адлегласьці двух кіламетрах ад германскай мяжы. У

баявых умовах гэта зберагае паліва пры ўзлёце самалёта ў бок суперніка. У 123-м палку, як і ў шматлікіх іншых, набіранне вышыні павінна было ажыццяўляцца ўжо над германскай тэрыторыяй.

Савецкі Звяз да вайны і падчас яе стварыў нямала выдатных і ў той жа час на здзіўленне простых самалётаў. Але лепшыя дасягненні савецкай авіяцыі – не ў вобласьці стварэння самалётаў знішчаючых самалёты суперніка ў паветры, а ў вобласьці стварэння самалётаў, знішчаючых самалёты і іншыя аб’екты суперніка на зямлі. Самае высокае савецкае дасягненне ў вобласці авіяцыйнай тэхнікі таго перыяду – гэта Іл-2, і ён прызначаўся для знішчэння суперніка на зямлі. Аэрадромы былі яго самай асноўнай мэтай. Стварыўшы гэты самалёт агрэсар, канструктар Іллюшын прадугледзеў невялікую абарончую дэталь. У пачатковым варыянце Іл-2 быў двухмясцовым: лётчык вядзе самалёт і знішчае цэлі, а за яго спінай стралок абараняе заднюю паўсферу ад атак знішчальнікаў суперніка. Іллюшыну патэлефанаваў асабіста Сталін і загадаў стралка з кулямётам прыбраць, Іл-2 выпускаць аднамясцовым. Іл-2 патрэбен быў Сталіну для сітуацыі, у якой ніводны знішчальнік суперніка не паспее ўзняцца ў паветра…

Пасьля пачатку «Барбаросы» Сталін зноў патэлефанаваў Іллюшыну і загадаў выпускаць Іл-2 двухмясцовым: у абарончай вайне нават самалёту агрэсару патрэбна мець абарончае ўзбраенне.

1927 год – гэта год, калі Сталін канчаткова і трывала заняў месца на самай вяршыні ўлады. З гэтага моманту ўвага Сталіна засяроджана не толькі на ўмацаванні сваёй дыктатуры, але і на праблемах усяго камуністычнага руху і сусьветнай рэвалюцыі.

1927 год – гэта той год, калі Сталін зрабіў канчатковую выснову пра непазбежнасць другой сусьветнай вайны, пра рашучую баарацььбу з сацыял-дэмакратычным пацыфізмам, зацягваўшым пачатак вайны, пра падтрымку рвучыхся да ўлады фашыстаў, якіх належала потым знішчыць.

1927 год – гэта пачатак індустрыялізацыі ЗССР. Звышіндустрыялізацыі. Суперіндустрыялізацыі. Індустрыялізацыя планавалася пяцігоддзямі, і першая пяцігодка пачалася менавіта ў 1927 годзе. Для чаго былі патрэбны пяцігодкі, можна бачыць на прыкладзе такога факта. На пачатку першай пяцігодкі ў Чырвоным войску было 92 танкі, а пры яе заканчэнні – больш 4000. Але ўсё ж вайсковая накіраванасць пад час першай пяцігодкі яшчэ не такая заўважальная. Галоўная ўвага надавалася не вытворчасьці ўзбраення, а стварэнню індустрыйнай базы, якая будзе потым ўзбраенне вырабляць.

Другая пяцігодка – гэты працяг развіцця індустрыйнай базы. Гэта стварэнне коксавых батарэй і мартэнаўскіх печак, гіганцкіх электрастанцый і кіслародных заводаў, пракатных станаў і блюмінгаў, шахт і рудняў. Вытворчасць узбраення – пакуль не галоўнае. Хаця і пра яго таварыш Сталін не забываецца: на працягу двух пяцігодак было выраблена 24708 баявых самалётаў.

А вось трэцяя пяцігодка, якая павінна была завяршыцца ў 1942 годзе, – гэта выпуск прадукцыі. Вайсковай прадукцыі. У гіганцкіх памерах і вельмі высокай якасьці.

Індустрыялізацыя была куплена вялізным коштам. За індустрыялізацыю Сталін плаціў жыццёвым узроўнем насельніцтва, апусціўшы яго вельмі нізка. Сталін прадаў на вонкавым рынку тытанічныя запасы золата, плаціны, дыяментаў. Сталін за некалькі гадоў прадаў тое, што нацыя назапасіла за сотні гадоў. Сталін абрабаваў цэрквы і кляштары, імператарскія сховішчы і музеі. У ход пайшлі абразы

і каштоўныя кнігі. На экспарт былі кінуты карціны вялікіх майстроў Адраджэння, калекцыі дыяментаў, скарбы музеяў і бібліятэк. Сталін гнаў на экспарт лес і вугаль, нікель і марганец, нафту і бавоўну, ікру, пушніну, хлеб і шмат што іншае. Але гэтага было недастаткова. І тады ў 1930 годзе Сталін пачаў крывавую калектывізацыю. Сялян прымусам заганялі у калгасы, каб потым у іх дарма забіраць хлеб. Увесь хлеб. На камуністычным жаргоне гэта мела назву «перамясьціць сродкі із сельскай гаспадаркі ў цяжкую індустрыю».

Вынік калектывізацыі і прыйшоўшага за ім голаду – гэта 10-16 мільёнаў забітых, разадраных, загінулых у лагерах. Над краінай ва ўвесь свой велізарны рост паднялася здань людаедства. А Сталін пад час гэтых жахлівых гадоў прадаваў за мяжу па 5 мільёнаў тон хлеба кожны год.

Для чаго патрэбна калектывізацыя? Для індустрыялізацыі. А для чаго патрэбна індустрыялізацыя? Падымаць жыццёвы ўзровень народа? Ніяк не. Да індустрыялізацыі і калектывізацыі ўзровень жыцця ў часы НЭПа быў не такім ужо і дрэнным. Калі таварыша Сталіна цікавіць жыццёвы ўзровень народа, то не патрэбна ні індустрыялізацыі, ні калектывізацыі – патрэбна захаваць НЭП.

Індустрыялізацыя і калектывізацыя ніяк не прызначаліся для павышэння жыццёвага ўзроўню народа. Наадварот, гэты ўзровень апусьціўся на такую жудасную глыбіню, на якой ён не быў і ў часы Чынгісхана. Нядаўна Роберт Канквест выдаў жахлівую кнігу пра тыя крывавыя пяцігодкі з жудаснымі фотаздымкамі дзяцей-шкілетаў. Больш жахліва чым у камуністычнай Эфіёпіі і камуністычнай Камбоджы часоў Пол Пота.

Такім чынам, індустрыялізацыя і калектывізацыя праводзіліся не з мэтай павышэння жыццёвага ўзроўню, а для таго, каб выпрабляць зброю ў гіганцкіх памерах. Навошта ж камуністам зброя? Бараніць людзей? Таксама не. Калі б Сталін плаціў за аўтастрадныя танкі, за парашутны шоўк, за заходнюю вайсковую тэхналогію не па пяць мільёнаў тон хлеба ў год, а толькі па чатыры, то мільёны дзяцей засталіся б жывымі. Ва ўсіх краінах зброя служыць для таго, каб абараняць насельніцтва, і перадусім дзяцей – будучыню нацыі – ад жахлівых бедстваў. У Савецкім Звязе было наадварот: насельніцтва, у тым ліку і дзяцей, аддалі на жахлівыя выпрабаванні, каб атрымаць зброю.

Уся Першая сусьветная вайна была вясёлым пікнікам у параўнанні са сталінскай індустрыялізацыяй. За чатыры гады ўсе ўдзельнічаўшыя ў гэтай вайне краіны страцілі 10 мільёнаў чалавек, Расія – 2-3 мільёны. А пад час мірнага жыцця дзеля аўтастрадных танкаў і самалётаў агрэсараў Сталін вынішчыў у шмат разоў больш людзей. КАМУНІСТЫЧНЫ МІР ВЫЯВІЎСЯ Ў ШМАТ РАЗОЎ БОЛЬШ ЖАХЛІВЫМ ЧЫМ ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЯ ВАЙНА.

Павелічэнне савецкай вайсковай магутнасьці ніяк не дыктавалася вонкавай пагрозай, таму што пачалося ДА прыходу Гітлера да ўлады. Знішчэнне мільёнаў дзяцей дзеля вытворчасьці зброі праходзіла адначасова з гіганцкімі намаганнямі Сталіна ў накірунку знішчэння заходніх пацыфістаў і ўзвышэння фашыстаў.

Могуць запярэчыць, што Сталін прынёс у ахвяру мільёны людзей, але стварыў зброю, каб абараніць астатніх людзей. Не, мы ўжо бачылі і наперадзе яшчэ не раз пабачым, што створаная зброя была непрыдатнай для абароны сваёй тэрыторыі і для абароны сваіх людзей, і яе давялося ці ўжываць не па прызначэнню, ці проста выкінуць.

Калі камуністы стваралі гіганцкія арсеналы зброі не для абароны сваёй тэрыторыі і свайго насельніцтва, то тады для чаго?

Таварышы камуністы, вам слова.

# Глава IV

## Для чаго Сталін падзяліў Польшчу.

«Мы робім справу, якая ў выпадку поспеху пераверне ўвесь сьвет і вызваліць увесь працоўны клас».

І.Сталін.

22 чэрвеня 1941 года Германія раптоўна і вераломна напала на Савецкі Звяз. Гэта гістарычны факт. Аднак гэта вельмі дзіўны факт. Да Другой Сусьветнай вайны Германія не мела агульных межаў з Савецкім Звязам і таму не мела магчымасьці напасьці, тым больш – раптоўна.

Германія і Савецкі Звяз былі падзлены паміж сабой суцэльным бар'ерам нейтральных дзяржаваў. Для таго каб савецка-германская вайна магла адбыцца, патрэбна было стварыць адпаведныя ўмовы: знішчыць бар'ер нейтральных дзяржаваў і стварыць агульную савецка-германскую мяжу.

Кожны, каго цікавіць дата 22 чэрвеня 1941 года, перад тым як праклінаць Гітлера і вінаваціць яго ў падступстве, абавязаны хаця б самаму сабе даць сумленны адказ на два пытанні:

— Хто знішчыў падзяляючы бар'ер нейтральных дзяржаваў паміж Германіяй і Савецкім Звязам?

— З якой мэтай?

Бар'ер паміж Германіяй і ЗССР быў падвойным і толькі ў адным месцы – адзінарным. Польшча – адзіная краіна, якая мела адначасова межы як з Савецкім Звязам, так і з Германіяй. Польшча – самы кароткі, самы прамы, самы зручны шлях паміж ЗССР і Германіяй. Польшча – самая тонкая частка падзяляючай сьцяны. Зразумела, што патэнцыйны агрэсар, жадаўшы каб савецка-германская вайна адбылася, павінен быў спрабаваць прасекчы калідор менавіта тут.

Наадварот, тая краіна, якая савецка-германскай вайны не жадала, павінна была ўсёй магутнасьцю свайго войска, усёй сваёй дзяржаўнай мудрасьцю, усёй веліччу свайго міжнароднага аўтарытэта не дапусьціць свайго суперніка на польскую тэрыторыю, у крайнім выпадку, пачаць вайну супраць яго яшчэ ў Польшчы, не дапускаючы да сваіх межаў.

Уявіце сабе, што за сьцяной жыве людаед, які голасна абвясьціў пра свой намер вас з’есьці. Пераканаўшыся ў тым, што вы вельмі выразна зразумелі яго людаедзкія намеры, ён пачаў ламаць падзяляючую сьцяну. Якой будзе ваша рэакцыя? Уявіце сабе, што людаед, ламаючы сьцяну, сустрэў нейкую перашкоду і просіць вас дапамагчы яму ў яго цяжкай справе. Без вашай дапамогі ён проста не здольны знішчыць сьцяну, а, такім чынам, не здольны вас з’есьці. Як вы будзеце рэагаваць на такія прапановы?

Гітлер абвясьціў пра свае намеры цалкам адкрыта. Сталін яго публічна называў людаедам. Але Гітлер не меў магчымасьці напасьці на Сталіна, бо не было агульнай мяжы.

Гітлер звярнуўся да Сталіна з прапановай супольнымі намаганнямі зрабіць пралом у падзяляючай сьцяне. Сталін з захапленнем прыняў такую прапанову і з велізарным запалам ламаў польскую сьцяну, прасякаючы калідор насустрач Гітлеру. Матывы Гітлера зразумелы. А чым патлумачыць дзеянні Сталіна? Камуністычныя гісторыкі прыдумалі тлумачэнне ўчынкаў Савецкага Звязу.

Тлумачэнне першае: разадраўшы і ўтапіўшы ў крыві Польшчу, мы перанеслі нашы межы на захад, г.зн. умацавалі нашу бяспеку. Дзіўнае тлумачэнне. Савецкія межы сапраўды былі перанесены на 200-300 кіламетраў, але пры гэтым Германія перанесла свае межы на 300-400 кіламетраў на ўсход. Ад гэтага бяспека Савецкага Звязу не павялічылася, а наадварот, панізілася. Але акрамя гэтага ўзнік новы фактар: агульная савецка-германская мяжа. І як вынік гэтага – магчымасьць вайны, у тым ліку і раптоўнай.

Тлумачэнне другое: стукнуўшы сякерай у спіну Польшчы ў момант яе роспачнага змагання супраць фашыстаў, мы спрабавалі адцягнуць момант пачатку савецка-германскай вайны… Гэта тлумачэнне із цыкла: мы запалілі пажар у сядзібе суседа дзеля таго каб пажар у нашай уласнай сядзібе адбыўся пазней, чым у іншых.

Тлумачэнне трэццяе: Францыя і Вялікабрытанія не жадалі заключаць з намі хаўрус, таму… Якое глупства! Чаму Францыя і Вялікабрытанія павінны бараніць Савецкі Звяз, калі Савецкі Звяз абвясьціў сваёй мэтай скасаванне дэмакратыі паўсюдна, у тым ліку ў Францыі і Вялікабрытаніі? Заходу, дарэчы, было напляваць, пойдзе Гітлер на Ўсход ці не. А вось краінам Усходняй Яўропы было зусім не напляваць. Калі Гітлер паверне на Ўсход, яны – першыя ахвяры. Таму краіны Ўсходняй Яўропы былі натуральнымі хаўруснікамі ЗССР. З імі патрэбна было шукаць хаўрус супраць Гітлера. Але Сталін такога хаўрусу не шукаў, а ў выпадках, калі дамовы існавалі, Савецкі Звяз не выконваў сваіх хаўрусніцкіх абавязанняў. Сталін мог бы заставацца нейтральным, але ён замест гэтага біў сякерай у спіну тых, хто ваяваў супраць фашызму.

Падобных тлумачэнняў дзеянняў Сталіна камуністычныя гісторыкі прыдумалі шмат. Але кожнае із гэтых тлумачэнняў мае ў сабе два недахопы:

— яно прыдумана заднім днём;

— яно цалкам ігнаруе пазіцыю савецкага кіраўніцтва, хаця гэтая пазіцыя выкладзена ў яго творах і прамовах.

Праламаўшы калідор у падзяляючай сьцяне, Гітлер палічыў гэта дастатковым і заняўся сваімі заходнееўрапейскімі, афрыканскімі, міжземнаморскімі, атлантычнымі праблемамі.

Што павінен быў рабіць Сталін, маючы перад сабой пралом шырынёй 570 км. і некаторы час у рэзерве? Правільна. Ён павінен быў спешна ўмацоўваць абарону менавіта на гэтай пляцоўцы. Уздоўж старой мяжы існавала магутная лінія ўмацаваных раёнаў. Яе патрэбна было тэрмінова ўмацоўваць і ўдасканальваць. А акрамя яе ствараць другую лінію абароны, траццюю… пятую. Патрэбна было тэрмінова мініраваць дарогі, масты, палі, капаць супрацьтанкавыя равы, прыкрываць іх супрацьтанкавай артылерыяй… Крыху пазней, у 1943 годзе на Курскай дузе, Чырвонае войска рыхтавалася да адбівання наступу суперніка. За кароткі тэрмін на велізарным фронце савецкае войска стварыла шэсць безперапынных палос абароны працягласьцю ў сотні кіламетраў кожная і агульнай глыбінёй 250-300 кіламетраў. Кожны кіламетр быў перанасычаны акопамі, траншэямі, хадамі для стасункаў, месцамі для хавання, агнявымі пазіцыямі. Сярэдняя шчыльнасць мінавання была даведзена да 7 000 супрацьтанкавых і проціпяхотных мін на кіламетр фронту абароны, а супрацьтанкавая артылерыя даведзены да жахлівага ўзроўню: 41 гармата на кожны кіламетр, не ўлічваючы палявую і зянітную артылерыю і закапаных у зямлю танкаў. Так у чыстым полі на працягу вельмі кароткага часу была створана сапраўды непрабіваемая абарона.

У 1939 годзе ўмовы для стварэння абароны былі значна лепшымі: лясы, рэкі, балоты. Мала дарог і шмат часу. Савецкае войска мела магчымасць стварыць магутны рубеж абароны на новай савецка-германскай мяжы, тым больш, што пралом быў нешырокім.

Але ў гэты момант Савецкі Звяз спыніў вытворчасць супрацьтанкавых і зянітных гармат. Замест таго каб мясцовасць зрабіць непраходнай, яе тэрмінова рабілі больш даступнай. Тут будаваліся дарогі і масты, чыгуначная сетка пашыралася, узмацнялася і ўдасканальвалася. Раней існаваўшыя ўмацаванні разбураліся, засыналіся зямлёй.

Адзін із удзельнікаў тых падзей палкоўнік ГВУ І. Г. Старынаў даволі шчыра апісвае гэта так: «Недарэчнае ствралася становішча. Калі мы межавалі са слабымі войскамі адносна невялікіх дзяржаваў, нашы межы сапраўды былі на замку. А калі нашым суседам зрабілася фашысцкая Германія інжынерныя абарончыя пабудовы ўздоўж ранейшай мяжы выявіліся закінутымі і нават часткова дэмантаванымі» (Міны чакаюць сваёй гадзіны. с. 176) «Інжынернае кіраўніцтва Чырвонага войска накіравала заяву на 120 000 чыгуначных мін запаволенага дзеяння. Гэтай колькасьці цалкам хапіла б для таго, каб у выпадку ўварвання германскага войска паралізаваць усё чыгуначнае спалучэнне ў яго тылах, ад якога яно залежала цалкам. Але замест заказанай колькасьці было атрымана… 120 мін» (там жа с. 186). А тым часам міна – самая простая, самая танная і вельмі эфектыўная зброя.

Вытворчасць мін у Савецкім Звязе была вялізнай, але пасьля таго як быў зроблены праход у сьцяне, іх вытворчасць была згорнута…

Што рабіў Сталін акрамя разбурэння сваёй уласнай абароны? Ён скасоўваў бар'ер нейтральных дзяржаваў. Гітлеру было дастаткова аднаго пралому ў сьцяне. Сталіну – не. Гітлер (з дапамогай Сталіна) знішчыў дзяржаўную ўладу толькі ў адной із дзяржаваў падзяляючага бар'ера. Сталін (без чужой дапамогі) зрабіў гэта ў трох дзяржавах (Эстоніі, Латвіі, Літве), паспрабаваў гэта зрабіць у чацьвёртай краіне (Фінляндыі) і актыўна рыхтаваўся да таго каб здзейсніць гэта у пятай краіне (Румыніі), папярэдне адарваўшы ад яе вялізны кавалак тэрыторыі. Гітлер імкнуўся зрабіць толькі адзін пралом у сьцяне, Сталін – знішчыць усю сьцяну.

І Сталін свайго дамогся. Усяго праз дзесяць месяцаў пасьля падпісання пакта «пра ненападзенне» дзякуючы намаганням Сталіна падзяляючы бар'ер быў цалкам знішчаны ад Ледавітага акіяна да Чорнага мора. Нейтральных дзяржаваў паміж Сталіным і Гітлерам больш не засталося, і тым самым былі створаны ўмовы для нападу.

Усе заходнія суседзі Сталіна за гэты кароткі час сталі яго ахвярамі. Акрамя краін меўшых мяжу з Савецкім Звязам, у рабства да Сталіна патрапіла і Літва, якая цалкам не мела мяжы з Савецкім Звязам. З'яўленне савецкага войска у Літве азначала, што зараз яно ўжо дайшло да сапраўднай мяжы з Германіяй. Раней савецка-германская мяжа праходзіла па заваяванай польскай тэрыторыі. Зараз савецкае войска дайшло да мяжы Ўсходняй Прусіі. Тут ужо ніяк немагчыма сцвярджаць, што людаед-Гітлер сёк калідоры на ўсход, а неразумны Сталін яму дапамагаў. Не, Сталін сам сёк калідоры на захад без чужой дапамогі.

На пытанне: «Навошта Сталін пагадзіўся дапамагаць Гітлеру секчы адносна вузкі калідор праз Польшчу?» – камуністычныя гісторыкі спрабавалі прыдумаць адказы, хаця і няўдала. І пытанне, навошта ж Сталін знішчыў увесь бар'ер, яны лічаць за лепшае не ўзнімаць. Не будзем і мы ламаць галаву. Слова Сталіну, ён адзін адказаў на гэтае пытанне выразна і зразумела: «Гісторыя сведчыць, што калі

нейкая дзяржава мае жаданне ваяваць з іншай дзяржавай, нават не суседняй, то яна пачынае шукаць межы, праз якія яна магла б дабрацца да межаў дзяржавы, на якую яна мае жаданне напасьці» («Праўда», 5 сакавіка 1936 года).

Пытанне: «Ці збіралася Чырвонае войска спыніцца на дасягнутых межах?»

Адказ Маршала Савецкага Звязу С. К. Цімашэнка: «У Літве, Латвіі, Эстоніі знішчана ненавісная для працоўных улада паноў і капіталістаў. Савецкі Звяз значна павялічыўся і перасунуў свае межы на захад. Капіталістычны сьвет быў вымушаны пасунуцца і саступіць. Але не нам – ваярам Чырвонага войска (Дырэктыва Народнага Камісара абароны №400, 7 лістапада 1940 года).

Гэта не прамова і не Паведамленне ТАСЗ[1]. Гэта – загад Чырвонаму войску. Але на захад ад савецкай мяжы – толькі Германія ці хаўрусныя з ёю краіны. Пасоўваць межы далей на захад? За кошт Германіі? Але ж з ёю падпісаны пакт…

# Глава V
## Пакт і яго вынікі.

«Сталін быў хітрэйшы за Гітлера. Хітрэйшы і больш падступны.»
А.Антонаў-Аўсеенка

Знешне ўсё здаецца пароўну: частка Польшчы – Гітлеру, частка Польшчы – Сталіну. Аднак ужо праз тыдзень пасьля падпісання пакта Молатава-Рыбентропа Сталін здзейсніў першы злы жарт. Гітлер пачаў вайну супраць Польшчы, а Сталін абвясьціў, што яго войска яшчэ не падрыхтавана. Ён мог бы пра гэта паведаміць Рыбентропу перад падпісаннем дамовы, але ён гэтага не зрабіў. Гітлер пачаў вайну і апынуўся ў адзіноце.

Вось і першы вынік для Гітлера; ён, і толькі ён, вінаваты ў развязванні другой сусьветнай вайны.

Пачаўшы вайну супраць Польшчы, Гітлер тут жа атрымаў вайну супраць Францыі, г.зн. вайну на два фронты. Кожны германскі школьнік ведаў, чым для Германіі пагражае война на два фронты.

Тут жа вайну Германіі абвясьціла Вялікабрытанія. З Францыяй яшчэ можна было б справіцца, але Вялікабрытанія – на выспах. Для таго каб туды патрапіць, патрэбна працяглая і сур'ёзная падрыхтоўка, патрэбен магутны флот, прыкладна роўны брытанскаму, патрэбна панаванне ў паветры. Вайна, такім чынам, ператваралася ў зацяжную. Кожны ведае, якія наступствы мае зацяжная война для краіны з абмежаванымі рэсурсамі.

За спінай Вялікабрытаніі стаялі Злучаныя Штаты, якія ў самы драматычны момант (як пад час Першай сусьветнай вайны) маглі кінуць на чарку шаляў сваю сапраўды невычарпальную магутнасць. Увесь Захад стаў ворагам Гітлера. А на сяброўства Сталіна Гітлер мог разлічваць толькі да той пары, пакуль ён меў моц. У выпадку зацяжной вайны супраць Захаду ён гэтую моц павінен быў выдаткаваць і тады…

А вось становішча Сталіна: Польшчу дзялілі не ў Імперскай канцылярыі, а ў Крамлі. Гітлер пры гэтым не прысутнічаў, прысутнічаў Сталін. Але Гітлер

[1] Тэлеграфнае Агенства Савецкага Звязу. Па-руску ТАСС.

вінаваты ў пачатку войны, а Сталін – не. Сталін – нявінная ахвяра. Сталін – вызваліцель Усходняй Яўропы.

Войска Сталіна на тэрыторыі Польшчы здзяйсняла такія ж, а, магчыма, і больш вялікія злачынствы, але Захад яму вайну не абвясьціў.

Сталін атрымаў вайну, якую ён жадаў: заходнія людзі забівалі адзін аднаго і разбуралі адзін у аднаго гарады і заводы, а Сталін заставаўся нейтральным, у чаканні зручнага моманту.

Але патрапіўшы ў цяжкае становішча Сталін неадкладна атрымаў дапамогу Захаду.

У канчатковым выніку Польшча, дзеля вызвалення якой Захад пачаў вайну, волі не атрымала, а была аддадзена ў рабства Сталіну, разам з усёй Усходняй Яўропай, у тым ліку і з часткай Германіі. Пры гэтым некаторыя людзі Захаду працягваюць верыць у тое, што яны былі пераможцамі ў Другой сусьветнай вайне.

У выніку Гітлер закончыў жыццё самагубствам, а Сталін стаў неабмежаваным валадаром вялізнай антызаходняй імперыі, створанай з дапамогай Захаду. Пры ўсім гэтым Сталін здолеў захаваць за сабой рэпутацыю наіўнага даверлівага прасьцяка, а Гітлер увекавечаны ў гісторыі як падступны злыдзень! На Захадзе надрукавана шмат кніг з ідэяй: Сталін быў да вайны не падрыхтаваны, а Гітлер – падрыхтаваны. А на мой пагляд, да вайны падрыхтаваны не той, хто пра гэта гучна заяўляе, а той, хто ў ёй перамагае, падзяліўшы сваіх ворагаў і сутыкнуўшы іх ілбамі.

Ці збіраўся Сталін выконваць дамовы пакту?

Слова Сталіну: «Пытанне пра змаганне… патрэбна разглядаць не з боку гледжання справядлівасьці, а з боку патрабаванняў палітычнага моманту, з боку палітычных патрабаванняў партыі пад час кожнага дадзенага моманту» (Прамова на паседжанні выканкама Камінтэрна, 22 студзеня 1926 года).

«Вайна ў стане перавярнуць дагары нагамі якія заўгодна пагадненні» (Ёсіф Сталін. «Праўда», 15 верасня 1927 года).

Партыя, на з'ездах якой выступаў Сталін, правільна разумела сваіх кіраўнікоў і дала ім адпаведныя паўнамоцтвы: «З'езд асабліва падкрэслівае, што надае Цэнтральнаму Камітэту паўнамоцтва ў патрэбны момант разарваць усе хаўрусы і мірныя дамовы з імперыялістычнымі і буржуазнымі дзяржавамі, а таксама абвясьціць ім вайну» (Рэзалюцыя XVII з'езда партыі). Дарэчы, гэтае рашэнне партыі не скасавана і сёння…

Калі ж гэты момант павінен быў наступіць?

Сталін: «Вельмі шмат чаго залежыць ад таго, ці атрымаецца ў нас адтэрмінаваць вайну з капіталістычным сьветам, якая непазбежна… да таго моманту, пакуль капіталісты не пагрызуцца паміж сабой…» (Т. 10, с. 288). «Рашучае змаганне можна лічыць цалкам наспеўшым, калі ўсе варожыя нам класавыя ўтварэнні дастаткова знясіляць сябе змаганнем, перавышаючым іхныя рэсурсы» (Т. 6, с. 158).

Сталіну патрэбна было становішча, пры якім «капіталісты грызуцца як сабакі» («Праўда», 14 траўня 1939 года). Пакт Молатава-Рыбентропа і стварыў менавіта такую сітуацыю. «Праўда» захлыналася ад захаплення: «Дрыжаць падставы сьвету, глеба выслізгвае із-пад ног людзей і народаў. Палаюць зарывы, і грукатанне гармат скалынае моры і мацерыкі. Нібы-та пух па ветру разлятаюцца дзяржавы… Як гэта велічна, як на дзіва прыгожа, калі ўвесь свет калышацца ў сваіх падмурках, калі гінуць магутнасьці і валяцца велічы» («Праўда», 4 жніўня

1940 года). «Кожная такая вайна набліжае нас да таго шчасьлівага перыяду, калі ўжо не будзе больш забойстваў сярод людзей» («Праўда», 18 жніўня 1940 года).

Падобныя настроі ад самага верху пашыраліся па Чырвонаму войску і партыі. Генерал-лейтэнант С. М. Крывашэін перадае размову са сваім намесьнікам П. М. Латышавым (у той час Крывашыін кіраваў 25-м механізаваным корпусам, трохі раней ён разам з генералам Г. Гудэрыянам кіраваў супольным савецка-фашысцкім парадам у Бярэсьці з нагоды крывавага падзелу Польшчы):

«— З немцамі мы заключылі дамову, але гэта нічога не азначае… Зараз самы прыдатны час для канчатковага і канструктыўнага рашэння ўсіх сусьветных праблем…» (Ратная быль. с. 8). Крывашэін (задні́м днём) усё ператварае ў жарт. Цікава, што ў яго корпусе, як і ва ўсім Чырвоным войску, былі пашыраны толькі такія жарты. З нагоды таго, як корпус і ўсё Чырвонае войска падрыхтавана да абароны, ніхто сур'ёзных размоваў не вёў і нават не жартаваў.

Пра тое, як савецкія камуністы верылі ў пакт пра ненападзенне і як яго збіраліся выконваць, паведамляе Маршал Савецкага Звязу Л. І. Брэжнеў. Ён апісвае сход партыйных агітатараў у Днепрапятроўску ў 1940 годзе:

«— Таварыш Брэжнеў, мы павінны тлумачыць пра ненападзенне, што гэта сур'езна, а хто не верыць, той вядзе правакацыйныя размовы. Але народ мала верыць. Як жа нам быць? Тлумачыць ці не тлумачыць?

Час быў даволі складаны, у зале сядзела чатыры сотні чалавек, усе чакалі майго адказу, а доўга разважаць магчымасьці не было.

— Абавязкова тлумачыць, – адказаў я. – Да таго часу будзем тлумачыць, пакуль ад фашысцкай Германіі не застанецца каменя на камені» (Л. І. Брэжнеў, Малая зямля. с. 16).

Сітуацыя, калі «ад Германіі не застанецца каменя на камені», бачылася Сталіну ў 1942 годзе. Але хуткае падзенне Францыі і адмова Гітлера ад дэсанту на Брытанскія выспы (пра гэта савецкая вайсковая выведка ведала на прыканцы 1940 года) зблыталі ўсе карты Сталіна. Вызваленне Яўропы было перанесена з лета 1942 года на лета 1941-га. Таму новы, 1941 год быў сустрэты пад лозунгам:

Мы ў сорак першым свежыя пласты зямных багацьцяў рыдлёўкамі закранём.
І, магчыма, стане простым палівам уран, расштурханы цыклатронам.
Наш кожны год – перамога і змаганне. За вугаль, за размах металургіі!..
А магчыма – да шаснаццаці гербаў яшчэ гербы дададуцца іншыя…

«Праўда», 1 студзеня 1941 года.

Не! Яны не думалі пра абарону. Яны да яе не рыхтаваліся і не збіраліся рыхтавацца. Яны дакладна ведалі, што Германія ўжо ваюе на Захадзе і таму не павінна пачаць вайну на Ўсходзе. Яны дакладна ведалі, што вайна на два франты – гэта самагубства для Гітлера. Так яно і было. Але Гітлер зразумеўшы што робіцца ў яго за спінай, быў вымушаны пачаць вайну на два франты, хоць яна і сапраўды завяршылася яго самагубствам.

Перад вайной «Праўда» зусім не заклікала савецкі народ мацаваць абарону. Тон «Праўды» быў іншым: пакт застаецца пактам, але хутка ўся зямля будзе належаць нам. «Вялікай з’яўляецца наша краіна: сам зямны шар павінен круціцца дзевяць гадзін, каб уся наша вялізная савецкая краіна ўступіла ў новы год сваіх перамог. Будзе час, калі яму спатрэбіцца для гэтага не дзевяць гадзін, а круглыя суткі… І хто ведае, дзе давядзецца нам сустракаць новы год праз пяць, праз дзесяць гадоў: на якім поясе, на якім новым савецкім мерыдыяне?» «Праўда», 1 студзеня 1941 года).

Чым бліжэй была дата савецкага ўварвання ў Яўропу (ліпень 1941 года), тым больш шчырай рабілася «Праўда»: «Падзяліце сваіх ворагаў, часова задавольце патрабаванні кожнага із іх, а потым перамажыце іх паасобку, не даючы ім магчымасьці аб'яднацца» («Праўда», 4 сакавіка 1941 года).

Гітлер прыйшоў да высновы, што чакаць больш немагчыма. Ён пачаў першым, не чакаючы ўдару вызваляючай сякеры ў спіну. Але, нават пачаўшы вайну ў самых спрыяльных умовах, якія толькі маглі існаваць для нападаючага, ён гэтую вайну выйграць не змог. Нават у самых неспрыяльных умовах Чырвонае войска здолела «вызваліць» палову Яўропы і гаспадарыла ў ёй палову стагоддзя. Цікава, як бы склалася сітуацыя, калі б лепшыя германскія вайсковыя часткі пайшлі із мацерыка ў Афрыку і на Брытанскія выспы, а за іх спінай Чырвонае войска знішчыла адзіную для Германіі крыніцу нафты ў Румыніі?

# Глава VI.

## Калі Савецкі Звяз узяў удзел у другой сусьветнай вайне.

«Толькі адна краіна – Савецкая Расія – можа ў выпадку агульнага канфлікта выйграць.»

Гітлер, 15 лістапада 1937 г.

Усё, што мае дачыненне да пачатку Другой Сусьветнай вайны, у Савецкам Звязе пакрыта непранікаючым змрокам дзяржаўнай таямніцы. Сярод шматлікіх жахлівых таямніц вайны існуе адна, ахоўваемая асабліва пільна – дата ўступлення ЗССР у Другую Сусьветную вайну.

Для таго каб схаваць праўду, камуністы пашырылі фальшывую дату – 22 чэрвеня 1941 года. Камуністычныя пісакі прыдумалі шмат легенд пра 22 чэрвеня. Я чуў нават такую: «Мы жылі мірным жыццём, а на нас напалі…» Калі верыць прыдумкам камуністычных прапагандыстаў, то атрымліваеца, што Савецкі Звяз не сам самаахвотна пачаў Другую сусьветную вайну, а яго зацягнулі ледзь не сілком.

Каб версія пра 22 чэрвеня здавалася больш праўдападобнай, савецкая прапаганда замацавала гэтую дату адмысловым так званым «вайсковым перыядам», у які уключаны два гады, папярэднічаўшыя 22 чэрвеня; з іншага боку, прыдумана лічба 1418 дзён вайны. Гэта на той выпадак, калі нехта цікавячыся вырашыць сам вылічыць дату пачатку вайны. Пачаўшы адлік назад ад моманту заканчэння вайны ў Яўропе, ён непазбежна (згодна з разлікамі савецкіх фальсіфікатараў) павінен прыйсьці да «той фатальнай нядзелі».

Але выкрыць міф пра 22 чэрвеня вельмі проста. Для гэтага патрэбна, напрыклад, злёгку стукнуць па адной падпорцы: па «перадваенным перыядзе». І ўся канструкцыя абваліцца, разам з «фатальнай» датай і 1418 днямі «вялікай айчыннай вайны».

«Перадваенны перыяд» ніколі не існаваў. Яго прыдумалі. Дастаткова згадаць, што за «перадваенны перыяд» УСЕ еўрапейскія суседзі ЗССР сталі ахвярамі савецкай агрэсіі. Чырвонае войска зусім не мела намеру на гэтым абмяжоўваць ці спыняць крывавыя «вызваляючыя паходы» на Захад, а далей на заход ад ЗССР знаходзілася толькі Германія (загад Народнага Камісара Абароны ЗССР №400 ад 7 лістапада 1940 года).

У верасні 1939 года ЗССР абвясьціў сябе нейтральным і за «перадваенны перыяд» захапіў тэрыторыю з насельніцтвам больш чым 23 мільёны чалавек. Ці не зашмат для нейтральнай дзяржавы?

На захопленых тэрыторыях Чырвонае войска і НКУС здзяйснялі жахлівыя злачынствы. Савецкія канцлагеры былі забіты палоннымі жаўнерамі і афіцэрамі еўрапейскіх краін. Палонных афіцэраў (не толькі польскіх) вынішчалі тысячамі. Ці будзе нейтральная краіна вынішчаць палонных афіцэраў? І адкуль у нейтральнай краіны тысячы палонных афіцэраў, ды яшчэ і пад час «передваеннага перыяду»?

Цікава атрымліваецца: Германія напала на Польшчу, гэта азначае, Германія – ініцыятар і ўдзельнік еўрапейскай, а, такім чынам, і сусьветнай вайны. Савецкі Звяз зрабіў тое ж самае і ў тым жа самым месяцы – але ён ініцыятарам вайны не лічыцца. І ўдзел у сусьветнай вайне Савецкага Звязу адлічаецца толькі ад 22 чэрвеня 1941 года. А чаму?

Польскі жаўнер, забіты ў бою супраць Чырвонага войска, лічыцца ўдзельнікам Другой сусьветнай вайны і яе ахвярай, а савецкі жаўнер, забіўшы яго, лічыцца «нейтральным». Калі ў тым жа бою на польскай тэрыторыі забіты савецкі жаўнер, то лічыцца, што ён быў забіты не падчас вайны, а ў мірны час, пад час «передваеннага перыяду».

Германія захапіла Данію – і гэта акт вайны, хаця вялікіх бітваў і не было. Савецкі Звяз захапіў таксама без бою тры прыбалтыйскія дзяржавы, вельмі падобныя на Данію як згодна з геаграфічным месцаваннем, так і згодна з колькасьцю насельніцтва, культурай, традыцыямі. Але дзеянні ЗССР актам вайны не лічацца.

Германія захапіла Нарвегію – гэта далейшае развіццё агрэсіі, а Савецкі Звяз перад гэтым разліў рэкі крыві ў суседняй Фінляндыі. Але крывавы спіс злачынстваў Германіі ў вайне пачынаецца з 1 верасня 1939 года, а спіс злачынстваў Чырвонага войска пад час Другой сусьветнай вайны пачынаецца чамусьці толькі з 22 чэрвеня 1941 года. Чаму?

На працягу «передваеннага перыяду» Чырвонае войска ў бязлітасных бітвах страціла сотні тысяч сваіх жаўнераў. Страты германскага войска за той жа перыяд былі значна меншымі. Калі рабіць высновы грунтуючыся на стратах, то Германія мае больш падставаў лічыцца нейтральнай у 1939-1940 гадах.

Здзяйсненні Чырвонага войска за час «передваеннага перыяду» афіцыйна маюць назву «ўмацаванне бяспекі заходніх меж». Гэта няпраўда. Межы былі ў бяспецы, калі суседзямі ЗССР былі нейтральныя дзяржавы Яўропы, пакуль не было агульнай мяжы з Германіяй і, такім чынам, Гітлер цалкам не меў магчымасьці напасьці на ЗССР, не кажучы ўжо пра раптоўны напад. Але Сталін планамерна знішчаў нейтральныя дзяржавы Яўропы, усталёўваючы агульную мяжу з Германіяй. Ад гэтага бяспека савецкай мяжы ніяк не магла павялічыцца.

Але калі нават мы і назавём агрэсію супраць шасьці нейтральных дзяржаваў Яўропы тэрмінам «умацаванне бяспекі мяжы», чаму ж мы не выкарыстоўваем той жа тэрмін і ў дачыненні да Гітлера? Хіба захопліваючы суседнія краіны, ён не ўмацоўваў бяспеку сваёй мяжы?

Мне пярэчаць: пад час «передваеннага перыяду» Савецкі Звяз не вёў адну бесперапынную вайну, гэта была серыя войнаў і ўварванняў з перапынкамі паміж імі. Але ж і Гітлер таксама вёў серыю войн з перапынкамі. Чаму мы ў дачыненні да яго выкарыстоўваем іншыя стандарты?

Сцвярджаюць, што Савецкі Звяз за час «передваеннага перыяду» нікому фармальна вайну не абвяшчаў, таму яго немагчыма лічыць удзельнікам вайны. Дазвольце, але і Гітлер не заўсёды фармальна абвяшчаў вайну. Згодна з заявамі

савецкай прапаганды, 22 чэрвеня 1941 года таксама ніхто нікому фармальна вайну не абвяшчаў. Чаму ж гэтая дата лічыцца падзелам паміж вайной і мірам?

22 чэрвеня – проста дзень пачатку наступлення ўзброенага войска адной дзяржавы супраць узброенага войска другой дзяржавы ўжо падчас вайны, у якой абедзьве дзяржавы ўжо даўно бяруць удзел.

Злоўлены злачынец пачынае выкладаць пра здарыўшаяся з моманту, калі нехта даў яму па пысе, не згадваючы пра тое, што сам ён да гэтага рабаваў і забіваў людзей на вуліцы. Чырвоная прапаганда, падобна на злоўленага злачынцу, пачынае выкладанне гісторыі вайны з моманту, калі замежнае войска з'явіліся на савецкай тэрыторыі, і малюе Савецкі Звяз нявіннай ахвярай. Давайце перастанем маляваць сябе нявіннай ахвярай.

Давайце згадаем сапраўды нявінных, загінуўшых за час «перадваеннага перыяду» пад штыкамі войска-«вызваліцеля». Давайце пісаць гісторыю вайны не ад 22 чэрвеня, а ад моманту, калі камуністычныя орды без абвяшчэння вайны стукнулі ў спіну абліваючаяся крывёю Польшчу, гераічнае войска якой у няроўным змаганні спрабавала спыніць рух Гітлера на ўсход. Давайце пісаць гісторыю вайны не з 22 чэрвеня, а з таго дня, калі Сталін прыняў рашэнне пачаць вайну.

1 верасня 1939 года, на світанні, германскае войска пачало вайну супраць Польшчы. Але ў XX стагоддзі вайна ў Яўропе аўтаматычна азначала сусьветную вайну. Вайна сапраўды хутка захапіла і Яўропу, і амаль увесь сьвет.

Дзякуючы дзіўнаму збегу абставін менавіта ў гэты дзень – 1 верасня 1939 года – 4-я пазачарговая сесія Вярхоўнай Рады ЗССР прыняла закон пра ўсеагульны вайсковы абавязак. Такога закону на працягу ўсёй гісторыі ЗССР не было.

Дзіўная справа: пакуль Гітлерам палохалі дзяцей (і дарослых), пакуль Гітлер лічыўся катам і людаедам – абыходзіліся без усеагульнай. Але вось падпісана дамова пра ненападзенне – і тэрмінова запатрабаваўся ўсеагульны вайсковы абавязак.

Верасень 1939 года – пачатак «дзіўнай вайны» на захадзе. На ўсходзе ў тым жа месяцы пачаўся не менш дзіўны мір.

Навошта ж Савецкаму Звязу ўсеагульны вайсковы абавязак? Камуністы ў адзін голас адказваюць: у гэты дзень пачалася Другая сусьветная вайна, мы ў ёй удзельнічаць не жадалі, але зрабілі захады засьцярогі. Маршал Савецкага Звязу К. А. Мерацкоў адзін са шматлікіх, хто сцвярджае, што закон меў вялізарнае значэнне і быў прыняты «ва ўмовах ужо пачаўшайся Другой Сусьветнай вайны (На службе народа. с. 181).

Але давайце ўявім польска-германскую мяжу пад час той трагічнай раніцы: змрок, туман, стральба, роў матораў. Мала каму ў Польшчы зразумела што ж адбываецца; правакацыя ці несанкцыянаваны канфлікт, узнікшы сам сабой. А вось дэпутаты Вярхоўнай Рады ЗССР (чабаны із захмарных пашаў і шляхетныя аленяводы із запалярных пашаў) ужо ведаюць: не правакацыя, не канфлікт, не германа-польская і нават не еўрапейская вайна, а пачатак сусьветнай вайны. Патрэбна нам – дэпутатам – у Маскве тэрмінова сабрацца (сесія пазачарговая!) ды прыняць адпаведныя законы. Толькі незразумела, чаму гэтыя ж самыя дэпутаты не рэагавалі так хутка, калі падобнае здарылася на савецка-германскай мяжы ў 1941-м?

Раніцай 1 верасня не толькі ўрад Польшчы, не толькі ўрады заходніх краін не ведалі, што пачалася новая сусьветная вайна, але і сам Гітлер не ведаў пра гэта.

Ён пачаў вайну супраць Польшчы ў надзеі на тое, што гэта будзе лакальная акцыя, як захоп Чэхаславакіі. І гэта не прапаганда Гебельса. Савецкія крыніцы паведамляюць пра тое ж.

Генерал-палкоўнік авіяцыі А. С. Якаўлеў (у той час асабісты рэферэнт Сталіна): «Гітлер быў упэўнены, што Англія і Францыя ваяваць за Польшчу не будуць» Шчыліна жыцця. с. 212.

Такім чынам, Гітлер не ведае, што ён пачынае Другую сусьветную вайну, а вось таварышы ў Крамлі гэта выдатна ведаюць! І яшчэ момант: шлях да Масквы не блізкі. Некаторым дэпутатам патрэбна 7-10, а то і 12 дзён каб дабрацца да Масквы. Гэта азначае, што для таго каб абмеркаваць пачаўшуюся ў Яўропе вайну, нехта даў дэпутатам сігнал сабрацца ў Крамлі да пачатку вайны. Скажу больш: да падпісання пакта Молатава-Рыбентропа.

Кожная спроба вызначыць дакладную дату пачатку Другой сусьветнай вайны і час уступлення ў яе ЗССР няўхільна прыводзіць нас да даты 19 жніўня 1939 года.

Сталін неаднаразова і раней на сакрэтных нарадах паведамляў пра свой план «вызвалення» Яўропы: «зацягнуць Яўропу ў вайну, застаючыся самому нейтральным, потым, калі супернікі знясіляць адзін аднаго, кінуць на чарку шаляў усю магутнасць Чырвонага войска» (Т. 6, с. 158; Т. 7, с. 14).

19 жніўня 1939 года на паседжанні Палітбюро было прынята безпаваротнае рашэнне ажыццявіць гэты план.

Сведчанні пра паседжанне Палітбюро і прынятыя пастановы амаль неадкладна з’явіліся ў заходнім друку. Французскае агенцтва Гавас – надрукавала паведамленне пра прынятыя пастановы.

Як цалкам сакрэтны пратакол Палітбюро мог патрапіць у заходнюю прэсу? Я не ведаю. Аднак магло існаваць некалькі шляхоў. Адным із найбольш магчымых мог быць такім: адзін ці некалькі сябраў Палітбюро, напалоханыя планамі Сталіна, вырашылі яго спыніць. Пратэставаць адкрыта яны не маглі. Быў толькі адзін шлях прымусіць Сталіна адмовіцца ад сваіх планаў: апублікаваць гэтыя планы на Захадзе. Сябры Палітбюро, асабліва тыя, якія кантралявалі Чырвонае войска, вайсковую прамысловасць, вайсковую выведку, НКУС, прапаганду, Камінтэрн, цалкам мелі такую магчымасць. Гэты варыянт не такі ўжо фантастычны, як можа здацца на першы пагляд.

У 1917 годзе сябры Палітбюро Зіноўеў і Каменеў, каб сарваць Кастрычніцкі пераварот, надрукавалі планы Леніна і Троцкага ў «буржуазным» друку. Павінен паўтарыць, што не ведаю, якім шляхам дакумент патрапіў на Захад, я толькі падкрэсліваю, што існавалі шляхі, дзякуючы якім ён мог туды патрапіць.

Сталін адрэагаваў на паведамленне агенцтва Гавас імгненна і цалкам незвычайна. Ён выступіў у газеце «Праўда» з абвяржэннем. Сталінскае абвяржэнне – вельмі сур'ёзны дакумент, які патрэбна чытаць толькі цалкам. Вось ён:

ПРА ХЛУСЛІВАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ АГЕНЦТВА ГАВАС. Рэдактар «Праўды» звярнуўся да тав. Сталіна з пытаннем: як ставіцца т. Сталін да паведамлення агенцтва Гавас пра «прамову Сталіна», нібы выказаную ім «пры паседжанні Палітбюро 19 жніўня», дзе нібы-та выказвалася думка пра тое, што «вайна павінна працягвацца як мага даўжэй, каб знясіліць ваюючыя бакі».

Тав. Сталін даслаў наступны адказ: «Гэтае паведамленне агенцтва Гавас, як і шматлікія іншыя яго паведамленні, уяўляе хлусню. Я, вядома, не магу ведаць, у

якім менавіта кафэ-шантане сфабрыкавана гэтая хлусня. Але як бы ні хлусілі спадары із агенцтва Гавас, яны не могуць адмаўляць таго, што:

а) не Германія напала на Францыю і Англію, а Францыя і Англія напалі на Германію, узяўшы на сябе адказнасць за існуючую вайну;

б) пасьля пачатку вайсковых дзеянняў Германія звярнулася да Францыі і Англіі з мірнымі прапановамі, а Савецкі Звяз адкрыта падтрымаў мірныя прапановы Германіі, бо ён лічыў і працягвае лічыць, што самае хуткае заканчэнне вайны карэнным чынам палегчыла б становішча ўсіх краін і народаў:

в) кіруючыя колы Англіі і Францыі груба адхілілі як мірныя прапановы Германіі, так і спробы Савецкага Звязу дамагчыся як мага хутчэйшага заканчэння вайны.

Такімі з’яўляюцца факты.

Што могуць супрацьпаставіць гэтым фактам кафэшантанныя палітыкі із агенцтва Гавас?»

І. Сталін «Праўда». 30 лістапада 1939 года.

Хай чытач сам робіць выснову: што з’яўляецца «хлуснёй» – паведамленне агенцтва Гавас ці сталінскае абвяржэнне. Я лічу, што сам Сталін праз некаторы час наўрад ці паўтарыў бы свае ўласныя словы.

Відавочная ілжывасць сталінскага абвяржэння і небывалая для Сталіна страта спакою сведчаць на карысць агенцтва Гавас. У дадзеным выпадку была закранута незвычайна адчувальная струна, таму такі рэзананс. За дзесяцігоддзі савецкай улады заходні друк пра Савецкі Звяз і асабіста пра Сталіна пісаў шмат. Бальшавікоў і асабіста Сталіна абвінавачвалі ва ўсіх смяротных грахах. Пра Сталіна пісалі, што ён правакатар паліцыі, што ён забіў сваю жонку, што ён дэспат, садыст, дыктатар, людаед, кат і інш. і інш. Але звычайна Сталін не браў удзел у палеміцы з «буржуазнымі пісакамі». Чаму ж маўкліва спакойны Сталін апусьціўся да кірмашовай лаянкі і нізкіх абразаў? Адказ адзін: агенцтва Гавас зрабіла ўсеагульна вядомымі самыя патаемныя намеры Сталіна. Менавіта таму Сталін так незвычайна рэагуе. Яму ўсё адно, што падумаюць пра яго абвяржэнне будучыя пакаленні (дарэчы, яны пра яго нічога не думаюць), Сталіну важна ў дадзены момант захаваць у таямніцы свой план на бліжэйшыя 2-3 гады, пакуль еўрапейскія краіны не паслабяць адна адну ў вынішчальнай вайне.

Давайце на некалькі хвілін пагадзімся з аргументамі Сталіна: так, паведамленне Гавас гэта проста «хлусня, сфабрыкаваная ў кафэ-шантане». У гэтым выпадку мы павінны выказаць наша зачараванне журналістам агенцтва Гавас. Калі сапраўды яны прыдумалі сваё паведамленне, то гэта было зроблена на падставе глыбокага ведання марксізму-ленінізму, характару Сталіна і грунтоўнага навуковага аналізу вайскова-палітычнай сітуацыі ў Яўропе. Журналісты агенцтва Гавас, вядома, разумелі сітуацыю значна лепш, чым Гітлер і лідэры заходніх дэмакратый. Калі паведамленне агенцтва Гавас было проста прыдумана, то гэта менавіта той выпадак, калі выдумка цалкам адпавядае рэчаіснасьці.

Праз шмат гадоў, калі ўсе даўно забыліся пра паведамленне агенцтва Гавас і абвяржэнні Сталіна, у Савецкім Звязе былі надрукаваны 13 тамоў твораў Сталіна. Сярод сталінскіх твораў ёсць яго прамова на сакрэтным паседжанні ЦК. У 1939 годзе журналісты агенцтва Гавас да гэтых прамоваў доступу не мелі. Але публікацыя сталінскіх твораў, падмацоўвае, што план Сталіна быў простым і геніяльны і ён быў менавіта такім, як яго апісалі французскія журналісты. Яшчэ ў 1927 годзе на закрытым паседжанні ЦК Сталін выказаў думку пра тое, што ў

выпадку вайны патрэбна захоўваць нейтралітэт да моманту, пакуль «варагуючыя бакі не знясіляць адзін аднаго ва ўзаемным змаганні, якое вышэй іхных магчымасьцей». Гэтая думка потым паўтаралася неаднаразова на закрытых паседжаннях. Сталін лічыў, што ў выпадку вайны ў Яўропе Савецкі Звяз непазбежна будзе браць удзел у вайне, але ён павінен узяць удзел апошнім, са свежым войскам прама пад фінал супраць усіх, ужо знясіленых ў змаганні.

Але і папярэднікі Сталіна выказваліся пра тое ж. Абгрунтоўваючы свой план у цесным коле паплечнікаў, Сталін проста цытаваў Леніна, падкрэсліваючы, што ідэя належыць Леніну. Але і Ленін не арыгінальны. Ён у сваю чаргу бярэ ідэі із бяздоннай бочкі марксізму. У гэтым дачыненні ўяўляе цікавасць ліст Ф. Энгельса Э. Бернштэйну ад 12 чэрвеня 1883 года: «Усе гэтыя разнастайныя лайдакі павінны спачатку перагрызціся адзін з адным, вынішчыць і скампраметаваць адзін аднаго і тым падрыхтаваць глебу для нас».

Сталін вызначаўся паміж сваімі папярэднікамі і паслядоўнікамі тым, што менш гаварыў, а больш дзейнічаў.

Вельмі важна ведаць, што выказваў Сталін на паседжанні Палітбюро 19 жніўня 1939 года. Але калі б мы і не ведалі яго слоў, мы бачым яго справы, і яны значна больш выразна паказваюць на сталінскую задуму. Ужо праз чатыры дні пасьля паседжання Палітбюро ў Крамлі быў падпісаны пакт Молатава-Рыбентропа, самае выбітное дасягненне савецкай дыпламатыі за ўсю яе гісторыю і самая бліскучая перамога Сталіна ва ўсёй яго незвычайнай кар'еры. Пасьля падпісання дамовы Сталін радасна крычаў: «Ашукаў! Ашукаў Гітлера!» Сталін сапраўды ашукаў Гітлера так, як ніхто нікога на працягу XX стагоддзя не ашукаў. Ужо праз паўтары тыдні пасьля падпісання пакта Гітлер меў вайну на два фронты, г.зн. Германія з самага пачатку патрапіла ў сітуацыю, у якой яна магла толькі прайграць вайну (і прайграла).

Іншымі словамі, ужо 23 жніўня 1939 года Сталін выйграў Другую сусьветную вайну – яшчэ да таго, як Гітлер яе пачаў.

Толькі летам 1940 года Гітлер зразумеў, што яго ашукалі. Ён паспрабаваў перайграць Сталіна, але было занадта позна. Гітлер мог разлічваць толькі на бліскучыя тактычныя перамогі, але стратэгічнае становішча Германіі было катастрафічным. Яна зноў апынулася паміж двума жарнавамі: з аднаго боку – Вялікабрытанія на сваіх недаступных выспах (і ЗША за яе спінай), з другога боку – Сталін. Гітлер павярнуўся тварам на захад, але выразна пабачыў, што Сталін рыхтуе напад, што Сталін адным ударам здольны перарэзаць нафтавую аорту ў Румыніі і паралізаваць усю германскую прамысловасць, войска, авіяцыю і флот. Гітлер павярнуўся тварам на ўсход, але атрымаў стратэгічныя бамбаванні, а потым і ўварванне з захаду.

Кажуць, што Сталін перамог толькі дзякуючы дапамозе Вялікабрытаніі і ЗША. Сьвятая праўда! У тым і складаецца веліч Сталіна, што ён, галоўны вораг Захаду, здолеў выкарыстаць Захад для абароны і ўмацавання сваёй дыктатуры. У тым і складаецца геніяльнасць Сталіна, што ён здолеў падзяліць сваіх супернікаў і сутыкнуць іх ілбамі. Менавіта пра такое развіццё падзей папярэджвала заходняя вольная прэса яшчэ ў 1939 годзе, калі Сталін на словах выступаў за нейтралітэт, а на справе быў самым галоўным і самым падступным завадатарам і ўдзельнікам вайны.

паставіў да сьцяны. Наадварот, ад палкоўніка ў чэрвені 41-га ён вельмі хутка дайшоў да генерал-палкоўніка, вызначыўся ў шматлікіх аперацыях. Самая заўважальная рыса ў яго характары: выключная абачлівасць і ўвага да дробязяў. А асабіста маё ўражанне: мужык рэдкай хітрасьці. Што ж з ім здарылася ў чэрвені 1941 года?

Далей германскае войска пасоўвалася без цяжкасьцей, захопліваючы масты на Даўгаве, Бярэзіне, Нёмане, Прыпяці і нават Дняпры. Калі б іх не падрыхтавалі да знішчэння, мы маглі б гэта кваліфікаваць як злачынную неабачлівасць. Але справа тут больш сур'ёзная. Іх падрыхтавалі да знішчэння, але пасьля таго як была ўсталявана агульная савецка-германская мяжа, іх размініравалі. Размініравалі паўсюдна, г.азн. гэта не было прымхай асобных ідыётаў, а дзяржаўнай палітыкай. «Наша краіна ўжо шчыльна датыкалася на захадзе з моцнай вайсковай машынай фашысцкай Германіі… Пагроза ўварвання навісла над Англіяй… Пазнаёміўшыся з падрыхтоўкай да пабудовы загарод у памежнай паласе, я быў проста збянтэжаны. Нават тое, што было створана ў 1926-1933 гадах, выявілася фактычна ліквідаваным. Больш не існавала складоў з гатовымі зарадамі каля важных мастоў і іншых аб'ектаў. Не было не толькі брыгад… але нават і асобных батальёнаў… Ульянаўская вучэльня тэхнікі асобнага прызначэння – адзіная навучальная ўстанова рыхтаваўшая высокакваліфікаваных камандыраў для падраздзяленняў, маючых радыёкіруемыя міны, было рэарганізавана ў вучэльню сувязі» (Старынаў. с. 175).

Існавала магчымасць рэзка скараціць уплыў фактару раптоўнасьці – не трымаць галоўную частку войска каля самай мяжы. Пустая тэрыторыя, хаця б нават ніяк не абсталяваная, у гэтым выпадку служыла б адмысловай палосай забеспячэння – забеспячэння ад раптоўнага нападу. Атрымаўшы сігнал ад перадавых атрадаў, галоўнае войска будзе мець не вельмі шмат часу для прыгатавання зброі. Але! «Арміям… было загадана размясьціцца непасрэдна ўздоўж дзяржаўнай мяжы… непасрэдна на мяжы, нягледзячы на ўсю нявыгаднасць яе абрысаў для абароны. Нават прадугледжаная нашымі даваеннымі пастановамі паласа забеспячэння не абсталявалася» (Гісторыя Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Звязу. 1941-1945. Т. 2, с. 49).

Такім чынам, начальнік Генеральнага штаба К. А. Мерацкоў дзейнічае насуперак статутам. Няўжо Сталін не пазбавіў яго пасады? Пазбавіў. Але не за тое, што Мерацкоў разбурыў паласу забеспячэння і не стварыў новую паласу, а за тое, што Мерацкоў дзейнічаў недастаткова актыўна ў пытаннях пабудовы дарог, мастоў, аэрадромаў у новых раёнах.

Замест Мерацкова 1 лютага 1941 года начальнікам Генеральнага штаба стаў генерал арміі Г. К. Жукаў. І праца закіпела з праўдзіва жукаўскім размахам. Да гэтага ў Чырвоным войску было пяць чыгуначных брыгад. Жукаў неадкладна павялічыў гэтую колькасць да 13. (Кожная брыгада складалася із аднаго палка, двух асобных батальёнаў і забяспечваючых падраздзяленняў.) Амаль усё чыгуначнае войска было размяркавана каля заходніх памежных раёнаў і вяло інтэнсіўныя працы па мадэрнізацыі старых і пракладцы новых дарог прама да самай мяжы («Чырвоная зорка», 15 верасня 1984 года). Вось некаторыя із новых ліній: Праскураў-Цярнопаль-Львоў, Львоў-Явараў-дзяржаўная мяжа, Львоў-Перамышль, Цімкавічы-Баранавічы, Белавежа-Аранчыца. Ужо толькі адны назвы канчатковых пунктаў чыгунак сведчыць пра тое, што савецкае кіраўніцтва разглядала памежную паласу не як зону бітваў, а як сваю тылавую зону, куды, у

выпадку хуткага пасоўвання на захад, патрэбна будзе даставіць мільёны новых рэзервістаў, мільёны тон боепрыпасаў, паліва і іншых прадметаў забеспячэння.

Адначасова з будаваннем чыгунак ішло інтэнсіўнае будаванне аўтамабільных дарог у заходніх раёнах краіны. Вось некаторыя з іх: Ворша-Лепель, Львоў-Пярэмышль, Белая Царква-Казацін, Мінск-Бярэсьце. Пры падрыхтоўцы да абарончай вайны пракладаюцца ракады, г.зн. дарогі паралельныя фронту для манеўру рэзервамі із пасіўных пляцовак абароны на пагражаючыя. Пры гэтым дарогі ўздоўж фронту будуюць не каля мяжы, а далёка ў глыбіні, пакідаючы памежныя раёны па магчымасьці цалкам без дарог і мастоў. Але Чырвонае войска будавала і чыгункі, і аўтамабільныя дарогі з усходу на захад, што робіцца пры падрыхтоўцы да наступлення для хуткага перакідання рэзерваў із глыбіні краіны да дзяржаўнай мяжы і для наступнага забеспячэння войска пасьля таго, як яно пяройдзе мяжу. Новыя дарогі вялі непасрэдна да памежных гарадоў: Пярэмышля, Бярэсьця, Яварава.

Маршал Савецкага Звязу Г. К. Жукаў успамінае: «Сетка аўтамабільных дарог у Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне была ў дрэнным стане. Шмат якія масты не вытрымлівалі вагу сярэдніх танкаў і артылерыі» (Успаміны і разважанні. с. 207).

Вось бы Жукаву і радавацца! У гэтых слабенькіх масткоў яшчэ б і палі падпілаваць! Ды мін супрацьтанкавых па берагах наставіць, ды снайпераў па кустах пасадзіць, ды гармат супрацьтанкавых! Ан, не! Жукаў інтэнсіўна дарогі будуе, старыя масты замяняе новымі, каб тут маглі праходзіць якія заўгодна танкі і артылерыя!

У гэтай грандыёзнай працы Чырвонаму войску велізарную дапамогу выказаў НКУС і асабіста Лаўрэн Паўлавіч. У савецкіх крыніцах вельмі часта сустракаюцца тэрміны «будаўнічыя арганізацыі НКУС» (Галоўны маршал авіяцыі А. А. Новікаў. У небе Ленінграда. с. 65). Але мы ведаем, каго НКУС выкарыстоўваў у якасьці працаўнікоў. Навошта ж столькі зэкаў трымаць у памежнай паласе, ды яшчэ і напярэдадні вайны?

А вайна відавочна насоўвалася. Афіцыйная «Гісторыя Чырвонасьцяжнай Кіеўскай вайсковай акругі 1919-1972» (с. 147) сведчыць: «Напачатку 1941 года гітлераўцы прыступілі да будавання мастоў, чыгунак, палявых аэрадромаў». Зразумела, што гэта відавочныя прыкметы падрыхтоўкі да наступлення. А вось што рабіла савецкае чыгуначнае войска ў той жа самы час. Цытуем тую ж кнігу (с. 143): «Чыгуначнае войска ў Заходняй Украіне вяло працы па развіццю і ўзмацненню чыгуначнай сеткі».

Створаныя Жукавым чыгуначныя брыгады здзейснілі вялізную працу на савецкай тэрыторыі, але галоўнае іхнае прызначэнне – дзейнічаючы на тэрыторыі суперніка, сьледам за наступаючым войскам хутка пераадолець паласу забеспячэння суперніка, аднавіць дарогі і масты, на асноўных накірунках перашыць вузкую заходнееўрапейскую каляіну на шырокі савецкі стандарт. Пасьля пачатку вайны гэтыя брыгады выкарыстоўваліся для вядзення загараджаючых прац, але гэта не тое, для чаго яны ствараліся. Загараджваючыя працы – імправізацыя, «справа цяжкаяі незнаёмая». (Савецкія чыгуначнікі. с. 98). У складзе гэтых брыгад не было загараджальных батальёнаў. Затое ў іхным складзе былі аднаўленчыя батальёны (Савецкае ўзброенае войска, с. 242). Напярэдадні вайны савецкае чыгуначнае войска не рыхтавала рэйкі да эвакуацыі і знішчэння, не вывозіла запасы із памежных раёнаў. Наадварот, непасрэдна на мяжы яно стварала

вялізныя запасы рэек, разборных мастоў, будаўнічых матэрыялаў, вугалю. Там гэтыя запасы і захапіла германскае войска. Не толькі германскія дакументы сведчаць пра гэта, але і савецкія крыніцы. Кіраўнік аддзела загарод і мінавання інжынернага кіравання РСЧВ Стэрынаў апісвае памежную станцыю Бярэсьце 21 чэрвеня 1941 года: «Сонца асьвятляла горы вугалю каля чыгункі, штабелі навенькіх рэек. Рэйкі блішчэлі. Усё дыхала спакоем» (Міны чакаюць сваёй гадзіны. с. 190).

Кожны ведае, што рэйкі вельмі хутка пакрываюцца лёгкім налётам іржы. Гэта азначае, гаворка ідзе пра рэйкі толькі што, прама напярэдадні вайны, дастаўленых на мяжу. Навошта?

Нам увесь час убіваюць у галаву думку: «Ах, калі б Сталін не знішчыў Тухачэўскага, то ўсё пайшло б па-іншаму!» Ды няўжо. Тухачэўскі вызначыўся жахлівай жорсткасьцю пры вынішчэнні сялян Тамбоўскай губерні ды палонных кранштацкіх матросаў, а ў сапраўднай вайне ён быў пабіты польскім войскам. У астатнім ён нічым не вызначаўся сярод іншых савецкіх маршалаў: «Пад час падрыхтоўкі аперацыі павінны быць абавязкова ўключаны захады па нарыхтоўцы драўляных мастоў і па нарыхтаванню на патрэбных накірунках чыгуначных аднаўляючых частак… Пры перашываванні вузкай чыгуначнай каляіны на шырокую…» ну і г.д. (Маршал Савецкага Звязу М. Н. Тухачэўскі. Абраныя творы. Т. 1, с. 62-63).

Акрамя чыгуначнага войска на заходняй мяжы было сабрана практычна ўсё савецкае інжынернае войска. У памежнай паласе перад вайной дзейнічалі сапёрныя падраздзяленні і часткі, не толькі ўваходзіўшыя ў склад дывізій, карпусоў і армій, размешчаных на самай мяжы, але і са складу фармаванняў, якія толькі пачалі высоўвацца да германскай мяжы. Вось чым займаліся савецкія сапёры: «Падрыхтоўкай асноўных рубяжоў для наступлення, пракладкай калонных шляхоў, наладжваннем і пераадоленнем загарод, аператыўным і тактычным маскіраваннем, арганізацыяй узаемадзеяння з пяхотай і танкамі, ўваходзіўшымі ў склад штурмавых згуртаванняў, забеспячэннем фарсіравання рэк…» (Савецкае ўзброенае войска. с. 255). Хай чытача не падманвае «наладжванне загарод». Перад рашаючым штурмам «Лініі Манэргейма» савецкія сапёры таксама стварылі некалькі пляцовак загарод, падобных на фінскія. Перад пачаткам бою прыбываючыя савецкія войсковыя часткі праходзілі праз гэтыя трэніровачныя загароды, пасьля гэтага ішлі на сапраўдны штурм.

Пры ўсёй павазе да германскага войска патрэбна прызнаць, што яно да сур'ёзнай вайны было катастрафічна не падрыхтавана. Ствараецца ўражанне, што Германскі Генеральны штаб проста не ведаў, што ў Расіі часам бывае зіма, а дарогі значна адрозніваюцца ад германскіх. Змазка ў германскай зброі застыгала на марозе і зброя не дзейнічала. Кажуць, што вінаваты мароз. Не. Гэта проста дрэнная змазка. Больш правільна, дрэнны Генеральны штаб, які не заказаў змазку, адпавядаючую рэчаісна існючым умовам. Кажуць, што бліцкрыг не атрымаўся дзякуючы дрэнным дарогам. Гэта хлусня. Гітлер ведаў, што яму ваяваць у Расіі, чаму ён не заказаў узбраенне і тэхніку, якія былі б здольнымі дзейнічаць у Расіі? Калі германская прамысловасць выпускала ўзбраенне, якое можна было выкарыстаць толькі ў Заходняй Яўропе і ў Афрыцы, але немагчыма ў Расіі, ці можна лічыць Германію падрыхтаванай да вайны?

Але Гітлеру пашанцавала. Прама напярэдадні вайны ў заходніх раёнах ЗССР былі здзейснены тытанічныя захады па пашырэнню і мадэрнізацыі дарожнай сеткі.

Вядома, і гэтага было недастаткова для германскага войска. Што б з ім здарылася, калі б Жукаў, Мерацкоў і Берыя не пабудавалі дарогі непасрэдна напярэдадні вайны? Калі б не стварылі вялізных запасаў рэек, разборных мастоў, будаўнічых матэрыялаў? Калі б была ўведзена ў дзеянне магутная сістэма самаабароны: усе масты падарваны, рухомая частка і рэйкі эвакуяваны, усе запасы знішчаны, дарогі разбураны, затоплены, забагнены, замінаваны? Адказ адзін: германскі бліцкрыг забуксаваў бы не каля варот Масквы, а значна раней.

У тым што германскае войска пасунулася ў цэнтр краіны вінаваты Мерацкоў, Жукаў, Берыя. Ці пакараў іх Сталін сьмерцю? Не, яны вельмі хутка ўсе сталі маршаламі. А за што іх караць? Гітлер скарыстаўся іхнымі здзяйсненнямі, але яны будавалі дарогі і стваралі запасы, вядома, не для Гітлера, а для таго, каб безперашкодна і хутка прапусьціць у Яўропу войска-вызваліцель і забяспечваць яго падчас знішчаючага раптоўнага вераломнага наступлення.

Напярэдадні войны ніхто ў Чырвоным войску не думаў пра загароды, усё думалі пра пераадоленне загародаў на тэрыторыі суперніка. Вось чаму пад прыкрыццём Паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня на заходняй мяжы з'явіліся (таемна) савецкія маршалы і вядучыя эксперты па пытаннях разгараждэння.

Вось маршал Савецкага Звязу Г. Кулік (таемна прыбыўшы ў Беларусь) размаўляе з палкоўнікам Старынавым, які тады быў кіраўніком аддзела загараджэнняў і мінавання Галоўнага інжынернага кіравання РСЧВ: «Мінашукальнікі давай, сапёр, тралы давай!» (Міны чакаюць сваёй гадзіны. с. 179). А маршал жа мае на ўвазе германскую тэрыторыю: на савецкай тэрыторыі ўжо ўсе міны абязшкоджаны і загароды зняты. Ды і размяшчэнне сваіх мін вядома, іх можна абязшкодзіць без мінашукальнікаў. Вось што маршал паведамляе далей: «Не так назвалі ваш аддзел, як патрэбна. Патрэбна б яго ў адпаведнасьці з нашай дактрынай назваць аддзелам разгараждэння і размінавання. Тады і думалі б інакш. А то заладзілі: абарона, абарона… Хопіць!» (Там жа). Той жа праблемай заняты і камандуючы Заходняй асобнай вайсковай акругай (акруга ўжо таемнаператворана ў Заходні фронт) генерал арміі Д. Паўлаў. Ён злосна заўважае, што пытанню разгараджэння надаецца недастаткова ўвагі. Але цікава: у абарончай вайне пытанням разгарабджэння зусім не патрэбна надаваць ніякай увагі. Патрэбна ствараць толькі загароды і з іхнай дапамогай, выматваць суперніка, а потым хутка адыходзіць да іншай, загадзя падрыхтаванай, лініі загараджэння.

Чырвонае Войска мела павучальны досьвед пераадолення фінскай паласы забеспячэння, таму яно вельмі добра засвоіла свае памылкі і зараз вельмі старанна рыхтавалася да пераадолення германскай палосы загараджэння. Ах, калі б савецкія маршалы толькі ведалі, што пачні яны вайну не ў ліпені, як планавалася, а 21 чэрвеня, то не спатрэбіліся б ніякія сродкі разграждэння: Германскае Войска, парушаючы свае статуты, рабіла тое ж самае: здымала міны, раўняла з зямлёй перашкоды, размяшчала свае часткі непасрэдна на мяжы, не маючы ніякай ахоўнай палосы.

Напачатку чэрвеня германскае войска пачало знішчаць калючы дрот непасрэдна на мяжы. Маршал Савецкага Звязу К. С. Маскаленка лічыць, што гэта неаспрэчнае сведчанне таго, што яны хутка пачнуць агрэсію (На паўднёва-заходнім накірунку, с. 24).

Але і Чырвонае Войска рабіла тое ж самае, праўда, з невялікім спазненнем. Із Масквы на заходняй мяжы сабраліся ўсе лепшыя розумы вайскова-інжынернай думкі, уключаючы генерал-лейтэнанта інжынернага войска прафесара Д. М.

Карбышава. Ад’язджаючы із Масквы напачатку чэрвеня, ён заявіў сваім сябрам, што вайна ўжо пачалася і дамовіўся сустрэцца з імі пасьля перамогі і не ў Маскве, а «на месцы перамогі». Прыбыўшы на заходнюю мяжу, ён пачаў кіпучую дзейнасць: прысутнічаў на вучэннях па фарсіраванню водных перашкод (што ў абарончых баях не патрабуецца) і па пераадоленню самымі новымі танкамі Т-34 супрацьтанкавых перашкод (што таксама ў абарончай вайне не патрэбна). 21 чэрвеня ён выехаў у 10-ую армію. Але перад гэтым «Карбышаў з камандуючым 3-яй арміяй В. І. Кузняцовым і камендантам Гарадзенскага УРа палкоўнікам Н. А. Івановым пабывалі на памежнай заставе. Уздоўж мяжы, каля дарогі Аўгустова-Сейна яшчэ раніцай стаялі нашы драцяныя загароды, а калі яны праязджалі другі раз, загароды выявіліся знятымі» (Е. Г. Рэшын. Генерал Карбышаў. с. 204).

Ці можам мы ўявіць сабе выяву: чэкісты здымаюць калючы дрот на межах! Гісторыкі-камуністы абвясьцілі ўсіх савецкіх маршалаў і генералаў ідыётамі, і тым самым патлумачылі падставы разгрому. Застаецца толькі незразумелым, чаму ж Гітлер не знішчыў усіх гэтых ідыётаў. Але давайце пагадзімся. Так, усё вайсковае кіраўніцтва – ідыёты. Але як патлумачыць дзеянні гераічных чэкістаў? Тых самых чэкістаў, якія толькі што закончылі Вялікае ачышчанне? Тых самых чэкістаў, якія трымаюць мяжу на замку? Тых самых чэкістаў, якія аплялі краіну калючым дротам? Навошта ж яны здымаюць свой чэкісцкі дрот на самай мяжы?! Яны маюць намер прапусьціць германскіх шпіёнаў ці выпусціць сваіх уцекачоў?

А непасрэдна ж на мяжы – каласальныя сукупнасьці савецкіх жаўнераў і афіцэраў, якія так схільныя збегчы куды заўгодна. Ды і зэкаў у памежнай паласе шмат.

Цікава, што камандуючы 3-й арміяй, якому наканавана тут ваяваць, камендант Умацаванага Раёна, які тэарэтычна прызначаны для абароны (на справе – для наступлення), маскоўскі эксперт самага высокага гатунку, ведаючага, што вайна ўжо пачалася, ніяк не рэагуюць на такія дзеянні. Наадварот, здыманне загарод па часе супадае з візітам на памежную заставу. Зноў жа ўзнікае пытанне, а што ім, уласна, там патрэбна?

Ці можам мы ўявіць камандзіра савецкай памежнай заставы ў званні старэйшага лейтэнанта НКУС, які згодна са сваім самавольным рашэннем пачаў здымаць калючы дрот? Калі ён вымавіць такі загад, то ці не палічаць яго падначаленыя загад «відавочна злачынным»? Але старэйшы лейтэнант загад вымавіў, а падначаленыя яго жвава выканалі. Відавочна што тут не абышлося без загаду начальніка памежнага войска НКУС Беларусі генерал-лейтэнанта І. А. Багданава. Магчыма Багданаў не разумее, што вайна насоўваецца? Не, ён разумее. «18 чэрвеня 1941 года начальнік памежнага войска НКУС Беларусі генерал-лейтэнант Багданаў прыняў рашэнне пра эвакуацыю сем'яў вайскоўцаў» (Дазорцы заходніх меж. с. 101).

Ці мог Багданаў адначасова прымаць такія рашэнні самастойна: эвакуяваць сем'і памежнікаў і рэзаць дрот, без ведама Народнага камісара ўнутраных спраў Генеральнага камісара дзяржаўнай бяспекі Л. П. Берыя? Не мог. Ды і Берыя самастойна наўрад ці адважыўся б на такое. Ён і не адважыўся.

Берыя дзейнічае ў поўным пагадненні з Жукавым, г.зн. нехта вышэй каардынуе (і вельмі нядрэнна) дзеянні войска і НКУС. Вайскоўцы і чэкісты робяць тую ж самую справу, прытым вельмі ўзгоднена па сутнасьці, па месцы, па часе. А каардынаваць іхную дзейнасць меў магчымасць толькі таварыш Сталін.

Нас пераконваюць, што першапачатковыя паразы Чырвонага войска – вынік таго, што яно не рыхтавалася да вайны. Глупства! Калі б яно не рыхтавалася да вайны, то калючы дрот хаця б на мяжы застаўся цэлым. Вайсковыя падраздзяленні ў такім выпадку мелі хаця б трохі часу прывесьці сваю зброю ў гатоўнасць. Тады і не было б такіх жахлівых катастроф.

Чэкісты знішчалі калючы дрот на межах, вядома, не для таго, каб германскае войска скарысталася гэтымі праходамі. Дрот знішчаўся для іншых мэт. Давайце ўявім сабе сітуацыю пры якой германская агрэсія праз нейкія нагоды адтэрмінавалася. Што будуць рабіць чэкісты на межах: знішчаць памежныя бар'еры, патрымаюць крыху мяжу адкрытай і зноў пачнуць будаваць загароды? Не, вядома! Застаецца толькі адзін варыянт: чэкісты рэзалі дрот, для таго каб прапусьціць войска-вызваліцель на тэрыторыю суперніка. Дакладна гэтак жа чэкісты рэзалі свой дрот перад «вызваленнем» Польшчы, Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, Бесарабіі, Букавіны. Зараз надышла чарга і Германіі…

Кажуць, што Сталін меў намер напьці на Гітлера ў 1942 годзе. Такі план сапраўды існаваў, але потым тэрміны былі перанесены.

Калі б Сталін рыхтаваў «вызваленне» на 1942 год, то памежны дрот патрэбна было б рэзаць у 1942 годзе. У самы апошні момант.

# Глава X

## Чаму Сталін знішчыў «лінію Сталіна».

> «Толькі наіўныя людзі лічаць, што абарона – гэта галоўнае заданне ўмацаваных раёнаў. Не, умацаваныя раёны будуюцца для больш надзейнай падрыхтоўкі наступлення. Яны павінны надзейна абараняць разгортванне ўдарных груповак, адбіць якую б то ні было спробу ворага пашкодзіць разгортванню, а з пераходам нашага войска ў наступленне падтрымаць яго усёй магутнасьцю агню».
>
> Генерал-маёр П.Г.Грыгарэнка, удзельнік пабудовы «Лініі Сталіна»

На працягу 30-х гадаў уздоўж заходняй мяжы ЗССР былі пабудаваны трынаццаць умацаваных раёнаў – УРаў. Гэтая паласа ўмацаваных раёнаў атрымала неафіцыйную назву – «Лінія Сталіна».

Кожны УР – гэта вайсковае фармаванне роўнае брыгадзе па колькасьці жаўнераў, але па агнявой магутнасьці роўнае корпусу. Кожны УР уключаў у свой склад кіраўніцтва і штаб, ад двух да васьмі кулямётна-артылерыйскіх батальёнаў, артылерыйскі полк, некалькі асобных батарэй цяжкай капанірнай артылерыі, танкавы батальён, роту ці батальён сувязі, інжынерна-сапёрны батальён і іншыя падраздзяленні. Кожны УР займаў раён роўны 100-180 км. па фронту і 30-50 км. у глыбіню. Раён быў абсталяваны складанай сістэмай жалезабетонных і бранявых баявых і забяспечваючых пабудоваў. Пасярэдзіне Ура ствараліся падземныя жалезабетонныя памяшканні для складоў, электрастанцый, шпіталяў, камандных пунктаў, вузлоў сувязі. Падземныя пабудовы злучаліся складанай сістэмай тунэляў, галерэй, перакрытых хадоў стасавання. Кожны УР меў магчымасць самастойна весьці баявыя дзеянні працяглы час ва ўмовах ізаляцыі.

УР складаўся із апорных пунктаў, кожны із якіх у сваю чаргу меў кругавую абарону і быў у стане самастойна абараняцца ва ўмовах поўнага акружэння супернікам, адцягваючы на сябе значную частку яго войска. Асноўнай баявой адзінкай Ура быў ДАК – даўгачасовая агнявая кропка. «Чырвоная зорка» (25 лютага 1983 года) апісвае адзін са стандартных дакаў «Лініі Сталіна» – ДАК №112 53-га УРа ў раёне Магілёва Падольскага: «Гэта была складаная фартыфікацыйная падземная пабудова, складаючаяся із хадоў стасавання, капаніраў, адсекаў, фільтрацыйных прыспасобаў. У ім знаходзіліся склады зброі, боепрыпасаў, харчавання, санчастка, сталовая, вадавод (які дзейнічае, дарэчы, да гэтага часу), чырвоны куток, назіральны і камандны пункты. Узбраенне дака – трох амбразурная кулямётная кропка, у якой стаялі на стацыянарных турэлях тры „Максімы“ і два гарматныя паўкапаніры з 76-мм гарматай у кожным».

Такі дак можна лічыць сярэднім. Акрамя іх былі пабудаваны тысячы невялікіх баявых пабудоваў на адзін-два кулямёты, разам з тым будаваліся і гіганцкія фартыфікацыйныя ансамблі.

Генерал П. Г. Грыгарэнка ў сваіх мемуарах апісвае адзін із іх, пабудаваны ўсе ў тым жа Магілёў-Падольскім УРы: восем магутных дотаў злучаны паміж сабой падземнымі галерэямі. Другі ўдзельнік пабудовы «Лініі Сталіна» палкоўнік Р. Г. Уманскі ў сваёй кнізе згадвае пра шматкіламятровыя падземныя пабудовы ў Кіеўскім Уры (На баявых межах. с. 35).

Яшчэ адзін удзельнік будаўніцтва генерал-палкоўнік А. І. Шэбунін паведамляе, што за тры гады толькі ў адным Праскураўскім УРы было пабудавана больш тысячы жалезабетонных абарончых пабудоваў, шмат якія із іх атачаліся штучнымі воднымі перашкодамі (Колькі намі пройдзена. с. 58).

Пабудова «Лініі Сталіна» не афішавалася, як пабудова французскай «Лініі Мажыно». «Лінія Сталіна» будавалася ў змроку дзяржаўнай таямніцы.

Пры пабудове кожнага апорнага пункта НКУС «адгарожваў» некалькі пляцовак так, што «непатрэбная птушка не мела магчымасьці туды праляцець». Будаванне вялося адначасова на ўсіх пляцоўках, але толькі на некаторых сапраўднае, а на большасьці астатніх – ілжывае. Не толькі мясцовыя жыхары, але і самі ўдзельнікі будавання мелі скажонае ўяўленне пра тое, што і дзе будуецца.

Паміж савецкай «Лініяй Сталіна» і французскай «Лініяй Мажыно» было шмат адрозненняў. «Лінію Сталіна» было немагчыма абыйсьці збоку: яе флангі ўпіраліся ў Балтыйскае і Чорнае моры. «Лінія Сталіна» будавалася не толькі супраць пяхоты, але, перадусім, супраць танкаў суперніка і мела магутнае зянітнае начыненне. «Лінія Сталіна» мела значна большую глыбіню. Акрамя жалезабетону пры пабудове «Лініі Сталіна» было выкарыстана шмат бранявой сталі, а таксама запарожскі і чаркаскі граніт. У адрозненні ад «Лініі Мажыно» «Лінія Сталіна» будавалася не каля самай мяжы, а ў глыбіні савецкай тэрыторыі.

Лінія ўмацаваных раёнаў у глыбіні тэрыторыі азначае, што першы ўдар артылерыі суперніка будзе нанесены не па баявых пабудовах, а па пустому месцу. Гэта азначае, што пры раптоўным нападзе гарнізоны маюць мінімум некалькі дзён, для таго каб заняць свае казематы і прывесьці зброю і пабудовы ў поўную гатоўнасць. Умацраёны ў глыбіні тэрыторыі азначаюць, што супернік, перад тым як пачаць іх штурм, павінен прайсьці ад 20-30 да 100-150 кіламетраў па тэрыторыях, насычаных міннымі палямі, фугасамі і іншымі непрыемнымі неспадзяванасьцямі. Гэта азначае, што агрэсару давядзецца фарсіраваць дзясяткі рэк і ручаёў, на якіх падарваны масты. Гэта азначае, што войска суперніка перад

штурмам зведае вялізныя страты ў сотнях і тысячах дробных засад на шляху руху. Паласа забеспячэння наперадзе «Лініі Сталіна» не толькі зніжала хуткасць руху суперніка і знясільвала яго, але і служыла свайго роду туманам на моры, за якім хаваецца ланцуг айсбергаў. Не ведаючы дакладнага месцавання пярэдняга краю «Лініі Сталіна», супернік мог раптам для сябе апынуцца непасрэдна перад савецкімі баявымі пабудовамі ў зоне іхнага забіваючага агню. Месцаванне «Лініі Сталіна» ў глыбіні савецкай тэрыторыі за паласой забеспячэння давала магчымасьць супроцьпаставіць неспадзяванасьці нападу раптоўнасць абароны: умацраёны былі замаскіраваны і схаваны так, што сутыкненне войска агрэсара са сталінскімі фортамі ў большасьці выпадкаў было б раптоўным для агрэсара. Пры некаторых умовах гэтае сутыкненне магло б нагадваць сутыкненне «Тытаніка» з вялізным, але нябачным дзякуючы туману айсбергам. Адрозненне ад «Лініі Мажыно» складалася і ў тым, што «Лінія Сталіна» не была суцэльнай: паміж умацаванымі раёнамі былі пакінуты даволі шырокія праходы. У выпадку патрэбы праходы маглі быць хутка перакрыты міннымі палямі, інжынернымі загародамі ўсіх відаў, палявой абаронай звычайнага войска. Але праходы маглі заставацца і адкрытымі, як бы прапануючы агрэсару не штурмаваць умацаваныя раёны ў лоб, а паспрабаваць праціснуцца паміж імі. Калі б супернік скарыстаўся прапанаванай магчымасьцю, то маса наступаючага войска была б раздробнена на некалькі ізаляваных струменяў, кожны із якіх пасоўваўся б наперад па прастрэльваемаму з двух бакоў калідоры, маючы свае флангі, тылы і лініі камунікацый пад пастаяннай і вельмі сур'ёзнай пагрозай.

Далей мы пабачым, што праходы паміж УРамі мелі яшчэ і іншае прызначэнне.

Трынаццаць УРаў «Лініі Сталіна» – гэта тытанічныя намаганні і гіганцкія выдаткі часоў дзвюх першых пяцігодак. У 1938 годзе ўсе трынаццаць УРаў было вырашана ўзмацніць за кошт будавання ў іх цяжкіх артылерыйскіх капаніраў, акрамя таго пачалося будаванне яшчэ васьмі УРаў «Лініі Сталіна». За адзін год у новых УРах было забетанавана больш тысячы баявых пабудоваў. І вось у гэты момант быў падпісаны пакт Молатава-Рыбентропа…

Пакт азначаў, што пачалася Другая сусьветная вайна. Той жа пакт азначаў, што паміж ЗССР і Германіяй больш няма падзяляючага бар'ера: зараз у іх агульная мяжа.

У такіх грозных абставінах Сталін мог зрабіць шмат чаго, каб павялічыць бяспеку савецкай заходняй мяжы і гарантаваць нейтралітэт ЗССР падчас вайны. Сталін, напрыклад, мог:

— даць загад павялічыць гарнізоны ўмацаваных раёнаў на «Лініі Сталіна»;

— загадаць заводам, вырабляючым узбраенне для УРаў, рэзка павялічыць вытворчасць;

— тое ж самае загадаць заводам, вырабляючым абарончае ўзбраенне: супрацьтанкавыя гарматы і супрацьтанкавыя стрэльбы;

— мабілізаваць усю будаўнічую тэхніку дзяржавы, усе рэсурсы, для таго каб рэзка паскорыць будаванне «Лініі Сталіна»;

— завяршыўшы пабудову «Лініі Сталіна» і прывёўшы яе ў поўную баявую прыгатаванасць, пачаць будаванне другой такой жа (ці яшчэ больш магутнай) абарончай сістэмы наперадзе «Лініі Сталіна»;

— акрамя дзвюх магутных абарончых сістэм можна было б пабудаваць і трэцці пояс умацаваных раёнаў, ззаду «Лініі Сталіна», напрыклад, уздоўж усходняга берага Дняпра;

— даць загад Чырвонаму Войску капаць тысячы кіламетраў траншэй, супрацьтанкавых ірвоў, акопаў і хадоў спалучэння ад Балтыйскага мора да Чорнага, пераплятаючы палявую абарону войска з палосамі ўмацаваных раёнаў, выкарыстоўваючы апошнія ў якасьці сталёвага каркаса непераадольнай для суперніка абароны.

Так мог бы дзейнічаць Сталін. Але ён дзейнічаў не так… Восенню 1939 года, у момант пачатку Другой Сусьветнай вайны, у момант усталявання агульнай мяжы з Германіяй усе будаўнічыя працы на «Лініі Сталіна» былі спынены (В. А. Анфілаў. Непаміраючы вычын. с. 35). Гарнізоны ўмацаваных раёнаў на «Лініі Сталіна» былі спачатку паменшаны, а потым цалкам расфармаваны. Савецкія заводы спынілі выраб узбраення і адмысловага абсталявання для фартыфікацыйных пабудоваў. Існуючыя УРы былі раззброены; узбраенне, боепрыпасы, прыборы назірання, сувязі і кіравання агнём былі здадзены на склады (ВІЖ, 1961, №9, с. 120). Працэс знішчэння «Лініі Сталіна» набірае хуткасць. Некаторыя баявыя пабудовы былі перададзены калгасам у якасьці сховішчаў для агародніны. Большасць баявых пабудоваў была засыпана зямлёй. Акрамя спынення вытворчасьці ўзбраення для УРаў савецкая прамысловасць пасьля пачатку Другой Сусьветнай вайны спыніла вытворчасць і шмат якіх іншых абарончых сістэм узбраення. Так, напрыклад, была цалкам спынена вытворчасць супрацьтанкавых гармат і 76-мм палкавых і дывізійных гармат, якія можна было скарыстаць у якасьці супрацьтанкавых (ВІЖ, 1961, №7, с. 101; ВІЖ, 1963, №2, с. 12). Маючыяся ў войску супрацьтанкавыя гарматы пачалі выкарыстоўвацца не па прамому прызначэнню, а для вырашэння іншых агнявых заданняў, напрыклад для знішчэння агнявых кропак суперніка падчас атакі савецкага войска (Генерал-лейтэнант І. П. Рослы. Апошні прывал – у Берліне. с. 27). Супрацьтанкавыя стрэльбы не толькі знялі з вытворчасьці, але знялі і з узбраення Чырвонага войска (ВІЖ, 1961, №7, с. 101).

Усё, што было злучана з абаронай, бязлітасна разбуралася і знішчалася.

Дзеля справядлівасьці патрэбна пазначыць, што летам 1940 года непасрэдна на новай савецка-германскай мяжы пачалося будаванне палосы ўмацаваных раёнаў, якая, аднак, так ніколі і не была закончана. У савецкім Генеральным штабе гэтыя новыя ўмацраёны з некаторай доляй іроніі неафіцыйна называюць «Лініяй Молатава». Рашэнне пра пачатак яе будавання было прынята 26 чэрвеня 1940 года (У, А. Анфілаў. Несмяротны вычын. с. 162).

Абарончае будаванне на новых межах ішло вельмі павольна, а разбурэнне на старой лініі ішло на дзіва хутка.

Вясной 1941 года трагедыя «Лініі Сталіна» дасягнула апафеоза. «Я не ведаю, як будучыя гісторыкі патлумачаць гэтае злачынства супраць нашага народа. Сучасныя абыходзяць гэтую падзею поўным маўчаннем, а я не ведаю, як патлумачыць. Шмат мільярдаў рублёў (згодна з маімі падлікамі не меней за 120) злупіў савецкі ўрад з народа, каб пабудаваць уздоўж усёй заходняй мяжы непрыступныя для ворага ўмацаванні – ад мора і да мора, ад сівай Балтыкі да блакітнага Чорнага мора. І напярэдадні самай вайны – вясной 1941 года – загрымелі магутныя выбухі па ўсёй 1200-кіламятровай лініі ўмацаванняў. Магутныя жалезабетонныя капаніры і паўкапаніры, трох-, дзвюх- і адно

амбразурныя агнявыя кропкі, камандныя і назіральныя пункты – дзясяткі тысяч доўгачасовых абарончых пабудоваў былі падняты ў паветра згодна з асабістым загадам Сталіна» (Генерал-маёр П. Г. Грыгарэнка. У падполлі можна сустрэць толькі пацукоў. с. 141).

Такім чынам, «Лінія Сталіна» на старой мяжы ўжо знішчана, а «Лінія Молатава» на новай мяжы яшчэ не пабудавана. Савецкія генералы і маршалы пасьля вайны і сьмерці Сталіна хорам выказалі сваё абурэнне. Вось галоўны маршал артылерыі Н. Н. Воранаў: «Як магло наша кіраўніцтва, не пабудаваўшы патрэбных абарончых палос на новай заходняй мяжы 1939 года, прыняць рашэнне пра ліквідацыю і раззбраенне ўмацаваных раёнаў на ранейшых межах?» (На службе вайсковай. с. 172).

Абурэнне маршала Воранава фальшывае. Ён крытыкуе «наша кіраўніцтва». Але хіба ў момант знішчэння «Лініі Сталіна» ён не знаходзіўся на самых высокіх кіруючых пасадах у Чырвоным войску? Хіба ён сам у той час не меў звання генерал-палкоўніка артылерыі? Хіба без яго ведама былі зняты з вытворчасьці супрацьтанкавыя і капанірныя гарматы? Хіба ён не ведаў пра раззбраенне і знішчэнне артылерыйскіх капаніраў на «Лініі Сталіна»? Сама пастаноўка пытання Воранавым няправільная і мае на мэце адцягнуць увагу ад сутнасьці праблемы. Воранаў ставіць пытанне: чаму адну лінію знішчылі да таго, як пабудавалі другую? Воранаў сваім пытаннем апраўдвае дзеянні «нашага кіраўніцтва», папракаючы яго не ў знішчэнні «Лініі Сталіна», а толькі ў тым, што гэтае знішчэнне было здзейснена дачасова. Згодна з Воранавым атрымліваецца, што патрэбна было спачатку пабудаваць «Лінію Молатава», а ўжо потым ламаць «Лінію Сталіна». А чаму б не задаць іншае пытанне: навошта наогул было ламаць «Лінію Сталіна»? Хіба дзьве лініі не лепш чым адна? Хіба ў абароне бываюць лішнімі абарончыя пабудовы, лішнімі траншэі, фарты і казематы, лішнімі мінныя палі і драцяныя загароды? 1940 год двойчы падмацаваў меркаванне, што дзьве паласы лепш, чым адна. У 1940 годзе Чырвонае Войска цаной вялікай крыві праламала фінскую «Лінію Манэргейма», і гэта вымусіла Фінляндыюісьці на перамовы са Сталіным і саступіць яго патрабаванням. Але давайце ўявім, што за «Лініяй Манэргейма» ў глыбіні фінскай тэрыторыі існуе яшчэ адна лінія!

У 1940 годзе германскае войска абыйшло збоку французскую «Лінію Мажыно», выбралася на аператыўны прастор, і гэта для Францыі азначала заканчэнне вайны. Давайце ўявім, што ў глыбіні французскай тэрыторыі існуе яшчэ адна лінія, якую абыйсьці немагчыма. На жаль, ні ў Францыі, ні ў Фінляндыі другой лініі ў глыбіні тэрыторыі ў той час не было. А вось у Сталіна такая лінія была! І менавіта ў той час ён яе інтэнсіўна ламае.

Камуністы прыдумалі шмат разнастайных тлумачэнняў таго, што здарылася. Адно із іх: на новай мяжы нехапала ўзбраення для новых умацаваных раёнаў, таму ўзбраенне давялося забраць із «Лініі Сталіна»… Такое тлумачэнне можа задаволіць толькі камуністычных прапагандыстаў. А нармальны чалавек задасць пытанне: калі на «Лініі Молатава» нехапала ўзбраення, то чаму б не даць загад артылерыйскім заводам павялічыць вырабніцтва ўзбраення? Але такога загаду ніхто не даў, наадварот, быў дадзены процілеглы загад: вытворчасць УРаўскага ўзбраення скараціць ці спыніць цалкам (Маршал Савецкага Звязу М. В. Захараў, «Пытанні гісторыі», 1970, №5, с. 33).

У камуністаў усё проста: нехапала адмысловага УРаўскага абсталявання на новай мяжы, вось і давялося пайсьці на вымушаны крок – раззброіць «Лінію

Сталіна». Рэчаіснасць, маўляў, вымусіла. Але давайце згадаем, што раззбраенне «Лініі Сталіна» пачалося восенню 1939 года, пры гэтым знятая зброя здавалася на склады. Іншага ўжывання для адмысловага УРаўскага ўзбраення ў той момант ніхто прыдумаць не мог, бо на новай заходняй мяжы ніякага фартыфікацыйнага будаўніцтва не вялося, «Лініі Молатава» не існавала, не існавала нават і рашэння пра яе пабудову. Рашэнне было прынята савецкім урадам значна пазьней – 26 чэрвеня 1940 года. Вось і атрымваецца, што спачатку «Лінія Сталіна» была раззброена, а ўжо потым, амаль праз год, узнікла нагода, патрэбнасць і неабходнасць пайсьці на такі крок. Не, таварышы камуністычныя гісторыкі, такое тлумачэнне нас задаволіць не можа: вынік не можа папярэднічаць падставе. Папрацуйце над стварэннем іншай нагоды. Тлумачэнне пра перанясенне зброі із «Лініі Сталіна» на «Лінію Молатава» мы не можам палічыць грунтоўным і таму, што «Лінія Молатава» ў параўнанні з «Лініяй Сталіна» была нязначным ланцужком адносна лёгкіх умацаванняў, якім не патрабавалася шмат узбраення. Прыклад: у Заходняй асобнай вайсковай акрузе, г.зн. у Беларусі, былі пабудаваны на новай мяжы 193 баявыя пабудовы, а да гэтага на старых межах было раззброена 876 значна больш магутных баявых пабудоваў. У іншых вайсковых акругах суадносіны паміж нанова пабудаванымі пабудовамі і раней раззброенымі яшчэ больш уражваючыя. У Адэскай вайсковай акрузе раззброілі тры звышмагутныя Уры на старой мяжы, а на новай пакуль да будавання не прыступілі: вяліся падрыхтоўчыя працы… Для таго каб узброіць «Лінію Молатава», было дастаткова забраць на «Лініі Сталіна» толькі частку ўзбраення, прытым толькі меншую частку. Чаму ж із «Лініі Сталіна» знялі цалкам усё ўзбраенне?

Але нават калі, насуперак цвярозаму розуму, мы і паверым камуністам, то атрымаем толькі незадавальняючы, разлічаны на дурня, адказ на пытанне пра тое, чаму «Лінію Сталіна» раззброілі. Але мы не маем ніякага, нават фальшывага адказу на пытанне, навошта ж яе знішчылі?!

Казематнае абсталяванне, кулямёты, боепрыпасы, перыскопы, сродкі сувязі, газавыя фільтры можна зняць з «Лініі Сталіна» і перакінуць на «Лінію Молатава». Але ці магчыма перакінуць із адной лініі на другую жалезабетонныя канструкцыі? Самы маленькі адно амбразурны кулямётны дот – гэта жалезабетонны маналіт вагой 350 тон, закапаны ў зямлю «па самыя вочы», а над ім навалены гранітныя камлыгі (каб выклікаць заўчасны разрыў снарада), і ўсё гэта засыпана зямлёй, на якой ужо прараслі дрэвы для дадатковай абароны і маскіравання. А навокал – равы і штучныя сажалкі. Ці магчыма гэта перацягнуць на 200 кіламетраў на захад? Немагчыма. А пабудовы большага памеру – гэта тысячатонныя маналіты глыбока пад зямлёй. Ці магчыма перамясціць іх на «Лінію Молатава»? Зноў жа немагчыма. Калі із адной выдатнай сядзібы мы перанеслі мэблю ў іншую сядзібу, хіба гэта дастатковая падстава для таго, каб першую сядзібу знішчыць?

«Раззброіць – вымусіла рэчаіснасць». Хай будзе так. Але навошта знішчаць? Вось я жыву ў Вялікабрытаніі. Блукаю па прыбярэжных узгорках. Навакол тут і там – жалезабетонныя доты часоў вайны. Пасьля вайны зброю з іх знялі, але нікому і ў галаву не прыходзіць падрываць гэтыя цудоўныя пабудовы, выгляд якіх цешыць кожнага нармальнага чалавека. Стаяць і хай стаяць. Яны хлеба не просяць. Хай стаяць – магчыма калі-небудзь яшчэ спатрэбяцца. Раззброены дот можна ўзброіць. У крайнім выпадку, можна звычайную пяхоту з яе звычайным узбраеннем пасадзіць у старыя доты, і яны на прыканцы XX стагоддзя будуць карыснымі, як і ў часы мінулай вайны.

У абароне жаўнер пяхоты, узброены вінтоўкай і рыдлёўкай, можа выкапаць акоп, ператварыўшы яго ў цяжкапераадольваемы, а калі-нікалі і непераадольны для суперніка рубеж. А калі пасадзіць таго ж жаўнера з вінтоўкай (ці з ручным кулямётам) не ў брудную яму пасярод поля, а ў самы просты, хай і пазбаўлены ўзбраення дот, то жывучасць і ўстойлівасць таго ж жаўнера павялічацца ў дзясяткі разоў: жаўнер будзе мець над галавой мінімум метр моцнага фартыфікацыйнага жалезабетону, паўтары метры з фронту, і па метру – з флангаў. Ды ўсё гэта загадзя накрыць і замаскіраваць ад зацікаўленага пагляду суперніка. А ўжо калі б пасадзіць у такія скрынкі, хай і пазбаўленыя ўзбраення, сто семдзесят савецкіх дывізій першага эшалона, то праламаць іхную абарону было б незвычайна цяжка. Войску ў абароне заўсёды патрэбна за штосьці зачапіцца: за пазбаўленыя зброі фарты Вердэна, за не падрыхтаваныя да абароны бастыёны Бярэсьця, за сьцяны Сталінграда, і нават за пакінутыя два гады назад траншэі на Курскім выступе, а зачапіўшыся, пяхота закапаецца ў зямлю так, што нічым яе із нор і бярлог не выкурыш. І ператворыць пяхота руіны завода, бастыёны дзевятнаццатага стагоддзя ці цытадэль трынаццатага ў непрыступнае ўмацаванне. «Лінія Сталіна», нават цалкам раззброеная, магла б быць тым месцам, зачапіўшыся за якое, Чырвонае Войска было б у стане стварыць лінію абароны, не прапусьціўшы суперніка ў глыб краіны. І спатрэбіліся б пры гэтым пазбаўленыя ўзбраення доты, і падземныя кіруючыя пункты, і шпіталі, і абароненыя бетонам склады, спатрэбіліся б падземныя галярэі і тунэлі, лініі сувязі і кіравання, электрастанцыі і вадаводныя сістэмы… Але Першы стратэгічны эшалон Чырвонага войска, знішчыўшы «Лінію Сталіна», быў выведзены за межы дзяржаўнай мяжы ЗССР існаваўшай да пачатку Другой Сусьветнай вайны. Пад прыкрыццём Паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня 1941 года ў заходнія раёны ЗССР пачалося перамяшчэнне Другога стратэгічнага эшалона. Але і яго часткі выводзіліся за межы ранейшай мяжы, за межы раззброенай, кінутай і знішчанай «Лініі Сталіна».

Абарона павінна ўдасканальвацца пастаянна – гэта патрабаванне баявога статута. Кожны жаўнер ведае гэтае патрабаванне і ведае, што яно азначае: незалежна ад таго, наколькі магутнай з'яўляецца абарона, кожны жаўнер як мінімум дзесяць гадзін на працягу сутак працягвае зацята капаць зямлю. Ці знаходзіцца жаўнер у абароне адзін дзень ці адзін год, гэта не перамяняе сітуацыю: ён будзе капаць і капаць зямлю, пашыраючы і паглыбляючы супрацьтанкавыя равы, дапаўняючы першую траншэю другой, трэццяй, пятай. Патрабаванне статута пра пастаяннае і напружанае ўдасканальванне абароны азначае, што сітуацыі «дастаткова» не існуе і не можа існаваць. Калі выкапана дзесяць супрацьтанкавых равоў адзін за адным, што ж, капайце адзінаццаты!

Простую праўду пра тое, што лішніх абарончых пабудоваў не бывае, як не бывае і састарэлых, жаўнеры кожнага войска ведаюць ужо шмат тысяч гадоў. Таму кожная новая абарончая пабудова ствараецца не для таго, каб замяніць раней пабудаваную, але для таго, каб яе узмацніць і дапоўніць. Зірнем на які заўгодна замак: у цэнтры – вежа дзясятага стагоддзя, вакол яе – сьцены трынаццатага стагоддзя, аточаныя колам бастыёнаў сямнаццатага стагоддзя, якія ў сваю чаргу аточаны фартамі дзевятнаццатага стагоддзя, узмоцненыя дотамі дваццатага. «Лінія Молатава» магла б служыць дадаткам да «Лініі Сталіна», але не яе заменай. Аднак «Лінія Молатава» стваралася не як дадатак «Лініі Сталіна», і нават не ў якасьці яе замены. «Лінія Молатава» выразна адрознівалася ад «Лініі Сталіна» як адпаведна з задумамі, так і адпаведна з дэталямі. Існуе як мінімум чатыры галоўныя адрозненні

паміж тымі ўмацаваннямі, якія ламалі на старых межах, і тымі, якія стваралі на новых:

— «Лінію Молатава» будавалі так, каб СУПЕРНІК яе БАЧЫЎ;

— «Лінія Молатава» ствaралася на ДРУГАРАДНЫХ НАКІРУНКАХ;

— «Лінія Молатава» не абаранялася паласай забеспячэння, міннымі палямі і іншымі інжынернымі загародамі;

— будаўнікі не выкарысталі шматлікія магчымасьці ўзмацнення «Лініі Молатава» і не спяшаліся яе будаваць.

Будаванне «Лініі Молатава» – такая ж загадка савецкай гісторыі, як і разбурэнне «Лініі Сталіна».

Дзіўныя рэчы адбываліся пры будаванні новых умацраёнаў… У 1941 годзе тытанічныя масы савецкага войска былі сабраны ў Львоўскім выступе на Ўкраіне. Другая па магутнасьці групоўка савецкага войска была размешчана ў Беластоцкім выступе ў Беларусі. Савецкія маршалы тлумачаць: галоўны ўдар мы чакалі на Украіне, а дапаможны – у Беларусі. Калі так, то галоўныя намаганні пры пабудове «Лініі Молатава» павінны былі быць, перадусім, засяроджаны на Украіне, а ў другую чаргу – у Беларусі. Але! Палову ўсіх сродкаў, выдаткаваных на пабудову «Лініі Молатава», планавалася выкарыстаць… у Прыбалтыцы! Гэта ж другарадны накірунак! Чаму ў Прыбалтыцы?! Чвэрць сродкаў планавалася для Беларусі і толькі 9% для Ўкраіны, дзе, згодна з запэўніваннямі савецкіх маршалаў, «чакаўся галоўны ўдар» (Анфілаў, там жа, с. 164). Не толькі ў стратэгічным дачыненні, але і ў тактычным дачыненні, умацаванні «Лініі Молатава» будаваліся на другарадных накірунках. Прыклад: у раёне Бярэсьця памежную раку перасякала адразу шэсць чыгуначных і аўтамабільных мастоў. Варшава-Бярэсьце-Менск-Смаленск-Масква – гэты галоўны стратэгічны накірунак вайны. Масты ў Бярэсьці – гэта масты самага вялікага стратэгічнага значэння. У раёне Бярэсьця будаваўся новы УР. Але не там, дзе масты, а далёкае збоку, там, дзе ніякіх мастоў няма!

Умацаваныя раёны «Лініі Молатава» былі шчыльна высунуты да мяжы. Умацаваныя раёны з гэтага часу не абараняліся паласай забеспячэння, і ў выпадку раптоўнага нападу ў гарнізонаў не было часу для таго, каб заняць свае баявыя пазіцыі і прывесьці зброю ў гатовасць. У адрозненні ад «Лініі Сталіна», умацаваныя раёны на «Лініі Молатава» мелі вельмі невялікую глыбіню. Усё, што можна было пабудаваць на самой мяжы, на ёй і будавалася. Тылавыя абарончыя рубяжы не будаваліся і нават не планаваліся. (Генерал-лейтэнант В. Ф. Зотаў. На Паўночна-заходнім фронце. Зборнік, с. 175). Новыя ўмацаванні будаваліся не на тактычна выгадных для абароны рубяжах, а ўздоўж дзяржаўнай мяжы, паўтараючы ўсе яе выгіны і звіліны. Новыя баявыя пабудовы не абараняліся калючым дротам, мінамі, равамі, надаўбамі, вожыкамі і тэтраэдрамі і не будаваліся ніякія інжынерныя загароды ў раёне будавання. Новыя пабудовы НЕ МАСКІРАВАЛІСЯ.

Напрыклад, ва Уладзіміры-Валынскім УРы із 97 баявых пабудоваў было абсыпана зямлёй 5-7, астатнія былі фактычна дэмаскіраваны» (ВІЖ, 1976, №5, с. 91). Калі мой чытач будзе перасякаць савецкую мяжу ў раёне Бярэсьця, то хай зверне ўвагу на шэрыя бетонныя скрынкі амаль на самым беразе – гэта доты паўднёвага ўскрайку Берасьцейскага УРа. Яны не былі засыпаны зямлёй тады, так голымі стаяць і да сёняшнага дня. Раней доты на «Лініі Сталіна» будаваліся таемна ўдалечыні ад мяжы, і супернік не мог ведаць, дзе знаходзіцца ўмацаванне, а дзе праходы паміж імі, ды і ці наогул існуюць такія праходы. Зараз супернік са свайго берага меў магчымасць не толькі назіраць за усім будаўніцтвам і дакладна ведаць,

дзе знаходзяцца ўмацаванні, але меў магчымасць дакладна выявіць кожную асобную пабудову і нават вызначыць накірунак абстрэлу для кожнай амбразуры. Грунтуючыся на гэтым ён меў магчымасць выведаць усю сістэму агню. Ведаючы накірунак сектароў абстрэлу, супернік мог выбраць непрастрэльваемыя пляцоўкі, дабрацца да дэмаскіраваных дотаў і затыкнуць амбразуры мяшкамі з пяском, што, дарэчы, супернік і зрабіў 22 чэрвеня 1941 года.

Маршал Савецкага Звязу Г. К. Жукаў сведчыць: «Умацаваныя раёны будуюцца вельмі блізка ад мяжы і маюць вельмі нявыгадную аператыўную канфігурацыю, асабліва ў раёне Беластоцкага выступу. Гэта дазваляе суперніку нанесьці ўдар із раёнаў Бярэсьця і Сувалак у тыл усёй нашай беластоцкай групоўкі. Акрамя таго, дзякуючы невялікай глыбіні УРы не могуць доўга трымацца, таму што яны наскрозь прастрэльваюцца артылерыяй» (Успаміны і разважанні, с. 194).

Калі супернік можа стукнуць із раёнаў Бярэсьця і Сувалак, то чаму не скарыстаць кінутыя старыя рускія памежныя ўмацаванні Бярэсьце, Асавец, Гародню, Перамышль, Каўнас? Кожнае із гэтых умацаванняў адпаведна ўмацаванасьці не саступае Вердэну. Кожнае із гэтых умацаванняў, калі яго ўключыць у сістэму абароны савецкага войска, можа ператварыцца ў непрыступны бастыён, павышаючы ўстойлівасць усёй сістэмы абароны. Акрамя старых умацаванняў у гэтых жа раёнах знаходзіліся старыя, не такія магутныя, умацаванні: капаніры, кожны на адну стралковую роту. Таўшчыня сьцен і перакрыццяў – тры метры фартыфікацыйнага жалезабетону. Таўшчыня тры метры – гэта не вельмі шмат? Згодзен. Але ж гэта лепш чым нічога. Калі таўшчыня тры метры не задавальняе, то яе можна павялічыць. Такім чынам, куды ж глядзіць ГВІУ – Галоўнае вайскова-інжынернае кіраўніцтва Чырвонага войска? «Кіраўнік ГВІУ прапанаваў выкарыстаць старыя рускія памежныя ўмацавванні і стварыць зоны загарод. Гэтая прапанова так ніколі і не было прынята. Без патрэбы, маўляў.» (І. Г. Стэрынаў. Міны чакаюць сваёй гадзіны. с. 177).

У лютым 1941 года пасаду кіраўніка Генеральнага штаба Чырвонага войска заняў Г. К. Жукаў – найвялікшы вайсковы правадыр XX стагоддзя. У нашым стагоддзі не было ніводнага іншага генерала ці маршала, які знаходзіўся б на такой вышыні і ў той жа час не меў ніводнай вайсковай паразы. Такім чынам, вялікі Жукаў (яго веліч ужо даказана на Халхін-Голе раптоўным разгромам 6-ай японскай арміі) прыняў на сябе амаль вярхоўную вайсковую ўладу. Ужо ён навядзе парадак на «Лініі Молатава»! Але, не. Не спяшайцеся. На будаўніцтве «Лініі Молатава» пасьля прыходу Жукава нічога да лепшага не змянілася. Наадварот, будаванне некаторых умацаваных раёнаў, напрыклад Берасьцейскага, было аднесена да другой чаргі (Анфілаў, с. 166). Чытачу, знаёмаму з савецкай рэчаіснасьцю, не патрэбна тлумачыць значэння слоў «будаванне другой чаргі». На практыцы гэта азначае амаль цалкам замарожанае будаванне. Але ў гэтага медаля існуе і адваротны бок. Менавіта пра Берасьцейскі ўмацаваны раён вядома больш, чым пра іншыя. У прыватнасьці, із трафейных дакументаў германскага 48-га матарызаванага корпуса вядома, што ў германскага камандавання стваралася зусім іншае ўражанне: германскі бок назіраў інтэнсіўнае будаўніцтва, якое не спынялася ні днём, ні ноччу, пры гэтым начамі «рускія будуюць свае доты пры поўным асьвятленні».

Як жа гэта разумець? Няўжо такія ідыёты, што будаўнічыя пляцоўкі каля самай мяжы цалкам дэмаскіруюць кожную ноч поўным асьвятленнем?! І як аб’яднаць разам «будаўніцтва другой чаргі» і «дзень і ноч пры поўным

асьвятленні»?! Няўжо дэманстрацыя? Менавіта так. Мы яшчэ не раз вернемся да пабудовы «Лініі Молатава», якую Маршал Савецкага Звязу І. Х. Баграмян ахарактарызаваў як «наўмысная дэманстрацыя».

Генерал-палкоўнік Л. М. Сандалаў у сваіх мемуарах (Перажытае. с. 64) перадае словы каменданта Берасьцейскага ўмацраёна генерал-маёра К. Пузырова: «будаванне ўмацраёна каля самай мяжы – справа нязвыклая. Раней мы заўсёды будавалі доты на некаторым аддаленні ад мяжы. Але тут нічога не зробіш. Мы павінны кіравацца не толькі вайсковымі, але і палітычнымі меркаваннямі…»

Вось і яшчэ загадка: савецкае войска хаваецца у лясах, жаўнерам забараняецца з'яўляцца на людзях. Нагода: «каб не справакаваць вайну». У той жа самы час, грунтуючыся на нейкіх не вядомых нам палітычных меркаваннях днямі і начамі суперніку назойліва дэманструюць інтэнсіўную падрыхтоўку да абароны, не баючыся выклікаць ніякіх дыпламатычных ці вайсковых непрыемнасьцей.

Такім чынам, як жа ўсе гэтыя загадкі разгадаць? Як аб'яднаць усе гэтыя супярэчлівыя факты ў адным тлумачэнні? Вось нам падказваюць: дурні гэтыя чырвоныя камандыры, ідыёты, вось ад дурасьці ўсё і ідзе. Прыняў бы я гэта тлумачэнне. Але вось бяда: у «Лініі Сталіна» і ў «Лініі Молатава» быў адзін і той жа «бацька» – генерал-лейтэнант інжынернага войска прафесар Д. М. Карбышаў. На «Лініі Сталіна» ён усё рабіў слушна, на ўзроўні сусьветных стандартаў і вышэй. На «Лініі Сталіна» ён усё прадугледзеў: і стараннае маскіраванне кожнага дота, і вялізную глыбіню кожнага УРа, і загароды, і паласу забеспячэння, і шмат чаго іншага. Але вось падпісаны пакт Молатава-Рыбентропа, і адзін із найвялікшых вайсковых інжынераў сьвету раптам страціў розум і ўсё рабіў няправільна. А над Карбышавым стаяў вялікі Жукаў. Усё ў яго заўсёды было слушна. І раней, і пазьней. Але вось у першай палове 1941 года Жукаў раптам ператварыўся ў ідыёта і выдаваў ідыёцкія загады. Менавіта з моманту прыходу Жукава ў Генеральны штаб, «умацраёны на старых межах па-ранейшаму раззбройваліся, а будаванне на новых межах вялося чарапашыным тэмпам» (Старынаў с. 178).

Версія пра неразумных савецкіх камандыраў не дапасуе і таму, што ў той жа самы момант германскія генералы рабілі тое ж самае. Яны прымалі дакладна такія ж рашэнні, і ніхто іхныя дзеянні не асуджае.

У 1932-1937 гадах на берагах Одэра былі пабудаваны звышмагутныя ўмацаванні, засланяўшыя Германію ад удараў з усходу. Гэта былі першакласныя баявыя пабудовы, упісаныя ў мясцовасць і добра замаскіраваныя. Не буду апісваць усё гэта ў дэталях.

Хай чытач паверыць нямецкай дакладнасьці, акуратнасьці, працавітасьці. Умацаваныя раёны ў міжрэччы Одэра і Варты могуць служыць узорам самага высокага дасягнення вайскова-інжынернай думкі першай паловы нашага стагоддзя.

Але вось у Маскве падпісаны пакт Молатава-Рыбентропа і германскае войска пайшло на ўсход. І тут германскія камандыры раптам пачалі чыніць усе тыя ж «дурасьці», што і іхныя савецкія калегі. Найлепшыя ўмацаванні на старой германскай мяжы былі пакінуты і больш НІКОЛІ не былі заняты войскам. Шматлікія баявыя пабудовы былі выкарыстаны для іншых патрэб: напрыклад, у раёне Хохвальдэ знаходзіўся магутны фартыфікацыйны ансамбль, уключаўшы ў свой склад дваццаць два чатырохпавярховыя баявыя пабудовы, злучаныя 30-ці кіламятровым падземным тунэлем. Усё гэта было перададзена авіяцыйнай прамысловасьці для размяшчэння завода авіярухавікоў. Пойшоўшы наперад і сустрэўшыся з Чырвоным войскам пасярод Польшчы, германскае войска пачало

будаванне новай лініі ўмацаваных раёнаў. Яны будаваліся НА ДРУГАРАДНЫХ НАКІРУНКАХ, яны былі шчыльна высунуты да савецкай мяжы. Наперадзе новых умацаваных раёнаў не стваралася мінных палёў і загарод. Працы вяліся днём і ноччу, і савецкія памежнікі гэтую працу добра бачылі і паведамлялі «куды патрэбна». (Памежныя войскі ЗССР. 1939-чэрвень 1941. Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Дакументы №344 і 287). Будаўніцтва вялося інтэнсіўна да траўня 1941 года; пасьля чаго, выказваючыся савецкімі словазлучэннямі, «будаўніцтва пераведзена ў разрад неперашарадных». Із васьмідзесяці баявых пабудоваў, запланаваных на берагах памежнай ракі Сан, было завершана толькі сямнаццаць. Усе яны замаскіраваны недастаткова. Кожную із гэтых пабудоў у параўнанні з тым, што было на старой германскай мяжы, можна лічыць лёгкай: сьцены і перакрыцці па паўтары метры, бранявыя дэталі – 200 мм. На старой мяжы па лініі Одэра выкарыстоўваліся значна больш магутныя бранявыя дэталі да 350 мм.

Дакладна тое ж самае рабілася і на савецкім баку. На «Лініі Сталіна» былі магутныя бронекаўпакі і вельмі цяжкія бранявыя дэталі, а вось на будаванні «Лініі Молатава» на берагах той жа рэчкі Сан савецкія інжынеры выкарысталі адносна тонкія бранявыя дэталі па 200 мм. Пад час маёй бытнасьці савецкім афіцэрам мне давялося бачыць германскія і савецкія доты на розных берагах адной і той жа рачулкі. Калі здымкі дотаў паказаць эксперту і папрасіць адрозніць, дзе германскія, а дзе савецкія, – не адрозніць: двайняты.

Пакуль суседам была слабая Польшча, германскае войска будавала на сваіх межах звышмагутныя ўмацаванні, а як толькі знішчылі Польшчу і ўсталявалі агульную мяжу з Савецкім Звязам, дык старыя ўмацаванні закінулі і на новых межах будавалі толькі лёгенькія абарончыя пабудовы, ды і то чарапашыным тэмпам. Усё, як у Чырвоным войску! Ці не страцілі ўжо розум германскія генералы? Не, не страцілі. Проста тут, на новых межах, доўга абараняцца яны не мелі намеру.

Фартыфікацыя бывае абарончай, а бывае наступальнай. Калі вы збіраецеся наступаць, то пры будаванні ўмацраёнаў прытрымліваецеся наступных правілаў:

— на галоўных накірунках збіраюцца ўдарныя групоўкі войска, агаляючы другарадныя накірункі і прыкрываючы ДРУГАРАДНЫЯ накірункі ўмацаванымі раёнамі;

— не імкніцеся асабліва маскіраваць вашы ўмацаванні, хай супернік думае, што вы рыхтуецеся да абароны;

— не будуйце УРы глыбокімі, усё, што можна размясьціць непасрэдна на берагах памежных рэк, там і размяшчайце, пры пераходзе ў наступленне вашага войска ўсе вынесеныя да мяжы доты падтрымаюць ваша наступленне агнём, а кожны дот у глыбіні вашай абароны вырачаны на пасіўнае існаванне;

— не засланяйце доты міннымі палямі і драцянымі загародамі – гэтым вы перашкодзіце вашаму ж наступаючаму войску;

— не выдаткуйце шмат цэменту і сталі на пабудову УРаў – вы ж не збіраецеся доўга сядзець у абароне.

Менавіта гэтымі правіламі кіраваліся германскія генералы. Менавіта так дзейнічалі і савецкія. Крыху раней, у жніўні 1939 года, вялікі Жукаў на Халхін-Голе бліскуча выкарыстаў усе гэтыя правілы: «Гэтымі мерапрыемствамі мы мелі намер стварыць у суперніка ўражанне пра адсутнасць на нашым баку нейкіх падрыхтоўчых захадаў наступальнага характару, паказаць, што мы вядзём шырока разгорнутыя працы па наладжванню абароны, і толькі абароны» (Жукаў, с. 161).

Японцаў ашукаць атрымалася, яны паверылі «абарончым» намаганням Жукава і тут жа паплаціліся, патрапіўшы пад яго раптоўны знішчальны ўдар. Пасьля гэтага, толькі ў значна большым маштабе, Жукаў праводзіць такую ж падрыхтоўку і на германскай мяжы. Але нямецкіх генералаў яму падмануць не атрымалася. Справа ў тым, што ў іх быў свой, дакладна такі ж, досьвед. Жукаў на Халхін-Голе нанёс раптоўны ўдар 20 жніўня 1939 года, а 22 жніўня таго ж года ў момант перамоваў Молатава-Рыбентропа, а таксама інтэнсіўнай падрыхтоўкі германскага войска да ўступлення на польскую тэрыторыю генерал Г. Гудэрыян атрымаў загад узначаліць «фартыфікацыйны штаб Памераніі». Мэта: супакоіць палякаў чыста абарончымі прыгатаваннямі, а заадно хутка пабудаваць адносна лёгкія ўмацаванні на другарадных накірунках, каб вызваліць пабольш палявога войска для галоўнага ўдару. Вясной і летам 1941 года Гудэрыян зноў заняты абарончым будаваннем зараз ужо на савецкай мяжы.

Калі Гудэрыян будуе бетонныя скрынкі па берагах памежнай ракі, то гэта зусім не азначае, што ён мае намер абараняцца. Не, гэта азначае нешта зусім процілеглае. А калі Жукаў дэманстратыўна будуе дакладна такія ж скрынкі па берагах тых жа самых рэк, што б гэта магло азначаць?

«Лінія Сталіна» была ўніверсальнай: яна магла быць выкарыстана для абароны дзяржавы ці служыць плацдармам для наступлення, менавіта для гэтаай мэты і былі пакінуты шырокія праходы паміж УРамі: прапусьціць масу наступаючага войска на захад. Калі мяжа была перанесена на пару соцень кіламетраў на захад, «Лінія Сталіна» цалкам страціла сваё значэнне ў якасьці умацаванага плацдарма для далейшай агрэсіі, а абараняцца пасьля пакта Молатава-Рыбентропа Сталін больш не меў намеру. Вось чаму лінію раззброілі, а потым і знішчылі: яна перашкаджала масам савецкага войска таемна засяродзіцца каля германскай мяжы, яна б перашкаджала забяспечваць Чырвонае войска падчас пераможнага вызваляючага паходу мільёнамі тон боепрыпасаў, харчавання і паліва. Для мірнага часу праходаў паміж УРамі было цалкам дастаткова як для вайсковых, так і для эканамічных патрэб, але падчас вайны струмені грузаў павінны быць раскіданы на тысячы раўчукоў, каб праціўніку было немагчыма пашкодзіць іх. Умацраёны як бы сціскалі струмені транспарту ў адносна вузкіх калідорах. Гэта і вызначыла лёс ужо непатрэбнай «Лініі Сталіна».

У Гітлера было гэтак жа не толькі на ўсходняй мяжы, але і на заходняй. Там пад час 30-х гадоў была пабудавана «Лінія Зігфрыда». Традыцыйна германскі ўдар супраць Францыі з часоў франка-прускай вайны планаваўся на поўначы. «Лінія Зігфрыда» была пабудавана на поўдзень ад гэтага накірунку, г.зн. на другарадным накірунку адпаведна з прынцыпам – на галоўным накірунку наступаем, другарадныя – абараняем. У 1940 годзе германскае войска пайшло далёка на захад, і «Лінія Зігфрыда» выявілася непатрэбнай. У той час у Гітлера і думкі не было, што праз чатыры гады яму зноў давядзецца абараняцца на сваіх уласных межах. «Лінію Зігфрыда» кінулі. Выкарысталі яе вельмі адмыслова: перадалі баявыя пабудовы фермерам для захоўвання бульбы. Частку баявых будынкаў з непрыступнымі бранявымі дзьвярамі зачынілі на ўнутраныя замкі… Калі ўзнікла патрэба, ключы знайсьці не змаглі…»

Можна, вядома, знакамітых як савецкіх так і германскіх генералаў назваць ідыётамі. Але тут не дурасць. Проста як тыя, так і другія былі агрэсарамі. Тыя і другія разважалі катэгорыямі наступлення, і калі ўмацаванні больш не было магчымасьці выкарыстоўваць у наступальных мэтах, іх руйнавалі, каб вызваліць

шлях свайму наступаючаму войску, ці калі была магчымасьць, перадавалі баявыя казематы фермерам пад бульбу.

# Глава XI

## Партызаны ці дыверсанты?

> «Гітлер… накіруе сваю галоўную моц на Захад, а Масква пажадае цалкам выкарыстаць перавагі свайго становішча».
>
> Л.Троцкі, 21 чэрвеня 1939 г.

Пасьля падпісання пакта Молатава-Рыбентропа Савецкі Звяз пачаў планамернае знішчэнне нейтральных дзяржаваў, каб «усёй сваёй масай наблізіцца да мяжы Германіі, якраз у той момант, калі Трэцці рэйх заняты змаганнем за новы перадзел сьвету».

«Вызваляючыя паходы» ідуць паспяхова, але ў Фінляндыі атрымаўся збой. Як мы ўжо ведаем, Чырвонае Войска там патрапіла ў фінскую паласу забеспячэння. Вось цалкам стандартная сітуацыя. Савецкая калона танкаў, мотапяхоты, артылерыі рухаецца па лясной дарозе. Сысьці направа і налева нямагчыма – міны. Наперадзе – мост. Сапёры праверылі – мін няма. Першыя танкі ўступаюць на мост, і разам з мостам ляцяць у паветра: выбуховыя зарады былі ўладкаваны ў апоры моста яшчэ падчас будавання; выявіць іх не так проста, а калі зарады і будуць выяўлены, то кожная спроба іх зняць прывядзе да выбуху. Такім чынам, савецкая калона даўжынёй на шмат кіламетраў, як вялізная змяя, спынілася на дарозе. Зараз настае чарга фінскіх снайпераў. Яны не спяшаюцца: хлоп, хлоп. І зноў усё ціха ў лесе. І зноў: хлоп, хлоп. Снайперы б'юць аднекуль здалёк. Снайперы б'юць толькі савецкіх камандыраў: хлоп, хлоп. І камісараў таксама. Прачасаць лес немагчыма: мы ж памятаем – справа і злева ад дарогі непраходныя мінныя палі. Кожная спроба савецкіх сапёраў наблізіцца да падарванага маста ці абясшкодзіць міны на ўскрайках дарогі завяршаецца самотным стрэлам фінскага снайпера: хлоп! Савецкая 44-я стралковая дывізія, замкнёная на трох паралельных дарогах каля трох знішчаных мастоў, за дзень бою страціла ўсіх камандыраў. І ў іншых дывізіях – такое ж становішча: заціхла калона, ні наперад, ні назад. А ноччу па савецкай калоне – мінамётны налёт аднекуль із-за далёкага лесу. Часам ноччу па бездапаможнай калоне – доўгая кулямётная чарга із кустоў, і зноў усё ціха.

Кажуць, Чырвонае Войска паказала сябе ў Фінляндыі не з лепшага боку. Сьвятая праўда. Але ўявім на месцы савецкай дывізіі дывізію якога заўгодна іншага войска. Што рабіць у такой сітуацыі? Адцягваць калону назад? Але цяжкія артылерыйскія трактары з вялізнымі гаўбіцамі на круку штурхаць назад свае шматтонныя прычэпы не могуць. А снайперы – па шафёрах трактароў: хлоп, хлоп. Калона неяк з вялізнымі высілкамі заднім ходам адыходзіць назад, а ззаду ў гэты мамант узлятае ў паветра яшчэ адзін мост. Калона зачынена. Каля таго, другога, маста таксама ўсе падыходы замінаваны, і снайперы там таксама не спяшаюцца – па камандырах, камісарах, па сапёрах, па шафёрах: хлоп, хлоп. Далёка наперадзе амаль непрыступная лінія фінскіх жалезабетонных умацаванняў – «Лінія Манэргейма». Прарваць яе без артылерыі, без тысяч тон боепрыпасаў немагчыма. Савецкае войска ўпёрлася ў фінскія ўмацаванні, а цяжкая артылерыя далёка ззаду, яна тут, на лясных дарогах, паміжміннымі палямі і падарванымі мастамі пад агнём снайпераў…

Напэўна, атрымаўшы такі ўрок у Фінляндыі, савецкія камандыры зрабілі належныя высновы? Верагодна ў заходніх раёнах краіны яшчэ ў мірны час былі створаны лёгкія партызанскія атрады, каб сустрэць магчымае ўварванне суперніка? Заходнія раёны Савецкага Звязу самой прыродай створаны для таго, каб тут весьці партызанскую вайну на камунікацыях агрэсара, ідучага на ўсход. Ці стварыў Сталін лёгкія рухомыя атрады, пакінуў іх у лясах на выпадак германскага нападу? Так, Сталін стварыў такія атрады. Яны былі створаны яшчэ ў 20-х гадах. У адной толькі Беларусі ў мірны час існавала шэсць партызанскіх атрадаў колькасьцю па 300-500 чалавек кожны. Невялікая колькасць не павінна бянтэжыць. Атрады камплектаваліся толькі камандырамі, арганізатарамі і спецыялістамі. Кожны партызанскі атрад мірнага часу – нейкае адмысловае ядро, вакол якога на самым пачатку вайны ствараецца магутнае фармаванне колькасьцю роўнай некалькім тысячам чалавек.

Для партызанскіх фармаванняў у мірны час у непраходных лясах і на выспачках сярод бязмежных балот былі створаны таемныя базы. У мірны час былі пабудаваны падземныя сховішчы, шпіталі, склады, падземныя майстэрні для вытворчасьці боепрыпасаў і ўзбраення. У адной толькі Беларусі для магчымай партызанскай вайны ў падземныя сховішчы было закладзена ўзбраення, боепрыпасаў і рыштунку для 50 000 партызан.

Для падрыхтоўкі партызанскіх лідараў, арганізатараў і інструктароў былі створаны таемныя школы. Сакрэтныя навукова-дасьледніцкія цэнтры распрацоўвалі адмысловыя сродкі партызанскай вайны, асобны рыштунак, узбраенне, сродкі сувязі. Партызаны рэгулярна праходзілі зборы, прытым у якасьці суперніка звычайна выступалі дывізіі Асназ НКУС.

Акрамя партызанскіх фармаванняў рыхтаваліся невялікія падпольныя групы, якія ў выпадку агрэсіі не ішлі ў лясы, а заставаліся ў гарадах і вёсках, з заданнем «здабываць давер суперніка» і «выказваць яму спрыянне», а здабыўшы давер…

Такая ж праца праводзілася не толькі ў Беларусі, але на Украіне, у Крыму, у Ленінградзкай вобласьці і ў іншых раёнах. Акрамя дзейнасьці таемнай паліцыі дакладна такую ж працу паралельна, але цалкам незалежна ад НКУС вяла савецкая вайсковая выведка: абсталёўваліся таемныя базы, сховішчы, сакрэтныя кватэры і яўкі, рыхтаваліся лініі канспіратыўнай сувязі і рабілася шмат чаго іншага. Савецкая вайсковая выведка мела свае ўласныя таемныя школы, сваіх арганізатараў і інструктароў.

Акрамя НКУС і вайсковай выведкі камуністычная партыя рыхтавала некаторых сваіх лідараў у заходніх раёнах краіны да пераходу на нелегальнае становішча ў выпадку захопу тэрыторыі супернікам. Камуністы мелі даўнія крымінальныя традыцыі, умелі хаваць свае таямніцы. Традыцыі падпольнай дзейнасьці на працягу 20-х і 30-х гадоў былі захаваны, і партыйныя арганізацыі ў выпадку патрэбы маглі зноў ператварыцца ў глыбока законспіраваныя цэнтры таемнага змагання.

Не будзем забывацца, што партызанскія атрады ствараліся ў т.зв. «зоне сьмерці» – у савецкай паласе забеспячэння, дзе пры адыходзе савецкага войска ўсе масты павінны быць падарваны, тунэлі завалены, чыгуначныя вузлы прыведзены ў поўную непрыдатнасць, стрэлкавыя пераходы і нават рэйкі і тэлефонны кабель – эвакуяваны. Партызанам заставалася толькі перашкаджаць аднаўленню ўжо знішчаных аб'ектаў. Партызаны былі амаль незнішчаемымі, таму што партызанскія лідэры ведалі праходы ў гіганцкіх мінных палях, а супернік гэтага не ведаў;

партызанам было не складана ў выпадку патрэбы адарвацца ад якога б то ні было праследу ў замінаваныя лясы і балоты, куды суперніку не было ходу.

Так, усё гэта было. «Лінія Сталіна», паласа забеспячэння перад ёю і партызанскія атрады, гатовыя з першай хвіліны дзейнічаць у зоне разбурэнняў – складалі выдатную сістэму самаабароны Савецкага Звязу. Але Гітлер у 1939 годзе патрапіў у вельмі непрыемную стратэгічную сітуацыю, у якой яму давялося ваяваць на Захадзе. З гэтага моманту абарончыя сістэмы Сталіну больш не патрэбны. Адначасова з «Лініяй Сталіна» і паласой забеспячэння быў ліквідаваны і савецкі партызанскі рух: партызанскія атрады распушчаны, зброя, боепрыпасы, выбухоўка – забраны, таемныя сховішчы і склады – засыпаны зямлёй, партызанскія базы – спустошаны. Усё гэта здзяйсняецца восенню 1939 года. А на самым заканчэнні восені Чырвонае Войска пачынае «вызваленне» Фінляндыі і тут сустракае ўсе тыя элементы самаабароны, якія нядаўна існавалі і ў Савецкам Звязе: лінія жалезабетонных умацаванняў, паласа забеспячэння перад ёю і лёгкія атрады партызанскага тыпу ў гэтай паласе. Магчыма, атрымаўшы жорсткі ўрок у Фінляндыі, Сталін перамяніў сваю думку і зноў стварыў партызанскія фармаванні ў заходніх раёнах Савецкага Звязу? Не, не перамяніў, Не, не стварыў.

22 чэрвеня 1941 года пачаліся шматлікія імправізацыі, у тым ліку і стварэнне партызанскага руху. Так, яго стварылі. Яго разгарнулі. Але стварылі і разгарнулі на ўсю моц толькі ў 1943-1944 гадах. Калі б яго не знішчылі ў 1939-м, то ён набраў бы сваю мгутнасць з першых жа дзён вайны. Ён мог быць у шмат разоў больш эфектыўным. Падчас вайны партызанам давялося плаціць вялікай крывёй за кожны падарваны мост. Каб падарваць мост патрэбна спачатку яго захапіць, а ён ахоўваецца, і дрэвы навокал высечаны, і ўсё навокал замінавана. А выбухоўку дзе партызанам браць? Калі яна і ёсць, то ці шмат партызанскае згуртаванне данясе на сабе? Пры падрыхтоўцы выбуху даводзілася спешна закладаць зарады не ў апоры маста, а на пралёты. Пасьля выбуху супернік меў магчымасць такі мост хутка аднавіць, і партызанам патрэбна было ўсё пачынаць спачатку. Пакуль супернік рамантуе адзін мост, астатнія масты дзейнічаюць – супернік можа рэгуляваць струмень транспарта.

Хаця ўсё было гатова да таго, каб падняць на паветра ЎСЕ масты. Падняць так, каб аднаўляць было нечага. Падняць так, каб не ліць партызанскую кроў. Падняць можна было з дапамогай простага націскання кнопкі ў таемным партызанскім бункеры, а потым дзякуючы непераадольным мінным палям толькі пастрэльваць са снайперскіх вінтовак па афіцэрах, па сапёрах, па шафёрах. Германскае войска было выключна адчувальным да дарог. Поўная адсутнасць мастоў, мільёны партызанскіх мін на дарогах, засады і снайперскі тэрор з першых гадзін уварвання маглі б рэзка запаволіць германскі бліцкрыг.

Хто ж знішчыў савецкі партызанскі рух У МОМАНТ ПАЧАТКУ ДРУГОЙ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ і чаму?

Адзін із бацькаў савецкага вайсковага тэрарызму палкоўнік ГВК[9] прафесар І. Г. Старынаў у тыя гады кіраваў таемнай школай, рыхтаваўшай партызанскія згуртаванні, падначаленыя савецкай вайсковай выведцы. Палкоўнік у сваіх мемуарах называе вінаватага: «Надзейна схаваная ў зямлі зброя і выбуховыя рэчывы чакалі сваёй гадзіны. Але перш чым гэтая гадзіна надышла, таемныя партызанскія базы былі спустошаны, безумоўна, згодна са згодай і, пэўна што, нават згодна з прамым загадам Сталіна» (Міны чакаюць сваёй гадзіны. с. 40).

---

[9] Галоўнае Вывядковае Кіраванне.

Адзін із ветэранаў савецкага палітычнага тэрарызму палкоўнік КДБ С. А. Ваупшас у той час кіраваў партызанскім атрадам НКУС у Беларусі. Ён тлумачыць падставы знішчэння партызанскіх фармаванняў. «У тыя грозныя перадваенныя гады ўзяла верх дактрына пра вайну на чужой тэрыторыі… яна мела яскрава выяўлены наступальны характар» (На трывожных скрыжаваннях. с. 203).

Можна пагадзіцца з палкоўнікам КДБ, можна з ім паспрачацца. Але іншай падставы знішчэння партызанскіх фармаванняў і баз пакуль ніхто не агучыў.

Мы даведаліся пра думкі двух палкоўнікаў, а зараз паглядзім на тое, што яны самі рабілі напачатку чэрвеня 1941 года. А рабілі яны менавіта тое, што і астатнія партызанскія лідары і ваяры. Пасьля расфармавання партызанскіх атрадаў, прызначаных для дзейнасьці на сваёй тэрыторыі, перад былымі партызанамі былі адкрыты тры шляхі:

— у падраздзяленні паветрана-дэсантнага войска, якія менавіта ў гэты час раптам пачалі бурны рост;

— у карніцкія фармаванні Асназ НКУС;

— у невялікія таемныя згуртаванні, якія з нейкай мэтай збіраліся на межах Германіі і яе хаўруснікаў, ці ж перакідаліся за мяжу яшчэ да пачатку баявых дзеянняў.

Вайсковы выведнік палкоўнік Ілля Старынаў быў у ліку апошніх. Хай сьціплае званне палкоўніка не ўводзіць чытача ў зман. Гэта быў палкоўнік асобнага роду і прафесар асобнай навукі. Пачынаючы з першых дзён вайны палкоўнік Старынаў будзе дзейнічаць, маючы ў кішэні наказ наркама абароны маршала С. К. Цімашэнкі і падначальваючыся толькі яму. Неўзабаве ён атрымае пасаду намесьніка Галоўкама партызанскага руху па дыверсіях, г.зн. стане галоўным дыверсантам Чырвонага войска. У 1943 годзе грунтуючыся на планах і пад кіраўніцтвам Старынава будуць праведзены аперацыі «Канцэрт» і «Рэйкавая вайна», у кожнай із якіх адначасова будуць браць удзел больш за сто тысяч партызан і дыверсантаў. Старынаў стане лідэрам гіганцкага войска савецкіх дыверсантаў зусім не выпадкова, у яго былі на тое адпаведныя задаткі і насычаная дыверсанцкая біяграфія. Такім чынам, гэты мацёры дыверсанцішча з'яўляецца 21 чэрвеня 1941 года непасрэдна ў раёне тых самых берасьцейскіх мастоў, якія маюць такое важнае значэнне для абароны савецкай тэрыторыі. Якое вязенне! Варта гэтаму чалавеку папрацаваць на мастах пару гадзін і тады ў выпадку германскай агрэсіі патрэбна будзе толькі проста націснуць на кнопку… Але абарончыя прыгатаванні не цікавяць Старынава, як не цікавяць усіх вышэйшых камандыраў. Навошта ж яго выпраўлялі на мяжу? Афіцыйна – на вучэнні. Але прыбыўшы ў Бярэсьце, Старынаў даведваецца, што вучэнні – гэта толькі падстава. Вучэнні адменены (а магчыма, і не планаваліся наргул). Калі не вучэнні і не падрыхтоўка абароны, то што ж дыверсанту такога рангу рабіць на самай мяжы? Ён так і не даведаўся пра нагоду свайго візіту ў Бярэсьце. Ноччу пачалося германскае ўварванне і палкоўніку Старынаву давялося-такі займацца справамі выключна абарончымі… яшчэ адна рыска да гэтай асобы. Усю вайну побач са Старынавым пройдзе адданы, надзейны, спраўны шафёр. Прозвішча – Шлегер. Нацыянальнасць – немец. Мода такая раптам з'явілася ў асяроддзі савецкіх камандыраў, асабліва дэсантнікаў, выведнікаў, дыверсантаў – мець побач сапраўднага немца ў ролі ардынарца, дзеншчыка, шафёра. Гэтая мода ўзнікла ў лютым 1941 года. Да яе мы яшчэ вернемся.

Чэкіст С. Ваупшас быў асобай не менш характэрнай. Жыццё яго было не менш бурным: да 1926 года ваяваў у польскіх лясах. Афіцыйна вайна з Польшчай даўно завяршылася, а савецкія «партызанскія атрады», укамплектаваныя галаварэзамі із НК[10] і ДПУ, забіваюць людзей у імя сусьветнай рэвалюцыі. Пасьля вяртання Ваупшас – кіраўнік высокага рангу на вялікіх будоўлях Гулага – тысячы галодных зэкаў капаюць сталінскія каналы, а кіруюць будаваннем чэкісты. Ваупшас – сярод кіраўнікоў. А пазней наш герой кантралюе не зэкаў Гулага, а Палітбюро гішпанскай кампартыі, накіроўваючы працу рэспубліканскай контрвыведкі і дыверсійных фармаванняў. А потым Беларусь і падрыхтоўка савецкіх партызанаў на выпадак уварвання суперніка на савецкую зямлю. Але вось падпісаны пакт, і партызаны больш не патрэбны. Ваупшас трапляе ў фармаванні Асназ НКУС і займаецца шляхетнай справай «ачысткі тэрыторый ад варожых элементаў» падчас «вызваляючых паходаў». А вось 22 чэрвеня 1941 гады ён сустрэў не на мяжы, а ЗА мяжой, на тэрыторыі «верагоднага суперніка», маючы ў кішэні дыпламатычны пашпарт. Навошта гэтага карніка, тэрарыста, гулагаўскага дыпламата выправілі за мяжу? Магчыма, у інтарэсах умацавання бяспекі краіны «ў прадбачанні абарончай вайны»? Не, у абарончай вайне ён там быў цалкам не патрэбы. Як толькі такая вайна пачалася, яго тэрмінова вярнулі ў Савецкі Звяз і накіравалі ў Беларусь партызаніць, ствараць нядаўна знішчаны партызанскі рух, пачынаючы з нуля…

Калі рыхтавалася абарончая вайна, то навошта ўвесь гэты маскарад з пераапрананнем? Ці не прасьцей трымаць гэтага чалавека (і тысячы яму падобных) ужо ў раёнах верагоднай акупацыі ў гатовасьці сустрэць агрэсара ў самыя першыя гадзіны вайны? Але, не – «узяла верх дактрына пра вайну на чужой тэрыторыі». Гэта не проста словы палкоўніка КДБ. Гэта факт гісторыі, пацверджаны лёсам таго, хто гэтыя словы вымавіў і тысячамі лёсаў такіх жа, як ён…

# Глава XII

## Навошта Сталіну дзесяць паветрана-дэсантных карпусоў.

«У будучых баях мы будзем дзейнічаць на тэрыторыі суперніка. Так загадваюць нашы статуты».

Палкоўнік А.І.Радзімцаў, прамова на XVIII з'ездзе партыі, 1939 г.

Паветрана-дэсантныя войскі прызначаны для наступлення. Гэта аксіёма, якая ў доказах не мае патрэбы. Перад Другой Сусьветнай вайной мала хто із урадаў задумваў агрэсіўную вайну, а раз так, то паветрана-дэсантныя войскі ў пераважаючай большасьці краін развіцця не атрымалі.

Было два выключэнні. Да агрэсіўнай вайны рыхтаваўся Гітлер і ў 1936 годзе ён стварыў паветрана-дэсантныя войска. Колькасць парашутыстаў у гэтым войску да пачатку Другой Сусьветнай вайны – 4 000 чалавек. Другім выключэннем быў Сталін. Ён стварыў паветрана-дэсантнае войска ў 1930 годзе. Да пачатку Другой Сусьветнай вайны Савецкі Звяз меў БОЛЬШ АДНАГО МІЛЬЁНА выдатна падрыхтаваных дэсантнікаў-парашутыстаў.

Калі падлічыць усіх вайсковых парашутыстаў сьвету на момант пачатку Другой Сусьветнай вайны, то атрымліваецца, што Савецкі Звяз меў падрыхтаваных

[10] Надзвычайная Камісія. Па-руску НК.

дэсантнікаў прыкладна Ў ДЗЬВЕСЦЕ РАЗОЎ БОЛЬШ, чым усе краіны свету разам узятыя, уключаючы і Германію.

Савецкі Звяз быў першай краінай сьвету, у якой было створана паветрана-дэсантнае войска. Калі Гітлер прыйшоў да ўлады, у Сталіна ўжо мелася некалькі паветрана-дэсантных брыгад, а ў краіне бушаваў парашутны псіхоз.

Старэйшае пакаленне памятае час, калі без парашутнай вышкі не абыходзіўся ніводзін гарадзкі парк, калі значок парашутыста для кожнага маладога чалавека ператварыўся ў вельмі патрэбную адзнаку мужчынскай вартасьці. А атрымаць значок было не вельмі проста. Значок давалі за сапраўдныя скокі із самалёта, а да скокаў дапускалі толькі таго, хто папярэдне здаў залікі па бегу, плаванню, стральбе, кіданню гранат на далёкасць і дакладнасць, пераадоленню перашкод, карыстанню супрацьхімічнымі ахоўнымі сродкамі і шмат якія іншыя, патрэбныя на вайне майстэрствы. Па-сутнасьці скокі із самалёта былі апошнім этапам індывідуальнай падрыхтоўкі ваяра крылатай пяхоты.

Для таго каб ацаніць сур'ёзнасць сталінскіх намераў, патрэбна згадаць, што парашутны псіхоз бушаваў у Савецкам Звязе аднačасова з жахлівым голадам. У краіне дзеці пухнуць ад голаду, а таварыш Сталін прадае за мяжу хлеб, каб купіць парашутную тэхналогію, каб пабудаваць гіганцкія шаўковыя камбінаты і парашутныя фабрыкі, каб пакрыць краіну сеткай аэрадромаў і аэраклубаў, каб падняць у кожным гарадзкім парку шкілет парашутнай вышкі, каб падрыхтаваць тысячы інструктароў, каб пабудаваць парашутныя сушылкі і сховішчы, каб падрыхтаваць мільён адкормленых парашутыстаў, патрэбнае для іх узбраенне, рыштунак і парашуты.

У абарончай вайне парашутысты не патрэбны. Выкарыстоўваць парашутыста ў абароне ў якасьці звычайнай пяхоты – гэта тое ж самае, што выкарыстоўваць на будаванні залатую арматуру замест сталёвай: золата мякчэй за сталь.

Дэсантныя падраздзяленні не маюць такой цяжкай і магутнай зброі, як звычайная пяхота, і таму іхная ўстойлівасць у абароне значна ніжэйшая, чым у простай пяхоты. Ды і вельмі дорага выкарыстоўваць золата замест сталі. Але падрыхтоўка мільёна савецкіх парашутыстаў каштавала даражэй золата. За падрыхтоўку парашутыстаў і парашутаў Сталін плаціў велізарнай колькасьцю жыццяў савецкіх дзяцей. Для чаго рыхтавалі парашутыстаў? Пэўна што, не для таго, каб абараняць дзяцей, якія гінулі ад голаду.

Камуністы запэўніваюць, што Сталін да вайны не рыхтаваўся, а ў нашай вёсцы на Ўкраіне людзі памятаюць маладую жанчыну, якая забіла і з’ела сваю дачку. Яе памятаюць таму, што яна забіла сваю дачку. Тых, хто забіваў чужых дзяцей, не запаміналі. У маёй вёсцы людзі з'елі ўсе рамяні і боты, з'елі жалуды ў суседнім чэзлым лясочку. А падстава таму: таварыш Сталін рыхтаваўся да вайны. Рыхтаваўся так, як ніхто ніколі не рыхтаваўся. Праўда, у абарончай вайне ўся гэтая падрыхтоўка выявілася непатрэбнай.

У абарончай вайне дэсантнікаў у тыл суперніка кідаць не патрэбна, прасьцей пры адыходзе ў лясах пакінуць партызанскія атрады.

Могуць запярэчыць, што мільёны сталінскіх парашутыстаў напярэдадні Другой Сусьветнай вайны – гэта толькі матэрыял для стварэння баявых падраздзяленняў. Падраздзяленні патрэбна сфармаваць і інтэнсіўна трэніраваць. Ці памятае пра гэта Сталін? Памятае.

У 30-х гадах заходнія раёны краіны неаднаразова ўзрушалі грандыёзныя манеўры. На кожных манеўрах адпрацоўвалася толькі адна тэма – «Глыбокая аперацыя» – раптоўны ўдар гіганцкіх мас танкаў на вялізную глыбіню.

Сцэнар заўсёды просты, але грозны.

Раптоўнаму ўдару сухапутнага войска падчас кожнага вучэння папярэднічае не менш раптоўны і не менш знішчальны ўдар савецкай авіяцыі па аэрадромах «суперніка», пасьля чаго адбываецца выкіданне парашутнага дэсанта для захопу аэрадромаў, і сьледам за хваляй парашутыстаў – высаджваецца пасадкавым спосабам на захопленыя аэрадромы другая хваля дэсантнікаў з цяжкай зброяй.

У 1935 годзе на знакамітых кіеўскіх манеўрах падчас грандыёзнай аперацыі быў выкінуты парашутны дэсант роўны 1200 чалавек, неадкладна следам за ім быў высаджаны пасадкавы дэсант роўны 2500 чалавек з цяжкім узбраеннем, уключаючы артылерыю, бронеаўтамабілі і танкі.

У 1936 годзе ў Беларусі пры адпрацоўцы той жа наступальнай тэмы быў выкінуты парашутны дэсант роўны 1800 чалавек, за якім следам быў перакінуты пасадкавы дэсант роўны 5700 чалавек з цяжкай зброяй. У тым жа годзе падчас наступальных манеўраў Маскоўскай вайсковай акругі 84-я стралковая дывізія ў поўным складзе была дэсантавана пасадкавым спосабам.

У 1938 годзе, прадбачачы «вызваляючыя паходы», Сталін дадаткова стварае шэсць паветрана-дэсантных брыгад колькасцю 18000 парашутыстаў. У 1939 годзе Сталін знішчае партызанскія базы і фармаванні, прызначаныя для дзейнасьці на сваёй тэрыторыі, а замест гэтага ствараюцца новыя дэсантныя падраздзяленні: палкі і асобныя батальёны.

У Маскоўскай вайсковай акрузе, напрыклад, было створана тры палкі трохбатальённага складу і некалькі асобных батальёнаў па 500-700 парашутыстаў у кожным батальёне (Ордэна Леніна Маскоўская вайсковая акруга. с. 177).

У 1940 годзе Сталін знішчыў усе нейтральныя дзяржавы падзяляючага бар'ера і ўсюды, дзе можна, выйшаў да самай мяжы Германіі. Пасьля гэтага Сталін павінен, здаецца, скараціць колькасць сваіх паветрана-дэсантных падраздзяленняў: далей на захад застаецца Германія і хаўрусныя ёй дзяржавы, а з Германіяй падпісаны пакт.

Але Сталін свае паветрана-дэсантныя падраздзяленні не расфармоўвае. Наадварот, у красавіку 1941 года ў Савецкам Звязе таемна разгортваецца ПЯЦЬ ПАВЕТРАНА-ДЭСАНТНЫХ КАРПУСОЎ. Усе карпусы ствараюцца ў заходніх раёнах Савецкага Звязу.

Паветрана-дэсантныя карпусы акрамя звычайнай дэсантнай пяхоты мелі даволі магутную артылерыю і нават батальёны лёгкіх плаваючых танкаў. Усе дэсантныя карпусы ствараліся на такой адлегласьці ад мяжы, што існавала магчымасць выкідваць іх на тэрыторыю суперніка без дадатковага перабазавання. Усе карпусы вялі інтэнсіўную падрыхтоўку да хуткага дэсантавання. Усе карпусы былі размешчаны ў лясах далёка ад чужых паглядаў. Пры гэтым 4-ы і 5-ы карпусы маглі без перабазавання быць выкарыстаны супраць Германіі, 3-і – супраць Румыніі, 1-ы і 2-і маглі быць без перабазавання выкарыстаны як супраць Германіі, так і супраць Румыніі, а таксама супраць Чэхаславакіі ці Аўстрыі, каб перараздаць у гарах нафтавыя магістралі із Румыніі ў Германію.

12 чэрвеня 1941 года ў складзе Чырвонага войска ствараецца Кіраванне паветрана-дэсантным войскам, а ў жніўні – яшчэ пяць паветрана-дэсантных

карпусоў. Патрэбна пазначыць, што другая серыя дэсантных карпусоў не была адказам на германскае ўварванне.

У абарончай вайне выкарыстаць дэсантнікаў у такой колькасьці немагчыма. Із усіх карпусоў другой серыі ніводзін не браў удзел у вайне па прамому прызначэнню. Із першай серыі па прамому прызначэнню выкарыстоўваўся адзін корпус адзін раз падчас контрнаступлення пад Масквой. Патрэбна дадаць, што існавала яшчэ і трэцяя серыя дэсантных карпусоў, адзін із якіх дэсантаваўся ў 1943 годзе.

Пяць карпусоў другой серыі – гэта развіццё Чырвонага войска па інэрцыі: рашэнне пра разгортванне карпусоў было прынята да германскага ўварвання, а потым, пасьля нападу Гітлера, клопатаў было столькі, што гэтае рашэнне забыліся скасаваць. Бясспрэчна, што парашуты, узбраенне і самі дэсантнікі для другой серыі дэсантных карпусоў былі падрыхтаваны ДА германскага ўварвання.

Акрамя паветрана-дэсантных карпусоў, брыгад і палкоў у складзе звычайнай савецкай пяхоты фармавалася даволі значная колькасць асобных парашутна-дэсантных батальёнаў. Маршал Савецкага Звязу І. Х. Баграмян паведамляе, напрыклад, што ў 55-м стралковым корпусе непасрэдна на румынскай мяжы напачатку 1941 года ішла інтэнсіўная падрыхтоўка некалькіх парашутна-дэсантных батальёнаў. Із апісання Баграмяна і із іншых крыніц вынікае, што 55-ы стралковы корпус (усяго ў Чырвоным войску ў той момант існавала шэсцьдзесят два стралковыя карпусы) быў не выключэннем, а правілам.

А акрамя чыста парашутных падраздзяленняў да перакідання паветрам і дэсантавання пасадкавым спосабам на тэрыторыю суперніка рыхтаваліся некаторыя з выгляду звычайныя стралковыя дывізіі. Прыклад: 21 чэрвеня 1941 года падчас вучэнняў Сібірскай вайсковай акругі цэлая стралковая дывізія высаджвалася пасадкавым спосабам у тыле ўмоўнага суперніка. Адразу ўзнікае пытанне: чаму раней падобныя эксперыменты і вучэнні праводзіліся толькі ў еўрапейскай частцы краіны, а тут раптам праводзяцца ў Сібіры? А загадкі няма. Войска Сібірскай вайсковай акругі ўжо таемна пераўтворана ў 24-ю армію і рыхтуюцца да перамяшчэння на германскую мяжу. Перад пагрузкай у эшалоны 24-я армія праводзіць апошнія вайсковыя манеўры. Калі 24-я армія рыхтуецца да абароны, то трэніраваць дывізію для высадкі ў тыл суперніка няма сэнсу. У абарончай вайне не існуе праблемы закінуць войска ў тыл суперніка а наадварот: танкавыя кліны наступаючага суперніка рвуцца наперад, адразаючы дзясяткі і сотні тысяч вашых вайскоўцаў ад астатняга войска, і праблема перад абараняючымся – не як бы закінуць у тыл суперніка яшчэ адну дывізію, а як бы хоць некаторых сваіх генералаў ды сьцягі сякіх-такіх дывізій із занятай супернікам тэрыторыі эвакуяваць.

Але яшчэ 21 чэрвеня 1941 года камандуючыя савецкім войскам пра абарончую вайну не думалі, яны рыхтавалі свае дывізіі на грандыёзных манеўрах для зусім іншай вайны.

Камуністы-гісторыкі марнуюць сотні тысяч тон паперы на свае гістарычныя кнігі, а вось навошта Сталін стварыў у 41-м годзе дзесяць паветрана-дэсантных карпусоў, ніводная камуністычная кніга не тлумачыць.

Збіраючы матэрыялы пра савецкае паветрана-дэсантнае войска, якое было разгорнута ў першай палове 1941 года і рыхтаваўшаяся да разгортвання ў другой палове таго ж года, я звярнуў увагу на цікавую дэталь. Кожны савецкі дэсантны камандыр, асабліва на ўзроўні палкоўніка ці генерала, меў у сваім самым блізкім

атачэнні жаўнера ці сяржанта нямецкага паходжання. Тую ж карціну назіраем і ў савецкай кавалерыі. Дарэчы (і гэта мы далей пабачым), паміж паветрана-дэсантным войскам і кавалерыяй існавала непасрэдная сувязь: як дэсантнікі, так і кавалерысты прызначаны пераважна для наступаючых дзеянняў, для адважных рэйдаў і раптоўных удараў па тылах суперніка. Абодва роды войска патрабуюць ініцыятыўных камандыраў, здольных дзейнічаць самастойна ў адрыве ад сваіх суседзяў, штабоў і тылоў. Кавалерыя адмірала, а яе асабісты склад пераходзіў у танкісты і дэсантнікі. Дакладна тое ж адбывалася і ў Германіі.

Дык вось, вышэйшыя дэсантныя камандыры ці тыя, хто рыхтаваўся патрапіць у паветрана-дэсантнае войска із кавалерыі, раптам абзавяліся савецкімі жаўнерамі-немцамі. У аднаго немец – шафёр, у другога – ардынарац, у трэццяга – сувязны. Кожны былы савецкі камандыр-дэсантнік (ці кавалерыст) паведамляе як пра цікавую падрабязнасць: вось, маўляў, вайна з немцамі пачалася, а ў мяне персанальны радыст, хто б вы думалі? Немец! Праўда, хлапец добры, дысцыплінаваны, правераны. Вось у палкоўніка К. Штэйна, кіраўніка 2-й паветрана-дэсантнай брыгады 2-га паветрана-дэсантнага корпуса, жаўнер-немец у ардынарцах, у кіраўніка 5-й ПДБр (ПДБр – паветрана-дэсантная брыгада) 3-га палка ПДК, (ПДК – паветрана-дэсантны корпус) палкоўніка А. Радзімцава немец прыстроены ў якасьці шафёра. Дарэчы, гэта той самы Радзімцаў, які ў 1939 годзе на з'ездзе партыі крычаў, што статуты Чырвонага войска загадваюць ваяваць толькі на тэрыторыі суперніка! Мне давялося слухаць Радзімцава, калі ён быў ужо не палкоўнікам, а генерал-палкоўнікам. Вельмі разумны генерал. Слоў на вецер не кідае і на балбатуна не падобны. У 41-м яго паветрана-дэсантную брыгаду давялося тэрмінова ператвараць у звычайную пяхоту, давялося ў брыгады (як і ва ўсіх астатніх) забраць парашуты, а замест іх даць пабольш абарончага ўзбраення, і яго хлопцы, страціўшы шмат каго, і пад агнём суперніка перавучыўшыся абарончым навыкам, нарэшце, паказалі сябе ў абароне вельмі нават нядрэнна. Гэта ён са сваімі гвардзейцамі ў 42-м абараняў самыя апошнія дамы ў Сталінградзе каля самай Волгі. А вось напачатку чэрвеня 41-га Радзімцаў і яго хлопчы пра абарону не думалі. Яны ўкладвалі парашуты ды вывучалі сабе мовы, асабліва ўпіраючы на нямецкую.

Паветрана-дэсантныя часткі павялічваюцца і ўсе новыя і новыя кавалерыйскія афіцэры і генералы вечарамі вучаць нямецкую мову, таму што чакаюць размяркавання ў дэсантнікі. Дарэчы, наш герой таварыш Радзімцаў – толькі што із кавалерыі. А вось кавалерыйскі палкоўнік (пазней генерал-маёр) Леў Даватар пакуль яшчэ не патрапіў у дэсантнікі, але мода на нямецкую мову і на жаўнера-немца і яго не абмінула. Удава генерала згадвае пачатак 41-га года: «У нашым палку быў адзін немец. Дык вось, Леў Міхайлавіч амаль кожны дзень яго да сябе дахаты прыводзіў, у размове ўсё практыкаваліся і да пачатку вайны ён ужо вольна размаўляў па-нямецку» («Чырвоная зорка», 17 лютага 1983 года). Такім вось абачлівым выявіўся. Усё жыццё пражыў без ведання моваў, а перад самай вайной раптам пацягнула, ды і не яго аднаго.

Сувязі Чырвонага войска з германскімі камуністамі даўнія і цесныя. Сам Тэльман пры наведванні Савецкага Звязу не саромеючыся прылюдна з'яўляўся ў савецкай вайсковай форме. Вальтар Ульбрыхт лічыўся ў спісах 4-й імя Германскага пралетарыяту стралковай дывізіі. Але гэта, так бы мовіць, бачная частка, а была і іншая частка, не такая заўважаемая. Яшчэ ў 1918 годзе, падпісаўшы з Германіяй «Берасьцейскі мір», таварыш Ленін распарадзіўся стварыць навучальную ўстанову для падрыхтоўкі камандыраў будучага Германскага Чырвонага войска. Школа

была створана пад назвай – Асобная школа нямецкіх чырвоных камандыраў. Першы кіраўнік школы – Оскар Оберт. Школа перамяняла свае назвы, рабілася то таемнай, то адкрытай, то зноў таемнай. Школа падрыхтавала шмат камандыраў, але з нагоды адсутнасьці Германскага Чырвонага войска ім давялося служыць у савецкім. Некаторыя з іх дайшлі і да генеральскіх званняў. Напачатку 1941 года вялікая частка выпускнікоў гэтай і падобнай ёй школ пацягнуліся пад баявыя сьцягі савецкага паветрана-дэсантнага войска.

Вывучэнне публікацый пра савецкія дэсантныя карпусы, створаныя ў 1941 годзе, прыводзіць нас да думкі, што колькасць жаўнераў, сяржантаў і афіцэраў з відавочна нямецкімі прозвішчамі ў гэтых фармаваннях, мякка кажучы, была вышэй стандартнай.

# Глава XIII

## Пра крылаты танк.

«Авіяцыю належыць задушыць і зьнішчаць на аэрадромах. Поспех зьнішчэння авіяцыі на аэрадромах залежыць ад раптоўнасьці дзеянняў. Важна заспець авіяцыю на аэрадромах».

Маршал Савецкага Звязу І.С.Конеў

Падрыхтаваць сотні тысяч дэсантнікаў і парашуты для іх – гэта толькі палова справы: неабходны, акрамя таго, вайскова-транспартныя самалёты і планёры. Савецкія лідары гэта выдатна разумелі, вось чаму парашутны псіхоз 30-х гадоў суправаджаўся і планерным псіхозам. Савецкія планерысты і іхныя планеры стаялі цалкам на ўзроўні сусьветных стандартаў. Дастаткова нагадаць, што да пачатку Другой Сусьветнай вайны із 18 сусьветных рэкордаў у вобласці планерызму 13 належалі Савецкаму Звязу.

Лепшыя канструктары савецкіх баявых самалётаў калі-нікалі кідалі свой асноўны занятак, каб ствараць планеры. Нават будучага стваральніка першага спадарожніка Сяргея Каралёва кінулі на распрацоўку планераў. Дарэчы, ён у гэтай справе дзейнічаў вельмі паспяхова. Стваральнікаў баявых самалётаў і ракет вымушалі займацца распрацоўкай планераў, відавочна, не дзеля сусьветных рэкордаў. Калі б Сталіна цікавілі рэкорды, то чаму б не кінуць лепшыя розумы на стварэнне новых спартыўных ровараў?

Вайсковая накіраванасць савецкага планерызму з’яўляецца неаспрэчнай. Яшчэ да прыходу Гітлера да ўлады ў ЗССР быў створаны першы ў сьвеце грузавы дэсантны планер Г-63 канструктара Б. Урлапава. Потым у ЗССР былі створаны цяжкія планеры, здольныя падняць грузавую машыну. Канструктар П. Гарахоўскі стварыў гумавы надуваемы планер. Пасьля выкідвання ў тыл суперніка некалькі такіх планёраў было магчыма пагрузіць ў адзін транспартны самалёт і вярнуць на сваю тэрыторыю для паўторнага выкарыстання.

Савецкія генералы марылі кінуць у Заходнюю Яўропу не толькі сотні тысяч дэсантнікаў-пехацінцаў, але і сотні, а магчыма, і тысячы танкаў. Канструктары інтэнсіўна шукалі шляхі ажыццяўлення мары самым простым і танным спосабам. Алег Антонаў, той самы, які потым стане стваральнікам самых вялікіх у сьвеце вайскова-транспартных самалётаў, прапанаваў навесіць на звычайны серыйны танк крылы і апярэнне, выкарыстоўваючы корпус танка як каркас для ўсёй канструкцыі. Гэтая сістэма атрымала назву КТ – крылы танка. Прывады паветраных рулёў

мацаваліся да гарматы танка. Экіпаж танка ажыццяўляў кіраваннем палётам, знаходзячыся ўсярэдзіне танка, з дапамогай павароту вежы і паднімання гарматнага ствала. КТ – гэта здзіўляючая прастата. Вядома, рызыка палёту ў танку была, мякка кажучы, вышэй звычайнай нормы, але чалавечае жыццё ў Савецкам Звязе каштавала нават танней, чым паветкавыя крылы на танку.

КТ у 1942 годзе лётаў. У кнізе вядомага заходняга эксперта Стывена Залага змешчаны ўнікальны фотаздымак ляцячага ў небе танка з крыламі і хвастом.

Перад прызямленнем рухавік танка запускаўся і гусеніцы раскручваліся да максімальнай хуткасьці. КТ сядаў на свае ўласныя гусеніцы і паступова тармазіў. пасьля гэтага крылы і апярэнне скідаліся, і танк зноў ператвараўся із крылатага ў звычайны.

Алег Антонаў са стварэннем крылатага танка спазніўся да пачатку вайны, ды і пачалася яна не так, як планаваў Сталін, таму крылатыя танкі выявіліся такімі ж непатрэбнымі, як і мільён парашутыстаў.

У працах савецкіх стваральнікаў планераў былі памылкі і няшчасьці, былі зрывы і паразы. Але поспехі не выклікаюць сумневаў. Савецкі Звяз узяў удзел у Другой сусьветнай вайне, маючы ў шмат разоў больш планераў і планерыстаў, чым увесь астатні сьвет. Толькі ў 1939 годзе ў ЗССР адначасова навучаліся пілатаванню планерамі 30 000 чалавек. Тэхніка пілатавання часта дасягала вельмі высокага узроўню. Напрыклад, у 1940 годзе ў ЗССР быў прадэманстраваны палёт адзінаццаці планёраў на буксіры аднаго самалёта.

Сталін зрабіў усё, для таго каб сваіх планерыстаў забяспечыць дастатковай колькасцю планераў. Гаворка ідзе, вядома, не пра аднамясцовыя спартыўныя планеры, а пра шматмясцовыя дэсантныя.

На прыканцы 30-х гадоў у Савецкім Звязе адначасова больш дзесяці канструктарскіх бюро вялі жорсткае канкурэнтнае змаганне за стварэнне лепшага транспартна-дэсантнага планера. Алег Антонаў акрамя крылатага танка стварыў шматмясцовы дэсантны планер А-7. В. Грыбоўскі распрацаваў выдатны дэсантны планер Г-11. Д. Калеснікаў стварыў планер для перакідання дваццаці жаўнераў – КЦ-20, а Г. Карбула працаваў над стварэннем планера-гіганта.

У студзені 1940 года рашэннем Цэнтральнага Камітэта (г.зн. рашэннем Сталіна) у складзе Наркамата авіяцыйнай прамысловасьці было створана кіраўніцства па вытворчасьці транспартна-дэсантных планераў. 1940 год быў заняты інтэнсіўнай падрыхтоўчай працай, а з вясны 1941 года заводы, падначаленыя гэтаму кіраўніцтву, пачалі масавае вырабніцства дэсантных планераў…

Вось тут мы падышлі да даволі цікавага моманту. Вырабленыя вясной 1941 года планеры можна было выкарыстаць летам 1941-га ці, прынамсі, – ранняй восенню. А вось захаваць транспартна-дэсантныя планеры да 1942 года было ўжо немагчыма. Усе ангары, а іх у Савецкам Звязе было не так ужо шмат, былі даўно забіты раней зробленымі планерамі. зберагчы вялізны дэсантны планер пад голым небам на восеньскіх дажджах і вятрах, на марозе і пад шматтоннай снегавой нагрузкай – немагчыма.

Масавая вытворчасць транспартна-дэсантных планераў у 1941 годзе азначала намер выкарыстаць іх у 1941 годзе.

Калі б Сталін меў намер выкінуць сотні тысяч сваіх дэсантнікаў у Заходнюю Яўропу ў 1942 годзе, то масавая вытворчасць планераў патрэбна было б планаваць на вясну 1942 года.

Планер – гэта сродак для дастаўлення грузаў і згуртаванняў дэсантнікаў без парашутаў. Дэсантнікаў з парашутамі перакідваюць у тыл суперніка вайскова-транспартныя самалёты.

Лепшым вайскова-транспартным самалётам у сьвеце напачатку Другой Сусьветнай вайны быў легендарны амерыканскі самалёт С-47. Слушна будзе выказаць здагадку, што калі лепшы ў сьвеце вайскова-транспартны самалёт быў створаны ў ЗША, то Савецкі Звяз у вобласьці вайскова-транспартных самалётаў пачаў вайну, маючы не першае, а максімум другое месца.

Такая здагадка няправільная. Справа ў тым, што амерыканскі С-47, праўда, пад іншым найменнем (Лі-2), складаў падставу савецкай вайскова-транспартнай авіяцыі. Урад ЗША дзякуючы нейкім нагодам да пачатку вайны прадаў Сталіну ліцэнзію на яго вытворчасць і патрэбную колькасць самага складанага абсталявання. Сталін выкарыстаў дадзеную яму магчымасьць цалкам: С-47 выпускалі ў ЗССР такімі вялікімі серыямі, што некаторыя амерыканскія эксперты лічаць, што напачатку войны ЗССР меў гэтых самалётаў больш, чым ЗША.

Акрамя С-47 Савецкі Звяз меў некалькі соцень састарэлых стратэгічных бамбавікоў ТВ-3, перакваліфікаваных у вайскова-транспартныя самалёты.

Усе гіганцкія выкідванні дэсантаў на працягу 30-х гадоў былі здзейснены із ТБ-3. Іх было дастаткова шмат, каб падымаць адначасова некалькі тысяч парашутыстаў і цяжкую зброю, уключаючы лёгкія танкі, бронеаўтамабілі і артылерыю.

Колькі б Сталін ні будаваў вайскова-транспартных самалётаў, іх ва ўсякім выпадку давялося б выкарыстоўваць вельмі інтэнсіўна: днямі і начамі на працягу некалькіх тыдняў ці нават месяцаў для таго, каб шматлікімі рэйсамі спачатку перакінуць масу савецкіх дэсантнікаў у тыл суперніка, а потым іх там забяспечваць. Паўстала праблема: як захаваць вайскова-транспартныя самалёты ў першым рэйсе для другога рэйса і як захаваць іх у другім – для наступных. Страты ў самалётах, планерах і дэсантніках у першым рэйсе маглі быць жахлівымі. Страты ў другім рэйсе маглі быць яшчэ большымі, таму што адсутнічае фактар раптоўнасьці.

Савецкія генералы ўсё гэта выдатна разумелі. Было відавочна, што выкідванне мільёна парашутыстаў можа ператварыцца ў рэчаіснасць толькі пры ўмове абсалютнага савецкага панавання ў паветры. «Чырвоная зорка» 27 верасня 1940 года выказваецца адкрыта і проста, што высадзіць такія масы дэсантнікаў без панавання ў паветры немагчыма.

Асноўным дакументам, вызначаўшым дзеянні Чырвонага войска ў вайне, быў Палявы статут. У той час дзейнічаў Палявы статут 1939 года – ПС-39. Статут адназначна і выразна вызначаў, што правядзенне «Глыбокай аперацыі» наогул, і масавага выкідвання паветраных дэсантаў у прыватнасьці, могуць ажыццявіцца толькі ва ўмовах панавання савецкай авіяцыі ў паветры. Палявы статут, а таксама Баявыя авіяцыйныя статуты і «Інструкцыя па самастойнаму выкарыстанню авіяцыі» прадугледжвалі правядзенне пад час пачатковага перыяду вайны гіганцкай стратэгічнай аперацыі накіраванай на знішчэнне авіяцыйнай магутнасьці суперніка. У такой аперацыі, згодна з задумай савецкага камандавання, павінна была браць удзел авіяцыя некалькіх франтоў, флатоў, авіяцыя Галоўнага камандавання і нават знішчальная авіяцыя СПА[11].

[11] Супраць Паветраная Абарона.

Сярод звычайных савецкіх армій уварвання (адзін механізаваны, два стралковых корпусы і некалькі асобных дывізій) мы сустракаем і не зусім звычайныя арміі ўварвання. Іх тры: 6-я, 9-я, 10-я. У кожнай з іх не па тры корпусы, а па шэсць: два механізаваных, кавалерыйскі і тры стралковыя. Кожная із іх максімальна прысунута да мяжы, пры гэтым, калі мяжа мае выступ убок суперніка, незвычайныя арміі ўварвання знаходзяцца менавіта ў гэтых выступах. Кожная із трох узброена самай навейшай зброяй, напрыклад, 6-ы мехкорпус 10-й арміі акрамя іншых мае 452 навейшыя танкі Т-34 і КВ, а 4-ы мехкорпус 6-й арміі акрамя іншых мае 460 танкаў Т-34 і КВ. Авіяцыйныя дывізіі гэтых армій мелі сотні навейшых самалётаў Як-1, МІГ-3, Іл-2, Пе-2.

Пасьля поўнага ўкамплектавання кожная із гэтых трох армій павінна была мець у сваім складзе 2350 танкаў, 698 бронемашын, звыш 4000 гармат і мінамётаў, больш 250 000 жаўнераў і афіцэраў. Акрамя асноўнага складу кожная із гэтых армій павінна была атрымаць дадаткова 10-12 цяжкіх артылерыйскіх палкоў, часткі НКУС і шмат іншае.

Не ведаю, як назваць гэтыя арміі, але калі мы будзем карыстацца іхнымі фармальнымі назвамі: 6-я армія, 9-я, 10-я, то патрапім у пастку прыгатаваную савецкім Генеральным штабам яшчэ ў 1939 годзе. Мы ў гэтым выпадку цалкам губляем пільнасць і ўяўляем іх як самыя звычайныя арміі ўварвання. Але яны зусім незвычайныя! Ні ў Германіі, ні ў нейкай іншай краіне сьвету не было нічога падобнага. Кожная із гэтых армій па колькасьці танкаў была роўнай прыкладна палове Вермахта пры абсалютнай якаснай перавазе. Але і гэта не ўсё. Савецкае кіраўніцтва мела ў сваіх руках дастатковую колькасць механізаваных карпусоў, не ўваходзячых у склад армій, але размешчаных недалёка ад мяжы. Проста дадайце адзін асобны мехкорпус да складу звычайнай арміі, і яна адразу ператвараецца ва ўдарную. Ці дадайце другі такі ж корпус да складу ўдарнай арміі ўварвання, і яна ператворыцца ў звышударную (ці як яе яшчэ там назваць). І ўсё гэта без перамены нумара і назвы арміі. А можна да складу звышударнай арміі даваць яшчэ і трэцці мехкорпус, і тады колькасць танкаў у адной арміі перавысіць увесь Вермахт… Як бы нам назваць такую армію? І калі германскія танкавыя згуртаванні па 600-1000 танкаў мы называем механізмамі агрэсіі, як бы нам назваць арміі па дзьве-тры тысячы танкаў у кожнай?

Тры звышударныя арміі – выключэнне сярод усіх астатніх армій уварвання. Але сярод трох выключна магутных армій адна вылучаецца асобна – 9-я. Яшчэ зусім нядаўна, у Зімовай вайне, 9-я армія была проста стралковым корпусам (тры стралковыя дывізіі) з гучнай назвай. Пасьля Зімовай вайны 9-я армія рассыцілася, і вось пад прыкрыццём Паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня 1941 года яна зноў паўстае са змроку і нябыту. Яна яшчэ не цалкам укамплектавана. Яна як каркас хмарачоса, які яшчэ не завершаны, але сваёй велічэзнай масай ужо засланяе сонца. У чэрвені 1941 года 9-я армія была недабудаваным каркасам самай магутнай арміі ва ўсім сьвеце. У яе складзе шэсць карпусоў, уключаючы два механізаваных і адзін кавалерыйскі. Усяго ў 9-й арміі на 21 чэрвеня 1941 года сямнаццаць дывізій, у тым ліку дзьве авіяцыйныя, чатыры танкавыя, дзьве матарызаваныя, дзьве кавалерыйскія, сем стралковых. Вельмі падобна на іншыя звышударныя арміі, але ў склад 9-й арміі плануецца дадаць яшчэ адзін механізаваны корпус – 27-ы, генерал-маёра І. Е. Пятрова. Корпус створаны ў Туркестанскай акрузе і, не завяршыўшы фармаванне, таемна перасоўваецца на захад. Пасьля яго дадавання да

складу арміі яна будзе меңь дваццаць дывізій, уключаючы шэсць танкавых. Калі ўсё гэта ўкамплектаваць, у складзе сямі карпусоў 9-й арміі будзе 3341 танк.

Па колькасьці гэта прыкладна ўвесь Вермахт, па якасьці – лепш. Генерал-палкоўнік П. Бялоў (у той час генерал-маёр, камандыр 2-га кавалерыйскага корпуса 9-й арміі) сведчыць, што нават кавалерыя гэтай арміі павінна была атрымаць танкі Т-34 (ВІЖ, 1959, №II, с. 66).

Яшчэ нядаўна 9-я армія мела камандыраў, якія нічым не выявілі сябе ні раней, ні потым. Зараз усё перамянілася. На чале 9-й арміі стаіць генерал-палкоўнік. У той час гэта было выключна высокае званне. Ва ўсім узброеным войску ЗССР было толькі восем генерал-палкоўнікаў, пры гэтым у звышмагутным савецкім танкавым войску – ніводнага, у авіяцыі – ніводнага, у НКУС – ніводнага. На чале трыццаці савецкіх армій – генерал-маёры і генерал-лейтэнанты. 9-я армія – адзінае сярод іх выключэнне. А, акрамя таго, у гэтай выключнай арміі сабраны вельмі перспектыўныя афіцэры і генералы. Сярод іх тры будучыя маршалы Савецкага Звязу: Р. Я. Маліноўскі, М. В. Захараў, Н. І. Крылоў, будучы маршал авіяцыі і тройчы Герай Савецкага Звязу А. І. Пакрышкін, будучы маршал авіяцыі І. П. Пстыга, будучыя генералы войска І. Е. Пятроў, І. Г. Паўлоўскі, П. Н. Лешчанка і шмат іншых таленавітых і агрэсіўных камандыраў, ужо праявіўшых сябе ў баях, як 28-гадовы генерал-маёр авіяцыі А. С. Асіпенка, ці падаючыя надзеі (якія ў большасьці выпадкаў бліскуча апраўдаліся). Ствараецца ўражанне, што нечая клапатлівая рука старанна выбірала ўсё, што было лепшага і перспектыўнага ў склад гэтай незвычайнай арміі. Дзе ж яна размяшчалася?..

Вось тут мы падышлі да невялікага, але выразнага адкрыцця: пад час першай паловы чэрвеня 1941 года ў Савецкім Звязе ствралася самая магутная армія сьвету, але яна ствралася НЕ НА ГЕРМАНСКАЙ МЯЖЫ.

Гэта ўзрушаючы факт (ва ўсякім разе для мяне асабіста). Існуе дастаткова грунтоўных доказаў таго, што тытанічнае нарошчванне савецкай вайсковай магутнасьці на заходняй мяжы наогул, і ў Першым стратэгічным эшалоне, у прыватнасьці, было выклікана не германскай пагрозай, а іншымі меркаваннямі. Размяшчэнне 9-й арміі яскрава паказвае на гэтыя меркаванні: яна ствралася НА РУМЫНСКАЙ МЯЖЫ.

Пасьля першага знікнення 9-я армія раптам з'яўляецца ў чэрвені 1940 года на румынскай мяжы ўжо не як другарадная армія, зараз яна паўстала ў новай якасьці сапраўднай ударнай арміі. Планаваўся «вызваляючы паход» у Бесарабію, і савецкія крыніцы паказваюць, што «9-я армія ствралася адмыслова для рашэння гэтага важнага задання» (ВІЖ, 1972, №10, с. 83). Падрыхтоўка арміі ажыццяўлялася найбольш агрэсіўнымі савецкімі камандырамі. Інспектаваў армію напярэдадні «вызваляючага паходу» вызвалены із турмы К. К. Ракасоўскі. 9-я армія была ўключана ў склад Паўднёвага фронту ў якасьці ключавой перадавой арміі, выконваючай такую ж ролю, як 7-я армія ў Фінляндыі. Фронтам кіраваў асабіста Г. К. Жукаў. Пасьля кароткага «вызваляючага паходу» 9-я армія зноў знікае. І вось пад заслонай Паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня 1941 года яна з'яўляецца зноў на тым жа самым месцы, дзе год назад завяршыла «вызваленне».

Зараз яна ўжо не проста ўдарная армія ўварвання, яна звышударная, яна рыхтуецца стаць самай магутнай арміяй сьвету. Для чаго? Для абароны? Дазвольце, але на румынскім боку войска зусім мала, ды калі б і было шмат, ніводзін агрэсар не будзе наносіць галоўны ўдар па Савецкаму Звязу праз Румынію, грунтуючыся на самых элементарных геаграфічных меркаваннях. А вось новы «вызваляючы

паход» 9-й арміі ў Румынію мог бы перамяніць усю стратэгічную сітуацыю ў Яўропе і ў сьвеце. Румынія – асноўная крыніца нафты для Германіі. Удар па Румыніі – гэта сьмерць Германіі, гэта спыненне ўсіх танкаў і самалётаў, усіх машын, караблёў, прамысловасьці і транспарту. Нафта – кроў вайны, а сэрца Германіі, як ні дзіўна, знаходзілася ў Румыніі. Удар па Румыніі – гэта просты ўдар у сэрца Германіі.

Вось чаму самыя перспектыўныя камандыры апынуліся менавіта тут. 9-я армія з'явілася раптам у сярэдзіне чэрвеня 1941 года. Але гэтая раптоўнасць – толькі для недасьведчаных, 9-я армія заўсёды была тут, мінімум з сярэдзіны 1940 года. Проста яе назва на праця некаторага часу афіцыйна не ўжывалася, а загады ішлі са штаба акругі непасрэдна ў карпусы. Штаб 9-й арміі і штаб Адэскай вайсковай акругі (створанай, дарэчы, у кастрычніку 1939 года) проста зліваліся ў адзінае цэлае і так жа проста раз'ядноўваліся. 13 чэрвеня 1941 года адбылося менавіта такое раз'яднанне.

Досьвед сведчыць, што пасьля з'яўлення ўдарнай арміі на мяжы невялікай дзяржавы, не больш чым праз месяц прыходзіў загад «вызваліць» суседнія тэрыторыі. Незалежна ад таго, як бы развіваліся падзеі пасьля ўварвання савецкага войска ў Германію (якая, дарэчы, як і Савецкі Звяз, да абароны не рыхтавалася), вынік вайны мог быць вырашаны далёка ад асноўных палёў бітваў. Сталін відавочна разлічваў на гэта. Вось чаму 9-я армія было самай магутнай. Вось чаму яшчэ ў сакавіку 1941 года, калі 9-е войска яшчэ афіцыйна і не існавала, тут ужо з'явіўся маладзенькі, але выключна дзёрзкі генерал-маёр Р. Я. Маліноўскі. Той самы Маліноўскі, які праз чатыры гады здзівіць сьвет узрушаючым кідком праз пустню і горы на гіганцкую глыбіню ў Маньчжурыі.

У 1941 годзе перад Маліноўскім і яго таварышамі па 9-й арміі заданне было вельмі простым. Ім патрэбна было прайсьці не 810 кіламетраў, як у Маньчжурыі, а 180; не па пустынях і гарах, а па раўніне з вельмі добрымі дарогамі. Удар патрэбна было нанесьці не па японскаму войску, а па значна больш слабаму, румынскаму. Акрамя таго, 9-й арміі планавалася даць у тры разы больш танкаў, чым 6-ай гвардэйскай танкавай арміі дасталася ў 1945 годзе.

Гітлер не дазволіў усяму гэтаму здарыцца. У заяве германскага ўрада, перададзенай савецкаму ўраду ў момант пачатку вайны, пералічаны падставы германскай акцыі супраць Савецкага Звязу, сярод гэтых падставаў – неабгрунтаваная канцэнтрацыя савецкага войска на межах Румыніі, што ўяўляла сабой смяротную небяспеку для Германіі. Усё гэта не прыдумкі «прапаганды Гебельса». 9-я звышударная армія стваралася выключна ў якасьці войска наступлення. Генерал-палкоўнік П. Бялоў сведчыць, што нават пасьля пачатку германскіх аперацый на савецкай тэрыторыі ў 9-ай арміі «на кожнае абарончае заданне звычайна глядзелі як на кароткачасовае» (ВІЖ, 1959, №11, с. 65). Дарэчы, гэтым пакутавала не адна 9-я армія, а ўсё астатняе савецкае войскка.

Значна больш цікавае паведамленне пра настроі ў 9-м войску робіць тройчы Герой Савецкага Звязу маршал авіяцыі А. І. Пакрышкін (у той час старэйшы лейтэнант, намесьнік камандыра знішчальнай эскадрыллі ў складзе 9-ай арміі). Вось яго размова з «недарэзаным буржуем», у якога вызваліцелі забралі краму. Справа адбываецца на тэрыторыі «вызваленай» Бесарабіі вясной 1941 года.

— О, Букурэшт! Пабачылі б вы, які гэта горад!

— Калі-небудзь яго пабачу, – адказаў я пераканана.

Гаспадар шырока расплюшчыў вочы, чакаючы, што я скажу далей. Узнікла патрэба перамяніць тэму размовы» (А. І. Пакрышкін. Неба вайны. с. 10).

Мы не хочам верыць Гітлеру ў тым, што ён планам «Барбароса» абараняў Германію ад здрадніцкага ўдару савецкага войска на Бухарэст і Плоешці.

У гэтым выпадку давайце верыць процілегламу боку! А процілеглы бок кажа тое ж самае: так, нават лейтэнанты ведалі, што хутка яны пабываюць у Румыніі. У якасьці туръіста савецкі афіцэр не мае магчымасьці гуляць па замежжу. Савецкі Звяз – гэта не Расійская імперыя з яе вольнасьцямі. У якасьці каго ж мог Пакрышкін патрапіць у Румынію, акрамя як у якасьці «вызваліцеля»? У словах маладога афіцэра не было ніякага выхваляння: пасьля вайны Старэйшы Брат, таварыш Пакрышкін, пабываў у «вызваленым» Бухарэсце. Гітлер зрабіў усё што мог, каб гэта папярэдзіць. Папярэдзіць не атрымалася. Атрымалася толькі крыху адтэрмінаваць няўхільнае «вызваленне».

# Глава XVII

## Горныя дывізіі ў стэпах Украіны.

> «Эфектыўнымі будуць паветраныя дэсанты на горных тэатрах вайны. З нагоды асаблівай залежнасьці войска, штабоў і ўстаноў тылу ў гэтых умовах ад дарог, магчыма ўжыванне паветраных дэсантаў для захопу ў тыле суперніка, на яго шляхах спалучэнняў, кіруючых вышынь, цясьнін, перавалаў, вузлоў дарог і г.д., што ў выніку можа прывесьці да выключна важных вынікаў… Па-за рамкамі наступаючай аперацыі выкідванне дэсанта наўрад ці наогул мае сэнс».
>
> Вайсковы весьнік, 1940, №4, с. 76-77

Нават павярхоўнае знаёмства з савецкімі арміямі Першага Стратэгічнага эшалона выкрывае перад намі дзіўную выяву карпатлівай падрыхтоўкі да вайны. Мы выяўляем, што кожная армія мела сваю непаўторную структуру, свой характар, сваё прызначэнне. Кожнае «армія затулення» стваралася для вырашэння выразна акрэсленага, толькі ёй уласьцівага задання ў хуткай «вызваляючай» вайне.

Надрукавана дастаткова матэрыялаў, для таго каб пра кожную із трыццаці савецкіх армій, існаваўшых пад час першай паловы 1941 года, напісаць асобнае цікавае дасьледаванне. Калі вывучыць структуру, дыслакацыю, накіраванасць баявой падрыхтоўкі нават аднай савецкай арміі (усё адно якой), то і тады «вызваляючая» накіраванасць савецкіх прыгатаванняў будзе відавочнай.

Не маючы магчымасьці апісаць усе арміі ў першым томе, я зараз дазволю сабе толькі вельмі коратка спыніцца на адной із іх. Афіцыйна яна мае назву 12-я армія. У яе складзе адзін механізаваны і два стралковыя карпусы і іншыя часткі; усяго дывізій – дзевяць, у тым ліку дзьве танкавыя і адна матарызаваная. З першага позірку – звычайнае армія ўварвання. Ні грунтуючыся на нумары, ні на назве, ні на складзе не адрозніваючаяся ад іншых такіх жа арміяў уварвання. Гісторыя яе стандартная: створана ў момант падпісання пакта Молатава-Рыбентропа. Праз некалькі тыдняў пасьля стварэння – у справе: «вызваляе» Польшчу. Тады ў яе складзе быў танкавы корпус, дзьве асобныя танкавыя брыгады, два кавалерыйскія корпусы і тры стралковыя дывізіі. Мала пяхоты і артылерыі – гэта нездарма: праламваць магутную абарону тут няма патрэбы. Затое вось рухомых частак шмат.

«12-я армія… з'яўлялася па сутнасьці, франтавым рухомым згуртаваннем» (СБЭ. Т. 8, с. 181).

Стандартным уяўляецца і далейшы лёс гэтай арміі: «вызваляючы паход» у Польшчы завяршыўся, а армія з нейкай нагоды застаўшаяся не расфармаванай, так і размяшчаецца на германскай мяжы. Навошта? Кажуць, што Сталін, наіўны, Гітлеру верыць. Чаму ж ён не распускае свае арміі, ствараемыя толькі на выпадак вайны?

Далей 12-я армія перажывае такую ж трансфармацыю, як і ўсе суседнія арміі ўварвання. Яе галоўны ўдарны механізм зараз мае назву не танкавы корпус, а механізаваны. Гэта каб лідары сумежнай сяброўскай дзяржавы не турбаваліся. Праўда, замена назвы вядзе за сабой не памяншэнне колькасьці танкаў у арміі, а павелічэнне. Кавалерыя із арміі забіраецца. Магчымасьці рваць абарону суперніка павялічаны: колькасць стралковых дывізій павялічана ўдвая, колькасць артылерыі ў кожнай дывізіі таксама павялічана ўдвая, акрамя таго, армія атрымала ў свой склад артылерыйскую брыгаду і чатыры асобныя артылерыйскія палкі. Магчымасьці пераадольваць інжынерныя загароды суперніка таксама павялічаны – да арміі дададзены асобны інжынерны полк.

Што ж у гэтай арміі незвычайнага? Усе арміі ўварвання развіваліся прыкладна ў тым жа накірунку. Незвычайным з'яўляецца нацыянальны склад армія. У 1939 годзе, рыхтуючыся да ўварвання ў Польшчу, Сталін укамплектаваў 12-ю армію ўкраінцамі, магчыма разлічваючы на даўнюю польска-ўкраінскую варожасць. На чале арміі прызначаны С. К. Цімашэнка, а побач з ім мы знаходзім шмат камандыраў украінскага паходжання. Армія стваралася на Украіне. Таму і рэзервістаў таксама забіралі адсюль, і яны складалі ў 12-ай арміі ўстойлівую большасць.

Пасьля «вызвалення» Польшчы адбываецца павольны і амаль незаўважаемы працэс замены нацыянальнага складу 12-ай арміі. Ужо ў 1940 годзе мы бачым вельмі глыбокія перамены. Каб не кідалася ў вочы нацыянальная асаблівасць гэтай арміі, на чале яе і на некаторых ключавых пасадах стаяць рускія. Але армія згодна са сваёй большасьцю ўжо не ўкраінская, і не руская. Яна каўказская. У іншых арміях таксама сустракаюцца грузіны, армяне, азербайджанцы. Але ў 12-ай арміі гэта адчуваецца асабліва выразна. Прозвішчы афіцэраў тыпу Парцванія, Грыгаран, Кабалава, Гусэйн-задэ, Саркаш’ян мы сустракаем дзясяткамі і сотнямі. І не толькі на ўзроўні камандыраў рот і батальёнаў. Камандуючы акругай генерал арміі Г. К. Жукаў адшукаў сярод выкладчыкаў вайсковай акадэміі свайго даўняга сябра армяніна, палкоўніка І. Х. Баграмяна, і прызначыў яго кіраўніком аператыўнага аддзела (планаванне вайны) у штаб не нейкай, а менавіта 12-й арміі. А там ужо шмат не толькі каўказкіх палкоўнікаў, але і нямала генералаў.

Сам начальнік штаба арміі генерал Баграт Арушунян – з Каўказа.

Камандуючы акругай Г. К. Жукаў часты госць у гэтай арміі і недарэмна ён збірае ў ёй нараджэнцаў Каўказа – армія таемна, але няўхільна ператвараецца ў горную армію. Жукаў асабіста патрабуе ад кіраўніцтва арміі дасканалага ведання карпацкіх пераваласў, і не толькі грунтуючыся на апісаннях, але і на практыцы. Ён выдае загад «накіраваць восенню праз перавалы па ўсіх больш-менш праходных маршрутах адмыслова скампанаваныя згуртаванні, створаныя із розных баявых машын і транспартных сродкаў, каб пераканацца на практыцы ў магчымасьці пераадолення іх танкамі, аўтамашынамі, трактарамі, конным транспартам і клуначнымі жывёламі» (Маршал Савецкага Звязу І. Х. Баграмян. ВІЖ, 1967, №1, с.

54). Размова ідзе пра 1940 год. Гітлер ваюе ў Францыі, павярнуўшыся сьпіной да Савецкага Звязу, а Жукаў праводзіць эксперыменты па пераадоленню горных перавалаў. Жукаў, вядома, не ведаў, што зусім нядаўна германскія генералы таемна праводзілі дакладна такія ж эксперыменты, каб мець упэўненасць, што войска, танкі, артылерыйскія трактары, транспарт змогуць прайсьці праз Ардэны.

Але, магчыма, Жукаў рыхтуе 12-ю армія для «абароны»? Не. Баграмян, адказваючы за планаванне вайны, сведчыць: «Вывучаючы аперагыўныя планы, я быў здзіўлены наступным фактам: наша памежная армія не мае плана разгортвання і абароны мяжы». «Вывучаючы планы» азначае, што сейф аператыўнага аддзялення 12-ай арміі не быў пустым. Там былі планы. З імі было не дастаткова проста павярхоўна азнаёміцца. Гэта былі складаныя дакументы, якія патрэбна было вывучаць. Але вось сярод планаў вайны абарончых планаў не выявілася.

Уяўляе цікавасць апісанне вучэння 12-ай арміі, на якое асабіста прыязджае Жукаў. Адпрацоўваюцца толькі наступаючыя заданні, пры гэтым на мапах вайна вядзецца на германскай тэрыторыі. Першае, з чаго пачынаецца вядзенне вайны на мапах: фарсіраванне савецкім войскам памежнай ракі Сан. Вайсковая гульня ладзіцца не супраць нейкага ўмоўнага суперніка, а супраць рэчаіснага, з выкарыстаннем цалкам сакрэтнай выведкавай інфармацыі. Паміж Жукавым і камандырам арміі ўзнікаюць непагадненні. Не, не, не пра тое – наступаць ці абараняцца. Камандуючы арміяй Парусінаў настойвае: «Мы павінны спрабаваць нанесьці суперніку максімальныя пашкоджанні ў выніку ўжо першага ўдару». Мудры Жукаў разумее, што гэта правільныя намеры, наносіць удар патрэбна, але не на шырокім фронце, а на вельмі вузкім. Пра гэта і спрэчка.

Перамогшы камандуючага арміям тэарэтычна, Жукаў на гэтым не спыняецца. Парусінава хутка пазбавілі пасады камандуючага арміяй, а на яго месца прызначаны стары сябар Жукава генерал П. Г. Панядзелін.

Пасьля гэтага эксперыменты па пераадоленні горных перавалаў працягваюцца. Імі асабіста кіруе Баграмян. Падчас гэтых эксперыментаў ён даходзіць да дзяржаўнай мяжы, дзе назірае «відавочную дэманстрацыю абарончых прац» – будаванне жалезабетонных умацаванняў на самым беразе памежнай ракі так, каб супернік добра бачыў.

Дзіўная рэч: Жукава цікавяць перавалы і іхная пераадольваемасць. Але зусім не з абарончага боку гледжання. Калі б Жукаву патрэбна было зрабіць перавалы непераадольнымі для суперніка, то патрэбна было б кінуць войска ў горы і перакапаць усе горныя сьцежкі і дарогі і будаваць жалезабетонныя ўмацаванні не ў даліне каля самай ракі, а ў раёне гэтых самых перавалаў! І больш танна, і супернік будаўніцства не выявіць, і пераадолець перавалы не зможа. Дарэчы, няўжо нехта будзе атакаваць Савецкі Звяз праз горныя хрыбты, калі і без таго шмат адкрытай прасторы? А вось для савецкага кіраўніцства гары маюць выключную каштоўнасць: Германія і яе галоўная крыніца нафты падзелены падвойным бар'ерам гор: у Чэхаславакіі і ў самой Румыніі. Удар савецкага войска праз горы для Германіі смяротны.

Прайсьці праз свае горныя перавалы і захапіць перавалы ў Чэхаславакіі ці Румыніі азначае тое ж самае, што перарваць нафтавую аорту.

Маршал Савецкага Звязу Г. К. Жукаў: «Слабым месцам Германіі была здабыча нафты, але гэта ў нейкай ступені кампенсавалася імпартам румынскай нафты» (Успаміны і разважанні. с. 224). Усё геніяльнае – проста. Жукаў не меў ніводнай вайсковай паразы ў сваім жыцці таму, што заўсёды прытрымліваўся

вельмі простага правіла: знайсьці слабае месца ў суперніка і раптоўна па ім стукнуць.

Жукаў ведае слабое месца Германіі: вось чаму эксперыменты ў гарах працягваюцца. Магчымасьці кожнага роду войска, кожнага тыпу баявых і транспартных машын ва ўмовах карпацкіх перавалаў вывучаюцца на навуковым грунце. Усталёўваюцца і старанна правяраюцца стандарты, адпрацоўваюцца рэкамендацыі войску. Час пераадолення рознымі тыпамі машын карпацкіх перавалаў старанна фіксуецца і аналізуецца. Усё гэта, вядома, вельмі патрэбна для планавання наступаючых аперацый, прытым аперацый імгненных. Тут, як пры падрыхтоўцы рабавання банка, патрэбна ўлічыць усе драбнюткія дэталі і ўсё вылічыць з вялікай дакладнасьцю. Менавіта гэтым і займаецца Баграмян на перавалах: фіксуе час, каб планаванне грунтавалася на вельмі дакладным досьведзе. Адначасова патрэбна пазначыць, што для абароны ўсё гэта цалкам непатрэбна. Калі б узнікла патрэба абараняць карпацкія перавалы ад суперніка, то замяраць хуткасць не было б патрэбы. Патрэбна было б даць жаўнерам загад: седзіце тут, і ворага не прапусьціце. Сядзіце год, два, сядзіце хоць да самой перамогі ці да самой сьмерці!

Падзеі развіваюцца імкліва. Жукаў атрымлівае павышэнне, а за ім і Баграмян. Але ні адзін ні другі не забываюцца пра такую незвычайную 12-ю армію. Пад іхым кантролем, адпаведна іхным загадам павольна, але безупынна перамяняецца яе структура.

У 12-й арміі, як і ва ўсіх іншых савецкіх арміях, рэчы не называюцца сваімі імёнамі. Напачатку чэрвеня 1941 года чатыры стралковыя дывізіі (44-я, 58-я, 60-я, 96-я) ператвораны ў горнастралковыя. На дадатак у гэты ж час у склад арміі дададзена таемна перакінутая із Туркестана толькі што сфармаваная 192-я горнастралковая дывізія. Як назваць корпус, у якім дзьве дывізіі, і абедзве горнастралковыя? Як назваць другі корпус, у якім із чатырох дывізій тры горнастралковыя? Як назваць армію, у якой із трох карпусоў два па сутнасьці горнастралковыя; у якой горнастралковыя дывізіі складаюць пераважаючую большасць? Я б назваў карпусы горнастралковымі, а армію – горнай. Але ў савецкага камандавання існуюць падставы гэтага не рабіць. Карпусы па-ранейшаму маюць назву 13-ы і 17-ы стралковыя, а армія – проста 12-я.

Тут мы бачым толькі канчатковы вынік ператварэнняў, але сам працэс ад нас утоены. Мы толькі ведаем, што афіцыйную назву горнастралковыя дывізіі атрымалі 1 чэрвеня 1941 года, але загад быў аддадзены 26 красавіка, а перашыўка дывізій са стралковых у горнастралковыя ішла яшчэ напачатку восені 1940 года, яшчэ да таго, як Баграмян пачаў свае эксперыменты. Не толькі сама 12-я ператвараецца ў горную армію, але і ўплывае на суседнія арміі. Падрыхтаваная ў 12-ай арміі 72-я горнастралковая дывізія (генерал-маёр П. І. Абрамідзэ) перадаецца ў суседнюю, 26-ю, армію.

Ззаду 12-ай і 26-ай арміі таемна разгортваецца перакідваемая із Паўночнага Каўказа 19-я армія генерал-лейтэнанта І. С. Конева. У яе складзе мы таксама знаходзім горнастралковыя дывізіі, напрыклад 28-я (камандыр палкоўнік К. І. Новік). І менавіта вось у гэты час пад заслонай Паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня 1941 года ва Ўсходніх Карпатах паміж 12-й (горнай) і 9-й (звышударнай) арміямі пачалося разгортванне яшчэ адной арміі – 18-ай. Гітлер не дазволіў ёй завяршыць разгортванне, і мы з дакладнасьцю не можам вызначыць склад гэтай арміі ў тым выглядзе, як гэта задумана савецкім камандаваннем. Гітлер пераблытаў усе

савецкія планы, і пачалося нешта няўяўляемае. Але ўсё ж існуе дастаткова дакументаў, каб зрабіць выснову, што 18-я армія адпаведна першапачатковай задуме была дакладнай копіяй 12-й (горнай) арміі, хаця таксама гэтай назвы і не мела. Вывучэнне архіваў 12-й і 18-й армій здзіўляе кожнага дасьледчыка іхным абсалютным структурным падабенствам. Гэта вельмі незвычайны прыклад арміяў-двайнят. Падабенства даходзіць да таго, што ў 18-ай арміі, як у 12-ай, але ні ў адной із іншых, штабам кіруе каўказскі генерал. Гэта генерал-маёр (пасьля генерал арміі) У. Я. Калпакчы.

Працэс перабудовы на горны профіль быў пастаўлены на шырокую базу. Горнастралковыя дывізіі былі ўкамплектаваны асобна падабранымі і навучанымі жаўнерамі. Гэтыя дывізіі былі пераведзены на асобны штат, выразна адрозніваючыся ад штата звычайнай стралковай дывізіі; яны атрымалі асобнае ўзбраенне і рыштунак.

На Каўказе напярэдадні вайны была створана школа горнай падрыхтоўкі, якая із лепшых савецкіх альпіністаў рыхтавала інструктараў. Падрыхтаваных інструктароў тэрмінова накіроўвалі на заходнюю мяжу, бо менавіта тут, а не на Каўказе і не ў Туркестане, у чэрвені 1941 года была засяроджана вялізная колькасць горнастралковых армій. Пра гэтую школу існуе кароткі артыкул у «Чырвонай зорцы» (1 лістапада 1986 г.), які так і называецца: «Рыхтаваліся ваяваць у гарах».

Вось тут самы час задаць пытанне: У ЯКІХ ГОРАХ?

На савецкіх заходніх межах існуе толькі параўнальна невялікі масіў Усходніх Карпат, якія больш падобны на пакатыя ўзгоркі, чым на горы. Ствараць магутную абарону ў Карпатах у 1941 годзе не было патрэбы кіруючыся наступнымі падставамі:

1. Карпаты ў гэтым месцы ваельмі нязручныя для агрэсіі з захаду на ўсход. Супернік з гор спускаецца на раўніны, а забяспечваць войска давядзецца праз усе Карпаты, Татры, Рудныя горы, Судэты, Альпы. Гэта вельмі нязручна і небяспечна для агрэсара.

2. Усходнія Карпаты – гэта тупы клін убок суперніка. Калі тут сканцэнтраваць шмат савецкіх армій для абароны, то яны ўжо ў мірны час будуць аточаны супернікам з трох бакоў. Выкарыстоўваючы раўніны паўднёвей, і асабліва паўночней Усходніх Карпат, супернік у кожны момант мае магчымасць стукнуць у тыл замацаваўшымся у гарах арміям, пераразаючы іхныя шляхі забеспячэння.

3. У 1941 годзе ў Карпатах не было войска суперніка, дастатковага для агрэсіі, і савецкае камандаванне гэта добра ведала (Генерал-лейтэнант Б. Арушунян, ВІЖ, 1973, №6, с. 61).

Канцэнтрацыя двух савецкіх армій ва Ўсходніх Карпатах мела катастрафічныя наступствы. Ніхто гэтых армій, вядома, з фронту не атакаваў. Але ўдар 1-ага германскага танкавай згуртавання на Роўна паставіў перад савецкім камандаваннем дылему: пакінуць дзьве арміі ў Карпатах і яны загінуць там без падвозу боепрыпасаў і харчавання, ці ж іх тэрмінова адводзіць із гэтай пасткі. Было прынята другое рашэнне. Дзве горныя арміі, не прыстасаваныя для бою на раўнінах, маючы лёгкае ўзбраенне і шмат непатрэбнага на раўнінах рыштунку, пабеглі з гор і тут патрапілі пад флангавы ўдар германскага танкавага кліна. Лёгка разграміўшы бегшыя з гор савецкія арміі, 1-е танкавае згуртаванне германскага войска накіравалася наперад, заходзячы ў тыл 9-ай (звышударнай) арміі. Яе лёс быў вельмі сумным. Пасьля гэтага перад германскім войскам адкрыліся шляхі да

неабароненых баз савецкага флота, да Данбаса, Харкава, Запарожжа, Днепрапятроўска – індустрыйных раёнаў выключнага значэння. Страціўшы іх, Савецкі Звяз здолеў за гады вайны вырабіць толькі 100000 танкаў. Вядома, гэта значна больш, чым у Германіі, але без страты гэтых раёнаў савецкая танкавая вытворчасць (а таксама артылерыйская, авіяцыйная, вайскова-марская, і інш.) магла б быць у некалькі разоў вышэй.

Выхад германскага войска на поўдзень Украіны паставіў у вельмі цяжкае становішча савецкае войска ў раёне Кіева, а таксама адкрыў Германіі шлях на Каўказ – да нафтавага сэрца Савецкага Звязу і да Сталінграда – да нафтавай аорты.

Яшчэ раз слова Баграмяну: «Знаёмства з Усходнімі Карпатамі дапамагло больш выразна зразумець, наколькі востра паўстала патрэбна як мага хутчэй перафармаваць цяжкія, малярухомыя, непрыстасаваныя для дзейнасьці ў гарах стралковыя дывізіі ў больш лёгкія горнастралковыя злучэнні. Згадваючы зараз пра гэта, я лаўлю сябе на думцы пра сваю мімавольную памылку. Напачатку ж вайны гэтым дывізіям галоўным чынам давялося весьці баі ва ўмовах раўнін, пагэтаму перафармаванне ў горныя толькі паслабіла іх» (ВІЖ, 1976, №1, с. 55).

Паўтараю, што дзьве арміі ў Карпатах у 1941 годзе для абароны былі цалкам непатрэбнымі. Але калі б некаму і прыйшло ў галаву выкарыстаць іх для абароны, то і ў гэтым выпадку не было патрэбы перафармоўваць цяжкія стралковыя дывізіі ў лёгкія горнастралковыя. Досьвед Першай Сусьветнай вайны, у тым ліку і рускі, паказаў, што цяжкая пяхотная дывізія ў нізкіх пакатых горах прыстасавана для абароны лепш, чым лёгкая горнастралковая. Закапаўшыся ў зямлю, перахапіўшы перавалы, грабяні, вяршыні і вышыні, звычайная пяхота трымала іх да канца вайны, і не існавала ніякіх вайсковых падставаў для таго, каб лічыць, што гэтая абарона не магла б працягвацца яшчэ шмат гадоў. Ведаючы гэта, савецкае камандаванне ўсё ж, пераварае стралковыя дывізіі ў горнастралковыя, якія можна выкарыстаць галоўным чынам у наступленні. У савецкіх дывізіях з'явіліся згуртаванні адмыслова падрыхтаваных альпіністаў-скалалазаў. Але ва Ўсходніх савецкіх Карпатах ім відовочна рабіць няма чаго. Каб іх ужыць у справе, патрэбна было перамясьціць савецкае войска на захад, прытым на некалькі соцень кіламетраў.

Усе тыя фактары, якія робяць Усходнія Карпаты нязручнымі для агрэсіі з захаду на ўсход, робяць іх зручнымі для агрэсіі з усходу на захад:

1. Войска ідзе наперад у горы, але яго лініі забеспячэння застаюцца на савецкай тэрыторыі, галоўным чынам на вельмі роўнай мясцовасьці.

2. Усходнія Карпаты тупым клінам далёка заходзяць наперад на захад, рассякаючы войска суперніка на дзьве часткі. Гэта натуральны плацдарм, які дазваляе яшчэ ў мірны час, засяродзіўшы на ім вялізную магутнасць, знаходзіцца як бы ў тыле ў суперніка; застаецца толькі працягваць рух наперад, пагражаючы тылам суперніка і гэтым вымушаючы яго да адступлення па ўсяму фронту.

3. У Карпатах знаходзілася нязначнае войска суперніка, савецкае камандаванне ведала пра гэта і менавіта таму засяродзіла тут дзьве арміі.

Сядзець на месцы дзьве арміі не маглі, ім дваім тут мала месца, у абароне яны не патрэбны і да абароны не прыстасаваны. Адзіная магчымасць выкарыстаць гэтыя арміі ў вайне: накіраваць іх наперад. Калі выказаць здагадку, што горная армія ствараецца для дзеяння ў гарах, то вызначыць яе накірунак руху вельмі лёгка. Ад Усходніх Карпат ідуць два горных хрыбты: адзін на захад у Чэхаславакію, другі на поўдзень – у Румынію. Іншых накірункаў для дзеяння горных армій няма. Два

накірункі – дзьве арміі, вельмі лагічна. Кожны кірунак аднолькава важны, таму што вядзе да галоўных нафтавых магістраляў. Гэтыя магістралі лепш усяго перарэзаць у двух месцах, для поўнай упэўненасьці. Але поспех нават і адной арміі будзе смяротным для Германіі. Але калі дзеянні абодвух армій выявяцца непасьпяховымі, то і ў гэтым выпадку іхная дзейнасць на двух горных хрыбтах паслабіць прыток германскіх рэзерваў у Румынію. Не будзем забывацца, што акрамя двух удараў праз горы па аорце існуе 9-я (звышударная) армія, якая рыхтуецца здзейсніць удар у сэрца. Яе дзейнасць прыкрыта двума ланцугамі гор. Каб абараніць Румынію ад савецкай 9-ай арміі, германскаму войску патрэбна будзе пасьлядоўна іх пераадолець, сустрэўшы на кожным горным хрыбце па цэлай савецкай арміі. Самае галоўнае ў дзейнасьці савецкіх горных армій – раптоўнасць і хуткасць. Калі яны паспеюць хутка захапіць перавалы, то звычайнаму палявому войску скінуць іх будзе вельмі складана. Для надзейнасьці замацавання на перавалах не ўсе савецкія дывізіі ў горных арміях перафармаваны ў горныя, на дадатак у складзе армій існуюць танкавыя і матарызаваныя дывізіі, цяжкія супрацьтанкавыя брыгады. Імклівы раптоўны кідок наперад – і Германія застанецца без нафты… Вось чаму Баграмян з секундамерам трэніруе танкістаў на перавалах. А Жукаў за гэтымі эксперыментамі вельмі ўважліва назірае.

Пра прызначэнне горнастралковых дывізій у складзе 12-й і 18-й армій мы можам спрачацца, усё ж арміі знаходзіліся ў Карпатах. Але пра прызначэнне такой дывізіі ў 9-й (звышударнай) арміі мы спрачацца не можам, 9-я знаходзілася пад Адэсай, але і ў яе складзе згодна з загадам Г. К. Жукава, які нёс персанальную адказнасць за Паўднёвы і Паўднёва-заходні франты, была створана горнастралковая дывізія. Якія пад Адэсай гары? 30-ю Іркуцкую Ордэна Леніна тройчы Чырванасьцяжную імя Вярхоўнай Рады РСФСР горнастралковую дывізію 9-й арміі можна было выкарыстаць па прамому прызначэнню толькі ў Румыніі. Зусім не выпадкова гэтая дывізія (камандыр генерал-маёр С. Г. Галактыёнаў) знаходзіцца ў 48-м стралковым корпусе генерала Р. Я. Маліноўскага. Па-першае, гэта самы агрэсіўны камандыр корпуса не толькі ў 9-ай арміі, але і на ўсім Паўднёвым фронце. Па-другое, 48-ы корпус – на самым правым флангу 9-й арміі. На савецкай тэрыторыі гэта не мае ніякага значэння. Але калі 9-ю звышударную армію ўвесьці ў Румынію, то ўся яна будзе на раўніне, а яе правы фланг будзе драпацца па горнаму хрыбту. Правільна менавіта для гэтай сітуацыі мець адну горнастралковую дывізію і менавіта на самым правым флангу.

Акрамя таго, у чыгуначных эшалонах із Туркестана таемна рухаецца 21-я горна-кавалерыйская дывізія палкоўніка Я. К. Куліева. Гітлер сваім нападам усё пераблытаў, і давялося ўсё, што прызначалася для поўдня, кінуць у Беларусь, нават 19-ю армію з яе горнастралковымі дывізіямі. Там жа апынулася і 21-я горна-кавалерыйская, нікому там не патрэбная, для бою ў балотах не прыстасаваная і там ганебна загінуўшая. Але прызначалася яна не для Беларусі.

Камуністычная прапаганда заяўляе, што Чырвонае Войска да вайны не рыхтавалася ад гэтага і ўсе беды. Гэта няпраўда. Давайце хаця б на прыкладзе 12-ай арміі і яе копіі, 18-ай арміі, прасочым, што магло здарыцца, калі б Савецкі Звяз да вайны сапраўды не рыхтаваўся.

1. У гэтым выпадку былі б захаваны вялізныя сродкі, якія проста загубілі на стварэнне двух горных армій і шматлікіх асобных горнастралковых дывізій у складзе звычайных арміяў уварвання.

Калі б толькі частка гэтых сродкаў была накіравана на стварэнне супрацьтанкавых дывізій, то ход вайны быў бы іншым.

2. Калі б Савецкі Звяз да вайны не рыхтаваўся, то ў Карпатах не апынулася б дзьве арміі, іх не давялося б у паніцы з гэтай пасткі выводзіць, і яны не патрапілі б пад удар германскага кліна ў момант іх адыходу з гор.

3. Калі б да вайны не рыхтаваліся, то на паўнач ад Карпат германскія танкавыя масы сустрэліся б не лёгкімі дывізіямі, бягучымі з гор, а з цяжкімі дывізіямі, прыстасаванымі для вайны на раўнінах, з іхнай шматлікай магутнай артылерыяй, у тым ліку і супрацьтанкавай.

4. Калі б германскі танкавы клін прадраў абарону гэтых, нікуды не бягучых дывізій, то і тады наступствы не былі б такімі катастрафічнымі: на румынскай мяжы не было б сукупнасьці армій, і ўдар быў бы накіраваны не ім у тыл, а прама па пустому месцы.

Калі б Чырвонае Войска не рыхтавалася да вайны, то ўсё б пайшло па-іншаму.

Але яно рыхтавалася, прытым вельмі напружана.

# Глава XVIII

## Для чаго прызначаўся Першы стратэгічны эшалон.

«…Трэба мець на ўвазе магчымасьць аднačасовага правядзення на тэатры вайны двух, а то і трох наступальных аперацый розных франтоў з намерам як мага шырэй стратэгічна выпрабаваць абароназдольнасць суперніка».

Народны камісар абароны, Маршал Савецкага Звязу С.К.Цімашэнка, 31 снежня 1940 г.

Паўторым коратка склад Першага стратэгічнага эшалона: шаснаццаць армій; некалькі дзясяткаў карпусоў, як уваходзячых у склад армій, так і асобных; агульная колькасць дывізій – 170. Самая магутная із армій – на румынскай мяжы. Із агульнай колькасьці армій, дзьве – горныя, гатовыя адрэзаць Румынію і яе нафту ад Германіі. Із дзясяткаў карпусоў – пяць паветрана-дэсантных, адзін марскі дэсантны і некалькі горнастралковых.

Якім жа з’яўляецца агульнае заданне Першага стратэгічнага эшалона? Для чаго ён прызначаўся? Сваёй думкі я не выказваю. Слова савецкім маршалам.

Маршал Савецкага Звязу А. І. Ягораў лічыў, што ў вайне будуць браць удзел дзясяткі мільёнаў жаўнераў, якіх будзе патрэбна мабілізаваць. Ён прапанаваў не чакаць заканчэння мабілізацыі, а пачынаць уварванне на тэрыторыю суперніка ў момант абвяшчэння мабілізацыі. Для гэтага, згодна з яго задумай, патрэбна было на працягу ўсяго мірнага часу ў Першым стратэгічным эшалоне трымаць «згуртаванні ўварвання». Іх заданне: як толькі мабілізацыя пачалася, неадкладна перайсьці мяжу і тым самым перашкодзіць мабілізацыі суперніка і прыкрыць мабілізацыю Чырвонага войска, даючы магчымасьць галоўнаму войску размясьціцца і пачаць вайну ў найбольш спрыяльных умовах (Даклад начальніка штаба РСЧВ Рэўваенсавету ЗССР 20 красавіка 1932 года).

Маршал Савецкага Звязу М. Н. Тухачэўскі з гэтым не пагаджаўся. Уварванне патрэбна праводзіць неадкладна, але не згуртананнямі ўварвання, а цэлымі арміямі ўварвання. Арміі ўварвання патрэбна стварыць яшчэ ў мірны час і трымаць каля

самай мяжы ў складзе Першага стратэгічнага эшалона РСЧВ. «Склад і дыслакацыя перадавой арміі павінны перадусім вызначацца магчымасцю пераходу мяжы неадкладна з абвяшчэннем мабілізацыі», «механізаваныя карпусы павінны размяшчацца на адлегласьці 50-70 км ад мяжы з тым, каб з першага ж дня мабілізацыі перайсьці мяжу» (М. Н. Тухачэўскі. Абраныя творы. Т. 2, с. 219).

Тухачэўскі і Ягораў, вядома, памыляліся. Іх давялося расстраляць, а на вяршыню вайсковай улады падняўся уладны, жорсткі, нязломны, непераможны Г. К. Жукаў. Менш усяго ён быў размешчаны да абстрактных разважанняў. Ён быў практыкам, за сваё жыццё ён не зведаў ніводнай вайсковай паразы. У жніўні 1939 года Жукаў правёў ашамляючую па раптоўнасьці, хуткасьці і дзёрзкасьці аперацыю па разгрому 6-ай японскай арміі (пазней гэты ж метад ён выкарыстаў супраць 6-ай германскага арміі пад Сталінградам). Імгненны разгром 6-ай японскай армія быў пралогам Другой Сусьветнай вайны. Атрымаўшы тэлеграму Жукава 19 жніўня 1939 года пра тое, што галоўнае дасягнута: японцы не падазраюць пра рыхтуючыся ўдар, Сталін даў згоду на ўсталяванне агульнай мяжы з Германіяй.

Пагадненне Молатава-Рыбентропа гатавалася пад грозную музыку Жукава, які здзяйсняў у Манголіі тое, што не здолеў ніхто: разгром цэлай японскай арміі. Менавіта пасьля гэтага на заходніх межах пачалося разбурэнне ўсяго, што прызначалася для абароны, і стварэнне грандыёзных ударных фармаванняў. Жукаў атрымаў пад сваё кіраванне самую важную і самую магутную із савецкіх акруг – Кіеўскую. Потым Жукаў быў падняты яшчэ вышэй – на пасаду кіраўніка Генеральнага штаба. І вось тут Генеральны штаб зрабіў тэарэтычную выснову выключнай важнасьці: «Выкананне заданняў арміі ўварвання патрэбна ўскласьці на ўвесь Першы стратэгічны эшалон» (ВІЖ, 1963, №10, с. 31). Такім чынам, усе шаснаццаць армій першага эшалона, у складзе якіх знаходзіліся 170 дывізій, прызначаліся менавіта для ўварвання.

Самае цікавае гэта тое, што Першы стратэгічны эшалон не толькі атрымаў заданне ажыццявіць акцыю ўварвання, але і ўжо пачаткаў яе выконваць! Пад заслонай Паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня 1941 года ўвесь Першы стратэгічны эшалон накіраваўся да мяжы Германіі і Румыніі.

Так, сапраўды ў Першым стратэгічным эшалоне было ўсяго толькі каля трох мільёнаў жаўнераў і афіцэраў, але ж і горная лавіна пачынаецца із аднаго сняжка. Магутнасць Першага стратэгічнага эшалона імкліва нарастала.

Маршал Савецкага Звязу С. К. Куркоткін: «Вайсковыя часткі, ідучыя перад вайной да дзяржаўнай мяжы… павезлі з сабой увесь недатыкальны запас абмундыравання і абутку» (Тыл Савецкага Ўзброенага войска у Вялікай Айчыннай вайне. 1941-1945 гг. с. 216). Тут жа маршал паведамляе, што ў рэзерве цэнтра практычна не засталося ніякага абмундыравання і абутку. Гэта азначае, што дывізіі, карпусы і арміі цягнулі за сабой адзенне і абутак на мільёны рэзервістаў.

У разліку на што, акрамя як на неадкладнае прызванне мільёнаў?

Кажучы пра магутнасць Першага стратэгічнага эшалона, патрэбна мець на ўвазе не толькі тое, колькі мільёнаў жаўнераў у ім было, а патрэбна браць у разлік і тыя мільёны, якія Гітлер не дазволіў прызваць, апрануць і абуць паблізу ад мяжы. Пасоўванне армій Першага стратэгічнага эшалона загадзя старанна планавалася і ўвязвалася з дзеяннямі савецкай караючай машыны. Канчатковае рашэнне пра перасоўванне было прынята 13 траўня 1941 года. На наступны дзень, 14 траўня, было прынята рашэнне пра гвалтоўнае высяленне жыхароў заходніх памежных раёнаў. Ажыццяўленне планаў пачалося роўна праз месяц: 13 чэрвеня пачалося

ўсеагульнае пасоўванне армій да мяжы, 14 чэрвеня пачалося высяленне жыхароў памежнай паласы. Войска падыходзіла да мяжы праз некалькі дзён, калі там жыхароў ужо не было. Спыненне армій Першага стратэгічнага эшалона пры падыходзе да дзяржаўнай мяжы не планавалася, вось чаму савецкія памежнікі расчышчалі праходы ў сваіх загародах да самых памежных знакаў.

# Глава XIX

## Сталін у траўні.

«Сталін паставіў перад сабой у вобласьці вонкавай палітыкі мэту вялізнай важнасьці, якую ён спадзяецца дасягнуць асабістымі намаганнямі».

Граф фон Шуленберг. Сакрэтны даклад. 12 траўня 1941 г.

Для таго каб зразумець падзеі чэрвеня 1941 года, мы павінны непазбежна вярнуцца ў травень. Травень сарок першага – самы загадкавы месяц наогул на працягу усёй расійскай камуністычнай гісторыі. Кожны дзень і кожная гадзіна гэтага месяца напоўнены падзеямі, сэнс якіх яшчэ патрэбна разгадаць. Нават тыя падзеі, якія адбываліся на вачах ва ўсяго сьвету, яшчэ нікім не патлумачаны.

6 траўня 1941 года Сталін зрабіўся кіраўніком савецкага ўрада. Гэты крок збянтэжыў шмат каго. Із трафейных дакументаў мы ведаем, напрыклад, што германскае кіраўніцтва так і не змагло знайсьці ніякага задавальняючага тлумачэння гэтай падзеі. Упершыню за ўсю савецкую гісторыю афіцыйна самая высокая партыйная і дзяржаўная ўлада апынулася засяроджанай у адных руках. Аднак гэта зусім не азначала, што сталінскай асабістая дыктатуры набыла большую магутнасць. Хіба да гэтага ўся ўлада фактычна не была засяроджана ў руках Сталіна? Калі б улада вымяралася колькасьцю гучных тытулаў, то Сталін яшчэ дзесяць гадоў таму назад быў у стане сабраць пышную калекцыю разнастайных тытулаў. Але ён цалкам сьвядома гэтага не рабіў. Пачынаючы з 1922 года, заняўшы пост генеральнага сакратара, Сталін адмовіўся ад усіх дзяржаўных і ўрадавых пасад. Сталін паставіў сваю посаду над урадам і над дзяржавай. Ён кантраляваў усё, але афіцыйна ні за што не адказваў. Вось як яшчэ ў 1931 годзе Л. Троцкі апісваў механізм падрыхтоўкі камуністычнага перавароту ў Германіі: «У выпадку поспеху новай палітыкі ўсе Мануільскія і Рэмэле абвясьцілі б, што яе ініцыятыва належыць Сталіну. А на выпадак правалу Сталін захаваў бы поўную магчымасьць знайсьці вінаватага. Менавіта ў гэтым і складалася квінтэсэнцыя яго стратэгіі. У гэтай вобласьці ён моцны» (БО, №24, с. 12). (БО – «Бюлетэнь апазіцыі» (бальшавікоў-ленінцаў) №79-80, выдаваўся ў Берліне і Парыжы. – Рэд.)

Пераварот не адбыўся, і Сталін сапраўды знайшоў вінаватых і для прыкладу іх пакараў. Так ён кіруе і ў краіне: усе поспехі – ад Сталіна, усе правалы – ад ворагаў, ад прайдзісьветаў, ад прымазаўшыхся кар'ерыстаў, пераіначваючых генеральную лінію. «Перамога калгаснага ладу» – тварэнне сталінскага генію, а мільёны загінуўшых пры гэтым – «галавакружэнне ад поспехаў» у некаторай часткі адказных таварышаў раённага маштабу. Да Вялікага Ачышчэння Сталін ніякага дачынення не меў – яжоўшчына! І пакт з Гітлерам не Сталін падпісваў. Пакт увайшоў у гісторыю пад імёнамі Молатава і Рыбентропа. У Германіі за гэты пакт афіцыйную адказнасць нёс не столькі Рыбентроп, колькі Адольф Гітлер – канцлер, хаця пры падпісанні ён і не прысутнічаў. А вось Ёсіф Сталін, які прысутнічаў пры падпісанні, на той момант не меў ні дзяржаўных, ні ўрадавых пасад. Ён быў проста

як грамадзянін Ёсіф Сталін, не нададзены ніякімі дзяржаўнымі, урадавымі, вайсковымі ці дыпламатычнымі паўнамоцтвамі і, такім чынам, не адказваючы за тое, што адбываецца.

Дакладна так жа 13 красавіка 1941 года была падпісана дамова з Японіяй: Сталін прысутнічае, але адказнасьці за адбываючаяся не нясе. Вынік: пад час крытычнага для Японіі моманту Сталін наносіць удар у спіну знясіленай вайной Японіі. Сумленне Сталіна чыстае: ён дамову не падпісваў.

Але вось нешта адбылося (ці павінна адбыцца), і Сталін у траўні 41-га афіцыйна бярэ на сябе цяжар дзяржаўнай адказнасьці. Для Сталіна новы тытул – не ўзмацненне ўлады, а яе абмежаванне, больш дакладна – самаабмежаванне. З гэтага моманту ён не толькі прымае ўсе самыя важныя рашэнні, але і нясе за іх афіцыйную адказнасць. Да гэтага моманту ўлада Сталіна абмяжоўвалася толькі вонкавымі межамі Савецкага Звязу, ды і то не заўсёды. Што ж магло вымусіць яго самаахвотна ўскласьці на свае плечы цяжар адказнасьці за свае здзяйсненні, калі ён цалкам мог заставацца на вяршыні бязгрэшнасьці, аддаючы іншым магчымасць памыляцца?

Уся сітуацыя мне чымсьці нагадвае знакамітае паляванне Хрушчова на лася. Пакуль звер быў далёка, Мікіта пакрыкваў на егераў ды пасьмейваўся над сваім не вельмі трапкім госьцем Фідэлем Кастра, сам, аднак, не страляючы і нават стрэльбы ў руках не маючы. А калі звера прыгналі да паляўнічых і не патрапіць было ніяк немагчыма, вось тут Мікіта ўзяў у рукі стрэльбу… 17 гадоў не браў Сталін у свае рукі прылады дзяржаўнай улады, а тут раптам… Навошта?

Згодна са сведчаннем адмірала флота Савецкага Звязу М. Г. Кузняцова (у той час адмірал, наркам ВМФ ЗССР ): «Калі Сталін прыняў на сябе абавязкі Старшыні Рады Народных Камісараў, сістэма кіравання практычна не перамянілася» (ВІЖ, 1965, №9, с. 66). Калі практычна нічога не перамяняецца – навошта Сталіну патрэбны гэты тытул? А «між іншым усе ўчынкі, здзяйсненні, злачынствы Сталіна выяляюцца мэтанакіраванымі, лагічнымі і строга прынцыповымі». (А. Аўтарханаў. Загадка сьмерці Сталіна. с. 132).

Дзе ж сталінская логіка?

«Я не ведаю ніводнай праблемы, меўшай дачыненне да ўнутранай сітуацыі ў Савецкім Звязе і быўшай настолькі сур'ёзнай, каб мець наступствам такі крок з боку Сталіна. Я з вялікай упэўненасьцю магу сцвярджаць, што калі Сталін вырашыў заняць самую высокую дзяржаўную пасаду, то падставы гэтага патрэбна шукаць у вонкавай палітыцы». Так дакладаў свайму ўраду германскі пасланнік у Маскве фон Шуленбург. Савецкія маршалы выказваюцца іншымі словамі, але тое ж самае: прызначэнне Сталіна злучана з вонкавымі праблемамі (Маршал Савецкага Звязу І. Х. Баграмян. Так пачыналася вайна. с. 62). Але і без гэтага мы разумеем, што ўнутраныя праблемы Сталіну куды больш зручна вырашаць не ўскладаючы на сябе непатрэбную адказнасць. Якія ж вонкавыя праблемы маглі вымусіць яго пайсьці на такі крок?

У траўні 1941 года шмат якія дзяржавы Яўропы былі знішчаны Германіяй. Праблемы дачынення з Францыяй, напрыклад, проста не магло існаваць. Захаваўшая незалежнасць Вялікабрытанія працягвала Сталіну руку сяброўства (Ліст Чэрчыля перададзены Сталіну 1 ліпеня 1940 года). Рузьвельт ставіўся да Сталіна больш чым прыязна: папярэджваў пра небяспекі і амерыканскія тэхналогіі ўжо ліліся ракой у ЗССР. Верагодных супернікаў было толькі два. Але Японія, атрымаўшы ўяўленне пра савецкую вайсковую магутнасць у жніўні 1939 года,

толькі што падпісала дамову з Савецкім Звязам і накіравала свае позіркі ў накірунку, процілеглым савецкай мяжы. Такім чынам, толькі Германія магла быць нагодай вымусіўшай Сталіна зрабіць гэты, на першы погляд, незразумелы крок. Што ж мог распачаць Сталін у дачыненні да Германіі, выкарыстоўваючы свой новы афіцыйны тытул кіраўніка дзяржавы?

Існуе толькі тры магчымасьці:

— усталяваць трывалы і непарушны мір;

— афіцыйна ўзначаліць узброенае змаганне Савецкага Звязу пры адбіванні германскай агрэсіі;

— афіцыйна ўзначаліць узброенае змаганне Савецкага Звязу ў агрэсіўнай вайне супраць Германіі.

Першы варыянт адпадае адразу. Мір з Германіяй ужо падпісаны рукой Молатава. Заняўшы месца Молатава ў якасьці кіраўніка дзяржавы, Сталін не зрабіў ніякіх крокаў, для таго каб сустрэцца з Гітлерам і пачаць з ім перамовы. Сталін паранейшаму выкарыстоўвае Молатава для мірных перамоваў. Вядома, што нават 21 чэрвеня Молатаў спрабаваў сустрэцца з германскімі кіраўнікамі, а вось Сталін такіх спроб не рабіў. Гэта азначае, што ён заняў афіцыйную пасаду не дзеля таго, каб весьці мірныя перамовы.

Камуністычная прапаганда настойвае на другім варыянце: у прадбачанні нападу Германіі Сталін вырашыў асабіста і афіцыйна ўзначаліць абарону краіны. Але гэты нумар у таварышаў камуністаў не пройдзе: напад Германіі быў для Сталіна раптоўным і відавочна нечаканым. Атрымліваецца, што Сталін прыняў адказнасць у прадбачанні падзей, якіх ён не прадбачыў.

Давайце яшчэ раз паглядзім на паводзіны Сталіна пад час першых дзён вайны. 22 чэрвеня кіраўнік урада быў абавязаны звярнуцца да народа і абвясьціць жахлівую навіну. Але Сталін ухіліўся ад выканання сваіх прамых абавязкаў, якія выканаў яго намесьнік Молатаў.

Навошта ж у траўні патрэбна было садзіцца ў крэсла Молатава, каб у чэрвені хавацца за яго спіной?

Вечарам 22 чэрвеня савецкае камандаванне накіравала арміям дырэктыву.

Слова маршалу Г. К. Жукаву: «Генерал Н. Ф. Ватуцін паведаміў, што Ё. В. Сталін ухваліў праект дырэктывы №3 і загадаў паставіць мой подпіс… – Добра, – адказаў я, – стаўце мой подпіс» (Г. К. Жукаў. Успаміны і разважанні. с. 251).

Із афіцыйнай гісторыі мы ведаем, што гэтая дырэктыва выйшла за подпісамі «народнага камісара абароны маршала С. К. Цімашэнка, сябра рады сакратара ЦК ВКП(б) Г. М. Малянкова і кіраўніка Генеральнага штаба генерала Г. К. Жукава» (Гісторыя другой сусьветнай вайны (1939-1945). Т. 4, с. 38).

Такім чынам, Сталін вымушае іншых падпісаць загад, ухіляючыся ад асабістай адказнасьці. Навошта ж ён браў яе на сябе ў траўні? Выдаецца загад узброенаму войску знішчыць уварваўшагася суперніка. Дакумент найвялікшай важнасьці. Пры чым тут «сябра Рады сакратара»?

На наступны дзень абвешчаны склад Стаўкі Вярхоўнага Галоўнага Кіравання. Сталін адмовіўся яе ўзначаліць, пагадзіўшыся ўвайсьці ў гэты самы высокі орган вайсковага кіравання толькі на правах аднаго із сябраў. «Пры існуючым становішчы, так ці інакш, без Сталіна наркам С. К. Цімашэнка самастойна не быў у стане прымаць прынцыповыя рашэнні. Атрымалася два галоўнакамандуючых: наркам С. К. Цімашэнка – юрыдычны, у адпаведнасьці з пастановай, і Ё. В. Сталін – фактычны» (Г. К. Жукаў. Там жа). У абарончай вайне

Сталін карыстаецца сваім выпрабаваным метадам кіравання: прынцыповыя рашэнні прымае ён, а афіцыйную адказнасць нясуць Молатавы, Малянковы, Цімашэнкі, Жукавы. Толькі праз месяц сябры Палітбюро вымусілі Сталіна афіцыйна заняць пасаду Наркама абароны, а 8 жніўня – пасаду Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. Ці мела сэнс для Сталіна «ў прадбачанні абарончай вайны» браць на сябе адказнасць, для таго каб з першага ж моманту такой вайны энергічна ад адказнасьці ўхіляцца? Ведаючы пра манеру Сталіна кіраваць справамі пад час першага месяца абарончай вайны, слушна было б выказаць здагадку, што напярэдадні яе, ён паспрабуе не браць на сябе ніякіх тытулаў і ніякай адказнасьці, вылучыўшы на дэкаратыўныя пасады другарадных урадоўцаў, цалкам ім кантраляюмых. Такім чынам, другое тлумачэнне нас таксама не можа задаволіць. Таму мы вымушаны прытрымлівацца трэццяй версіі, якую пакуль яшчэ ніхто не змог аспрэчыць: рукамі Гітлера Сталін знішчыў Яўропу і зараз рыхтуе раптоўны ўдар у спіну Германіі. «Вызваляючы паход» Сталін мае намер узначаліць асабіста ў якасьці кіраўніка савецкага ўрада.

Камуністычная партыя рыхтавала савецкі народ і войска да таго, што загад пачаць вызваляючую вайну ў Яўропе Сталін дась асабіста. Камуністычныя фальсіфікатары пашырылі версію пра тое, што Чырвонае Войска рыхтавала «контрудары». Ні пра якія контрудары тады гаворка не ішла. Савецкі народ ведаў, што рашэнне пачаць вайну будзе прынята ў Крамлі. Вайна пачнецца не нападам нейкага ворага, а адпаведна са сталінскім загадам: «І калі маршал рэвалюцыі таварыш Сталін дась сігнал, сотні тысяч пілотаў, штурманаў, парашутыстаў абрынуцца на галаву ворага ўсёй магутнасьцю сваёй зброі, зброі сацыялістычнай справядлівасьці. Савецкае паветранае войска панясе шчасьце чалавецтву!» Гэта гаварылася ў момант, калі Чырвонае Войска ўжо ўпёрлася ў межы Германіі («Праўда», 18 жніўня 1940 года), і несьці шчасьце чалавецтву існавала магчымасць толькі праз германскую тэрыторыю і абвальваць магутнасць зброі сацыялістычнай справядлівасьці ў жніўні 1940 года можна было, перадусім, на германскія галовы.

Займаючы пасаду Генеральнага сакратара, Сталін мог даць які заўгодна загад і гэты загад неадкладна і дакладна выконваўся. Але кожны загад Сталіна быў неафіцыйным, вось у гэтым і складалася сталінская непераможнасць і непаграшымасць. Зараз гэтае становішча Сталіна больш не задавальняе. Яму патрэбна даць загад (Галоўны Загад яго жыцця), але так, каб афіцыйна гэта быў сталінскі загад.

Згодна са сведчаннем Маршала Савецкага Звязу К. К. Ракасоўскага (Жаўнерскі абавязак, с. 11), кожны савецкі камандыр у сваім сейфе меў «асобны сакрэтны аператыўны пакет» – «Чырвоны пакет Літар М». Раскрыць Чырвоны пакет можна было толькі пасьля загаду Старшыні Саўнаркама (да 5 траўня 1941 года – Вячаслаў Молатаў) ці Наркама абароны ЗССР (Маршал Савецкага Звязу С. К. Цімашэнка). Але, згодна са сведчаннем Маршала Савецкага Звязу Г. К. Жукава, Цімашэнка «без Сталіна ўсё адно прынцыповых рашэнняў прынімаць не мог». Так Сталін заняў пасаду Молатава, для таго каб Галоўны Загад выходзіў не ад Молатава, а ад Сталіна.

Пакеты ляжаць у сейфах кожнага камандыра, але 22 чэрвеня 1941 года Сталін не даў загаду расчыніць Чырвоныя пакеты. Згодна са сведчаннем Ракасоўскага, некаторыя камандыры на свой страх і рызыку (за самавольнае ўскрыванне Чырвонага пакета было прызнача сьмяротнае пакаранне згодна з 58-м артыкулам) самі ўскрылі Чырвоныя пакеты. Але яны там нічога годнага для

абароны не знайшлі. «Вядома, у нас існавалі падрабязныя планы і загады пра тое, што рабіць пад час дня „М“… усё было распісана па хвілінах і ў дэталях… Усе гэтыя планы існавалі. Але, на жаль, у іх нічога не гаварылася пра тое, што рабіць, калі супернік раптоўна пяройдзе ў наступленне» (Генерал-маёр М. Грэцаў. ВІЖ, 1965, №9, с. 84).

Такім чынам, планы вайны ў савецкіх камандыраў існавалі, але планаў абарончай вайны не было. Самае высокае савецкае кіраўніцтва пра гэта ведае. Вось чаму на працягу першых хвілін і гадзін вайны самае высокае савецкае кіраўніцтва замест кароткага загаду ўскрыць пакеты займаецца імправізацыяй – складае новыя дырэктывы войску. Усе планы, усе пакеты, усё, «распісанае ў дэталях і па хвілінах», ва ўмовах абарончай вайны больш не патрэбна.

Дарэчы, першыя дырэктывы самага высокага савецкага кіраўніцтва таксама не арыентуюць войска на тое, каб закапацца ў зямлю. Гэта таксама не абарончыя, і не контрнаступальныя, а чыста наступальныя дырэктывы. Савецкія кіраўнікі думаюць і плануюць толькі гэтымі катэгорыямі, нават пасьля вымушанага пачатку абарончай вайны. Чырвоныя пакеты маюць вельмі рашучы характар, але ў нявызначаным становішчы патрэбна трохі стрымаць наступальны парыў войска да поўнага высвятлення таго, што здарылася. Вось чаму першыя дырэктывы носяць наступальны характар, але тон іх стрымліваючы: наступаць, але не так як гэта патрубуюць Чырвоныя пакеты!

У нявызначаным становішчы Сталін рызыкаваць не жадае, вось чаму на самых галоўных дырэктывах «вялікай айчыннай вайны» – дырэктывах пачаць вайну, няма подпісу Сталіна. Ён рыхтаваўся выканаць ганаровы абавязак – падпісаць іншыя дырэктывы, у іншым становішчы – падпісаць дырэктывы не на вымушаную абарончую вайну, а на вызвольную місію народаў сьвету.

Гітлер чытаў тэлеграмы мудрага Шуленбурга, ды і сам, напэўна, таксама разумеў, што Сталін спадзяецца «ў вобласьці вонкавай палітыкі дасягнуць мэты вялізнай важнасьці асабістымі намаганнямі». Гітлер разумеў, наколькі гэта небяспечна, і забраў у Сталіна гэтую магчымасць. Вось чаму на першых дырэктывах нечаканай для Сталіна і вымушанай абарончай вайны з'яўляецца подпіс «сябра рады сакратара».

Уступаючы на пасаду, кожны кіраўнік урада абвяшчае праграму сваёй дзейнасьці. А Сталін? І Сталін. Праўда, прамова Сталіна, якая можа лічыцца праграмнай, была вымаўлена, але ніколі не друкавалася.

5 траўня 1941-га, калі прызначэнне Сталіна было прадвызначана (а магчыма ўжо і здзейснілася), ён выступае з Прамовай у Крамлі на прыёме ў гонар выпускнікоў вайсковых акадэмій. Сталін гаворыць 40 хвілін. Улічваючы сталінскую здольнасць маўчаць, – 40 хвілін гэта незвычайна шмат. Гэта неверагодна шмат. Сталін выступаў перад выпускнікамі вайсковых акадэмій зусім не кожны год. За ўсю гісторыю такіх выступаў было толькі два. Першы раз – у 1935 годзе: Кіраў забіты некалькі месяцаў назад, над краінай занесена карніцкая сякера, таемна рыхтуецца Вялікае Ачышчанне, а таварыш Сталін выказвае перад выпускнікамі вайсковых акадэмій прамову: кадры вырашаюць усё. Наўрад ці хто тады змог зразумець сапраўдны сэнс сталінскіх слоў. А Сталін задумаў не што іншае як амаль пагалоўную замену сваіх кадраў з крывавым фіналам для большасьці сталінскіх слухачоў.

А ў траўні 1941 года Сталін у другі раз паведамляе нешта важнае выпускнікам вайсковых акадэмій. Зараз задумваецца больш сур'ёзная і больш

цёмная справа і таму сталінская прамова гэтым разам сакрэтная. Прамова Сталіна ніколі не друкавалася і гэта дадатковая гарантыя яе важнасьці. Сталін выказваўся пра вайну. Пра вайну з Германіяй. У савецкіх крыніцах са спазненнем на 30-40 гадоў з'явіліся спасылкі на гэтую прамову. «Генеральны сакратар ЦК ВКП (б) Ё. В. Сталін, выступаючы 5 траўня 1941 года з прамовай на прыёме выпускнікоў вайсковых акадэмій, даў яскрава зразумець, што германскае войска з'яўляецца найбольш верагодным супернікам» (ВІЖ, 1978, №4, с. 85). Гісторыя другой сусьветнай вайны (Т. 3, с. 439) сведчыць, што Сталін выказваўся пра вайну, і менавіта пра вайну з Германіяй. Маршал Савецкага Звязу Г. К. Жукаў ідзе трохі далей. Ён паведамляе, што Сталін адпаведна са сваёй звычайнай манерай задаваў пытанні і сам на іх адказваў. Сталін задаў сярод іншых пытанне пра тое, ці з'яўляецца германскае войска непераможным, і адказаў адмоўна. Сталін называў Германію агрэсарам, захопнікам, заваёўнікам іншых краін і народаў і прадракаў, што для Германіі такая палітыка поспехам не закончыцца (Успаміны і разважанні. с. 236).

Залатыя словы. Але чаму іх трымаюць у сакрэце? Зразумела, што ў траўні 1941 года Сталіну было нязручна свайго суседа называць агрэсарам і захопнікам. Але праз паўтары месяцы Гітлер напаў на ЗССР, і травеньскую прамову Сталіна патрэбна было тэрмінова надрукаваць. Патрэбна было выступіць перад народам і сказаць: браты і сёстры, а я ж такое развіццё падзей прадбачыў і сваіх афіцэраў таемна папярэджваў яшчэ 5 траўня. У зале акрамя выпускнікоў акадэмій сядзелі ўсе самыя высокія вайскоўцы і палітычныя лідары краіны, і кожны можа гэта пацвердзіць, а вось і стэнаграма маёй прамовы…

Але не, не згадаў Сталін пра сваю прамову і слухачоў у сведкі не паклікаў. Скончылася вайна, Сталіна ўзвялі ў ранг генералісімуса і абвясьцілі самым мудрым са стратэгаў. Вось тут бы сталінскім лакеям згадаць прамову ад 5 траўня 1941 года: ён, маўляў, нас папярэджваў яшчэ ў траўні, ах, калі б мы былі годнымі свайго вялікага настаўніка! Але ніхто пра прамову не згадаў пры жыцці Сталіна. Згадалі нашмат пазьней, але друкаваць не пажадалі. Для гэтага існуе толькі адно тлумачэнне: 5 траўня 1941 года Сталін выказваўся пра вайну супраць Германіі, а пра магчымасьць германскага нападу НЕ згадваў. Сталін разважаў пра вайну супраць Германіі БЕЗ германскага нападу на ЗССР, а з боку гледжання нейкага іншага сцэнарупачатку вайны.

Сталінскія творы да гэтага трымаюць першынство ў сьвеце па колькасьці надрукаваных тамоў. Надрукавана шмат чаго, нават нататкі на палях чужых кніг: усё гэта каштоўныя крыніцы мудрасьці, а вось прамова пра вайну з Германіяй так і засталася сакрэтнай на шмат дзесяцігоддзяў. Мала таго, распрацаваны асобныя захады для таго, каб пра гэтую прамову забыліся назаўсёды. Адразу пасьля вайны мільёнными тыражамі на шматлікіх мовах была надрукавана кніга Сталіна «Пра Вялікую Айчынную вайну». Кніга пачынаецца выступам Сталіна па радыё 3 ліпеня 1941 года. Прызначэнне кнігі зразумелае: убіць нам у галаву ідэю, што Сталін пачаў выказвацца пра савецка-германскую вайну толькі пасьля германскага ўварвання і выказваўся ён толькі пра абарону. А Сталін жа пачаў выказвацца пра абарончую вайну пасьля германскага ўварвання, а да яго ён выказваўся не пра абарону, а пра нешта іншае.

Цікава, пра што?

Мы ўжо ведаем, што пасьля падпісання пакта Молатава-Рыбентропа выбітныя савецкія вайскаводы Жукаў і Мерацкоў, выбітны паліцэйскі лідар усіх

часоў і народаў Лаўрэн Берыя зрабілі вельмі шмат для разбурэння ўсяго, што было злучана з абаронай савецкай тэрыторыі. Але вось Сталін загаварыў пра вайну з Германіяй. Загаварыў на сакрэтнай нарадзе, але так, каб яго чулі ўсе выпускнікі вайсковых акадэмій, усе генералы, усе маршалы. Што ж у гэтай сітуацыі будуць рабіць Жукаў, Мерацкоў, Берыя? Пэўна што, на межах пачнуць усё ж усталёўваць міны, калючы дрот, мінаваць масты? Не. Якраз наадварот. «Напачатку траўня 1941 гады, пасьля выступлення Сталіна на прыёме выпускнікоў вайсковых акадэмій, усё, што рабілася па наладжванню загарод і мінаванню, пачало яшчэ больш тармазіцца» (Старынаў. с. 186).

Калі мы не верым палкоўніку ГВК Старынаву і яго сапраўды выдатнай кнізе, мы можам звярнуцца да германскіх архіваў і там знайсьці тое ж самае: германская выведка, па ўсёй бачнасьці, ніколі не здабыла поўнага тэксту сталінскай прамовы, але грунтуючыся на шматлікіх ускосных і прамых прыкметам германская выведка зрабіла выснову, што Прамова Сталіна 5 траўня 1941 года – гэта Прамова пра вайну з Германіяй. Тая ж германская выведка назірала за знішчэннем савецкіх мінных палёў і іншых загарод у траўні і чэрвені 1941 года.

Знішчэнне загарод на мяжы – гэта патрэбны элемент апошніх прыгатаванняў да вайны. Не да абарончай вайны, вядома…

Травень 1941 года – гэта рэзкі паварот ва ўсёй савецкай прапагандзе. Да гэтага камуністычныя газеты славілі вайну і радаваліся таму, што Германія знішчае ўсё больш і больш дзяржаваў, урадаў, войскаў, палітычных партый. Савецкае кіраўніцтва проста ў захапленні: «Сучасная вайна ва ўсім яе жахлівым харастве!» («Праўда», 19 жніўня 1940 года).

Ці вось апісанне Яўропы ў вайне: «трупная звалка, парнаграфічнае відовішча, дзе шакалы рвуць шакалаў» («Праўда», 25 снежня 1939 года). На гэтай жа старонцы – прывітальная сяброўская тэлеграма Сталіна Гітлеру. Камуністы пераконваюць нас, што Сталін верыў Гітлеру і жадаў з ім сяброўства, а ў якасьці доказу паказваюць нам на сталінскую тэлеграму ад 25 снежня: «Кіраўніку Германскай дзяржавы спадару Адольфу Гітлеру». Дык вось, непасрэдна пад сяброўскай сталінскай тэлеграмай – «шакалы рвуць шакалаў». Гэта ж і пра Гітлера сказана! Якія ж яшчэ шакалы рвуць адзін аднаго на трупнай звалцы Яўропы?

І раптам усё перамянілася.

Вось тон «Праўды» на наступны дзень пасьля сталінскай сакрэтнай прамовы: «За межамі нашай радзімы шугае полымя Другой Імперыялістычнай вайны. Увесь цяжар яе незлічоных бедстваў кладзецца на плечы працоўных. Народы не хочуць вайны. Іх позіркі накіраваны ў бок краіны сацыялізму, пажынаючай плады мірнай працы. Яны справядліва бачаць ва ўзброенай магутнасьці нашай Радзімы – у Чырвоным войску і Вайскова-Марскім флоце – надзейную апору міру… У сучасным складаным міжнародным становішчы патрэбна быць гатовым да розных нечаканасьцей…» («Праўда», 6 траўня 1941 года, перадавы артыкул).

Вось як! Спачатку Сталін пактам Молатава-Рыбентропа адкрыў шлюзы Другой Сусьветнай вайны і цешыўся, бачачы, як «шакалы рвуць шакалаў», а вось зараз згадаў і пра народы, якім захацелася міру і якія з надзеяй пазіраюць на Чырвонае войска!

Сам Сталін у сакавіку 1939 года абвінавачвае Вялікабрытанію і Францыю ў тым, што яны маюць жаданне зацягнуць Яўропу ў вайну, самім застаючыся збоку ад яе, а потым «выступіць на падмосткі са свежым войскам, выступіць, вядома, „у

інтарэсах міру“ і прадыктаваць саслабелым удзельнікам вайны свае ўмовы» (Ё. В. Сталін. Даклад 10 сакавіка 1939 года).

Што там ладзілі «імперыялісты», я не ведаю. Але на падпісанні пакта, які быў ключом да вайны, быў толькі адзін лідар – Сталін. Пры падпісанні пакта пра пачатак войны ні японскія, ні амерыканскія, ні брытанскія, ні французскія лідары не прысутнічалі. Нават германскі канцлер – і той адсутнічаў. А Сталін там быў. І менавіта Сталін заставаўся пакуль збоку ад вайны. І менавіта ён зараз загаварыў пра Чырвонае войска, якое можа спыніць крovапраліцце!

Зусім нядаўна, 17 верасня 1939 года, Чырвонае Войска нанесла раптоўны ўдар па Польшчы. На наступны дзень па радыё савецкі ўрад патлумачыў, чаму: «Польшча стала зручным плацдармам для розных выпадковасьцей і нечаканасцей, могучых стварыць пагрозу для ЗССР … Савецкі ўрад больш не можа нейтральна ставіцца да гэтых фактаў… З нагоды такога становішча савецкі ўрад аддаў загад Галоўнаму кіраўніцтву Чырвонага войска даць загад арміям перайсьці мяжу і ўзяць пад сваю абарону жыццё і маёмасць насельніцтва…» («Праўда», 18 верасня 1939 года).

Тут бы самы час задаць пытанне: «Хто ж ператварыў Польшчу ў „зручны плацдарм для розных выпадковасьцей“? Але пра гэта – у наступнай кнізе.

Цынізм Молатава (і Сталіна) не мае межаў. Гітлер прыйшоў у Польшчу «пашыраць жыццёвую прастору для немцаў». А Молатаў – для іншай мэты: «Каб вызваліць польскі народ ад злапомнай вайны, куды ён быў зацягнуты неразумнымі кіраўнікамі, і даць яму магчымасьць зажыць мірным жыццём» (там жа).

Але і ў наш час савецкія камуністы не перамянілі свае думкі пра характар тых падзей. У 1970 годзе выйшаў афіцыйны зборнік дакументаў па гісторыі савецкага памежнага войска (Памежнае войска ЗССР. 1939 – чэрвень 1941). Напрыклад, дакумент №192 сцвярджае, што савецкія дзеянні ў верасні 1939 года мелі на мэце «дапамагчы польскаму народу выйсьці із вайны».

Савецкі Звяз усім і заўсёды «безкарыслівa» дапамагаў знайсьці шлях да міру. Вось 13 красавіка 1941 года Молатаў падпісвае пакт пра нейтралітэт з Японіяй: «падтрымліваць мірныя і сяброўскія дачыненні і ўзаемна захоўваць тэрытарыяльную цэласць і недатыкальнасць… у выпадку, калі адзін із дамоўляючыхся бакоў апынецца аб'ектам вайсковых дзеянняў з боку адной ці некалькіх трэцціх дзяржаваў, другі дамоўляючыся бок будзе прытрымлівацца нейтралітэту на працягу ўсяго канфлікту».

Калі Сталін знаходзіўся на краю пагібелі, Японія слова сваё стрымала. Але вось Японія – на краі пагібелі. Чырвонае Войска наносіць раптоўны знішчаючы ўдар. Пасьля гэтага савецкі ўрад абвяшчае: «Такая палітыка з'яўляецца адзіным сродкам, здольным наблізіць наступленне міру, вызваліць народы ад далейшых ахвяр і пакут і даць магчымасьць японскаму народу пазбавіцца ад небяспек і разбурэнняў…" (Заява савецкага ўрада ад 8 жніўня 1945 года). Патрэбна пазначыць, што фармальна заява была зроблена 8 жніўня, а савецкае войска здзейсніла ўдар 9 жніўня. На практыцы ўдар наносіўся грунтуючыся на мясцовым часе на Далёкім Усходзе, а заява была зроблена праз некалькі гадзін пасьля гэтага ў Маскве згодна з маскоўскім часам.

На вайсковай мове гэта называецца: «Падрыхтоўка і нанясенне раптоўнага першапачатковага ўдару з адкрыццём новага стратэгічнага фронту» (Генерал армія С. П. Іваноў. Пачатковы перыяд вайны. с. 281). На палітычнай мове гэта

называецца: «Справядлівы і гуманны акт ЗССР» (Палкоўнік А. С. Савін. ВІЖ, 1985, №8, с. 56).

Маршал Савецкага Звязу Р. Я. Маліноўскі пасьля нанясення першага знішчаючага ўдару звярнуўся да свайго войска: «Савецкі народ не можа спакойна жыць і працаваць, пакуль японскія імперыялісты бразгаюць зброяй каля нашай далёкаўсходняй мяжы і чакаюць зручнага моманту, каб напасьці на нашу Радзіму» («Камуніст», 1985, №12, с. 85). Савецкія маршалы заўсёды баяцца, што нехта на іх нападзе. Маліноўскі вымавіў гэтыя словы 10 жніўня 1945 года. Хірасімы ўжо няма, і Маліноўскі пра гэта ведае. Няўжо «японскім імперыялістам» пасьля Хірасімы больш няма чым заняцца, як «чакаць зручнага моманту»?

Сучасныя савецкія публікацыі (напрыклад, ВІЖ, 1985, №8) настойваюць, што «ўступленне ЗССР у вайну з Японіяй адпавядала таксама інтарэсам японскага народа…» «Савецкі Звяз меў на мэце пазбавіць народы Азіі, у тым ліку і японскі, ад далейшых ахвяр і пакут…»

У траўні 1941 года савецкая прэса раптам загаварыла пра тое, што народы Яўропы жадаюць міру і з надзеяй глядзяць на Чырвонае войска. Гэта быў той жа тон, тыя ж словы, вымаўляўшыяся перад кожным камуністычным «вызваленнем».

На прыканцы 1938 года завяршылася Вялікае ачышчанне ў Савецкім Звязе. Наступіў новы этап. Новыя часы – новыя мэты – новыя лозунгі. У сакавіку 1939 года Сталін упершыню загаварыў пра тое, што патрэбна рыхтавацца да нейкіх «нечаканасьцей», і не ў краіне, а на міжнароднай арэне. У жніўні 1939 года Сталін здзяйсняе першую няспадзяванку, першую «нечаканасць», ад якой ахнуў не толькі ўвесь савецкі народ, але і ўвесь сьвет: пакт Молатава-Рыбентропа. Тут жа германскае, а за ім і савецкае войска ўступаюць у Польшчу. Афіцыйнае савецкае тлумачэнне: «Польшча ператварылася ў падставу для розных нечаканасьцей». Што ж, гэтая пагроза ліквідавана безкарыслівым актам савецкага ўрада, Чырвонага вайска і НКУС. Але Сталін заклікае быць гатовымі «да новых нечаканасьцей», таму што «міжнароднае становішча робіцца ўсё больш і больш заблытаным».

Здавалася б, чаго ж прасьцей: мір з Германіяй падпісаны, дзе ж заблытанасць сітуацыі? Але Сталін настойліва паўтарае сваю перасьцярогу не верыць уяўнай прастаце, быць гатовымі да нечаканасьцей, да нейкіх рэзкіх паваротаў і змен.

Травень 1941 года – гэта месяц, калі лозунг «быць гатовым да нечаканасьцей» раптам загрымеў набатам па ўсёй краіне. Ён загрымеў пачынаючы з першага дня траўня з самай першай старонкі «Праўды» і быў тысячаразова паўтораны ўсімі іншымі газетамі, сотнямі тысяч галасоў камісараў, палітпрацаўнікоў, прапагандыстаў, тлумачыўшых лозунг Сталіна масам. Заклік «быць гатовым да нечаканасьцей» загучаў у загадзе Наркама абароны №191, абвешчаным «ва ўсіх ротах, батарэях, эскадрах, эскадрыллях і на караблях».

Магчыма, гэта Сталін папярэджвае краіну і войска пра магчымасьць раптоўнага германскага нападу? Не, вядома. Для самога Сталіна германскі напад быў поўнай нечаканасьцю. Не мог жа ён папярэджваць пра небяспеку, якую сам не прадбачыў!

22 чэрвеня 1941 года ўсе размовы пра нечаканасьці спыніліся, і гэты лозунг больш ніколі не паўтараўся. У сучасных савецкіх публікацыях цалкам няма ніякіх згадванняў пра лозунг «рыхтуйцеся да нечаканасьцей». Хаця гэта адзін із самых гучных матываў савецкай прапаганды «перадваеннага перыяду».

На першы пагляд дзіўна, што сам Сталін ніколі потым пра свой лозунг не згадваў. А ён жа мог дзе-нідзе сказаць: Гітлер напаў раптоўна, а я ж вас

папярэджваў быць гатовымі да нечаканасьцей! Але Сталін ніколі гэтага так і не сказаў. Маршал Цімашэнка мог бы аднойчы нагадаць пасьля вайны: памятаеце загад №191? Я вас нават у загадзе папярэджваў! Сучасныя савецкія гісторыкі і партыйныя бюракраты (не называючы імя Сталіна і Цімашэнка) маглі б патлумачыць: вось якая ў нас мудрая партыя! На старонках сваёй цэнтральнай газеты амаль ці не кожны дзень заклікала рыхтавацца да нечаканасьцей! Але ні Сталін, ні Цімашэнка, ні нехта іншы, ніводнага разу не згадалі пра набатны лозунг траўня і чэрвеня 1941 года. Чаму ж? Ды таму, што пад лозунгам «рыхтуйцеся да нечаканасьцей» разумелася не германскае ўварванне, а нешта процілеглае. Пад лозунгам «рыхтуйцеся да нечаканасьцей» чэкісты не ставілі міны на межах, а здымалі іх і ведалі, што гэта і ёсць падрыхтоўка да Цэнтральнай нечаканасьці XX стагоддзя.

Савецкая прэса, заклікаючы войска і народ быць гатовымі да нечаканасьцей міжнароднага маштабу, ніколі не асацыявала гэты заклік з магчымасьцю замежнага ўварвання і абарончай вайны на сваёй тэрыторыі.

Для таго каб мець уяўленне пра сапраўднае значэнне лозунга, мы, вядома, павінны адкрыць першую старонку газеты «Праўда» ад Першага траўня 1941 года. Менавіта гэтая старонка задала тон усяму шматгалосаму хору, які проста паслухмяна паўтараў сольнае выступленне «Праўды».

Такім чынам, «Праўда» №120 (8528) ад 1 траўня 1941 года. На галоўнай першай старонцы газеты сярод шматлікіх пустазвонных фраз усяго дзьве цытаты. Абедзьве Сталіна.

Першая – на самым пачатку перадавога артыкула: «Тое, што ажыццёўлена ў ЗССР, можа быць ажыццёўлена і ў іншых краінах" (Сталін).

Другая – у загадзе Наркама абароны пра гатовасць да выпадковасьцей і «фокусаў» нашых вонкавых ворагаў (таксама Сталін).

Усё астатняе на першай старонцы: пра жорсткую вайну, ахапіўшую Яўропу, пра пакуты працоўных, пра іхнае імкненне да міру і надзеі на Чырвонае войска. У гэтым ключы другая цытата дапаўняе першую.

Шмат выказваецца першая старонка пра савецкія намаганні захаваць мір, але ў якасьці прыкладу суседа, з якім, нарэшце ўсталяваны нармальныя адносіны, прыводзіцца Японія (яе час пакуль не настаў), а вось Германія сярод добрых сяброў ужо не лічыцца.

Вядома, паводле «Праўды», вораг – хітры і падступны, і мы адкажам на яго падкопы, але не ў сэнсе абароны сваёй тэрыторыі, а ў сэнсе вызвалення народаў Яўропы ад бедстваў крывапралітнай вайны.

Вось у прадбачанні такіх нечаканасьцей праз пяць дзён пасьля пачатку грымотнай кампаніі ва ўсіх савецкіх газетах Сталін прыняў пасаду кіраўніка ўрада і вымавіў сваю сакрэтную прамову, у якой назваў Германію галоўным супернікам.

У траўні 1941 года Сталін прыняў дзяржаўную адказнасць у прадбачанні «нечаканасьцей». У чэрвені Гітлер напаў, але гэта была такая «нечаканасць», якая вымусіла Сталіна інтэнсіўна адкрэшчвацца ад дзяржаўнай адказнасьці.

Відавочна, што Сталін рыхтаваўся не да германскага ўварвання, а да «нечаканасьцей» процілеглага характару.

# Глава XX

## Слова і справа.

«Словы не заўсёды адпавядаюць справам».
Я.Молатаў, із размовы з Гітлерам, 13 лістапада 1940 г.

У сваёй сакрэтнай прамове 5 траўня 1941 гады Сталін заявіў, што «вайна з Германіяй пачнецца не раней 1942 года». Гэтая фраза – найбольш вядомы фрагмент сталінскай сакрэтнай прамовы. З вышыні нашага сучаснага ведання наступных падзей сталінская памылка відавочна. Але не будзем спяшацца смяяцца над сталінскімі памылкамі.

Звернем увагу вось на што, Сталін выказвае сакрэтную прамову, якая ніколі не друкавалася. Калі прамова сакрэтная, то, напэўна, Сталін зацікаўлены ў тым каб утаіць свае сакрэты ад суперніка. Але ў Крамлі Сталіна слухаюць УСЕ выпускнікі ЎСІХ вайсковых акадэмій і ЎСЕ выкладчыкі ЎСІХ вайсковых акадэмій, і самае высокае як палітычнае кіраўніцтва краіны, так і вайсковае кіраўніцтва Чырвонага войска. У дадатак да ўсяго змест сакрэтнай сталінскай прамовы быў даведзены да ведама ўсіх савецкіх генералаў і ўсім палкоўнікаў.

Генерал-маёр Б. Трам: «У сярэдзіне траўня 1941 года Старшыня Цэнтральнай рады ТДАВІХІМА[12] генерал-маёр авіяцыі П. П. Коблеў сабраў кіруючых асоб Цэнтральнай рады і давёў да нас асноўныя думкі прамовы Ё. В. Сталіна, вымаўленай ім на ўрадавым прыёме выпускнікоў вайсковых акадэмій у Крамлі» (ВІЖ, 1980, №6, с. 52).

З аднаго боку – прамова Сталіна сакрэтная, з другога – яе змест ведаюць тысячы людзей. Ці ёсць тлумачэнне такому парадоксу? Ёсць.

Із успамінаў Адмірала Флота Савецкага Звязу Н. Г. Кузняцова мы ведаем, што пасьля прызначэння Г. К. Жукава кіраўнікам Генеральнага штаба, была распрацавана «вельмі важная дырэктыва, накіроўваючая камандуючых вайсковых акруг і флатоў на Германію, як на самага верагоднага суперніка ў будучай вайне» (Напярэдадні. с. 313).

Два месяцы дырэктыва знаходзілася ў Генеральным штабе, а 6 траўня 1941 года была перададзена ў штабы памежных вайсковых акруг для выканання. Існуе шмат сведчанняў, што яна была ў той жа дзень атрымана штабамі. Пра гэта, напрыклад, сведчыць Маршал Савецкага Звязу І. Х. Баграмян. Савецкія маршалы пра гэтую вельмі сакрэтную дырэктыву часта згадваюць, але не цытуюць яе. За палову стагоддзя ў друк із усёй гэтай вельмі сакрэтнай дырэктывы прасачылася толькі адна фраза: «…быць гатовымі згодна з загадам Галоўнага камандавання нанесьці імклівыя ўдары накіраваныя на разгром суперніка, перанесьці баявыя дзеянні на яго тэрыторыю і захапіць важныя рубяжы» (В. А. Анфілаў. Векапомны вычын. с. 171).

Будзь у той дырэктыве хаця б адно слова пра абарону, маршалы і камуністычныя гісторыкі не прамінулі б яго цытаваць. Але ўвесь астатні тэкст дырэктывы ад 5 траўня для цытавання ніяк не падыходзіць. Дырэктыва застаецца вельмі сакрэтнай нават праз палову стагоддзя пасьля завяршэння вайны.

Савецкая цэнзура прапусьціла толькі адну фразу, але і яна адна цалкам асьвятляе сэнс усяго так старанна хаваемага дакумента. Справа ў тым, што абарончую вайну жаўнер пачынае без загаду. Сотнямі гадоў рускі ваяр пачынаў войны з агрэсарамі, не чакаючы загадаў зверху. Супернік пераходзіць памежную раку, і гэта азначае для жаўнера пачатак вайны. Мяжу Расіі пераходзілі вялізныя войскі заваёўнікаў, і кожны раз пачынаючы ад дагістарычных часоў рускі ваяр, як і ваяр кожнай іншай краіны, ведае, што пераход мяжы суперніkам азначае вайну, і

[12] Таварыства Дапамогі Авіяцыі і хімічнай прамысловасьці (па-руску ОСОВИОХИМ)

дзейнічае не чакаючы загадаў. Вартавая служба на тое і прыдумана, каб кожнага жаўнера шмат разоў паставіць у сітуацыю, у якой ад яго патрабуецца самастойнае рашэнне на ўжыванне зброі. Права і абавязак жаўнера – забіваць кожнага, хто паспрабуе пракрасьціся на ахоўваемы аб'ект. Савецкія законы асабліва старанна ахоўваюць права кожнага жаўнера на самастойнае ўжыванне зброі і тыя ж законы жорстка караюць кожнага жаўнера, які не скарыстаўся сваёй зброяй у выпадку, калі гэтага патрабавалі акалічнасьці.

Жаўнер на дзяржаўнай мяжы – гэта жаўнер на баявой варце. У абарончай вайне яму не патрэбны загады і дырэктывы.

Нармальны пачатак абарончай вайны – гэта сітуацыя, калі азяблы за ноч жаўнер ужо збіраецца загарнуцца ў шынель і заснуць, папярэдне штурхнуўшы нагой свайго зменшчыка, але раптам праціраае вочы і бачыць супернікаў пераходзячых раку. Жаўнер адкрывае беглы агонь па супастату і стралянінай падымае трывогу. Прачынаецца камандыр аддзялення, сварыцца спрасонку і, зразумеўшы што адбываецца, гоніць астатніх сваіх жаўнераў у траншэю. А па ўсёй мяжы на сотні кіламетраў ужо разгараецца страляніна. З'явіўляецца камандыр узвода. Ён каардынуе агонь сваіх аддзяленняў. З'яўляюцца іншыя камандыры рангам вышэй. Бой пачынае набываць арганізаваны характар. Ляціць данясенне ў штаб палка, а адтуль у штаб дывізіі…

Так павінна пачынацца абарончая вайна. А вельмі сакрэтная дырэктыва ад 5 траўня 1941 года прадугледжвала ўступленне мільёнаў жаўнераў Чырвонага вайска ў вайну згодна з адзіным загадам, які паступіць ад савецкага Галоўнага камандавання. Напалову сонны жаўнер на мяжы мае магчымасць бачыць напад суперніка, а якім чынам таварышы ў Крамлі могуць ведаць пра пачатак вайны?

Хіба што яны самі прызначылі дату яе пачатку.

Абарончую вайну пачынае спачатку жаўнер, потым сяржант, потым узводны камандыр. У наступальнай вайне ўсё ідзе з супрацьлеглага боку. Яе спачатку пачынае галоўнакіруючы, кіраўнік Генеральнага штаба, потым кіруючыя франтамі, флатамі, арміямі. Шараговы жаўнер даведваецца пра пачатак агрэсіўнай вайны самым апошнім. Абарончую вайну мільёны жаўнераў пачынаюць кожны сам ад сябе, а агрэсіўную – усё як адзін.

Жаўнеры Гітлера пераходзілі на тэрыторыю суперніка ўсё як адзін, гадзіна ў гадзіну, хвіліна ў хвіліну. Жаўнеры Сталіна таксама заўсёды так рабілі: і ў Фінляндыі, і ў Манголіі, і ў Бесарабіі. Менавіта так яны павінны былі пачаць вайну і з Германіяй.

Дырэктыва ад 5 траўня аддадзена, але тэрмін пачатку вайны пакуль застаецца ў поўным сакрэце. Чакайце сігналу і будзьце гатовы ў кожны момант, загадвае дырэктыва савецкім генералам. Выдаўшы дырэктыву 5 траўня, Сталін тут жа заняў пасаду кіраўніка савецкага ўрада, для таго каб самаму асабіста даць сігнал на выкананне дырэктывы.

Гітлер даў свайму войску загад на выкананне дырэктывы крыху раней…

Мы не ведаем і, відаць, ніколі не даведаемся пра змест вельмі сакрэтнай дырэктывы ад 5 траўня 1941 года; відавочна, што гэта была дырэктыва пра вайну з Германіяй, але вайна павінна была пачацца не германскім уварваннем, а нейкім іншым чынам. Калі б сярод розных варыянтаў быў агавораны і варыянт, у якім вайну пачынае Германія, то ў гэтым выпадку 22 чэрвеня 1941 года савецкія лідары ў Крамлі маглі б непасрэдна па тэлефону адкрытым тэкстам ці нейкім іншым

самым прымітыўным спосабам паведаміць камандуючым памежнымі акругамі: «Адчыніце сейфы, вазьміце дырэктыву ад 5 траўня і рабіце тое, што ў ёй напісана».

Калі б у дырэктыве ад 5 траўня было некалькі варыянтаў і адзін сярод іх абарончы, то існавала б магчымасць непасрэдна па тэлефону перадаць камандуючаму памежнай акругай: першыя дзевяць варыянтаў знішчы, а апошні, дзесяты, выконвай. Але ў дырэктыве абарончых варыянтаў не было цалкам. Вось чаму дырэктыва ад 5 траўня ніколі не была выканана. Пад час першага ж моманту германскага ўварвання савецкая дырэктыва цалкам страціла сэнс, яна імгненна састарэла, дакладна гэтак жа, як «састарэлі» ўсе савецкія аўтастрадныя танкі, уключаючы нават тыя, што былі выраблены 21 чэрвеня 1941 года.

Замест таго каб пачаць выкананне дырэктывы, ляжаўшай у сейфе кожнага камандуючага, савецкія лідары ў Крамлі з самага першага моманту вайны былі вымушаны імправізаваць. Яны былі вымушаны адмовіцца ад выканання ўжо гатовай дырэктывы, якую кожны камандуючы памежнай акругай трымае ў сваіх руках. Замест выканання гатовай дырэктывы Цімашэнка і Малянкоў вымушаны марнаваць час на складанне новай дырэктывы. Потым час будзе марнавацца на шыфраванне, перадачу, прыём, расшыфраванне. Дарэчы сказаць, дырэктыва, аддадзеная 22 чэрвеня, таксама наскрозь агрэсіўная, але яна крыху стрымлівае наступальны парыў савецкага войска.

Не патрэбна думаць, што вельмі сакрэтная дырэктыва ад 5 траўня 1941 года патрапіла ў сейфы і там чакала сваёй гадзіны. Зусім не. Дырэктыва была перададзена для выканання. Камандуючыя акругамі выканалі вельмі шмат чаго. У адпаведнасьці з ёй было праведзена грандыёзнае перасоўванне савецкага войска да мяжы, былі зняты сотні кіламетраў драцяных загарод і тысячы мін у памежных раёнах, былі прывезены да самай мяжы і пакладзены на грунт сотні тысяч тон боепрыпасаў, у памежныя раёны былі вывезены сотні тысяч тон самых разнастайных прыпасаў, патрэбных для хуткай і непазбежнай вайны.

15 чэрвеня 1941 года для генералаў, кіраваўшых арміямі, карпусамі, дывізіямі, надышла пара даведацца крыху больш пра намеры самага вышэйшага савецкага кіраўніцтва. У гэты дзень штабы пяці памежных вайсковых акруг аддалі баявыя загады, распрацаваныя на падставе вельмі сакрэтнай дырэктывы ад 5 траўня.

Кола пасьвечаных пашырылася на некалькі соцень чалавек. Загады, аддадзеныя сярэдняму кіруючаму звяну Чырвонага войска 15 чэрвеня 1941 года, таксама застаюцца вельмі сакрэтнымі, але іх было некалькі, і таму яны цытуюцца часьцей і больш поўна. Вось, стаўшае вядомым гісторыкам выказванне із загаду, дадзенага штабам Прыбалтыйскай асобнай вайсковай акругі 15 чэрвеня кіраўнікам армій і карпусоў, уваходзіўшых у дадзеную акругу: «Кожную хвіліну мы павінны быць гатовымі да выканання баявога задання».

А зараз вернемся да сакрэтнай прамовы Сталіна 5 траўня 1941 года. Перапоўненай зале Сталін у сакрэтнай прамове паведамляе пра агрэсіўную вайну супраць Германіі, якая пачнецца… у 1942 годзе. У той жа дзень у вельмі сакрэтнай дырэктыве камандуючыя памежнымі акругамі атрымліваюць загад быць гатовымі да агрэсіі ў кожны момант.

Яшчэ супадзенне: 13 чэрвеня 1941 года ТАСЗ перадае Паведамленне пра тое, што Савецкі Звяз не збіраецца нападаць на Германію і перамяшчае войска да германскай мяжы дзеля вучэння, а 15 чэрвеня савецкія генералы ў памежных

акругах атрымалі загад толькі для іхных вушэй: быць гатовымі да захопу рубяжоў на чужой тэрыторыі ў кожны момант.

У траўні-чэрвені 1941 года цалкам схаваць савецкія прыгатаванні да «вызвалення» Яўропы было ўжо немагчыма. Сталін разумее гэта. Таму ён на ўвесь сьвет у Паведамленні ТАСЗ «наіўна» абвяшчае, што ЗССР да нападу не рыхтуецца. Вядома, Гітлер і германская выведка такой грубай фальшыўцы не паверац – вось на гэты выпадак Сталін «сакрэтна» паведамляе тысячам сваіх афіцэраў (а заадно і германскай выведцы), што Савецкі Звяз нападзе на Германію… у 1942 годзе.

Намер схаваць ужо немагчыма, але тэрмін схаваць можна, на гэта і разлічана сталінская «сакрэтная» прамова: «Ты не верыш, Гітлер, маім адкрытым паведамленням, тады вер „сакрэтным“.

Гітлер меў дастаткова розуму, каб не паверыць ні таму ні другому.

# Глава XXI

## Занадта зубастая схільнасць да міру.

«Патрэбна заспець суперніка знянацку, злавіць момант, калі яго войска раскідана».

Ё. Сталін

8 траўня 1941 года, праз два дні пасьля «сакрэтнай» сталінскай прамовы, ТАСЗ передало ў эфір Аспрэчванне. Праз месяц, 13 чэрвеня 1941 года ТАСЗ перадасць у эфір вельмі дзіўнае Паведамленне. (Прынята лічыць гэтае Паведамленне ТАСЗ «паведамленнем ад 14 чэрвеня». Але яно было перададзена па савецкаму радыё 13 чэрвеня 1941 года). Для таго каб зразумець Паведамленне ТАСЗ ад 13 чэрвеня, мы павінны ўважліва прачытаць і паспрабаваць зразумець Аспрэчванне ад 8 траўня.

Вось яно:

«Японскія газеты друкуюць паведамленні агенства Дамей Цусін, у якім паведамляецца… што Савецкі Звяз канцэнтруе вялікую вайсковую магутнасць на заходняй мяжы… канцэнтрацыя войска на заходняй мяжы назіраецца ў надзвычай вялікіх памерах. У сувязі з гэтым спынены рух пасажырскіх цягнікоў па Сібірскай чыгунцы, таму што войска із Далёкага Ўсходу перакідваецца галоўным чынам да заходняй мяжы. Вялікае войска перакідваецца туды ж із Сярэдняй Азіі… Вайсковая місія на чале з Кузняцовым выехала із Масквы ў Тэгеран. Прызначэнне місіі, адзначае агенцтва, злучана з пытаннем пра карыстанне Савецкім Звязам аэрадромамі ў цэнтральнай і заходняй частках Ірана.

ТАСЗ упаўнаважаны заявіць, што гэтае падазрона крыклівае паведамленне Дамей Цусін, запазычанае ў невядомага карэспандэнта Юнайтэд Прэс, уяўляе плён хворай фантазіі яго аўтараў… ніякай «канцэнтрацыі вялікага вайска» на заходняй мяжы ЗССР няма і не прадбачыцца. Каліва праўды, існуючае ў паведамленні Дамей Цусін, перададзенае да таго ж у груба пераіначаным выглядзе, складаецца ў тым, што із раёна Іркуцка перакідваецца ў раён Новасібірска – з нагоды лепшых умоў для пражывання ў Навасібірску – адна стралковая дывізія. Усё астатняе ў паведамленні Дамей Цусін – суцэльная фантастыка».

А зараз паглядзім, хто ж паведамляў праўду: Дамей Цусін і Юнайтэд Прэс ці ТАСЗ.

Дамей Цусін паведамляе пра савецкую місію ў Іране, а ТАСЗ аспрэчвае гэта. Праз тры месяцы савецкае войска зайшло ў Іран і сапраўды пабудавала там для

сябе аэрадромы (і не толькі аэрадромы, а і шмат што іншае). Пра якога Кузняцова ідзе гаворка паспрабуй здагадацца, у нас Кузняцовых наўрад ці менш, чым Івановых. І не ў ім справа. Справа ў тым, што ўварванне адбылося. Японскія газеты, выкарыстоўваючы амерыканскія крыніцы, праўдзіва прадказалі падзеі. Аспрэчванне ТАСЗ ужо толькі з гэтага боку гледжання выглядае ілжывым.

Дамей Цусін: «канцэнтрацыя войска у надзвычай вялікім маштабе». Правільна. Між іншым на германскай мяжы Сталін размясьціў дваццаць механізаваных і пяць паветрана-дэсантных карпусоў. Хто яшчэ да ці пасьля гэтага ў гісторыі ўсіх цывілізацый канцэнтраваў такую колькасць чыста наступальнага войска супраць аднаго суперніка?

ТАСЗ паведамляе пра адну стралковую дывізію «із Іркуцка ў Навасібірск». Паслухаем іншых сведак. Генерал-лейтэнант Г. Шэлехаў (у той час генерал-маёр, кіраўнік штаба 1-й Чырвонасьцяжнай арміі Далёкаўсходняга фронту): «Паводле дырэктывы НКА ад 16 красавіка 1941 года са складу Далёкаўсходняга фронту на захад выпраўлены кіраўніцтвы 18-га і 31-га стралковых карпусоў, 21-й і 66-й стралковых дывізій, 211-й і 212-ай паветрана-дэсантныя брыгад і некаторыя часткі асобнага прызначэння» (ВІЖ, 1969, №3, с. 56). Перамяшчэнне паветрана-дэсантнага войска – гэта дакладная прыкмета падрыхтоўкі да наступлення. Перамяшчэнне паветрана-дэсантных брыгад у дадатак да пяці паветрана-дэсантных карпусоў, ужо стварающыхся ў заходніх раёнах краіны, сведчыць пра падрыхтоўку наступальнай аперацыі жахлівых маштабаў, якія ніколі раней за ўсю гісторыю не праводзіліся і, дась Бог, ніколі ў будучыні не будуць праводзіцца. А ілжывае «Аспрэчванне» ТАСЗ, хаваючае перамяшчэнне войска, уключаючы і паветрана-дэсантнае, сведчыць пра тое, што наступальная аперацыя рыхтуецца ва ўмовах абсалютнай сакрэтнасьці як цалкам нечаканая для суперніка. Жукаў на такія задумы быў вельмі здатны. Дарэчы, 212-я паветрана-дэсантная брыгада – гэта шануемая брыгада Жукава. У жніўні 1939 года яна знаходзілася ў асабістым рэзерве Жукава разам з батальёнам Асназа НКУС і была выкарыстана ў момант нанясення раптоўнага знішчаючага ўдару па японскаму войску. Брыгада выкарыстоўвалася ў завяршаючым удары па тылах 6-й японскай арміі.

Зараз Жукаў таемна перамяшчае гэтую лепшую брыгаду Чырвонага войска із Далёкага Ўсходу ў склад 3-га паветрана-дэсантнага корпуса на румынскую мяжу. Гітлер не дазволіў выкарыстаць брыгаду і ўвесь 3-і паветрана-дэсантны корпус (як, дарэчы, і ўсе астатнія) па прамому прызначэнню. Пасьля пачатку «Барбаросы» 3-і паветрана-дэсантны корпус праз непатрэбнасць ў абарончай вайне быў перафармаваны ў 87-ю стралковую дывізію (пазней 13-я гвардэйская), якая сапраўды потым вызначылася ў абарончых баях. Калі Сталін рыхтаваўся да абароны, чаму б адразу не фармаваць звычайныя стралковыя дывізіі замест паветрана-дэсантных брыгад і карпусоў?

Таемнае перамяшчэнне далёкаўсходняга войска мы можам прасачыць грунтуючыся на шматлікіх крыніцах. Маршалы Савецкага Звязу Г. К. Жукаў і І. Х. Баграмян сведчаць пра прыбыццё 31-га стралковага корпуса із Далёкага Ўсходу ў Кіеўскую асобную вайсковую акругу 25 траўня 1941 года. Гэта азначае, што пад час агучвання «аспрэчання» 31-ы стралковы корпус быў недзе на Транссібірскай магістралі. Генерал-палкоўнік І. І. Людлікаў паведамляе, што разгарнуўшы, адмабілізаваўшы і ўзначаліўшы 200-ю стралковую дывізію, ён атрымаў загад увайсьці ў склад 31-га стралковага корпуса. Потым корпус (як і ўсе яго шматлікія

субраты) таемна рушыў непасрэдна на германскую мяжу. Гітлер не дазволіў 31-му стралковаму корпусу закончыць пачаты шлях.

Шляхі іншых карпусоў, дывізій і брыгад, таемна перамяшчаемых із Далёкага Ўсходу, кожны жадаючы можа прасачыць самастойна, карыстаючыся ўспамінамі шматлікіх савецкіх генералаў і маршалаў, сведчаннямі палонных савецкіх жаўнераў-далёкаўсходнікаў, апынуўшыхся 22 чэрвеня каля германскай і румынскай мяжы, германскімі выведніцкімі зводкамі і шматлікімі іншымі крыніцамі.

ТАСЗ паведамляе пра адну стралковую дывізію, якую перамяшчаюць із Іркуцка ў Новасібірск «для паляпшэння ўмоваў пражывання». Шмат гадоў я без поспеху шукаю сляды гэтай таямнічай дывізіі. Усіх, хто абвяшчае Паведамленні ТАСЗ неразумнымі і наіўнымі, усіх, хто не верыць у гэтую чуллівую наіўнасць, прашу дапамагчы мне і знайсьці хаця б нейкія згадванні пра дывізію, якая выгрузілася вясной 1941 года ў Новасібірску.

Замест гэтых сведчанняў я знахожу шмат іншых: дывізіі ў Іркуцку і Навасібірску, у Чыце і Ўлан-Удэ, у Благавешчанску і Спаску, у Імане і Барабашы, у Хабараўску і ў Варашылаве толькі грузіліся, а выгружаліся не праз сотні кіламетраў у суседнім горадзе, а каля заходняй мяжы. Вось і кніга, надрукаваная менавіта ў Іркуцку (Забайкальская вайсковая акруга), паведамляе пра дзіўнае пагружэнне шматлікіх дывізій, і ўсе – да заходняй мяжы. Вось таемна ў красавіку грузіцца 57-я танкавая дывізія палкоўніка Ў. А. Мішуліна. Прызначэнне яму невядома.

57-я танкавая дывізія трапляе ў Кіеўскую асобную вайсковую акругу і атрымлівае загад пачаць выгружэнне ў раёне Шапятоўкі.

А тымчасам струмень войка на Транссібірскай магістралі (і на ўсіх іншых магістралях) нарастае. Мы ведаем, што 25 траўня 1941 года далёкаўсходнія карпусы пачалі выгружацца на Украіне (напрыклад, 31-ы стралковы корпус у раёне Жытоміра), а на наступны дзень камандуючы Ўральскай вайсковай акругай атрымлівае загад перакінуць дзьве стралковыя дывізіі ў Прыбалтыку (Генерал-маёр А. Грылёў, прафесар В. Хвастоў. «Камуніст», 1968, №12, с. 67). У той жа дзень Забайкальскай вайсковай акрузе і Далёкаўсходняму фронту загадана падрыхтаваць да адпраўкі на захад яшчэ дзевяць дывізій, уключаючы тры танкавыя (там жа). А на Транссібірскую магістраль ужо ўступае 16-я армія. Да Транссібірскай магістралі ўжо пацягнуліся 22-я і 24-я арміі.

Самая галоўная хлусня «аспрэчвання» ТАСЗ нават не «ў кватэрных умовах». «Ніякай канцэнтрацыі няма і не прадбачыцца» – вось, што галоўнае. Першае, яна ёсць, і германскае ўварванне падцвердзіла, што савецкая канцэнтрацыя перасягала самыя адважныя прадказанні. Другое, у момант перакідання ўсіх гэтых брыгад і карпусоў прадбачылася яшчэ больш магутная і сапраўды небывалая чыгуначная аперацыя ў сусьветнай гісторыі – перакіданне Другога стратэгічнага эшалона Чырвонага войска.

Дырэктыва кіруючага войскам пра пачатак перамяшчэння Другога стратэгічнага эшалона была перададзена 13 траўня. Вось у прадбачанні яе і было надрукавана «Аспрэчванне» ТАСЗ. Роўна праз месяц перамяшчэнне Другога стратэгічнага эшалона пачалося, і тады ТАСЗ зноў выступіў са сваім Паведамленнем, што нічога сур'ёзнага ў Савецкім Звязе не адбываецца, акрамя звычайных перавозак рэзервістаў на вучэнні.

Хай ТАСЗ вяшчае пра звычайных рэзервістаў, а мы паслухаем іншых сведак.

Генерал-маёр А. А. Лабачоў у той час быў сябрам вайсковай рады 16-й арміі. Ён распавядае пра 26 траўня 1941 года:

«Кіраўнік штаба паведаміў, што із Масквы атрымана важнае шыфраванае паведамленне маючае дачыненне да 16-й арміі… Загад із Масквы прапанаваў перадыслакаваць 16-ю армію на новае месца. М.Ф.Лукіну патрэбна было неадкладна з'явіцца ў Генеральны штаб за атрыманнем указанняў, а палкоўніку М. А. Шаліну і мне – арганізаваць адпраўку эшалонаў.

— Куды? – запытаў я Курачкіна.

— На захад.

Параіліся і вырашылі, што першымі будуць адпраўляцца танкісты, потым 152-я дывізія і астатнія часткі і нарэшце – штаб арміі з дададзенымі часткамі.

— Выпраўляць эшалоны ноччу. Ніхто не павінен ведаць, што армія сыходзіць, – папярэдзіў камандуючы… Да адыходу танкавых эшалонаў прыехалі Курачкін і Зімін, сабралі кіруючых асоб 5-га карпуса, пажадалі генералу Аляксеенку і ўсім камандырам не забывацца пра традыцыі забайкальцаў…

Людзі слухалі гэтыя цёплыя пажаданні, і кожны думаў, што, мабыць, не пра баявую падрыхтоўку, а пра баявыя дзеянні хутка пойдзе гаворка» (Цяжкімі шляхамі. с. 123).

Далей генерал Лабачоў распавядае дзіўныя рэчы. Камандуючы арміяй генерал Лукін, сам Лабачоў  і кіраўнік штаба 16-ай арміі палкоўнік М. А. Шалін (будучы кіраўнік ГВК – У.В.) ведаюць, што 16-ая армія перамяшчаецца на захад, але не ведаюць дакладна куды. Усім астатнім генералам із 16-ай арміі «сакрэтна» паведамляецца, што прызначэнне арміі – іранская мяжа; ніжэйшаму кіруючаму складу абвяшчаецца мэта перамяшчэння – вучэнні; жонкам кіруючых асоб – армія накіроўваецца ў лагеры.

У абарончай вайне, ва ўсякім разе, генералаў няма патрэбы падманваць адносна накірунку, дзе давядзецца дзейнічаць арміі. Але ў 16-ай арміі тры самыя асноўныя кіраўнікі ведаюць пра заходную мяжу, астатнія генералы атрымалі наўмысна ілжывую інфармацыю пра Іран.

У германскім войску ў той жа самы час рабілася тое ж самае: пашыралася хлусня, вельмі падобная на праўду, пра аперацыю «Марскі леў». Наўмысны падман войска адносна накірунку дзеянняў – гэта заўсёды дакладная прыкмета падрыхтоўкі раптоўнага наступлення. Каб схаваць ад суперніка, патрэбна схаваць і ад свайго войска. Так рабілі ўсе агрэсары. Так рабіў Гітлер. Так рабіў Сталін.

Цікава, але ў красавіку 1941 гада ўсе разумеюць, што наогул 16-ая армія ідзе на вайну. Вось жонка Лабачова пытае яго прама:

— Ваяваць едзеш?

— Із чаго ты ўзяла?

— Ды што, я газет не чытаю, ці што?

Гэта вельмі цікавы псіхалагічны момант, да якога варта яшчэ вярнуцца. Я апытаў сотні людзей таго пакалення, і ўсе яны прадчувалі вайну. Я дзіўлюся: адкуль жа гэтыя прадчуванні выходзілі. Усе адказвалі: ды із газет!

Мы, сучасныя людзі, рэдка на пажаўцеўшых старонках тых гадоў знаходзім прамыя ўказанні на хуткую і непазбежную вайну. Але вось людзі таго пакалення, чытаючы паміж радкоў, ведалі, што вайна насоўваецца няўхільна: не маглі ж яны ў Сібіры ведаць пра прыгатаванні Гітлера. Можа, назіраючы за савецкай падрыхтоўкай яны адчувалі, што вайны не пазбегнуць?

Але мы адышлі ад галоўнай тэмы. Вернемся да апавядання генерала Лабачова. Ён згадвае пра неверагодную ступень сакрэтнасьці, з якой перамяшчала армія: эшалоны выпраўляліся толькі ноччу; цягнікі на буйных і сярэдніх станцыях не спыняліся; перамяшчэнне штаба 16-ай арміі ажыццяўлялася ў таварных вагонах з цалкам зачыненымі дзьвярамі і вокнамі; на невялікіх станцыях, дзе спыняліся эшалоны, выходзіць із вагонаў нікому не дазвалялася. Тым часам як пасажырскі цягнік праходзіў Транссібірскую магістраль больш чым за 11 сутак, таварныя ішлі больш павольна. Можна вазіць у цалкам зачыненых вагонах жаўнераў і афіцэраў. Але тут гаворка ідзе пра штаб арміі. Такая ступень сакрэтнасьці з'яўляецца незвычайнай нават адносна савецкіх стандартаў. У 1945 годзе па Транссібірскай магістралі ішоў струмень войска у адваротным накірунку для раптоўнага нападу на японскае войска ў Маньчжурыі і Кітаі. Дзеля маскіравання ўсе генералы ехалі ў афіцэрскай форме, маючы на пагонах значна менш зорак, чым заслужылі, але ўсё ж яны ехалі ў пасажырскіх вагонах. А вось у 1941 годзе генералаў вязлі ў таварных. Чаму?

# Глава XXII

## Яшчэ раз пра паведамленне ТАСЗ.

«…Сталін быў не із тых, чые намеры абвяшчаліся адкрыта».

Роберт Конквест

13 чэрвеня 1941 года маскоўскае радыё перадало не зусім звычайнае Паведамленне ТАСЗ, у якім сцвярджалася, што «Германія так жа няўхільна выконвае ўмовы савецка-германскага пакта пра ненападзенне, як і Савецкі Звяз…» і што «гэтыя чуткі (г. азн. чуткі пра падрыхтоўку нападу Германіі на ЗССР. – В. С.) з'яўляюцца нязграбна прыгатаванай прапагандай варожых ЗССР і Германіі магутнасьцей, зацікаўленых у далейшым пашырэнні і развязванні вайны…». На наступны дзень цэнтральныя савецкія газеты надрукавалі гэтае паведамленне, а яшчэ праз тыдзень Германія здзейсніла напад на ЗССР.

Хто быў аўтарам Паведамлення ТАСЗ, вядома ўсім. Характэрны стыль Сталіна распазналі і генералы ў савецкіх штабах, і зэкі ў лагерах, і заходнія эксперты.

Цікава, што пасьля вайны Сталін чысьціў ТАСЗ, але ніхто із кіраўніцтва гэтай установы не быў абвінавачаны ў пашырэнні паведамлення, якое можна было палічыць «відавочна шкодніцкім». Віну за перадачу Паведамленні ТАСЗ Сталін мог бы ўскласьці на якога заўгодна сябра Палітбюро (у зручны для Сталіна момант). Але ён гэтага таксама не зрабіў і тым самым прыняў усю адказнасць перад гісторыяй асабіста на сябе.

Як у савецкім, так і ў замежным друку пра гэтае Паведамленне ТАСЗ пісалі вельмі шмат. Усе, хто дакрануўся да гэтай тэмы, над Сталіным смяяліся. Паведамленне ТАСЗ часам разглядаецца ледзь ці не як доказ непрадбачлівасьці. Аднак у Паведамленні ТАСЗ ад 13 чэрвеня 1941 года таямнічага і незразумелага значна больш, чым смешнага. Зразумелым з'яўляецца толькі адно: пра аўтара гэтага паведамлення. Усё астатняе – загадка.

Паведамленне ТАСЗ цяжка дапасуецца да характару Сталіна.

Чалавек, які ведаў пра Сталіна больш чым іншыя, – яго асабісты сакратар Барыс Бажанаў – так характарызуе Сталіна: «Утойлівы і хітры надзвычайна», «Ён у

вышэйшай ступені валодаў здольнасьцю маўчання і ў гэтым дачыненні быў унікальным ў краіне, дзе ўсе выказваліся занадта шмат».

А вось іншыя характарыстыкі. «Ён быў непрымірымым ворагам інфляцыі слоў – балбатлівасьці. Не выказвайся, што думаеш…» (А.Аўтарханаў).

«Пад час крытычных момантаў у Сталіна дзеянні апярэджваюць словы» (А. Антонаў-Аўсеенка).

Выбітны даследнік сталінскай эпохі Роберт Канквест пазначае маўклівасць і стрыманасць Сталіна як адну із найбольш характэрных рыс яго асобы: «Вельмі стрыманы і ўтойлівы», «нам усё яшчэ даводзіцца ўглядацца ў змрок выключнай утойлівасьці Сталіна», «Сталін ніколі не распавядаў, што ў яго ў галаве, нават у дачыненні да палітычных мэт».

Уменне маўчаць, згодна з трапным выказваннем Д. Карнэгі, сустракаецца сярод людзей значна радзей, чым якія б то ні былі іншыя таленты. З гэтага боку гледжання Сталін быў геніем – ён умеў маўчаць. І гэта не толькі самая асноўная рыса яго характару, але і звышмагутная зброя ў змаганні. Сваім маўчаннем ён усыпляў пільнасць супернікаў, таму ўдары Сталіна заўсёды былі такімі неспадзяванымі і таму неадбівальнымі. Чаму ж Сталін загаварыў, ды так, каб пачулі ўсе? Дзе ўтойлівасць? Дзе хітрасць? Дзе здзяйсненні, апераджаючыя словы? Калі ў Сталіна існуюць нейкія меркаванні пра далейшае развіццё падзей, чаму не абмеркаваць гэта ў цесным коле паплечнікаў? Чаму б не памаўчаць, нарэшце? Да каго звяртаецца Сталін? Да Чырвонага войска? Хто ж перадае важныя паведамленні (гаворка ідзе пра вайну і мір, пра жыццё і сьмерць) свайму войску праз сталічнае радыё і цэнтральныя газеты? Войска, флот, таемная паліцыя, канцлагеры, прамысловасць, транспарт, сельская гаспадарка, усе людзі вялікага і малога рангу з'яўляюцца часткай дзяржаўнай сістэмы, і ўсе яны падначальваюцца не газетным паведамленням, а сваім кіраўнікам, якія па асобных (часта таемным) каналах атрымліваюць загады ад вышэйшых кіраўнікаў.

Сталінская імперыя была цэнтралізавана, як ніякая іншая, і механізм дзяржаўнага кіравання, асабліва пасьля Вялікага Ачышчэння, быў наладжаны так, што кожны загад неадкладна перадаваўся з самага вышэйшага ўзроўню да самых апошніх выканаўцаў і тут жа няўхільна выконваўся. Грандыёзныя аперацыі, напрыклад, арышт і знішчэнне прыхільнікаў Яжова і фактычная замена ўсяго кіруючага апарата таемнай паліцыі, былі праведзены хутка і эфектыўна, пры гэтым так, што сігнал пра пачатак аперацыі не толькі не быў расшыфраваны нікім з боку, але невядома нават, калі і як Сталін перадаў сігнал на правядзенне гэтай вялізнай аперацыі.

Калі ў чэрвені 1941 года ў Сталіна былі нейкія думкі, якія неадкладна патрэбна было давесьці да ведама мільёнаў выканаўцаў, чаму не скарыстацца абкатанай машынай кіравання, перадаючай кожны загад неадкладна і без пераіначванняў? Калі б гэта было сур'ёзнае паведамленне, то па ўсіх таемных каналах яно было б прадублявана.

Маршал Савецкага Звязу А. М. Васілеўскі сведчыць, што за гэтымі паведамленнямі ў друку «следам не было ніякіх прынцыповых указанняў адносна Ўзброенага войска і перагляду раней прынятых пастановаў» (Справа ўсяго жыцця. с. 120). Далей маршал паведамляе, што ў справах Генеральнага штаба і наркамата абароны нічога не перамянілася і «не павінна было перамяніцца».

Па таемных вайсковых каналах Паведамленне не толькі не было падмацавана. Наадварот, у нас ёсць дакументы пра тое, што адначасова з

Паведамленнем ТАСЗ у вайсковых акругах, напрыклад, у Прыбалтыйскай асобнай, быў выдадзены загад арміям, адпаведна сэнсу і духу прама процілеглы Паведамленню ТАСЗ (Архіў МА ЗССР, Фонд 344, вопіс 2459, справа II, ліст 31).

Публікацыі ў вайсковых газетах (асабліва недаступных чужым) білі таксама прама процілеглымі зместу Паведамлення ТАСЗ. (Напрыклад, віцэ-адмірал І. І. Азараў. Абложаная Адэса. с. 16).

Паведамленне ТАСЗ ніяк не дапасуе не толькі да характару Сталіна, але і да цэнтральнай ідэі усёй камуністычнай міфалогіі. Кожны камуністычны тыран (а Сталін асабліва) на працягу ўсяго свайго жыцця паўтарае простую і зразумелую фразу: вораг не дрэмле. Гэтая магічная фраза дазваляе патлумачыць і адсутнасць мяса ў крамах, і «вызваляючыя паходы», і цэнзуру, і катаванні, і масавыя ачышчэнні, і замкнутую мяжу – і цалкам усё што заўгодна. Выказванні «вораг не дрэмле», «мы аточаны ворагамі» – не проста ідэалогія – гэта вельмі вострая зброя партыі. Гэтай зброяй былі знішчаны ўсе і разнастайныя апазіцыі, гэтай зброяй былі ўсталяваны і ўмацаваны ўсе камуністычныя дыктатуры… І вось аднойчы, толькі аднойчы ў гісторыі ўсіх камуністычных рэжымаў, кіраўнік самага магутнага із гэтых рэжымаў заявіў на ўвесь сьвет, што пагрозы агрэсіі не існуе.

Давайце ж не лічыць Паведамленне ТАСЗ недарэчным, смешным, наіўным. Давайце лічыць гэтае паведамленне дзіўным, незразумелым, непатлумачаным. Давайце паспрабуем зразумець сэнс гэтага паведамлення.

13 чэрвеня 1941 года – адна із самых важных дат савецкай гісторыі. Адпаведна свайму значэнню яна, вядома, значна больш важная, чым 22 чэрвеня 1941 года. Савецкія генералы, адміралы і маршалы ў сваіх мемуарах апісваюць гэты дзень значна больш падрабязна, чым 22 чэрвеня. Вось цалкам стандартнае апісанне таго дня.

Генерал-лейтэнант Н. І. Бірукоў (у той час генерал-маёр, кіраўнік 186-й стралковай дывізіі 62-га стралковага корпуса Ўральскай вайсковай акругі): «13 чэрвеня 1941 года мы атрымалі са штаба акругі дырэктыву асоблівай важнасьці, згодна з якой дывізія павінна была выехаць у „новы лагер“. Адрас новага месца не быў павядомлены нават мне, камандыру дывізіі. І толькі праездам у Маскве я даведаўся, што наша дывізія павінна размясьціцца ў лясах на захад ад Ідрыцы» (ВІЖ, 1962, N4, с. 80).

Нагадаем чытачу, што ў мірны час дывізія мае «сакрэтныя», а часам «вельмі сакрэтныя» дакументы. Дакумент «асобнай важнасьці» можа з'явіцца ў дывізіі толькі падчас вайны і толькі ў выключным выпадку, калі гаворка ідзе пра падрыхтоўку аперацыі надзвычайнай важнасьці. Шмат якія савецкія дывізіі за чатыры гады вайны не мелі ніводнага дакумента гэтай самай высокай ступені сакрэтнасьці. Звернем таксама ўвагу на двукоссе, якім генерал Бірукоў атачае выказванне «новы лагер».

186-я дывізія была ва Ўральскам акрузе не адзіная, атрымаўшая такі загад. УСЕ дывізіі акругі атрымалі такі ж загад.

Афіцыйная гісторыя акругі (Чырванасьцяжная ўральская. с. 104) выразна фіксуе гэтую дату: «Першай пачала пагрузку 112-я стралковая дывізія. Раніцай 13 чэрвеня ад маленькай чыгуначнай станцыі адышоў эшалон… За ім пайшлі іншыя эшалоны. Потым пачалося выпраўленне частак 98-й, 153-й, 186-ай стралковых дывізій». Да адпраўлення рыхтаваліся 170-я і 174-я стралковыя дывізіі, артылерыйскія, сапёрныя, зянітныя і іншыя часткі. Для кіравання ўральскімі

дывізіямі былі створаны штабы двух карпусоў, а яны ў сваю чаргу падначалены штабу новай 22-ай арміі (камандуючы генерал-лейтэнант Ф. А. Ершакоў).

Уся гэтая маса штабоў і войска пад заслонай заспакойваючага Паведамлення ТАСЗ таемна накіравалася ў беларускія лясы.

22-ая армія была не адна.

Генерал армія С. М. Штэменка: «Перад самым пачаткам вайны пад найвялікшым сакрэтам у памежныя акругі пачалі сьцягвацца дадатковыя часткі. Із глыбіні краіны на захад перамяшчаліся пяць армій» (Генеральны штаб у гады вайны. с. 26).

Генерал арміі С. П. Іваноў дадае: «Адначасова з гэтым да перадыслакацыі рыхтаваліся яшчэ тры арміі» (Пачатковы перыяд вайны. с. 211).

Узнікае пытанне: чаму ўсе восем армій не пачалі рух адначасова? Адказ просты. У сакавіку, красавіку, траўні было праведзена грандыёзнае таемнае перамяшчэнне савецкага войска на захад. Увесь чыгуначны транспарт краіны быў заняты ў гэтай каласальнай таемнай аперацыі. Яна завяршылася своечасова, але дзясяткі тысяч вагонаў павінны былі вярнуцца на тысячы кіламетраў назад. Таму 13 чэрвеня, калі пачалося новае звышвялікае таемнае перамяшчэнне войска, усім арміям проста не хапіла вагонаў.

Маштабы папярэдняга перамяшчэння ўявіць амаль немагчыма. Дакладных лічбаў у нас няма. Але вось некаторыя ўрыўкавыя сведчанні.

Былы намесьнік народнага камісара дзяржаўнага кантролю Ё. В. Кавалёў: «У траўні-напачатку чэрвеня транспартнай сістэме ЗССР давялося ажыццявіць перавозку каля 800 000 рэзервістаў… Гэтыя перавозкі патрэбна было правесьці таемна…» (Транспарт у Вялікай Айчыннай вайне. с. 41).

Генерал-палкоўнік І. І. Люднікаў: «…У траўні…у раёне Жытоміра і ў лясах на паўднёвы-захад ад яго размясьціўся паветрана-дэсантны корпус» (ВІЖ, 1966, N 9, с. 66).

Маршал Савецкага Звязу І. Х. Баграмян апісвае травень у Кіеўскай асобнай вайсковай акрузе: «25 траўня ў склад войска прыбудзе штаб 31-га стралковага корпуса із Далёкага Ўсходу… У другой палове траўня мы атрымалі дырэктыву Генеральнага штаба, у якой быў загад прыняць із Паўночна-Каўказскай вайсковай акругі штаб 34-га стралковага корпуса, чатыры 12-тысячныя дывізіі і адну горна-стралковую дывізію… Патрэбна было за кароткі тэрмін размясьціць амаль цэлую армію… Пад канец траўня ў акругу пачалі прыбываць эшалон за эшалонам. Аператыўны аддзел ператварыўся ў падабенства дыспетчарскага пункта, куды сцякалася ўся інфармацыя пра прыбываючыя часткі» (ВІЖ, 1967, N 1, с. 62).

Такім было становішча ў траўні. Менавіта ў такім становішчы 13 чэрвеня пачалося новае небывалае таемнае перагрупаванне войсковых частак, якія павінны былі ўтварыць Другі стратэгічны эшалон Чырвонага войска.

У сваіх ранніх публікацыях па дадзенаму пытанню я называў колькасны склад Другога стратэгічнага эшалона: 69 танкавых, матарызаваных і стралковых дывізій, не лічачы дзясяткаў асобных палкоў і соцень асобных батальёнаў. Далейшае даследаванне паказала, што я памыляўся. У наш час я маю сведчанні пра 77 дывізій і вялікую колькасць палкоў і батальёнаў, пачаўшых таемны рух на захад пад заслонай Паведамлення ТАСЗ.

Вось адно із дзясяткаў сведчанняў на гэтую тэму.

Генерал-лейтэнант артылерыі Г. Д. Пласкаў (у той час палкоўнік); «53-я дывізія, у якой я кіраваў артылерыяй, дыслакавалася на Волзе. Вышэйшыя

кіруючыя асобы былі закліканы ў штаб нашага 63-га корпуса. На нараду прыбыў камандуючы акругай В. Ф. Герасіменка. Прыбыццё высокага кіраўніцтва крыху насьцярожыла: гэта азначала, што чакалася нешта значнае. Камандыр корпуса А. Г. Пятроўскі, звычайна спакойны, стрыманы, відавочна хваляваўся.

— Таварышы, – сказаў ён. – Загадана адмабілізаваць корпус. Мы павінны ўкамплектаваць часткі адпаведна са штатам ваеннага часу, для чаго выкарыстаць недатыкальны запас. Патрэбна тэрмінова прызваць нехапаючую прыпісаную колькасць вайскоўцаў. План чарговасьці загружэння, падачы эшалонаў і выпраўлення атрымаеце ў кіраўніка штаба корпуса генерал-маёра У. С. Венскага.

Нарада працягвалася нядоўга. Усё было зразумела. І хаця генерал Герасіменка намякнуў, што мы выступаем на вучэнні, усе разумелі, што справа куды больш сур'ёзная. Яшчэ ніводнага разу на вучэнні не бралі поўны камплект баявых снарадаў. Не прызывалі людзей із запасу…» (Пад грукат кананады. с. 125).

Зараз мы паглядзім, што адбывалася ў Першым стратэгічным эшалоне ў той момант, калі савецкае радыё перадавала такія, здавалася б, наіўныя заявы.

«14 чэрвеня Вайсковая Рада Адэскай вайсковай акругі атрымала дырэктыву пра стварэнне вайсковага штаба ў Ціраспалі» (ВІЖ, 1978, N 4, с. 86). Гаворка ідзе пра 9-ую армію. «14 чэрвеня Вайсковая Рада Прыбалтыйскай асобнай вайсковай акругі зацьвердзіла план перадыслакацыі некалькіх дывізій і асобных палкоў у памежную паласу» (Савецкая вайсковая энцыклапедыя. Т. 6, с. 517).

«Адначасова з перамяшчэннем войска із глыбіні краіны пачалася таемная перагрупоўка частак у складзе саміх памежных акруг. Пад выглядам перамены размяшчэння летніх лагероў часткі перамяшчаліся бліжэй да мяжы… Большасць частак перамяшчалася начамі…» (Генерал арміі С. П. Іваноў. Пачатковы перыяд вайны. с. 211).

Вось некалькі цалкам стандартных сведчанняў тых дзён:

Генерал-маёр С. Іаўлеў (у той час камандыр 64-й стралковай дывізіі 44-га стралковага корпуса 13-ай арміі): «15 чэрвеня 1941 года камандуючы Заходняй асобнай вайсковай акругай генерал арміі Д. Г. Паўлаў загадаў дывізіям нашага корпуса падрыхтавацца да передыслакацыі ў поўным складзе… Станцыя прызначэння нам не паведамлялася…» (ВІЖ, 1960, N 9, с. 56).

Генерал-палкоўнік Л. М. Сандалаў (у той час палкоўнік, кіраўнік штаба 4-ай арміі Заходняй асобнай вайсковай акругі): «На паўднёвым крыле 4-ай арміі з'явілася новая дывізія – 75-я стралковая. Яна прыйшла із Мазыра і паставіла ў лясах старанна замаскіраваныя намётавыя мястэчкі» (Перажытае. с. 71).

Афіцыйная гісторыя Кіеўскай вайсковай акругі: «87-я стралковая дывізія генерал-маёра Ф. Ф. Алябушава 14 чэрвеня пад выглядам вучэння была перамешчана да дзяржаўнай мяжы» (Кіеўская Чырванасьцяжная. Гісторыя Чырвонасьцяжнай Кіеўскай вайсковай акругі. 1919-1972. с. 162). Метад перамяшчэння войска да мяжы пад выглядам вучэння – гэта не мясцовая самадзейнасць.

Маршал Савецкага Звязу Г. К. Жукаў (у той час генерал армія, кіраўнік Генеральнага штаба): «Наркам абароны С. К. Цімашэнка рэкамендаваў кіраўнікам частак акруг праводзіць тактычныя вучэнні ўбок дзяржаўнай мяжы, з тым, каб перамяшчаць часткі бліжэй да раёнаў месцавання адпаведна з планамі затулення. Гэтая рэкамендацыя наркама абароны ажыццяўлялася акругамі, аднак з адной істотнай абмоўкай: у перамешчэнні не брала ўдзел значная частка артылерыі» (Успаміны і разважанні. с. 242).

Маршал Савецкага Звязу К. К. Ракасоўскі (у той час камандыр 9-га механізаванага корпуса) тлумачыць нагоду, чаму часткі выходзілі да дзяржаўнай мяжы без артылерыі, – артылерыю было загадана выправіць да мяжы крыху раней (Жаўнерскі абавязак. с. 8).

Маршал Савецкага Звязу Да. А, Мерацкоў (у той час генерал армія, намесьнік наркама абароны): «Адпаведна з маімі загадамі былі праведзены вучэнні механізаванага корпуса. Корпус быў выведзены ў парадку трэніравання ў памежны раён ды там і пакінуты. Пазней я паведаміў Захараву, што ў акрузе знаходзіцца корпус генерал-маёра Р. Я. Маліноўскага, які падчас вучэння таксама патрэбна вывесьці ў памежны раён» (На службе народа. с. 204).

Маршал Савецкага Звязу Р. Я. Маліноўскі (у той час генерал-маёр, камандыр 48-га стралковага корпуса Адэскай вайсковай акругі) сведчыць, што гэты загад быў выкананы: «Корпус яшчэ 7 чэрвеня выступіў із раёна Кіраваграда ў Бельцы і 14 чэрвеня быў на месцы. Гэта перамяшчэнне адбылося пад выглядам вялікага вучэння» (ВІЖ, 1961, N6, с. 6).

Маршал Савецкага Звязу М. В. Захараў (у той час генерал-маёр, кіраўнік штаба Адэскай вайсковай акругі): «15 чэрвеня кіраўніцтва 48-га стралковага корпуса, 74-ай і 30-ай стралковых дывізій пад выглядам вучэння размясьлася ў лясах на адлегласьці некалькіх кіламетрах на ўсход ад г. Бельцы» («Пытанні гісторыі», 1970, N 5, с. 45). Маршал пазначае, што кіраўніцтва корпуса, корпусныя часткі і 74-я стралковая дывізія былі падняты па баявой трывозе. Ён сведчыць, што ў «вучэннях» у гэты момант брала ўдзел і 16-я танкавая дывізія.

Маршал Савецкага Звязу І. Х. Баграмян (у той час палкоўнік, кіраўнік аперацыйнага аддзела Кіеўскай асобнай вайсковай акругі): «Нам давялося рыхтаваць усю аперацыйную дакументацыю, злучаную з перамяшчэннем пяці стралковых і чатырох механізаваных карпусоў із раёнаў пастаяннай дыслакацыі ў памежную зону» (Так пачыналася вайна. с. 64); «15 чэрвеня мы атрымалі загад пачаць… перамяшчэнне ўсіх пяці стралковых карпусоў да мяжы… Яны забралі з сабой усё неабходнае для баявых дзеянняў. З мэтай таемнасьці перамяшчэнне ажыцьцяўлялася толькі начамі» (тамсама, с. 77).

Генерал-палкоўнік І. І. Люднікаў (у той час палкоўнік, камандыр 200-й стралковай дывізіі 31-га стралковага корпуса) быў адным із тых, хто гэты загад выконваў.

«У дырэктыве акругі, паступіўшай у штаб дывізіі 16 чэрвеня 1941 года, загадвалася выступаць у паход… у поўным складзе… размясьціцца ў лясах на 10-15 км. на паўночны-ўсход ад памежнага горада Ковеля. Рухацца рэкамендавалася таемна, толькі начамі, па лясістай мясцовасьці» (Праз выпрабаванні. с. 24).

Маршал Савецкага Звязу К. С. Маскаленка (у той час генерал-маёр артылерыі, камандыр 1-й супрацьтанкавай брыгады): «Прыбывалі ўсё новыя эшалоны з людзьмі і баявой тэхнікай» (На паўднёва-заходнім накірунку. Успаміны камандарма. с. 19).

Маршал Савецкага Звязу А. І. Яроменка (у той час генерал-лейтэнант, камандуючы 1-ай арміяй): «20 чэрвеня штаб 13-ай арміі атрымаў дырэктыву камандавання Заходняй вайсковай акругі передыслакавацца із Магілёва ў Навагрудак» (Напачатку войны. с. 109).

Да дзяржаўнай мяжы перамяшчаліся не толькі арміі, карпусы, дывізіі. Мы знаходзім сотні сведчанняў перамяшчэння значна меншых частак. Прыклад.

Генерал-лейтэнант В. Ф. Зотаў (у той час генерал-маёр, кіраўнік інжынернага войска Паўночна-Заходняга Фронта): «Сапёрныя батальёны былі адмабілізаваны адпаведна са штатамі ваеннага часу… дзесяць батальёнаў, прыбыўшыя із Далёкага Ўсходу, былі ўзброены цалкам» (На Паўночна-заходнім фронце (1941-1943). Зборнік артыкулаў удзельнікаў баявых дзеянняў. с. 172).

У маіх калекцыях не толькі ўспаміны генералаў і маршалаў. Афіцэры меншага рангу сведчаць пра тое ж.

Палкоўнік с. Ф. Хвалей (у той час намесьнік камандыра 202-й матарызаванай дывізіі 12-га механізаванага корпуса 8-ай арміі): «Ноччу на 18 чэрвеня 1941 года наша дывізія выйшла на палявыя вучэнні» (На Паўночна-заходнім фронце (1941-1943). с. 310). Тут жа палкоўнік сведчыць: «так атрымалася», што падраздзяленні дывізіі да пачатку вайны апынуліся непасрэдна за памежнымі заставамі, г.зн. у непасрэднай блізкасьці да дзяржаўнай мяжы.

Вядомы невялікі ўрывак із баявога загаду, які ў той жа дзень, 18 чэрвеня 1941 года, атрымаў палкоўнік І. Д. Чарняхоўскі (пазьней генерал арміі), камандыр танкавай дывізіі таго ж 12-га механізаванага корпуса: «…Камандыру 28-й танкавай дывізіі палкоўніку Чарняхоўскаму пасьля атрымання гэтага загаду прывесьці ў баявую гатоўнасць усе часткі ў адпаведнасьці з планамі падымання па баявой трывозе, але саму трывогу не аб'яшчаць. Усе дзеянні праводзіць хутка, але без шуму, без панікі і балбатання, мець належачыя нормы пераносімых і перавозімых прыпасаў, неабходных для жыццядзейнасьці і бою…» (ВІЖ, N 6, 1986, с. 75). Вельмі шкада, што ўвесь загад не надрукаваны. Ён застаецца сакрэтным, як і палову стагоддзя назад. Згодна з германскімі трафейнымі дакументамі, першая сустрэча з 28-й танкавай дывізіяй адбылася пад Шаўляем. Але дывізія мела заданне выйсьці да самай мяжы.

Маршал бранятанкавага войска П. П. Полубаяраў (у той час палкоўнік, кіраўнік аўтабранятанкавага кіравання ПЗФ): «Дывізія (28-я танкавая) павінна была выйсьці із Рыгі на рубеж савецка-германскай мяжы» (На Паўночна-заходнім фронце. (1941-1943). с. 114). Германскае ўварванне заспела гэтую дывізію, як і шмат якія іншыя, у дарозе, таму яна не паспела выйсьці прама да самай мяжы.

А вось успаміны маёра І. А. Хізенка (Ажыўшыя старонкі.). Першая частка мае назву «Ідзём да мяжы». Гаворка ідзе пра 80-ю стралковую дывізію 37-га стралковага корпуса «…Вечарам 16 чэрвеня генерал Прохараў (генерал-маёр Прохараў Васіль Янавіч – камандыр 80-й стралковай дывізіі 37-га стралковага корпуса) сабраў штабных працаўнікоў на нараду. Абвясьціў загад камандуючага Кіеўскай асобнай вайсковай акругай пра перамяшчэнне дывізіі ў новы раён размяшчэння… Ідуць чуткі, што маючы адбыцца марш будзе незвычайным…»

Гэты спіс можна працягваць бясконца. У маёй асабістай бібліятэцы так шмат дакументаў пра рух частак да мяжы, што хапіла б для таго, каб напісаць некалькі тоўстых кніг на гэтую тэму. Але не будзем стамляць чытача імёнамі генералаў і маршалаў, нумарамі армій, карпусоў і дывізій. Давайце паспрабуем уявіць усю карціну ў цэлым. Усяго ў Першым стратэгічным эшалоне знаходзілася 170 танкавых, матарызаваных, кавалерыйскіх і стралковых дывізій. 56 з іх знаходзіліся шчыльна каля самай дзяржаўнай мяжы. Ім пакуль што не было куды рухацца. Але нават і тут усё, што магло рухацца да самай мяжы, рухалася і хавалася ў памежных лясах.

Генерал армія І. І. Фядзюнінскі (у той час палкоўнік, камандыр 15-га стралковага корпуса 5-ай арміі) сведчыць, што вывеў чатыры палкі са складу 45-й і 62-й стралковых дывізій «у лясы, бліжэй да мяжы» (Паднятыя па трывозе. с. 12).

Астатнія 114 дывізій Першага стратэгічнага эшалону знаходзіліся ў глыбіні тэрыторыі заходніх памежных акруг і маглі быць хутка перамешчаны да мяжы. Нас цікавіць пытанне: колькі ж із гэтых 114 дывізій пачалі рух да мяжы пад заслонай заспакойваючага Паведамлення ТАСЗ? Адказ: УСЁ! «12-15 чэрвеня заходнім вайсковым акругам быў аддадзены загад: усе дывізіі, размешчаныя ў глыбіні, перамясьціць бліжэй да дзяржаўнай мяжы» (А. Грылёў, В. Хвастоў – «Камуніст», 1968, N 12, с. 68). Да гэтых 114 дывізій Першага стратэгічнага эшалона мы дададзім 77 дывізій Другога стратэгічнага эшалона, якія, як мы ўжо ведаем, таксама пачалі перамяшчэнне на захад ці рыхтаваліся гэта зрабіць.

Такім чынам, 13 чэрвеня 1941 года – гэта пачатак самага вялікага ў гісторыі ўсіх цывілізацый перамяшчэння войска. Зараз самы час зноў узяць у рукі Паведамленне ТАСЗ ад 13 чэрвеня і перачытаць яго ўважліва. Паведамленне ТАСЗ паведамляе не толькі пра намеры Германіі (гісторыкі чамусьці канцэнтруюць сваю ўвагу на гэтай уступнай частцы паведамлення), але і пра дзеянні Савецкага Звязу (гэтую частку паведамлення гісторыкі не лічаць цікавай).

«Чуткі пра тое, што ЗССР рыхтуецца да вайны з Германіяй, з'яўляюцца ілжывымі і правакацыйнымі… праводзімыя зараз летнія зборы запасу Чырвонага войска і маючыя адбыцца манеўры маюць на сваёй мэце не што іншае, як навучанне запасу і праверку працы чыгуначнага апарата, праводзімыя, як вядома, кожны год, з нагоды чаго маляваць гэтыя мерапрыемствы як варожыя Германіі, прынамсі, недарэчна».

Параўноўваючы гэтую заяву з тым, што адбывалася насамрэч, мы заўважаем некаторае несупадзенне паміж словамі і справамі.

У Паведамленні ТАСЗ гаворыцца: «праверка чыгуначнага апарата». Дазволім сабе ў гэтым усумніцца. Перамяшчэнне савецкага войска пачалося ў лютым, у сакавіку ўзмацнілася, у красавіку-траўні дасягнула грандыёзных памераў, а ў чэрвені набыло сапраўды ўсеагульны характар; у руху не бралі ўдзел толькі тыя дывізіі, якія ўжо былі шчыльна прысунуты да мяжы, тыя, якія рыхтаваліся да ўварвання ў Іран, і тыя, якія заставаліся на Далёкім Усходзе. Поўнае размяшчэнне савецкага войска на германскай мяжы планавалася на 10 ліпеня (Генерал арміі С. П. Іваноў. Пачатковы перыяд вайны. – с. 211). Амаль паўгода чыгуначны транспарт (галоўны транспарт дзяржавы) быў паралізаваны сакрэтнымі вайсковымі перавозкамі. На працягу першага паўгоддзя 1941 года дзяржаўны план быў сарваны па ўсіх паказчыках, акрамя вайскоўцаў. Галоўнай нагодай гэтага быў транспарт, другой – таемная мабілізацыя мужчынскага насельніцтва ў нанова ўтвараемыя часткі. Называць невыкананне дзяржаўнага плана тэрмінам «праверка» не вельмі правільна. Гэта, вядома, не праверка. У Паведамленні ТАСЗ сказана «звычайныя вучэнні», а савецкія маршалы, генералы і адміралы гэта аспрэчваюць:

Генерал-маёр С. Іаўлеў: «Незвычайнасць збораў, не прадугледжаных планамі баявой падрыхтоўкі, насьцярожвала людзей» (ВІЖ, 1960, N 9, с. 56).

Віцэ-адмірал І. І. Азараў: «Звычайна, вучэнні праводзіліся бліжэй да восені, а тут яны пачыналіся пасярэдзіне лета» (ВІЖ, 1962, N 6, с. 77).

Генерал-палкоўнік І. І. Люднікаў: «Звычайна рэзервістаў прызывалі пасьля збірання ўраджаю… У 1941 годзе гэтае правіла было парушана» (ВІЖ, 1966, N 9, с. 66).

Генерал армія М. І. Казакоў у той момант знаходзіўся ў Генеральным штабе і асабіста сустракаў генерал-лейтэнанта М. Ф. Лукіна і іншых камандармаў, таемна выпраўляемых на заходнюю мяжу. Генерал Казакоў катэгарычны: «Відавочна, што яны ехалі не на манеўры» (Над мапай былых бітваў. с. 64).

Звернем увагу на тое, што ўсе маршалы і генералы ўжываюць тэрмін «пад выглядам вучэння». Вучэнні – гэта толькі падстава, каб схаваць сапраўдную мэту перамяшчэнняў і канцэнтрацыі савецкага войска. А якая ж сапраўдная нагода – ніхто не паведамляе. Чатыры дзесяцігоддзі пасьля заканчэння вайны сапраўдная мэта гэтага перамяшчэння так і застаецца дзяржаўным сакрэтам Савецкага Звязу.

Тут чытач можа запытаць: дык магчыма, Сталін адчуў ліхое і канцэнтраваў войска для абароны? Але ўсё тое, пра што ідзе гаворка, – не абарончыя мерапрыемствы. Войска рыхтуючыся да абароны, закопваецца ў зямлю. Гэта непарушнае правіла, засвоенае кожным унтарам з часоў руска-японскай і ўсіх наступных войнаў. Войска, рыхтуючыся да абароны, перадусім, перакрывае самыя шырокія палі, па якіх будзе наступаць супернік, перакопвае дарогі, усталёўвае драцяныя загароды, капае супрацьтанкавыя равы, рыхтуе абарончыя пабудовы і схованкі па-за воднымі перашкодамі. Але Чырвонае Войска не рабіла нічога падобнага. Савецкія дывізіі, арміі і карпусы знішчалі раней пабудаваныя абарончыя пабудовы. Раней усталяваныя драцяныя і мінныя загароды не ўмацоўваліся, а здымаліся. Часткі размяшчаліся не па-за воднымі перашкодамі (што зручна для абароны), а перад імі (што зручнае для наступлення).

Савецкае войска не перакрывала шырокія палі, зручныя для пасоўвання суперніка, а хавалася ў лясах, дакладна гэтак жа, як і германскае войска, якое рыхтавалася да наступлення.

Можа, усе гэтыя захады – проста дэманстрацыя моцы? Вядома, не. Дэманстрацыя павінна быць бачнай суперніку. Чырвонае Войска ж, наадварот, не дэманстравала, а імкнулася схаваць свае прыгатаванні. Ды і само Паведамленне ТАСЗ напісана не для таго, каб суперніка напалохаць, а для таго, каб яго супакоіць.

Дзіўна, але ў гэтыя дні германскае войска рабіла тое ж самае: рухалася да мяжы, хавалася ў лясах, але гэты рух было вельмі цяжка схаваць. Савецкія выведваючыя самалёты «памылкова» лёталі над германскай тэрыторыяй. Іх ніхто не збіваў. Над германскай тэрыторыяй лёталі не толькі шараговыя лётчыкі, але і камандыры значна больш высокага рангу. Вось камандыр 43-й вынішчальнай авіяцыйнай дывізіі Заходняй асобнай вайсковай акругі генерал-маёр авіяцыі Г. Н. Захараў глядзіць на германскае войска зверху: «Ствaралася ўражанне, што ў глыбіні вялізнай тэрыторыі зараджаўся рух, які прытармажваўся тут, каля самай мяжы, упіраючыся ў яе, як у нябачную перашкоду, і гатовы вось-вось пераліцца цераз край» (Аповесць пра знішчальнікі. с. 43).

Цікава, што германскія лётчыкі таксама лёталі над савецкай тэрыторыяй, і таксама «памылкова», іх таксама ніхто не збіваў, і яны бачылі дакладна такую ж карціну! У старых трафейных архівах я знайшоў меркаванне германскага лётчыка, апісваючага савецкае войска менавіта такімі ж славамі!

Германскія вайсковыя гісторыкі зрабілі больш усіх, для таго каб зразумець сэнс адбываўшыхся ў чэрвені 1941 года падзей. Я наўмысна не цытую германскія дакументы, каб не паўтараць тое, што ўжо сказана ў Германіі. Я толькі падкрэсліваю, што словы савецкіх афіцэраў, генералаў і маршалаў цалкам падмацоўваюцца тым, што паведамляла германская выведка яшчэ да 22 чэрвеня

1941 года: Чырвонае Войска гіганцкімі струменямі накіравалася да сваёй заходняй мяжы.

Існуе шмат іншых незалежных каналаў, і ўсе яны паведамляюць тое ж самае. Адзін із намесьнікаў авіяканструктара А. Н. Тупалева, Г. Возераў, у той момант разам з Тупалевым і ўсім яго канструктарскім бюро сядзеў у турме. Кніга Возерава была напісана ў Савецкім Звязе, але пашыралася праз Самвыдат, г.зн. мінуючы цэнзуру. Адсюль яна патрапіла на Захад і была надрукавана ў Заходняй Германіі. Нават у савецкіх турмах адчуваўся жудасны рытм гіганцкага руху Чырвонага войска да заходняй мяжы. «Жывучыя на лецішчах па Беларускаму і Віндаўскаму шляхах жаляцца – ноччу немагчыма спаць, гоняць эшалоны з танкамі, гарматамі!» (Тупалеўская шарага. с. 90).

Пасьля надрукавання маіх першых артыкулаў па разглядаемаму пытанню я атрымаў шмат лістоў. Калі-небудзь я надрукую іх асобнай кнігай. Нават без якіх бы то ні было каментараў яны даюць карціну жахлівага руху савецкага войска на захад. Мне пішуць людзі самых розных нацыянальнасьцей, розных лёсаў. Сярод іх эстонцы, жыды, палякі, малдаване, рускія, латышы, немцы, вугорцы, літоўцы, украінцы, румыны. Усе яны ў той момант дзякуючы розным нагодам знаходзіліся на «вызваленых» тэрыторыях. Потым вайна раскідала гэтых людзей па ўсяму сьвету. Лісты ідуць із Аўстраліі, Злучаных Штатаў, Францыі, Германіі, Аргенціны, із Заходняй Германіі і нават… із Савецкага Звязу. Я атрымаў ліст із Канады ад былога жаўнера Рускага вызваленчага войска. У 1941 годзе ён быў у Чырвоным войску, ён ішоў да мяжы, ён хаваўся са сваім палком у памежных лясах, дзе яго заспела вайна. Потым палон. Рускі вызвальны рух, зноў палон, уцёкі і доўгае жыццё пад чужымі імёнамі ў чужых краінах. Жаўнер паказаў мне некалькі кніг былых ваяроў і камандыраў РВА, дзівам ацалелых пасьля вайны. Цікава, што ўсе гэтыя аўтары пачынаюць свае кнігі з моманту пачатку таемнага руху да мяжы.

Акрамя лістоў асабіста мне, некаторыя сведкі ці людзі, блізка ведаўшыя іх, пішуць лісты ў навуковыя часопісы, і некаторыя із гэтых лістоў надрукаваны. Вось ліст із Вялікабрытаніі. Брытанскі грамадзянін Джэймс Рушбрук звяртае ўвагу на кнігу Стэфана Стэндэ: «Абяцанне, якое Гітлер выканаў», кніга напісана ў 1944 годзе і надрукавана ў 1945-м у Швецыі. Аўтар – польскі жыд, які апынуўся ў Львове ў 1941 годзе. Вось яго ўражанне пра дні папярэднічаючыя 22 чэрвеня: «Эшалоны, набітыя войскам і вайсковым рыштункам, усё часьцей і часьцей ідуць праз Львоў на захад. Матарызаваныя часткі ідуць праз галоўныя вуліцы горада, а на чыгуначнай станцыі ўвесь рух – чыста вайсковы» (з. 88). Я дзякую ўсіх, хто піша мне і ў часопісы, дадаючы ўсе новыя і новыя калівы да выявы ўсеагульнага руху Чырвонага войска на захад.

Акрамя сакрэтных архіваў існуе дастатковая колькасць адкрытых афіцыйных публікацый, сярод якіх гісторыі савецкіх вайсковых акруг, армій, карпусоў, дывізій.

Кожны, хто цікавіцца дадзеным пытаннем, можа знайсьці за вельмі кароткі час сотні і нават тысячы паведамленняў тыпу: «Перад самай вайной, у адпаведнасьці з указаннямі Генеральнага штаба Чырвонага войска, некаторыя злучэнні Заходняй Асобнай вайсковай акругі пачалі высоўвацца да дзяржаўнай мяжы» (Чырванасьцяжная Беларуская вайсковая акруга. с. 88).

Але калі некаму гэтыя крыніцы не здаюцца праўдзівымі, існуе падмацаванне, якое аспрэчыць немагчыма, – гэта сама гісторыя вайны. Разграміўшы Першы стратэгічны эшалон і прарваўшы яго абарону, перадавыя германскія часткі раптам

сустрэліся з новымі дывізіямі, карпусамі і арміямі (напрыклад, з 16-ай арміям пад Шапятоўкай пад канец чэрвеня), пра існаванне якіх германскія кіраўнікі нават не падазравалі. Увесь план «бліцкрыгу» будаваўся на разліку імгненнага разгрому савецкага войска знаходзіўшагася непасрэдна каля мяжы, але выканаўшы гэты план, германскае войска выявіла перад сабой новую сьцяну із армій, якія перамяшчаліся із-за Волгі, із Паўночнага Каўказа, із Урала, Сібіры, Забайкалля, із Далёкага Ўсходу. Нават для адной арміі патрэбны тысячы вагонаў. Іх патрэбна падаць на станцыі пагружэння, загрузіць армію, цяжкае ўзбраенне, транспарт, прыпасы і перавезьці на тысячы кіламетраў. Калі германскае войска сустрэла сібірскія, уральскія, забайкальскія арміі пад канец чэрвеня, то гэта азначае, што іхная перавозка на захад пачалася не 22 чэрвеня, а раней.

Разам з масамі савецкіх армій пачалося перамяшчэнне савецкага флота. «Савецкі Балтыйскі флот выйшаў із усходняй часткі Фінскага заліва напярэдадні войны» (Эстонскі народ у Вялікай Айчыннай вайне Савецкага Звязу. 1941-1945. Т. 1, с. 43). Паглядзім на мапу. Калі флот выйшаў із усходняй часткі Фінскага заліва, то існуе толькі адна магчымасць руху – на захад. Флот, вядома, ішоў не на вучэнні: «Флот меў заданне актыўна дзейнічаць на марскіх камунікацыях суперніка» (Там жа). Дзіўная рэч: яшчэ няма вайны, яшчэ Сталін не ведае, што Гітлер на яго нападзе, а савецкі флот ужо выйшаў са сваіх баз, маючы баявое заданне на актыўныя наступальныя дзеянні!

Адначасова з перамяшчэннем войска ішло інтэнсіўнае перабазаванне авіяцыі. Авіяцыйныя дывізіі і палкі невялікімі згуртаваннямі ў цёмны час сутак пад выглядам вучэння перамяшчаліся на аэрадромы, некаторыя із якіх знаходзіліся бліжэй чым 10 км ад мяжы. Але пра гэта гаворка наперадзе. Зараз мы толькі нагадаем, што акрамя баявых падраздзяленняў авіяцыі ішло ўзмоцненае перамяшчэнне навейшых самалётаў, яшчэ не ўключаных ні ў якія палкі і дывізіі.

Генерал-палкоўнік Л. М. Сандалаў: «З 15 чэрвеня мы пачнём атрымліваць новую баявую тэхніку. Кобрынскі і Пружанскі знішчальныя палкі атрымаюць знішчальнікі Як-1, узброеныя гарматамі, штурмавы полк – самалёты Іл-2, бамбавальны – Пе-2» (На маскоўскім накірунку. с. 63). Нагадаем чытачу, што вынішчальныя палкі таго часу мелі па 62 самалёта кожны, штурмавыя па 63, а бамбавальныя па 60. Такім чынам, толькі ў адной дывізіі (10-я змешаная авіяцыйная) чакалася ў гэты момант паступленне 247 навейшых самалётаў. Тут жа генерал паведамляе, што дывізія сапраўды пачала атрымліваць новую тэхніку, але старыя самалёты заставаліся ў дывізіі. Такім чынам, дывізія ператваралася ў гіганцкі баявы арганізм, налічваючы некалькі соцень самалётаў. Архіўныя дакументы сведчаць, што гэты працэс адбываўся паўсюдна. Напрыклад, размешчаная побач і таксама прысунутая да самай мяжы 9-я змешаная: 176 найновых МіГ-3, а таксама некалькі дзясяткаў Пе-2 і Іл-2. Але новая тэхніка ішла і ішла.

Раніцай 22 чэрвеня той жа Заходні фронт атрымаў загад прыняць на аэрадром Ворша 99 самалётаў МіГ-3 (Кіраўніцтва і штаб Савецкага Войска ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг. с. 41). Калі іх загадалі прыняць раніцай 22 чэрвеня, то відаць, вечарам 21 чэрвеня самалёты былі гатовы да адпраўлення.

Галоўны маршал авіяцыі А. А. Новікаў паведамляе, што 21 чэрвеня Паўночны флот (дзе ён тады быў камандуючым ВПМ[13] у званні генерал-маёра авіяцыі) атрымаў эшалон знішчальнікаў МіГ-3 (ВІЖ, 1969, N 1, с. 61).

[13] Вайскова Паветраная Магутнасць (па-руску ВВС)

А акрамя знішчальнікаў суцэльным струменем ішлі танкі, артылерыя, боепрыпасы, паліва. «Досвіткам 22 чэрвеня на станцыю Шаўляй прыбыў для разгрузкі эшалон цяжкага артылерыйскага палка» (Бітва за Ленінград. 1941-1944. с. 22). Не адзін эшалон, вядома, і не толькі з гарматамі. Вось сёе-тое пра аўтамабілі. «Да канца чэрвеня 1941 года на чыгунках прастойвалі 1320 цягнікоў з аўтамабілямі» (ВІЖ, 1975, N 1, с. 81). Германскае войска напала 22 чэрвеня, а ўжо на прыканцы чэрвеня такая колькасць эшалонаў з аўтамабілямі прастойвала ў прыфрантавой паласе. Стандартная вага вайсковага эшалона таго часу – 900 тон (45 дваццацітонных вагонаў). Калі на кожным вагоне знаходзіўся адзін аўтамабіль, то, гэта азначае, чакалі разгрузкі 59 400 аўтамабіляў. Аднак часта ва ўмовах, калі напад суперніка не прадбачыўся (а ён не прадбачыўся), аўтамабілі грузілі «змяёй»; пярэднія колы аўтамабіля ставілі ў кузаў папярэдняга, а ў сваю чаргу ў яго кузаў колы наступнага і г.д. Такім чынам, за кошт эканоміі ў адзін эшалон загружалася большая колькасць аўтамабіляў. Нехта перад вайной сабраў такую колькасць вагонаў і аўтамабіляў, пагрузіў аўтамабілі ў вагоны і даставіў да заходняй мяжы. Зразумела, што гэты працэс пачаўся яшчэ да вайны. Але вось разгрузіць гэтыя машыны не паспелі… А тут жа побач бясконцымі струменямі ішлі эшалоны з боепрыпасамі. «Чырвоная зорка» 28 красавіка 1985 года пазначае: «Вечарам 21 чэрвеня 1941 года каменданту чыгуначнай пляцоўкі станцыі Ліепая паведамілі: „Прыміце адмысловы састаў. Ён з боепрыпасамі. Патрэбна адправіць яго па прызначэнню ў першую чаргу“. Ліепая ў той час знаходзілася вельмі блізка ад мяжы, але эшалон ідзе транзітам, г.зн. да самай мяжы.

На ўсіх франтах боепрыпасы знаходзіліся ў чыгуначных вагонах, што звычайна робіцца перад падрыхтоўкай наступлення на вялікую глыбіню. У абарончай вайне прасьцей, надзейней і больш танна размяшчаць боепрыпасы на загадзя падрыхтаваных рубяжах. Выкарыстаўшы боепрыпасы на адным рубяжы, войска без боепрыпасаў хутка адыходзіць на другі рубеж, дзе боепрыпасы загатаваны загадзя, потым на трэцці і т. д… Але перад наступленнем боепрыпасы размяшчаюцца на рухомым транспарце, гэта патрабуе вялікіх выдаткаў і небяспечна… «Паўднёва-заходні фронт толькі на невялікай станцыі Калінаўка меў 1500 вагонаў з боепрыпасамі» (Г. А. Куманеў. Савецкія чыгуначнікі пад час гадоў Вялікай Айчыннай вайны (1941-1945). с. 36).

У мяне шмат матэрыялаў пра выратаванне эшалонаў з боепрыпасамі ў 1941 годзе. Але не ўсе, вядома, атрымалася выратаваць.

Генерал-палкоўнік артылерыі І. І. Воўкатрубенка паведамляе, што ў 1941 годзе толькі адзін Заходні фронт згубіў 4216 вагонаў з боепрыпасамі (ВІЖ, 1980, №5, з, 71). Але франтоў было не адзін, а пяць. Не толькі Заходні фронт губляў вагоны з боепрыпасамі. Паспрабуем у думках ўявіць сабе колькасць боепрыпасаў на ўсіх франтах, патрапіўшых да суперніка і тых якія змаглі выратаваць. У сярэдзіне чэрвеня ўсё гэта пад заслонай Паведамлення ТАСЗ у зачыненых вагонах кацілася непасрэдна да германскай мяжы.

Маршал Савецкага Звязу С. К. Куркоткін паведамляе, што напачатку чэрвеня «савецкі ўрад адпаведна з прапановай Генеральнага штаба зацвердзіў план перамяшчэння 100 тысяч тон гаручага із унутраных раёнаў краіны» (Тыл Савецкага Узброенага Войска ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг. с. 59). Па ўсёй бачнасьці, акрамя гэтага рашэння былі і іншыя падобныя: «на чыгуначных вузлах і нават перагонах сабралася каля 8500 чыгуначных цыстэрнаў з гаручым» (там жа, с. 173). Калі б выкарыстоўваліся толькі самыя маленькія 20-тонавыя цыстэрны, то і

тады гаворка ідзе не пра 100 тысяч тон, а пра большую колькасць. Але асноўнай цыстэрнай у 1940 годзе была не 20-, а 62-тонная. Але гэтыя 8500 цыстэрнаў гэта толькі тое, што стаіць на станцыях у чаканні разгрузкі ў пачатковыя дні вайны. Патрэбна браць да ўвагі і тое, што ўжо знішчана авіяцыяй суперніка на чыгуначных станцыях пад час першых хвілін і гадзін вайны.

Генерал-палкоўнік Ё. В. Болдзін (у той час генерал-лейтэнант, намесьнік камандуючага Заходнім фронтам) паведамляе, што 10-ая армія (самая магутная на Заходнім фронце) мела дастатковыя запасы паліва на складах і ў чыгуначных цыстэрнах і за першыя хвіліны і гадзіны вайны ўсё гэта страціла (Старонкі жыцця. с. 92).

Напярэдадні вайны ўся гэтая маса цыстэрнаў ішла да мяжы разам з арміямі, тэхнікай, узбраеннем, боепрыпасамі…

Калі мы разважаем пра падставы параз Чырвонага войска пад час пачатковага перыяду вайны, то чамусьці забываем пра галоўную падставу: Чырвонае Войска знаходзілася ў вагонах. Кожны даследчык можа знайсьці тысячы паведамленняў, падобных гэтым.

«Пад час моманту пачатку вайны палова эшалонаў 64-й стралковай дывізіі знаходзілася ў дарозе» (ВІЖ, 1960, №9, с. 56).

«Вайна заспела вялікую частку злучэнняў 21-ай арміі ў эшалонах, якія расцягнуліся па чыгунцы на велізарнай прасторы ад Волгі да Дняпра» (На загад Радзімы. Баявы шлях 6-а гвардзейскага армія ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг. с. 5).

«Вайна заспела 63-і стралковы корпус у дарозе. Толькі першыя эшалоны паспелі прыбыць 21 чэрвеня на станцыю Добруш і Нова-Беліца да месца разгрузкі. Наступныя падыходзілі вельмі разрознена да першых дзён ліпеня на розныя станцыі паблізу Гомеля. А некалькі частак корпуса, напрыклад, усе палкі 53-й стралковай дывізіі, акрамя 110-га стралковага і 36-га артылерыйскага, яшчэ не даязджаючы да Гомеля, былі пераанакіраваны на поўнач» (ВІЖ, 1966, №6, с. 17).

Генерал армія С. П. Іваноў (у той час палкоўнік, кіраўнік аператыўнага аддзела штаба 13-ай арміі) распавядае пра 132-ю стралковую дывізію генерал-маёра с. с. Бірузова:

«Супернік раптам атакаваў эшалон, у якім да фронту накіроўвалася частка жаўнераў дывізіі і яе штаб. Давялося пачынаць бой прама з вагонаў і платформаў» («Чырвоная зорка», 21 жніўня 1884 года).

Маршал Савецкага Звязу С. С. Бірузоў (у той час генерал-маёр, камандыр 132-й стралковай дывізіі): «У самы апошні момант нас уключылі ў склад 20-га механізаванага корпуса. Ні камандыра, ні кіраўніка штаба корпуса я не бачыў і, дарэчы сказаць, нават не ведаў, дзе размешчаны іхны камандны пункт. Лявей нас дзейнічала 137-я стралковая дывізія пад кіраваннем палкоўніка І. Т. Грышына. Яна прыбыла із Горкага… Наш правы сусед быў кінуты ў бой, як і мы, – непасрэдна із вагонаў, калі яшчэ не ўсе эшалоны прыбылі да месца выгрузкі» (Калі грукаталі гарматы. с. 21).

Генерал арміі С. М. Штэменка (у той час палкоўнік аператыўнага аддзела Генеральнага штаба): «Эшалоны з арміямі ідуць на захад і паўднёвы захад суцэльным струменем. То аднаго, то другога із нас накіроўваюць на станцыі выгрузкі. Складанасць і пераменлівасць абставін нярэдка вымушалі спыняць выгружэнне і накіроўваць эшалоны на нейкую іншую станцыю. Здаралася, што камандаванне і штаб дывізіі выгружаліся ў адным месцы, а палкі – у іншым ці

нават у некалькіх месцах на значнай адлегласьці» (Генеральны штаб у годы вайны. с. 30).

«Варожая авіяцыя сістэматычна наносіла ўдары па чыгуначных станцыях і шляхах. Графікі руху парушаліся. Выгрузка нярэдка ажыцяўлялася не на станцыях прызначэння, а ў іншых месцах. Былі выпадкі, калі падраздзяленні траплялі ў суседнія арміі і там пачыналі бой» (В. А. Анфілаў. Правал «бліцкрыгу». с. 463).

«У дарозе знаходзіліся адзінаццаць дывізій 20-й, 21-й, 22-й армій. Не закончыла размяшчэнне 19-ая армія генерала І. С. Конева і 16-ая армія генерала М. Ф. Лукіна» (Гісторыя другой сусьветнай вайны (1939-1945) Т. 4, с. 47).

«Каласальнае назапашванне вагонаў амаль цалкам паралізавала працу шматлікіх вузлоў. На большасьці станцый заставаўся толькі адзін вольны шлях для пропуску цягнікоў» (Ё. В. Кавалёў. Транспарт у Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг. с. 59).

Генерал-палкоўнік А. с. Клемін распавядае пра пачатак ліпеня: «На дарогах знаходзілася 47.000 вагонаў з вайсковымі грузамі» (ВІЖ, 1985, №3, с. 67).

Можна выказаць здагадку, што ўсё гэта грузілася пасьля 22 чэрвеня і накіроўвалася на франты. Гэта няправільная здагадка. Пасьля 22 чэрвеня франты патрабавалі толькі пустых вагонаў, каб вывозіць штабелі ўзбраення, боепрыпасаў, паліва і іншых вайсковых прыпасаў, ужо размешчаных каля мяжы.

Каб уявіць сабе трагічнасць сітуацыі, варта зноў згадаць хаця б генерала М. Ф. Лукіна. Ён, як камандуючы арміяй, ужо ваяваў пад Шапятоўкай, а штаб яго арміі знаходзіўся ў Забайкаллі. Эшалоны яго арміі расцягнуліся на тысячы кіламетраў. Потым прыбыў штаб, але батальён сувязі ўсё яшчэ знаходзіўся ў дарозе. Такія сітуацыі ўзнікалі паўсюдна: на адных станцыях выгружаліся штабы, не меўшыя войска, у іншых месцах – войска без штабоў. Горш было, калі эшалон спыняўся не на станцыі, а ў полі. Танкавы батальён – вялізная магутнасць. Але ў эшалоне ён безабаронны. Калі вайна заспела эшалон з цяжкай тэхнікай там, дзе няма месца для разгрузкі, то даводзілася ці знішчаць эшалон, ці кідаць яго.

Але і тыя дывізіі, якія знаходзіліся ў Першым стратэгічным эшалоне і высоўваліся да мяжы сваім ходам, апынуліся не ў лепшым становішчы. Дывізія ў калонах на маршы – гэта выдатная мішэнь для авіяцыі. Усё Чырвонае Войска ўяўляла сабой адну выдатную мішэнь.

Шмат хто бачыў перамяшчэнне савецкага войска, аднак кожны бачыў толькі яго частку. Мала хто ўяўляе яго сапраўдныя памеры. Германская вайсковая выведка лічыла, што адбываецца гіганцкае нарошчванне магутнасьці, але нават яна бачыла толькі Першы стратэгічны эшалон, не здагадваючыся пра існаванне Другога (і Трэццяга, пра які гаворка наперадзе). Я думаю, што шмат хто із савецкіх генералаў і маршалаў, выключаючы самых выбітных ці непасрэдна меўшых дачыненне да гэтага перамяшчэння, таксама не ўяўляюць яго сапраўдных памераў, а, такім чынам, і яго значэння. Менавіта таму шмат хто із іх так спакойна распавядае пра яго. Няведанне агульнага становішча і сапраўдных памераў канцэнтрацыі савецкага войска цалкам не выпадковая з’ява. Сталін прыняў драконаўскія захады маскіравання. Сталінскае Паведамленне ТАСЗ – адзін із такіх захадаў. Сам факт перамяшчэння войска схаваць было немагчыма, але самае галоўнае: памеры перамяшчэння і яго прызначэнне Сталін схаваў ад усёй краіны, ад германскай выведкі і нават ад будучых пакаленняў.

Генерал-палкоўнік авіяцыі А. С. Якаўлеў (у той час асабісты рэферэнт Сталіна) сведчыць, што «пад канец траўня ці напачатку чэрвеня» ў Крамлі адбылася нарада па пытаннях маскіравання (Мэта жыцця. Запіскі авіяканструктара. с. 252).

Раней мы ўжо бачылі некаторыя захады, здзейсненыя савецкімі генераламі: арміям паведамлялася, што яны едуць на вучэнне, хаця вышэйшыя кіраўнікі разумелі, што гэта не вучэнне. Іншымі словамі, праводзілася мэтанакіраванае дэзінфармаванне свайго войска. Германскае камандаванне ў той жа самы час рабіла тое ж самае: у войску хадзілі чуткі пра высадку ў Вялікабрытаніі, шмат хто нават ведалі назву аперацыі – «Марскі леў», у войску з'явіліся перакладчыкі ангельскай мовы і г.д.

Дарэчы нагадаць, што дэзінфармаванне свайго войска мае сэнс толькі перад наступальнай аперацыяй, для таго каб утаіць ад суперніка свае намеры, час і накірунак галоўнага ўдару. У абарончай вайне ці перад яе пачаткам сваё войска няма патрэбы падманваць – афіцэрам і жаўнерам ставіцца простае і зразумелае заданне: гэта твая мяжа, ні кроку назад! Здохні тут, а ворага не прапусьці!

Той факт, што савецкіх жаўнераў і камандыраў падманвалі – з’яўляецца сведчаннем падрыхтоўкі да наступальнай аперацыі. Калі б рыхтавалася абарончая аперацыя, чаму б не сказаць войску: так, браткі, становішча напружанае, можа здарыцца ўсё што заўгодна, едзем капаць акопы і ў іх сядзець. Калі сапраўды войска збіраецца капаць акопы, то асаблівай розніцы няма – паведамляць яму пра мэту падарожжа пасьля прыбыцця ці да выпраўлення. Але такую навіну савецкім афіцэрам і жаўнерам не паведамлялі ні пры выпраўленні, ні пры прыбыцці. Перад імі ставілася іншая мэта, якую хавалі тады, якую хаваюць зараз.

Каб уявіць сабе памеры таемнасьці перамяшчэння войска, прывяду толькі адзін прыклад са шматлікіх. Маршал Савецкага Звязу М. В. Захараў: «Напачатку чэрвеня кіраўнік ВАПА[14] Адэскай вайсковай акругі палкоўнік П. І. Румянцаў зайшоў да мяне, у той час кіраўніка штаба АдВА[15], у кабінет і таямніча паведаміў, што за апошнія дні праз станцыю Знаменка ідуць „Ганначкі“ з растоўскага накірунку і выгружаюцца ў раёне Чаркасаў. „Ганначка“ – гэта тэрмін, пазначаючы ва ўстановах ВАПА дывізію. Праз два дні мной была атрымана шыфроўка із Чаркасаў за подпісам намесьніка камандуючага войскам Паўночна-Каўказскай вайсковай акругі М. А. Рэйтэра, у якой было прашэнне дазволіць заняць некалькі баракаў рэчавага складу нашай акругі для размяшчэння маёмасьці прыбываючага ў гэты раён войска із Паўночнага Каўказа. З нагоды таго, што штаб АдВА не быў праінфармаваны пра размяшчэнне тут войска, я патэлефанаваў па „ВЧ“ у Аператыўны аддзел Генштаба. Да тэлефона падышоў намесьнік кіраўніка аддзела А. Ф. Анісаў. Паведаміўшы яму пра шыфроўку атрыманую ад М. А. Рэйтара, я папрасіў патлумачыць, што гэта азначае. Анісаў адказаў, што шыфроўку Рэйтара патрэбна неадкладна знішчыць, што яму будуць дадзены патрэбныя загады ад Генштаба, а штабу акругі няма патрэбы браць удзел ў гэтай справеа» («Пытанні гісторыі», 1970, №5, с. 42).

Далей маршал Захараў паведамляе, што камандуючы войскам Адэскай акругі генерал-палкоўнік Я. Т. Чаравічэнка таксама нічога не ведаў пра «Ганначак». Савецкія часткі заўсёды перамяшчаліся з выкананнем захадаў сакрэтнасьці і савецкія войскоўцы заўсёды трымаюць у сакрэце свае намеры. Гэта сапраўды так.

[14] Вайсковыя Паведамленні (па-руску ВОСО)
[15] Адэская Вайсковая Акруга

Але ўсяму ёсць мера. Камандуючы вайсковай акругай у Савецкім Звязе, асабліва камандуючы памежнай акругай, і яго кіраўнік штаба – гэта людзі, надзеленыя надзвычайнымі паўнамоцтвамі і ўладай. Яны ў поўнай меры адказваюць за ўсё, што адбываецца на тэрыторыі, якая знаходзіцца пад іхным кантролем. Прывядзіце мне іншы прыклад, калі камандуючы акругай і яго кіраўнік штаба не ведаюць пра тое, што на тэрыторыі іхнай акругі рзмяшчаюцца нейкія іншыя войсковыя часткі! Нават у сітуацыі, калі камандаванне Адэскай акругі выпадкова даведалася пра размяшчэнне нейкага войска на тэрыторыі акругі, Генеральны штаб (якім кіраваў Г. К. Жукаў) патрабуе пра атрыманую інфармацыю забыцца, а сакрэтную шыфроўку, прызначаную толькі для вока кіраўніка штаба акругі, – знішчыць. Нават у сейфе кіраўніка штаба акругі гэтая шыфроўка ўяўляе небяспеку! Дарэчы, раней я казаў, што ў савецкіх архівах існуе вельмі шмат цікавых дакументаў пра гэты перыяд, і ўсё ж самае цікавае ніколі не патрапіла ў архіў ці было пазьней знішчана.

Сьляды знішчэння бачны ў архівах, напрыклад: прапанова пачынаецца на адной старонцы, але наступнай няма, а часам і наступнай сотні старонак няма. І гэтая знішчаная шыфроўка ў Адэскай акрузе – толькі яшчэ адно падмацаванне маіх слоў.

Цікавымі выяўляюцца паводзіны генерал-лейтэнанта М. А. Рэйтара ў дадзенай сітуацыі. Макс Рэйтар – дысцыплінаваны немец, яшчэ пад час Першай сусьветнай вайны быў палкоўнікам у штабе рускага войска, служака прускай закваскі. Ужо ён та ведае, як захоўваць сакрэты. Але нават ён, намесьнік камандуючага Паўночна-Каўказскай акругай, апынуўшыся са сваімі «Ганначкамі» на тэрыторыі чужой вайсковай акругі, палічыў цалкам натуральным звязацца да роўнага з ім мясцовага боса і запытаць дазвол (вядома, з выкарыстаннем персанальнага шыфру!) нешта зрабіць. Яму із Генеральнага штаба хутка прамылі мазкі, і больш ён падобных шыфраванняў не пісаў.

А вось трохі іншыя прыклады.

Генерал-палкоўнік Л. М. Сандалаў аглядае будаўніцтва абаронлых пабудоваў на самай мяжы ў раёне Бярэсьця і са здзіўленнем заўважае, што доты будуюць так блізка ад мяжы, што іх бачна з германскага боку. Ён задае пытанне В. І. Чуйкову. Чуйкоў, гэты будучы сталінградзкі ліс, уздыхае (вядома, прытвараючыся): вельмі шкада, але справа ідзе менавіта так, немцы заўважаць наша абарончае будаванне (На маскоўскім накірунку. с. 53). Гудэрыян пачынаў вайну менавіта з другога боку гэтай ракі і пазначае, што ён усё гэта добра бачыў: доты будавалі днём і ноччу, прытым ноччу пры яркім асьвятленні. Дзіўная рэч: ні сам Сандалаў, ні Чуйкоў, ні нехта іншы не загадваюць спыніць працу і перанесьці будаўніцтва на пару кіламетраў у тыл, каб супернік не мог бачыць дакладнае размяшчэнне агнявых кропак і накірунак амбразур, грунтуючыся на чым ён можа лёгка разлічыць сістэму агню.

Маршал Савецкага Звязу І. Х. Баграмян у іншай акрузе ў 1940 годзе назірае тую ж выяву: ідзе будаванне ўмацаванага раёна (УР) «проста на вачах у немцаў». Будаўнічыя пляцоўкі абгароджаны плоцікамі. «Мне гэтыя плоцікі нагадвалі фігавыя лісточкі на антычных статуях.

— Як вы лічыце, – запытаў я кіраўніка адной із будоўляў, – здагадваюцца немцы, што майструюць тут вашы будаўнікі, на беразе памежнай ракі, за гэтым плоцікам?

Апавяданне пра «чорныя» дывізіі і карпусы мы пачалі з 63-га стралковага корпуса 21-ай арміі. І тут згадалі камкора Пятроўскага і камбрыга Факанава. Чаму ж яны не генералы? Адказ тут просты. У «чорных» карпусах і дывізіях, не толькі жаўнеры і афіцэры, але і вышэйшыя камандыры былі ветэранамі «барачных мястэчак для лесасекаў».

Да 1940 года ў Чырвоным войску для вышэйшага кіруючага складу былі ўсталяваны вайсковыя званні «камбрыг», «камдыў», «камкор», «камандарм». У якасьці знакаў адрознення выкарыстоўваліся ромбы ў пятліцах: адзін ромб для камбрыга, два – камдыў і г.д. Але вось Сталін у траўні 1940 года робіць гасьцінец вышэйшаму кіруючаму складу свайго войска – прызначае генеральскія званні, лампасы, зоркі замест ромбаў. Новыя званні: генерал-маёр, генерал-лейтэнант, генерал-палкоўнік, генерал арміі ніяк не злучаны са старымі вайсковымі званнямі. Урадавая камісія зрабіла поўную пераатэстацыю ўсяго вышэйшага кіруючага складу, пры гэтым шмат хто із камбрыгаў сталі палкоўнікамі, г.зн. былі паніжаны на адну прыступку із таго ўзроўня, на якім знаходзіліся яшчэ некалькі гадоў назад. Некаторыя камбрыгі сталі генерал-маёрамі, а камбрыг І. Н. Музычэнка – генерал-лейтэнантам. Шмат хто із камандармаў сталі генерал-палкоўнікамі – А. І. Гарадавікоў, Г. М. Штэрн, Д. Г. Паўлаў, Н. Н. Воранаў. Камандарм В. Я. Качалаў быў паніжаны – генерал-лейтэнант. Але вось камкор Г. К. Жукаў атрымлівае самае высокае генеральскае званне – генерал арміі. Дарэчы, малавядомы факт: Жукаў быў генералам №1. Яму першаму прызначылі генеральскае званне ва ўсім Чырвоным войску. Усяго пастановай савецкага ўрада ў чэрвені 1940 года 1056 вышэйшых камандыраў атрымалі вайсковыя званні генералаў і адміралаў.

Заснаванне генеральскіх званняў – гэта сталінскі пернік пасьля вялікага ачышчэння 1937-1938 гадоў. З чаго б гэта таварыш Сталін такі добры? Ды з таго, што ён плануе ўсіх сваіх камандыраў у бліжэйшы час пусьціць у справу. У адваротным выпадку з пернікам можна было б і не спяшацца.

Але Сталіну мала адной тысячы генералаў. Ствараюцца ўсе новыя і новыя дывізіі, фармуюцца карпусы і арміі. І на генеральскія пасады прызначаюцца палкоўнікі. Мы яшчэ сустрэнем не менш сотні палкоўнікаў на генеральскай пасадзе – камандыр дывізіі. А раней ужо сустракалі палкоўніка І. І. Фядзюнінскага нават на пасадзе камандыра 15-га стралковага корпуса 5-ай арміі.

Але камандыраў нехапае. Пакуль Гітлер стаяў да Сталіна тварам, Сталін быццам бы задавальняўся маючайся колькасьцю. Але Гітлер павярнуўся тварам на захад, а да Сталіна спінай. І вось Сталіну вельмі спатрэбіліся камандыры вышэйшага рангу. Шмат камандыраў! Вось чаму турэмныя вагоны спяшаюцца ў Маскву. Тут былых камандыраў, прайшоўшых ГКЛаг, ветліва сустракаюць на Лубянцы, тлумачаць, што адбылася памылка. Крымінальная справа спыняецца, асуджэнне зкасоўваецца. Камандыры спяшаюцца ў Сочы, а адтуль – пад баявыя сьцягі.

Не кожнаму камандыру аднолькавая павага. Некаторым – генеральскія званні. Сярод іх генерал-маёр К. К. Ракасоўскі, будучы Маршал Савецкага Звязу. Але большасць вызваленых із турмаў так і застаюцца са сваімі старымі вайсковымі званнямі: камбрыгі, камдывы, камкоры. Дзіўнае стварылася ў Чырвоным войску становішча: паралельна існуюць дзьве сістэмы вайсковых званняў для вышэйшага кіруючага складу, дзьве сістэмы знакаў адрознення, дзьве розныя формы адзення. Адны камандыры ходзяць ганарліва з зоркамі, з чырвонымі лампасамі (у войску

гэта мае назву паласатыя штаны), у шыкоўных парадных мундырах, іншыя, робячы тую ж працу, носяць сьціплыя ромбікі.

У Мельгунова апісаны і дакументальна падмацаваны захад, выкарыстоўваемы чэкістамі Кіева пад час Чырвонага тэрору. Не адказваючых на пытанні чэкісты без лішніх словаў клалі ў труну і закопвалі ў зямлю. А потым адкопвалі. І працягвалі допыт.

Прынцыпова, «пад час передваеннага перыяду» Сталін робіць тое ж самае: за перыяд Вялікага ачышчэння тысячы камандыраў патрапілі ў ГКЛаг, некаторыя з іх маюць сьмяротныя прысуды, некаторыя маюць працяглыя тэрміны і адбываюць яго на Калыме. Згодна са шматлікімі сведчаннямі (напрыклад, «Калымскія апавяданні» В. Шаламава), жыццё тут зусім не лепшы варыянт у параўнанні з разстраляннем. І вось людзей, якія ўжо развіталіся з жыццём, вязуць у мяккіх вагонах, адкормліваюць у наменклатурных санаторыях, даюць у рукі былую ўладу і «магчымасьць адкупіць віну». Генеральскага звання не даюць (г.зн. цалкам не даюць ніякіх гарантый) – кіруй, а там паглядзім… Ці можам мы ўявіць сабе, як усе гэтыя камбрыгі і камдывы рвуцца ў справу? У сапраўдную справу!

Паспрабуйце нявіннага прысудзіць да сьмерці, а потым дайце яму працу, за выкананне якой будзе дараванне і аднаўленне на былой вышыні. Як вы лічыце, ён будзе выканаць працу?

Сталінскі разлік дакладны. Шмат хто із вызваленых служылі Сталіну верай і праўдай, ірваліся ў бой і сваімі справамі і крывёй даказалі, што даверу заслугоўваюць. Сярод іх камдыў Г. А. Варажэйкін, прызначаны кіравацца авіяцыяй 21-ай арміі Другога стратэгічнага эшалона. Вызначыўся ўжо ў першых баях і ў ліпені 1941 года атрымаў званне генерал-маёра авіяцыі. У жніўні ён – кіраўнік штаба ВПЧ[19] Чырвонага войска. Атрымліваючы кожны год новае званне, у 1944 годзе ён стаў маршалам.

Камбрыг А. В. Гарбатаў, вызвалены ў сакавіку 1941 года, атрымлівае прызначэнне на пасаду намесьніка камандыра 25-га стралковага корпуса 19-ай арміі Другога стратэгічнага эшалона. Ён падымаецца да звання генерала арміі і да пасады камандуючага паветрана-дэсантным войскам Савецкага Войска.

Вось як ён апісвае сваё вызваленне: «Жонка пабывала ў НКУС, прыляцела адтуль, як на крылах, паведаміла, што яе вельмі добра прынялі, размаўлялі ветліва, цікавіліся, як яна жыве, ці не патрэбна ёй дапамагчы грашамі…

…Ноччу на 5 сакавіка 1941 года, у дзьве гадзіны, на легкавой машыне следчы даставіў мяне на Камсамольскі пляц да маіх знаёмых. Здаўшы мяне, ветліва развітаўся:

— Вось мой тэлефон. Калі што, тэлефануеце да мяне ў кожны час. Разлічвайце на маю дапамогу.

Як рэліквію, я ўзяў з сабой мяшок з латкамі, галёшы і чорныя, як смоль, кавалкі цукру і сушкі, якія захоўваў на выпадак хваробы» (А. В. Гарбатаў. Годы вайны. с. 168-169).

Параўнанне з закапваннем у труне і адкапваннем – не мая ідэя. Гэта я ў генерала арміі Гарбатава запазычыў: «Пятае сакавіка я лічу днём свайго другога нараджэння».

Камбрыга Гарбатава вызвалілі (як і шматлікіх іншых), дакладна разлічыўшы час: месяц адпачынку ў санаторыі, азнаямленне са справамі, а тут і час –

[19] Вайскова Паветранае Часткі (па-руску ВВС)

Паведамленне ТАСЗ. І вось бравы камбрыг са сваімі «Ганначкамі» ўжо таемна рухаецца на захад.

А «сувеніры» ГКЛага, як сапраўдны зэк, ён заначыў недарэмна. Не спатрэбіліся, і добра. А некаторым спатрэбіліся. Вось камбрыг І. Ф. Дашычаў галёшы надзеў другі раз. Вызвалены ў сакавіку 1941-га, ён сеў у кастрычніку і сядзеў мінімум да 1953 года.

Камбрыгаў, камдываў, камкораў выкарыстоўвалі для папаўнення і Першага стратэгічнага эшалона. Вось камбрыг С. П. Зыбін атрымлівае прызначэнне на пасаду камандыра 37-а стралковага корпуса, камдыў Э. Магон – 45-а стралковага корпуса 13-ай арміі, камбрыг М. С. Ткачоў – 109-й стралковай дывізіі 9-га асобнага стралковага корпуса. Камбрыг Н. П. Іваноў – кіраўніка штаба 6-ай арміі. Камдыў А. Д. Сакалоў – на пасаду камандыра 16-га механізаванага корпуса 12-ай арміі. Камдыў Г. А. Бурэчанкаў – камандуючага Паўднёвай зонай СПА[20]. Камдыў П. Г. Аляксееў – камандуючы ВПВ 13-ай арміі. Камбрыг С. С. Крушын – кіраўнік штаба ВПВ Паўночна-заходняга фронту. Камбрыг А. С. Цітоў – кіраўнік артылерыі 18-ай арміі. І шмат хто іншыя.

Камбрыгамі і камдывамі запаўнялі пустуючыя пасады пасьля таго, як Другі стратэгічны эшалон таемна накіраваўся да мяжы.

Вось камбрыг Н. І. Хрыстафанаў – вайсковы камісар Стаўрапольскага краю. Камбрыг М. У. Хрыпуноў – кіраўнік аддзела ў штабе Маскоўскай вайсковай акругі. Штаб, як мы ведаем, пасьля сыходу ўсіх камандыраў на румынскую мяжу быў заняты чэкістамі, якія ў вайсковых справах не вельмі разбіраліся. Вось на дапамогу сабе небараку Хрыпунова із ГКЛага і выпісалі.

Але ўсё ж галоўнае прызначэнне камдываў, камбрыгаў, камкораў – Другі стратэгічны эшалон. Гэты эшалон камплектуецца «лесасекамі», вось і камандыраў сюды такіх жа. Тут мы і знаходзім камкора Пятроўскага. Мы памятаем, што апошняй яго пасадай была пасада намесьніка камандуючага Маскоўскай вайсковай акругай. Пасьля гэтага – сеў. Вызвалілі ў лістападзе 1940 года і загадалі фармаваць 63-і стралковы корпус. Вось калі з'явіліся «чорныя» карпусы! Із трох дывізій корпуса, дзвума камандуюць камбрыгі Я. С. Факанаў і В. С. Ракоўскі, Трэццяй дывізіяй камандуе палкоўнік Н. А. Прышчэпа. Не камбрыг – але… сядзеў. Палкоўнікаў таксама ж садзілі, а потым вызвалілі для ўкамплектавання Другога стратэгічнага эшалона. І маёраў, і капітанаў, і лейтэнантаў таксама.

Суседні, 67-ы, корпус той жа арміі перапоўнены камбрыгамі. Нават на чале корпуса камбрыг Ф. Ф. Жмачэнка (Пасьля генерал-палкоўнік). Паглядзіце на кожную армію, таемна перамяшчаючуюся із глыбіні краіны, і ўсюды вы пабачыце табуны напярэдадні вызваленых камбрыгаў. Вось у 22-й арміі два корпусы і на абодвух камбрыгі: Паветкін – 51-ы корпус, І. П. Карманаў 62-і. Зірніце на кіраўнікоў штабоў, кіраўнікоў артылерыі, інжынерных частак, тылу і розных іншых службаў ці радоў войска – усё гэта вызваленыя із турмаў. У гэтай арміі дзьве дывізіі вельмі чорныя, відавочна із «лесасекаў», але і камандыры із таго ж асяроддзя: 112-я стралковая – камбрыг Я. С. Адамсан, 174-я – камбрыг А. І. Зыгін.

Не будзем загрувашчваць выкладанне дзясяткамі іншых імёнаў і нумароў дывізій і карпусоў. Кожны, каго цікавіць гісторыя Другой Сусьветнай вайны, можа сам сабраць калекцыю імёнаў, вызваленых із турмы вышэйшых камандыраў, якім Сталін «даў магчымасць».

---

[20] Супраць Паветраная Абарона. Па руску ПВО.

Камуністы сцвярджаюць, што гэта ахоўная рэакцыя Сталіна: адчуўшы ліхое, ён умацоўвае свае войска. Не, гэта не ахоўная рэакцыя! Працэс вызвалення камбрыгаў, камдываў і камкораў быў пачаты Сталіным да таго, як узнік план «Барбароса». Пік гэтага працэсу прыпадае не на момант, калі германскае войска стаяла на савецкай мяжы, а на момант, калі яно пайшло ў Францыю.

А зараз уявіце, што гэта да мяжы вашай дзяржавы Сталін настойліва прасякае калідоры, знішчаючы нейтральныя дзяржавы, стаяўшыя на яго шляху. Адначасова Сталін дае «другое нараджэнне», невядомай, але велізарнай колькасьці камандыраў, асуджаных на хуткую ці павольную смерць. Гэтым людзям далі ў рукі зброю і ўладу, але кожны з іх па-сутнасьці смяротнік, палаючы жаданнем справай і крывёй (сваёй і чужой) вярнуцца на вышыню, з якой Сталін яго скінуў. І вось маса войска пад кіраваннем вызваленых із турмаў камандыраў таемна накіравалася да вашай мяжы, пры гэтым Сталін афіцыйна запэўнівае, што нічога сур'ёзнага не адбываецца. Што б вы рабілі ў гэтай сітуацыі?

# Глава XXVI

## Для чаго быў створаны Другі Стратэгічны эшалон.

«Мабілізацыя есць вайна, і іншага разумення яе мы не маем».
Маршал Савецкага Звязу Я.М.Шапашнікаў

Камуністы тлумачаць стварэнне і перамяшчэнне Другога стратэгічнага эшалона Чырвонага войска ў заходнія раёны краіны тым, што вось Чэрчыль папярэдзіў, Зорге папярэдзіў, яшчэ нехта папярэдзіў, адным словам, перамяшчэнне Другога Стратэгічнага эшалона – гэта рэакцыя Сталіна на дзеянні Гітлера.

Але гэтае тлумачэнне не вытрымлівае крытыкі.

Генерал арміі Ё. В. Цюленеў на самым пачатку ўварвання германскага войска размаўляе у Крамлі з Жукавым. Вось словы Жукава: «Паведаміў Сталіну, ён па-ранейшаму не верыць, лічыць гэта правакацыяй нямецкіх генералаў» (Праз тры вайны. с. 141).

Такіх сведчанняў я магу прывесьці тысячу, але і да мяне шмат разоў даказана, што Сталін у магчымасьць германскага нападу не верыў да самага апошняга моманту, нават пасьля ўварвання і то не верыў.

У камуністычных гісторыкаў атрымліваецца непагадненне: Сталін праводзіць самае магутнае перамяшчэнне войска у гісторыі чалавецтва, для таго каб папярэдзіць германскую агрэсію, у магчымасьць якой ён не верыць!

Перамяшчэнне Другога Стратэгічнага эшалона гэта не рэакцыя на дзеянні Гітлера. Стварэнне Другога Стратэгічнага эшалона пачалося да знакамітага «папярэджання» Чэрчыля, да «важных» паведамленняў Зорге, да пачатку массавых перамяшчэнняў германскага войска на савецкую мяжу.

Перамяшчэнне войска Другога Стратэгічнага эшалона – гэта чыгуначная аперацыя, патрабаваўшая працяглай падрыхтоўкі, дакладнага папярэдняга планавання. Маршал Савецкага Звязу С. К. Куркоткін паведамляе, што Генеральны штаб перадаў усе патрэбныя дакументы па перавозках войска у Наркамат шляхоў стасункаў 21 лютага 1941 года (Тыл Савецкага Узброенага Войска у Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг. с. 33). Але і Генеральнаму штабу патрабаваўся час на тое, каб гэтыя дакументы старанна падрыхтаваць, патрэбна было дакладна паказаць чыгуначнікам калі, куды, які транспарт падаваць, як маскіраваць пагружэнне і перамяшчэнне, якія маршруты выкарыстоўваць, дзе рыхтаваць месцы

массавага выгружэння вайсковых частак. Але каб падрыхтаваць усё гэта, Генеральны штаб павінен быў дакладна вызначыць, дзе і якія часткі, у які час павінны з'явіцца. Гэта азначае, рашэнне пра стварэнне Другога Стратэгічнага эшалона і пачатак планавання яго перамяшчэння і баявога выкарыстання мы павінны шукаць недзе раней. І мы знаходзім…

Стварэнне войска ва ўнутраных акругах і перамяшчэнне іх у заходнія памежныя – гэта працэс, пачаты 19 жніўня 1939 года. Пачаты рашэннем Палітбюро, ён ніколі не спыняўся, паступова набіраючы магутнасць. Вось для прыкладу толькі адна вайсковая акруга – Уральская. У верасні 1939 года ў ім ствараюцца дзьве новыя дывізіі: 85-я і 159-я. 85-ю мы знаходзім 21 чэрвеня 1941 года каля самай германскай мяжы у раёне Аўгустова на пляцоўцы, дзе НКУС рэжа калючы дрот. 159-ю мы таксама знаходзім на самай мяжы ў Рова-Рускай, у складзе 6-й (звышударнай) арміі. На прыканцы 1939 года ў той жа Уральскай вайсковай акрузе ствараюцца 110-я, 125-я, 128-я стралковыя дывізіі, і кожную з іх мы пазней знаходзім на германскай мяжы. Пры гэтым 125-я, згодна з савецкімі крыніцамі, – «непасрэдна на мяжы» Ўсходняй Прусіі. Уральская акруга сфармавала яшчэ шмат палкоў і дывізій, і ўсе яны ціха і без шуму перамяшчаліся бліжэй да мяжы.

Пакуль Другі Стратэгічны эшалон афіцыйна не існуе, пакуль яго часткі знаходзяцца на становішчы зданяў, вышэйшае савецкае вайсковае кіраўніцтва адпрацоўвае спосабы ўзаемадзеянняў войска Першага і Другога Стратэгічных эшалонаў. Вось у другой палове 1940 года генерал арміі Д. Г. Паўлаў праводзіць нараду з камандуючымі арміямі і кіраўнікамі штабоў Заходняй асобнай вайсковай акругі. У іерархіі савецкіх генералаў і адміралаў Д. Г. Паўлаў стаіць на чацьвёртым месцы.

У Заходняй асобнай вайсковай акрузе рыхтуюцца камандна-штабныя вучэнні. Адпрацоўваюцца спосабы дзеянняў камандыраў, штабоў, сістэм сувязі пад час пачатковага перыяду вайны. Савецкім штабам пры вучэнні патрэбна перамяшчацца на захад дакладна так, як яны рыхтуюцца рабіць гэта напачатку вайны. Кіраўнік штаба 4-ай арміі Л. М. Сандалаў здзіўлена задае пытанне: «А тыя штабы, якія знаходзяцца каля самай мяжы? Куды ім рухацца?» (Генерал-палкоўнік Л. М. Сандалаў. Перажытае. с. 65). Патрэбна пазначыць, што пры падрыхтоўцы абарончай вайны ніхто штабы не трымае «каля самай мяжы», а савецкія штабы былі перанесены сюды і тут знаходзіліся ўвесь час з моманту ўсталявання агульнай мяжы з Германіяй.

Цікавай з’яўляецца таксама рэакцыя кіраўніка штаба памежнага войска: у яго загад «перамяшчацца» асацыюецца толькі з разуменнем «перамяшчацца на захад», «перамяшчацца праз мяжу». Ён нават уявіць сабе не можа, што пад час вайны штаб можна перамяшчаць кудысьці яшчэ.

На нарадзе паблізу мяжы акрамя камандыраў Першага Стратэгічнага эшалона прысутнічаюць высокія госьці із Другога Стратэгічнага эшалона на чале з камандуючым Маскоўскай вайсковай акругай генералам арміі Ё. В. Цюленевым, які займае ў шэрагу тысячы генералаў трэццяе месца. Карыстаючыся прысутнасьцю Цюленева, генерал арміі Д. Г. Паўлаў тлумачыць камандуючаму 4-ай арміі генерал-лейтэнанту В. І. Чуйкову (будучаму Маршалу Савецкага Звяза) прызначэнне Другога Стратэгічнага эшалона:

«…Калі із тылу падыдуць часткі ўнутраных акруг, – Паўлаў паглядзеў на Цюленева, – калі ў паласе вашай арміі будзе дасягнута шчыльнасць – сем з паловай

кіламетраў на дывізію, тады можна будзе рухацца наперад і не сумнявацца ў поспеху» (там жа).

Наяўнасць камандуючага Маскоўскай вайсковай акругай генерала армія Я. В. Цюленева на нарадзе ў памежнай вайсковай акрузе вельмі паказальная. Ужо ў 1940 годзе ён ведаў сваю ролю пад час пачатковага перыяду вайны: са сваім штабам з'явіцца ў памежнай акрузе, калі Першы стратэгічны эшалон пяройдзе дзяржаўную мяжу. Дарэчы, у лютым 1941 года пад напорам Жукава, які прыняў Генеральны штаб, савецкі план быў пераменены, і генерал армія Цюленеў са сваім штабам павінен быў таемна перамяшчацца не на германскую, а на румынскую мяжу, таму што асноўныя намаганні Чырвонага войска былі накіраваны менавіта туды.

Шчыльнасць войска «сем з паловай кіламетраў на дывізію», якой карыстаюцца савецкія генералы, – гэта стандарт для наступлення. У той жа час для абаронных дзеянняў дывізіі давалася паласа мясцовасьці ў тры-чатыры разы большая. Тут жа на нарадзе адпрацоўваецца і яшчэ адно важнае пытанне пра тое, як маскіраваць перамяшчэнне савецкага войска да мяжы: «перамяшчэнне… новых дывізій можна правесьці пад выглядам навучальных збораў».

13 чэрвеня 1941 года – гэта момант, калі 77 савецкіх дывізій унутраных вайсковых акруг «пад выглядам навучальных збораў» накіраваліся да заходняй мяжы. У гэтай сітуацыі Адольф Гітлер не стаў чакаць, калі савецкія генералы створаць «статутную шчыльнасць – сем з паловай кіламетраў на дывізію», і зрабіў удар першым.

Пасьля таго як Германія пачала прэвентыўную вайну, Другі Стратэгічны эшалон (як і Першы) быў выкарыстаны для абароны. Але гэта зусім не азначае, што ён для гэтага ствараўся.

Генерал армія М. І. Казакоў сведчыць пра Другі эшалон: «Пасьля пачатку вайны ў планы яго выкарыстання давялося ўнесьці кардынальныя перамены» (ВІЖ, 1972, №12, с. 46).

Генерал-маёр У. Зямскоў выказваецца больш дакладна: «Гэтыя рэзервы мы былі вымушаны выкарыстаць не для наступлення ў адпаведнасьці з планам, а для абароны» (ВІЖ, 1971, №10, с. 13).

Генерал арміі С. П. Іваноў: «У выпадку калі б войска Першага стратэгічнага эшалона здолела… перанесьці баявыя дзеянні на тэрыторыю суперніка яшчэ да разгортвання галоўнага войска, Другі Стратэгічны эшалон павінен быў павялічыць дасягненні Першага эшалона і развіваць адказваючы ўдар у адпаведнасьці з агульнай стратэгічнай задумай» (Пачатковы перыяд вайны. с. 206). У гэтай фразе не павінен падманваць тэрмін «адказваючы ўдар». Значэнне гэтага тэрміна можна зразумець, азірнуўшыся на Зімовую вайну.

Нават праз сарок гадоў савецкая версія паведамляе, што Фінляндыя напала, а Чырвонае Войска толькі нанесла «адказваючы ўдар».

Пра настроі ў Другім стратэгічным эшалоне распавядае генерал-лейтэнант С. А. Калінін. Перад пачаткам таемнага перамяшчэння на захад ён рыхтуе часткі Сібірскай вайсковай акругі (пераўтвораныя потым у 24-ую армію) да баявых дзеянняў.

Пад час правядзення вучэнняў генерал выслухоўвае думку малодшага афіцэра: «Ды і ўмацаванні, напэўна што, не спатрэбяцца. Мы ж рыхтуемся не да абароны, а да наступлення, будзем біць ворага на яго ж тэрыторыі» (Разважанні пра мінуўшчыну. с. 124). Генерал Калінін перадае словы маладога афіцэра з некаторай

іроніяй: вось які наіўны. Але ён не паведамляе, адкуль у маладога афіцэра такія настроі. Калі афіцэр не мае рацыі, генерал Калінін павінен быў бы яго выправіць, а акрамя таго, паказаць усім камандырам ад батальёна да корпуса, што малодшыя афіцэры чагосьці не разумеюць, што накірунак баявой падрыхтоўкі аднабокі. Генерал Калінін павінен быў неадкладна апытаць камандыраў у суседніх батальёнах, палках, дывізіях, і калі гэтая «няправільная» думка паўторыцца, выдаць грымотны загад па 24-ай арміі пра замену накірунку баявой падрыхтоўкі. Але генерал Калінін гэтага не робіць, і яго армія працягвае рыхтавацца «ваяваць на тэрыторыі суперніка».

Няма віны маладых камандыраў у тым, што яны да абароны не былі гатовымі, але нават няма віны і генерала Калініна. Ён толькі камандуючы адной армія, але ўсе войска рыхтавалася ваяваць «на тэрыторыі суперніка».

Цікавай з'яўляецца заява таго ж генерала ў той жа кнізе (с. 182-183). Перадаўшы 24-ую арміяю генералу К. І. Ракуціну, Калінін вярнуўся ў Сібір і тут «у барачных мястэчках для лесасекаў» рыхтуе дзесяць новых дывізій. Слова Калініну: «З чаго ж пачынаць? На чым засяродзіць пры навучанні войска галоўную ўвагу – на абароне ці наступленні? Становішча на франтах заставалася напружаным. Арміі Чырвонага войска працягвалі весьці цяжкія абарончыя баі.

Досьвед баёў паказаў, што мы далёка не заўсёды ўмела будавалі абарону. Абарончыя пазіцыі часьцяком дрэнна абсталяваліся ў інжынерным дачыненні. Часам нават на першай пазіцыі не было сістэмы траншэй. Баявы парадак абараняючыхся часьцей складаўся із аднаго эшалона і невялікага рэзерву, што зніжала ўстойлівасць войска. У шматлікіх выпадках людзі былі дрэнна падрыхтаваны да супрацьтанкавай абароны, існавала вядомая танка-баязнь…

Разам з тым думалася: «Не заўсёды ж мы будзем абараняцца. Адступленне – справа вымушаная…

Да таго ж абарона ніколі не лічылася і не лічыцца галоўным відам баявых дзеянняў… Гэта азначае, войска патрэбна рыхтаваць да наступальных баёў… Параіўся я з камандырамі. Прыйшлі да адзінай думкі: галоўныя намаганні пры навучанні накіроўваць на старанную адпрацоўку пытанняў тактыкі наступальных дзеянняў».

Галоўнае заданне дзяржавы і яго войска восенню 1941 года – спыніць ворага хаця б каля Масквы, і ўсім зразумела, што да абароны Чырвонае Войска не гатова. Але яго і не рыхтуюць. Не гатова да абароны – ну і нічога! Усё адно будзем рыхтавацца да наступлення! Толькі да наступлення!

Калі нават пасьля германскага ўварвання, у час калі германскае войска пагражае самаму існаванню камуністычнага рэжыму, генерал Калінін працягвае навучаць войска толькі да наступлення, чаму ж ён іх вучыў да германскага ўварвання?

Другі Стратэгічны эшалон у выніку германскай прэвентыўнай акцыі давялося выкарыстаць не па прамому прызначэнні, а для абароны. Але ў нас дастаткова дакументаў для таго, каб вызначыць першапачатковае прызначэнне Другога Стратэгічнага эшалона, і ролю, якая адводзілася яму ў савецкіх планах вайны. Тут, як і ў Першым эшалоне, кожная армія мела сваю непаўтараемую індывідуальнасць, свой твар, свой характар. Большасць армій перамяшчаліся ў аблегчаным выглядзе, уяўляючы сабой як бы магутны каркас, які пасьля прыбыцця і таемнага разгортвання ў лясах заходніх раёнаў краіны павінен быў быць дапоўнены, дабудаваны. Стандартны склад армій Другога Стратэгічнага эшалона:

два стралковыя карпусы па тры стралковыя дывізіі ў кожным. Гэта не ўдарныя, а звычайныя арміі скарочанага складу.

Пасьля прыбыцця ў заходнія раёны кожная армія неадкладна пачынала мабілізаванне і папаўненне сваіх дывізій і карпусоў. Адсутнасць механізаваных карпусоў з велізарнай колькасцю танкаў у складзе большасьці армій Другога Стратэгічнага эшалона з’яўляецца цалкам лагічнай. Першае, такія карпусы ствараліся галоўным чынам у заходніх раёнах краіны. У выпадку патрэбы іх не патрэбна перакідаць на захад з далёкіх уральскіх і сібірскіх правінцый: прасьцей прыбываючыя адтуль легкія арміі дапоўніць такімі карпусамі ўжо ў заходніх раёнах краіны. Яшчэ лепшы варыянт: выкарыстаць пераважную большасць механізаваных карпусоў у першым раптоўным удары, каб ён атрымаўся незвычайна магутным, пасьля гэтага ўвесьці ў бой Другі Стратэгічны эшалон і перадаць яго легкім арміям усе танкі, ацалеўшыя пасьля першых аперацый.

Але сярод армій Другога Стратэгічнага эшалона былі і выключэнні, 16-ая армія было відавочна ўдарнай. У яе складзе быў цалкам укамплектаваны механізаваны корпус, які меў больш 1000 танкаў, акрамя таго, разам з гэтай арміяй на захад перамяшчалася асобная 57-я танкавая дывізія (палкоўнік У. А. Мішулін), якая знаходзілася ў аператыўным падначаленні камандуючага 16-й арміі. Усяго з улікам гэтай дывізіі ў 16-й арміі было больш 1200 танкаў, а пры поўным укамплектаванні гэтая лічба павінна была перасягнуць 1340. Яшчэ больш магутнай была 19-ая армія, таемна перамяшчаемая із Паўночнага Каўказа. У яе складзе было чатыры карпусы, уключаючы адзін механізаваны (26-ы). Існуе дастаткова сведчанняў пра тое, што 25-ы механізаваны корпус (генерал-маёр С. М. Крывашэін) таксама прызначаўся для 19-ай арміі. Гэта была відавочна звышударная армія. Нават яе стралковыя карпусы мелі незвычайную арганізацыю і ўзначальваліся камандырамі вельмі высокага рангу. Напрыклад, 34-ы стралковы корпус (генерал-лейтэнант Р. П. Хмяльніцкі) меў у сваім складзе чатыры стралковыя і адну горнастралковую дывізіі і некалькі цяжкіх артылерыйскіх палкоў. Наяўнасць горнастралковых дывізій у арміі не выпадковая, 19-ая армія, самая магутная армія Другога Стратэгічнага эшалона, таемна разгортвалася НЕ СУПРАЦЬ ГЕРМАНІІ.

У гэтым выяўляецца ўся савецкая задума: самая магутная армія Першага стратэгічнага эшалона – супраць Румыніі, самая магутная армія Другога Стратэгічнага эшалона – непасрэдна за яе спінай, таксама супраць Румыніі.

Платныя сябры Савецкага Звязу пусьцілі ў ход легенду пра тое, што Другі Стратэгічны эшалон прызначаўся для «контрудараў». Калі так, то самы магутны «контрудар» рыхтаваўся па румынскіх нафтавых палях.

Другая па магутнасьці ў Другім стратэгічным эшалоне 16-ая армія разгортвалася побач. Яна таксама магла быць выкарыстана супраць Румыніі, але больш верагодна – супраць Вугоршчыны на стыку 26-й (ударнай) і 12-й (горнай ударнай) армій, адразаючы крыніцы нафты ад спажыўца.

Але Гітлер сваім уварваннем усё гэта разгортванне парушыў, і 16-я і 19-я арміі тэрмінова давялося перакідаць пад Смаленск, адклаўшы на некалькі гадоў «вызваленне» Румыніі і Вугоршчыны.

Камандуючы 16-й арміяй генерал-лейтэнант М. Ф. Лукін не паведамляе, на якіх тэрыторыях планавалася выкарыстаць 16-ую армію, якой ён кіраваў у той момант. Але ва ўсякім разе гэта не савецкая тэрыторыя: «Мы збіраліся ваяваць на тэрыторыі суперніка» (ВІЖ, 1979, №7, с. 43). На той жа старонцы Маршал

Савецкага Звязу А. М. Васілеўскі падкрэслівае, што Лукіну патрэбна верыць: «у яго словах шмат суровай праўды». Васілеўскі – сам выбітны майстар ваяваць на «тэрыторыях суперніка». Гэта ён у 1945 годзе нанёс раптоўны ўдар па японскаму войску ў Маньчжурыі, прадэманстраваўшы найвышэйшы клас таго, як патрэбна наносіць раптоўны здрадніцкі ўдар у спіну суперніку, занятаму вайной на іншых франтах.

Адразу пасьля падзелу Польшчы восенню 1939 года вялізная частка савецкага войска з месцаў пастаяннай дыслакацыі была перакінута на новыя межы. Але новыя тэрыторыі не былі прыстасаваны для размяшчэння вялікай колькасьці войска, асабліва сучаснага войска з вялікай колькасьцю баявой тэхнікі.

Афіцыйная гісторыя Другой Сусьветнай вайны (т. 4, с. 27): «Часткі заходніх памежных акруг сутыкнуліся з вялікімі цяжкасьцямі. Усё даводзілася будаваць і абсталёўваць нанова: … базы і пункты забеспячэння, аэрадромы, дарожную сетку, вузлы і лініі сувязі…»

Афіцыйная Гісторыя Беларускай вайсковай акругі (Чырванасьцяжная Беларуская вайсковая акруга. с. 84): «Перамяшчэнне злучэнняў і частак акругі ў заходнія вобласьці Беларусі сустрэла немалыя цяжкасьці… Вайскоўцы 3-й, 10-й, 4-й армій… былі заняты на рамантаванні і будаванні казармаў, складоў, лагераў, абсталяваннем палігонаў, стрэльбішчаў, танкадромаў. Войска зведвала вялізнае напружанне».

Генерал-палкоўнік Л. М. Сандалаў: «Перамяшчэнне сюды вайсковых частак акругі злучана з вялізнымі цяжкасьцямі. Казармавы фонд быў нікчэмна малы… Для частак, не забяспечаных казармавымі памяшканнямі, будаваліся зямлянкі» (На Маскоўскам накірунку. с. 41).

Але часткі ўсё прыбывалі. Генерал Сандалаў сведчыць, што для размяшчэння войска у 1939-1940 гадах выкарыстоўваліся склады, баракі, розныя памяшканні. «У Бярэсьці сабралася вялізная колькасць войска… У ніжніх паверхах для жаўнераў уладкоўваліся чатырох'ярусныя нары» (там жа).

Кіраўнік Аддзела баявой падрыхтоўкі Чырвонага войска генерал-лейтэнант В. Н. Курдзюмаў на нарадзе кіраўнікоў у снежні 1940 года паведаміў, што вайскоўцы ў новых раёнах часта замест баявой падрыхтоўкі вымушаны занімацца гаспадарчымі працамі.

На той жа нарадзе кіраўнік аўтабранятанкавага аддзела генерал-лейтэнант танкавага войска Я. Н. Федарэнка паведамляў, што амаль усе танкавыя злучэнні за 1939-1940 год перамянілі сваю дыслакацыю, часам па тры-чатыры разы. У выніку – «больш паловы частак, перайшоўшых на новыя месцы, не мелі палігонаў». Коштам вялізных намаганняў у 1939 і 1940 гадах часткі Першага Стратэгічнага эшалона былі ўладкаваны і размешчаны па кватэрах. Але вось пачынаючы з лютага 1941 года спачатку павольна, а потым усё хутчэй пачынаецца перамяшчэнне ў тыя ж мясцовасьці частак Другога Стратэгічнага эшалона.

І ў гэты момант адбылася перамена, гісторыкамі не заўважаная: савецкія вайскоўцы перасталі клапаціцца пра тое, як яны правядуць наступную зіму. Часткі Першага Стратэгічнага эшалона, кінуўшы ўсе свае зямлянкі і недабудаваныя казармы, пайшлі ў памежную паласу. Гаворка ідзе пра ўсе часткі і непасрэдна да мяжы (Маршал Савецкага Звязу І. Х. Баграмян. ВІЖ, 1976, №1, с. 62). Часткі Другога Стратэгічнага эшалона, перамяшчаючыяся із глыбіні краіны, не выкарыстоўвалі недабудаваныя казармы і вайсковыя мястэчкі, кінутыя Першым Стратэгічным эшалонам. Прыбываючыя часткі не мелі намеру зімаваць у гэтых

месцах і ніяк не рыхтаваліся да зімы. Яны больш не будавалі зямлянак, яны не будавалі палігонаў і стрэльбішчаў, яны нават не капалі акопаў. Існуе шмат афіцыйных дакументаў і мемуараў савецкіх генералаў і маршалаў пра тое, што зараз часткі размяшчаліся толькі ў намётах.

Прыклад: ранняй вясной 1941 года ў Прыбалтыцы фармуецца 188-я стралковая дывізія 16-га стралковага корпуса 11-ай арміі. У траўні яна атрымлівае рэзервістаў. Дывізія ўтварае часовае летняе намётавае мястэчка ў раёне Казлова Руда (45-50 км ад дзяржаўнай мяжы). Пад заслонай Паведамлення ТАСЗ дывізія пакідае гэтае мястэчка і ідзе да мяжы. Усякія спробы знайсьці хоць намёк на падрыхтоўку да зімы вырачаны на правал – дывізія не рыхтавалася тут зімаваць. Побач ідзе разгортванне 28-й танкавай дывізіі – тая ж карціна. Ва ўсіх танкавых, ва ўсіх нанова фармуемых стралковых дывізіях стаўленне да зімы перамянілася – больш нікога зіма не палохае.

Маршал Савецкага Звязу К. С. Маскаленка (у той час генерал-маёр, камандыр брыгады) атрымлівае заданне ад камандуючага 5-й арміяй генерал-маёра М. І. Патапава: «Тут пачала фармавацца твая брыгада. …Зоймеш вось тут пляцоўку лесу, пабудуеш лагер…» Магутная, цалкам укамплектаваная брыгада ў складзе больш 6000 чалавек з больш чым сотняй цяжкіх гармат калібрам да 8,5 мм наладжвае лагер за тры дні. Пасьля гэтага пачынаецца напружаная баявая падрыхтоўкя 8-10 гадзін на дзень, не лічачы начных заняткаў, самападрыхтоўкі, абслугоўвання ўзбраення, трэніраванняў пры зброі (На паўднёва-заходнім накірунку. с. 18).

Калі савецкае войска рыхтуецца да абароны, то патрэбна закопвацца ў зямлю, ствараючы безперапынную лінію траншэй ад Ледавітага акіяна да ўтокі Дуная. Але яны гэтага не робяць. Калі яны маюць намер мірна правесьці яшчэ адну зіму, то пачынаючы з красавіка-траўня патрэбна будаваць, будаваць і будаваць. Але і гэта не робіцца. Некаторыя дывізіі маюць недзе ззаду недабудаваныя казармы. Але шмат якія дывізіі ствараюцца вясной 1941 года і нідзе нічога не маюць: ні казармаў, ні баракаў, але і не будуюць зямлянак. Дзе яны збіраюцца праводзіць зіму, акрамя як у Цэнтральнай і Заходняй Яўропе?

Генерал-маёр А. Запарожчанка робіць такое апісанне: «Завяршаючым этапам стратэгічнага разгортвання з'явілася таемнае перамяшчэнне ўдарных груповак у выточныя раёны для наступлення, якое ажыццяўлялася на працягу некалькіх начэй перад нападам. Прыкрыванне перамяшчэння было арганізавана намаганнямі, загадзя перамешчаных да мяжы ўзмоцненых батальёнаў, якія да падыходу галоўнага войска кантралявалі прызначаныя дывізіям адрэзкі фронту.

Перамяшчэнне авіяцыі пачалося ў апошнія дні траўня і закончылася да 18 чэрвеня. Пры гэтым вынішчальная і вайсковая авіяцыя размяшчалася на аэрадромах, аддаленых ад мяжы да 40 км, а бамбавальная – не далей 180 км» (ВІЖ, 1984, №4, с. 42). У гэтым апісанні нас можа здзівіць толькі дата 18 чэрвеня. Савецкая авіяцыя не завяршыла перамяшчэнне, а толькі пачала яго 13 чэрвеня пад заслонай Паведамлення ТАСЗ. Чаму ж генерал паведамляе пра 18 чэрвеня? Справа ў тым, што ён паведамляе не пра Чырвонае войска, а пра германскі Вермахт. Там адбывалася тое ж самае: часткі перамяшчаліся да мяжы начамі, наперад былі выпраўлены ўзмоцненыя батальёны. Прыбываючыя дывізіі займалі прызначаныя раёны для наступлення, прасьцей кажучы, хаваліся ў лясах. Дзеянні двух войкаў – гэта люстэркавае адвобржванне. Адрозненне – толькі ў часе. Спачатку савецкае войска дзейнічала з апераджэннем, зараз на два тыдні апераджвае Гітлер: у яго

менш войска і перамяшчаць яго патрэбна на вельмі невялікую адлегласць. Цікава, што напачатку чэрвеня германскае войска было ў вельмі нявыгадным становішчы: шмат частак у эшалонах. Гарматы ў адным эшалоне, снарады – у іншым. Баявыя батальёны разгружаюцца там, дзе няма штабоў, а штабы – там, дзе няма войска. Сувязі няма, таму што згодна з меркаваннямі бяспекі праца шматлікіх радыёстанцый да пачатку баявых дзеянняў проста забаронена. Германскія вайскоўцы таксама не капалі зямлянак і не будавалі палігонаў. Але галоўнае падабенства – вялізная колькасць прыпасаў, войска, авіяцыі, шпіталяў, штабоў, аэрадромаў – каля самай савецкай мяжы, і мала хто ведае план далейшых дзеянняў – гэта найвялікшы сакрэт самага вышэйшага кіраўніцтва. Усё тое, што мы бачым у Чырвоным войску і лічым за глупствы, два тыдні назад рабілася ў германскім Вермахце. Гэта не глупствы, а падрыхтоўка да наступлення.

Што павінна было здарыцца пасьля поўнага размяшчэння Другога Стратэгічнага эшалона савецкага войска у заходніх раёнах краіны? Адказ на гэта пытанне быў дадзены задаўга да пачатку Другой Сусьветнай вайны. Генерал В. Сікорскі: «Стратэгічнае чаканне не можа працягвацца пасьля таго, як усё войска будзе мабілізавана і яго размяшчэнне закончана» (Будучая вайна. с. 240). Гэта сцвярджае кіраўнік Генеральнага штаба польскага войска. Аднак кніга надрукавана ў Маскве адпаведна з загадам савецкага Генеральнага штаба для савецкіх камандыраў. Кніга надрукавана таму, што савецкая вайсковая навука яшчэ раней прыйшла да цьвёрдага пераканання: «Самае горшае ў сучасных умовах – гэта імкненне пад час пачатковага перыяду вайны прытрымлівацца тактыкі чакання» («Вайна і рэвалюцыя», 1931, №8, с. 11).

Кіраўнік савецкага Генеральнага штаба Маршал Савецкага Звязу Б. М. Шапашнікаў у гэтым пытанні меў цьвёрдае меркаванне: «Працяглае знаходжанне прызваных рэзервістаў пад сьцягамі без перспектывы вайны можа адмоўна адбіцца на іхным маральным стане: замест падвышэння баявой гатоўнасьці наступіць яе зніжэнне… Адным словам, што б там ні рашала кіраўніцтва, а тым больш дыпламатыя, але пасьля абвяшчэння мабілізацыі згодна з чыста вайсковымі нагодамі гарматы могуць пачаць страляць самі.

Такім чынам, патрэбна лічыць сумнеўным меркаванне пра магчымасьць у сучасных умовах вайны працяглага знаходжання мабілізаванага войска ў стане вайсковага спакою без пераходу да актыўных дзеянняў» (Мазкі вайска. Т. 3).

Савецкая вайсковая навука і тады і зараз лічыць, што «мабілізацыя, размяркаванне, аператыўнае разгортванне і правядзенне першых аперацый складае адзіны непарыўны працэс» (ВІЖ, 1986, №1, с. 15). Пачаўшы мабілізацыю, а тым больш размяшчэнне і аператыўнае разгортванне войска, савецкае камандаванне ўжо не было ў стане спыніць ці нават затармазіць гэты працэс. Гэта прыкладна тое ж самае, як рэзка апусьціць руку ўніз, разшпіліць кабуру, выхапіць рэвальвер, навесьці яго на суперніка, адначасова ўзводзячы цынгель. Пасьля гэтага, падабаецца вам ці не, але стрэл непазбежны – бо, як толькі ваша рука імгненна накіравалася ўніз, супернік з такой жа хуткасцю (а то і хутчэй) робіць тое ж самае.

Гісторыкі да гэтага часу не адказалі нам на пытанне: хто ж пачаў савецка-германскую вайну 1941 года? Пры вырашэнні гэтай праблемы гісторыкі-камуністы прапануюць наступны крытэр: хто першым стрэліў, той і вінаваты. А чаму б не выкарыстаць іншы крытэр? Чаму б не звярнуць увагу на тое, хто першым пачаў мабілізацыю, размяркаванне і аператыўнае разгортванне, г.зн. хто ўсё ж першым пацягнуўся да пісталета?

Абаронцы камуністычнай версіі хапаюцца за кожную саломіну. Яны кажуць: Шапашнікаў разумеў, што перамяшчэнне войска – гэта вайна. Сучасныя савецкія стратэгі разумеюць гэта. Але ў 1941 годзе кіраўніком Генеральнага штаба быў ужо не Шапашнікаў, а Жукаў. Магчыма, ён перамяшчаў войска, не разумеючы што гэта вайна?

Не, браткі, Жукаў разумеў усё – і лепш нас.

Каб зразумець усю рашучасць дзеянняў вышэйшага савецкага кіраўніцтва, мы павінны вярнуцца ў 1932 год у 4-ю кавалерыйскую дывізію, лепшую не толькі ва ўсёй Чырвонай кавалерыі, але і ва ўсім Чырвоным войску цалкам. Да 1931 года дывізія знаходзілася ў Ленінградзкай вайсковай акрузе і размяшчалася ў месцах, дзе раней стаяла імператарская конная гвардыя. Кожны можа сам ўявіць умовы, у якіх жыла і рыхтавалася да баёў гэтая дывізія. Менш чым шыкоўнымі ўмовы яе размяшчэння назваць цяжка. Але вось у 1932 годзе дывізію грунтуючыся на надзвычайных аперантыўных меркаваннях перакінулі на непадрыхтаваную базу. Маршал Савецкага Звязу Г. К. Жукаў: «На працягу паўтара гада дывізія была вымушана сама будаваць казармы, стайні, штабы, жылыя памяшканні, склады і ўсю навучальную базу. У выніку бліскуча падрыхтаваная дывізія ператварылася ў дрэнную працоўную ваярскую частку. Недахоп будаўнічых матэрыялаў, дажджлівае надвор'е і іншыя неспрыяльныя ўмовы не дазволілі своечасова падрыхтавацца да зімы, што вельмі цяжка адбілася на агульным стане дывізіі і яе баявой гатоўнасьці. Знізілася дысцыпліна…» (Успаміны і разважанні. с. 118).

Вясной лепшая дывізія Чырвонага войска знаходзілася «ў стане крайняга заняпаду» і «з'яўлялася небоездольнай». Камандыра дывізіі палічылі галоўным вінаватым з усімі вынікаючымі для яго наступствамі, а для дывізіі «знайшлі новага камандыра». Вось гэтым камандырам і стаў Г. К. Жукаў. Менавіта адсюль пачалося яго ўзвышэнне. За працай Жукава сачыў не толькі камандыр корпуса С. К. Цімашэнка, але і сам Наркам абароны К. Е. Варашылаў – дывізія насіла яго імя і лічылася лепшай. Варашылаў чакаў ад Жукава, што той адновіць былую славу 4-й кавалерыйскай дывізіі, і Жукаў драконаўскімі захадамі гэтую славу аднавіў, даказаўшы, што яму можна даваць якое заўгодна тэарэтычна невыканальнае заданне.

У 1941 годзе ўсе ўдзельнікі гэтай гісторыі падняліся вышэй узроўню, на якім былі ў 1933-м годзе. Значна вышэй. К. Е. Варашылаў – сябра Палітбюро, Маршал Савецкага Звязу, Старшыня Камітэта абароны; С. К. Цімашэнка – Маршал Савецкага Звязу, Наркам абароны; Жукаў – генерал арміі, намесьнік Наркама абароны, кіраўнік Генеральнага штаба. Гэта яны трое кіруюць таемным перамяшчэннем савецкага войска да германскай мяжы.

Яны ведалі лепш нас і грунтуючыся не на тэарэтычных разліках, што нават адну дывізію немагчыма пакінуць на зіму ў непадрыхтаваным лесе. Жаўнер можа перазімаваць у розных умовах. Не ў гэтым праблема. Праблема ў тым, што каля заходняй мяжы няма стрэльбішчаў, палігонаў, танкадромаў, няма навучальных цэнтраў, адсутнічаюць умовы для баявой падрыхтоўкі. Войска ці неадкладна патрэбна кідаць у бой, ці непазбежна будзе наступаць дэградацыя узроўню баявой падрыхтоўкі. Яны ведаюць, што пакідаць на зіму немагчыма ніводную дывізію ў непадрыхтаваным месцы. Яны ведаюць, што вінаватых знойдуць, і ведаюць, што з вінаватымі здарыцца. Але яны выводзяць у месцы, дзе адсутнічаюць умовы для баявой падрыхтоўкі, практычна ЎСЁ ЧЫРВОНАЕ ВОЙСКА!

Вайна пачалася не так, як жадаў Сталін, і таму скончылася не так: Сталіну дасталася толькі палова-Яўропы. Але каб зразумець і да канца ацаніць Сталіна, давайце на імгненне ўявім сабе сітуацыю: Гітлер не напаў на Сталіна 22 чэрвеня 1941 года. Гітлер, напрыклад, вырашыў ажыццявіць захоп Гібралтара, а аперацыю «Барбароса» адтэрмінаваў на два месяцы.

Што ў гэтым выпадку будзе рабіць Сталін?

Выбару ў Сталіна ўжо не было.

Па-першае. Ён ужо не меў магчымасьці вярнуць свае войска назад. Шмат якім арміям і карпусам, створаным на працягу першай паловы 1941 года, наогул не было куды вяртацца, акрамя «барачных мястэчак для лесасекаў». Перамяшчэнне войска назад зноў запатрабавала б шмат месяцаў, паралізавала б ўвесь чыгуначны транспарт і азначала б эканамічную катастрофу. Ды і які сэнс, спачатку паўгода войска таемна разгортваецца, а потым яго палову года разфармоўваюць? Але нават калі б пасьля поўнага разгортвання неадкладна пачалося разфармаванне, то і тады да зімы гэты працэс завяршыць было б немагчыма.

Па-другое. Сталін не мог пакінуць свае войска зімаваць у памежных лясах. Без напружанай баявой падрыхтоўкі войска хутка губляе здольнасць ваяваць. Акрамя таго, грунтуючыся на нейкіх меркаваннях Сталін захоўваў у самай строгай таямніцы працэс стварэння і перамяшчэння на захад частак Другога Стратэгічнага эшалона. Ці мог ён разлічваць на поўнае захаванне таямніцы, калі б пакінуў на некалькі тыдняў гэтае незлічонае войска ў памежных лясах?

Цэнтральнае пытанне маёй кнігі: КАЛІ ЧЫРВОНАЕ ВОЙСКА НЕ МАГЛО ВЯРНУЦЦА НАЗАД, АЛЕ І НЕ МАГЛО ДОЎГА ЗАСТАВАЦЦА Ў ПАМЕЖНЫХ РАЁНАХ, ТО ШТО Ж ЯМУ ЗАСТАВАЛАСЯ РАБІЦЬ?

Камуністычныя гісторыкі гатовы абмяркоўваць якія заўгодна дэталі і шукаць якія заўгодна памылкі. Але давайце пакінем у баку другарадныя дэталі і дадзім адказ на галоўнае пытанне.

Усе камуністычныя гісторыкі баяцца даваць адказ на гэтае пытанне. Вось чаму я размяшчаю думку генерала, які з траўня 1940 года – намесьнік кіраўніка Аператыўнага кіравання Генштаба; працаваў над аператыўнай часткай плана стратэгічнага разгортвання Савецкага Ўзброенага Войска на паўночным, паўночна-заходнім і заходнім нанакірунках». (Савецкая вайсковая энцыклапедыя. т. 2, с. 27). У яго планаванні ўсё было правільна, вось чаму, пачаўшы вайну генерал-маёрам, ён праз паўтара года стаў Маршалам Савецкага Звязу. Гэта ён, а не Жукаў, кіруе Чырвоным войскам пад час апошніх гадоў жыцця Сталіна і сыходзіць з высокіх пасад разам са сьмерцю Сталіна.

Маршал Савецкага Звязу А. М. Васілеўскі, вам слова: «Небяспеку, што на Захадзе паднімуць шум з нагоды нібы-та агрэсіўных памкненняў ЗССР, патрэбна было скасаваць. Мы падышлі… да Рубікона войны, і была патрэба цьвёрда зрабіць крок наперад» (ВІЖ, 1978, №2, с. 68).

У кожным грандыёзным працэсе існуе крытычны момант, пасьля якога падзеі набываюць неабарачальны характар. Для Савецкага Звязу гэтым момантам была дата 13 чэрвеня 1941 года. Пасьля гэтага дня вайна для Савецкага Звязу стала цалкам непазбежнай, і менавіта летам 1941 года, незалежна ад таго, як бы дзейнічаў Гітлер.

# Глава XXVII

# Неабвешчаная вайна.

«Ва ўмовах, калі мы аточаны ворагамі, раптоўны ўдар з нашага боку, нечаканы манёўр, хуткасць вырашаюць усё».

І.Сталін

На заходняй мяжы Савецкі Звяз меў пяць вайсковых акруг, у якія таемна, але інтэнсіўна перамяшчалася войска. Усе восем унутраных вайсковых акруг былі кінуты савецкім кіраўніцтвам. Із унутраных вайсковых акруг да заходняй мяжы таемна сышлі ўсе войсковыя часткі, карпусы, дывізіі і амаль усе генералы і штабы.

Акрамя пяці заходніх памежных і васьмі ўнутраных акруг, існаваў Далёкаўсходні фронт і тры ўсходнія памежныя вайсковыя акругі: Закаўказская, Сярэднеазіяцкая, Забайкальская. Цікава зірнуць і на іх.

У траўні 1941 года ў Сярэднеазіяцкай і Закаўказскай вайсковых акругах насуперак Аспрэчанню ТАСЗ ад 9 траўня 1941 года ішла інтэнсіўная падрыхтоўка да «вызвалення» Ірана. Сярэднеазіяцкай акрузе адводзілася галоўная роля, Закаўказскай – дапаможная. Як прынята, апошні акорд падрыхтоўкі — грандыёзныя вучэнні ў прысутнасьці вышэйшага кіруючага складу Чырвонага войска. У траўні на гэтыя вучэнні павінен быў выехаць кіраўнік Генеральнага штаба генерал арміі Г. К. Жукаў і яго намесьнік генерал-лейтэнант Н. Ф. Ватуцін.

Генерал арміі С. М. Шцяменка (у той час палкоўнік у Галоўным аператыўным кіраванні Генеральнага штаба): «Пад канец траўня „асноўны склад нашага аддзела выправіўся ў Тбілісі. Нас узмацнілі за кошт іншых аддзелаў… Перад самым ад'ездам высветлілася, што ні кіраўнік Генштаба, ні яго намесьнік паехаць не могуць, і вучэннямі будуць кіраваць камандуючыя акругамі: у ЗакВА – Д. Т. Казлоў, у САВА – С. Г. Трафіменка. Аднак ужо на другі дзень пасьля нашага прыезду ў Тбілісі генерал-лейтэнанта Казлова тэрмінова выклікалі ў Маскву. Адчувалася, што ў Маскве адбываецца нешта не зусім звычайнае“ (Генеральны штаб пад час вайны. с. 20).

Так, памежная Закаўказская вайсковая акруга проста напярэдадні «вызвалення» Ірана засталася без камандуючага. Мне запярэчаць, што ў генерала Казлова ёсць намесьнік – генерал-лейтэнант П. І. Батаў. Хай ён і кіруе акругай. Не, Батаў няма. Батаў сфармаваў із самых лепшых частак Закаўказскай вайсковай акругі 9-ы асобны стралковы корпус, перамясьціў яго ў Крым, і тут корпус ва ўзаемадзеянні з Чарнаморскім флотам вядзе інтэнсіўную падрыхтоўку да правядзення марской дэсантнай аперацыі. Дывізію са складу менавіта гэтага корпуса Чарнаморскі флот трэніруецца высаджваць із баявых караблёў.

Закаўказская вайсковая акруга заставалася без камандуючага і без яго намесьніка да жніўня 1941 года, калі сюды вярнуўся генерал Д. Т. Казлоў і правёў «вызваленне» Ірана. Гітлер зблытаў карты Сталіна і тут. Дзякуючы неспадзяваным дзеянняў Гітлера «вызваленне» Ірана давялося праводзіць не толькі са спазненнем на некалькі месяцаў, але і абмежаваным войскам, пагэтаму давялося абыйсьціся без «карэнных сацыяльна-палітычных пераўтварэнняў».

Я яшчэ не высветліў, ці запатрабаваў Сталін напачатку чэрвеня 1941 года ў Маскву камандуючага Сярэднеазіяцкай вайсковай акругай генерала С. Г. Трафіменка, але штаб акругі быў моцна паслабелы і «раскулачаны». Яшчэ ў сакавіку 1941 года са штаба САВА быў закліканы ў Маскву палкоўнік Н. М. Хлебнікаў і прызначаны кіраўніком артылерыі 27-ай арміі ў Прыбалтыцы. Пазьней Хлебнікаў – генерал-палкоўнік артылерыі. Дарэчы, афіцыйна 27-ая армія з'явілася ў заходніх раёнах краіны ў траўні 1941 года, але кадры для яе збіраліся па далёкіх

мясьцінах значна раней. Сьледам за Хлебнікавым і шматлікімі іншымі палкоўнікамі і генераламі ў Маскву выклікалі кіраўніка штаба акругі генерал-маёра (Пасьля генерал арміі) М. І. Казакова.

Генерал Казакоў у сваёй кнізе «Над мапай былых бітваў» паведамляе, што назіраў із самалёта вялізную колькасць чыгуначных эшалонаў з войскам і баявой тэхнікай, якія перакідаліся із Сярэдняй Азіі.

Генерал арміі А. А. Лучынскі (у той час палкоўнік, камандыр 83-й горнастралковай дывізіі) быў сярод тых, каго везлі ў вайсковых эшалонах із Сярэдняй Азіі. Лучынскі едзе ў адным купэ з генерал-маёрам І. Е. Пятровым (пазьней генерал арміі). Успаміны Лучынскага пра Пятрова сапраўды не маючыя кошту. «Мы ехалі ў адным купэ згодна з запатрабаваннем Наркамата абароны, калі па радыё прагучала паведамленне пра напад на нашу краіну фашысцкай Германіі». Лучынскі не паведамляе для чаго яго паклікалі ў НКА, але паведамляе пра свайго сябра генерала Пятрова: «Незадоўга да вайны ён быў прызначаны камандырам 192-й стралковай дывізіі (Пятроўператварыў дывізію ў горнастралковую і таемна выправіў на румынскую мяжу. – В. С.), а потым 27-га механізаванага корпуса, на чале якога і выправіўся на фронт» (ВІЖ, 1976, №9, с. 121-122).

27-ы механізаваны корпус таемна із Сярэдняй Азіі перамяшчаецца да румынскай мяжы, а камандыр корпуса ў гэты час едзе ў Маскву для атрымання баявога задання. Мы ўжо не раз у гэтай кнізе сустракалі такую працэдуру: напрыклад, 16-ая армія таемна перакідаецца да румынскай мяжы, а яе камандуючы, генерал-лейтэнант М. Ф. Лукін, у Маскве атрымлівае баявое заданне.

У кароткім паведамленні Лучынскага пра генерала Пятрова ўсё здаецца звыклым і будзённым. Але давайце звернем ўвагу на парадак, у якім развіваюцца падзеі. Спачатку генерал-маёр І. Е. Пятроў фармуе 27-ы механізаваны корпус, грузіць яго ў эшалоны і выпраўляе на фронт, а пасьля гэтага ўжо ў цягніку ён чуе паведамленне, што Германія пачала вайну.

Але самае цікавае адбылося праз некалькі дзён: 27-ы механізаваны корпус быў расфармаваны ў дарозе. У абарончай вайне такія чыста наступальныя фармаванні проста не патрэбны. У ліпені 1941 года сьледам за 27-м механізаваным корпусам расфармавалі і ўсе астатнія. Усяго іх было дваццаць дзевяць.

Сітуацыя здаецца абсурднай: 27-ы механізаваны корпус ДА нападу Гітлера едзе на вайну, але як толькі Гітлер пачаў вайну, 27-ы корпус расфармавалі яшчэ да сустрэчы з супернікам. Але гэта не абсурд, 27-ы механізаваны корпус із Сярэдняй Азіі сапраўды перакідаўся на румынскую мяжу для таго, каб ваяваць, але прызначаўся ён ваяваць не ў вайне, якую пачаў Гітлер, а ваяваць у вайне, якая павінна была пачацца цалкам іншым спосабам.

Выснова: калі б Гітлер не напаў, то 27-ы механізаваны корпус браў бы ўдзел у вайне, менавіта для гэтага ён і ехаў на фронт. Але Гітлер сваімі дзеяннямі папярэдзіў вайну, для якой ствараліся 27-ы механізаваны корпус і дваццаць восем яго субратоў, у кожным із якіх меркавалася мець больш 1000 танкаў.

Акрамя Пятрова і Лучынскага ў цягніках із Сярэдняй Азіі ехала яшчэ нямала знакамітых камандыраў ці тых, каму было наканавана стаць знакамітымі. Усіх іх я вам пералічваць не буду. Назаву толькі яшчэ аднаго, і толькі таму, што ў той момант ён быў генерал-маёрам, а потым, як Казакоў, як Пятроў, як Лучынскі, стаў генералам арміі. Яго прозвішча А. С. Жадаў. Пра яго вядома, што «пад час самага пярэдадня вайны А. С. Жадаў, кіраваўшы ў Сярэдняй Азіі горна-кавалерыйскай

дывізіяй, быў прызначаны камандырам 4-га паветрана-дэсантнага корпуса і прыбыў на фронт ужо ў разгар баявых дзеянняў» (ВІЖ, 1971, №3, с. 124).

Калі вам нехта скажа, што генералы збіраліся на заходняй мяжы для правядзення «контрудараў», дык вы яму пра генерала Жадава нагадайце, які перамяніў горна-кавалерыйскую дывізію ў Сярэдняй Азіі на паветрана-дэсантны корпус у Беларусі. Няўжо паветрана-дэсантныя карпусы прызначаны для контрудараў ці для адбівання агрэсіі?

Забайкальская вайсковая акруга, нягледзячы на тое, што яе войска знаходзілася не толькі на савецкай тэрыторыі, але і ў Манголіі, дзе зусім нядаўна ішла сапраўдная вайна з удзелам соцень танкаў і самалётаў, тысяч гармат і дзясяткаў тысяч жаўнераў, была кінута.

Сярод усіх унутраных і ўсходніх памежных акруг Забайкальская была адзінай, меўшай у сваім складзе арміі. Іх было дзьве: 16-я і 17-я. 17-ая армія заставалася ў Манголіі, але яе ўжо ў 1940 годзе «палегчылі» да такой ступені, што праз недахоп генералаў пасаду намесьніка камандуючага арміям займаў палкоўнік П. П. Палубаяраў. Але і яго хутка запатрабавалі ў Маскву, а потым выправілі на Паўночна-заходні фронт.

Другая армія Забайкальскай вайсковай акругі – 16-я, таемна пайшла на захад. І хаця сярод застаючыхся жонак распускалі чуткі пра іранскую мяжу, камандыры 16-ай арміі ведалі, што едуць ваяваць, і ведалі – супраць каго.

Штаб Забайкальскай вайсковай акругі пры сыходжанні 16-ай арміі таксама «палегчылі», перакінуўшы шмат каго із афіцэраў і генералаў у дывізіі і карпусы 16-ай арміі. Прыклад: генерал-маёр П. Н. Чарнышоў кіраваў 152-й стралковай дывізіяй 16-ай арміі. Яго паднялі вышэй, прызначыўшы кіраўніком аддзела баявой падрыхтоўкі ўсёй Забайкальскай вайсковай акругі. Але, «калі армія сыходзіла, Пётр Мікалаевіч заявіў, што пойдзе са сваёй дывізіяй ваяваць, і дамогся таго, каб яго вярнулі ў 152-ю» (Генерал-маёр А. А. Лабачоў. Цяжкімі дарогамі. с. 147).

Не толькі палкоўнікаў і генералаў сярэдняй рукі забіралі із Забайкалля. Адсюль забіралі і сапраўды вялікіх камандыраў. Самых вялікіх камандуючых акругай. Чаму камандуючых? Хіба ў Забайкальскай акрузе не адзін камандуючы, а некалькі? Менавіта так, некалькі. Праўда, яны кіравалі не ўсе разам. Па чарзе. Але чарга не затрымлівалася. У 1940 годзе Забайкальскай акругай кіруе генерал-лейтэнант Ф. Н. Рэмезаў. Яго накіравалі кіраваць Арлоўскай вайсковай акругай. Там ён таемна сфармаваў 20-ую армію і пад заслонай Паведамлення ТАСЗ павёў яе да германскай мяжы. Пасьля Рэмезава Забайкальскай акругай мімалётна пакіраваў генерал-лейтэнант І. С. Конеў. Адсюль яго перакінулі на Паўночна-Каўказскую вайсковую акругу, дзе ён таемна сфармаваў 19-ую армію і пад заслонай таго ж Паведамлення ТАСЗ павёў яе да румынскай мяжы. А Забайкальскую акругу тут жа ўзналіў генерал-лейтэнант (пазьней генерал арміі) П. М. Курачкін. Да Паведамлення ТАСЗ Курачкін адгрузіў 16-ую армію, пажадаў камандырам і ваярам паспяхова выканаць «кожнага загаду Радзімы». У 16-ай арміі самая доўгая дарога. Таму яна выйшла раней, каб з'явіцца каля заходняй мяжы адначасова з усімі астатнімі арміямі Другога Стратэгічнага эшалона.

А што ж генерал-лейтэнант П. М. Курачкін? Выправіць цэлую армію эшалонамі ды так, каб ніхто не ведаў, – справа не простая. Курачкін заданне выканаў і ўздыхнуў з палёгкай. А 13 чэрвеня, у момант перадачы Паведамлення ТАСЗ, Курачкін атрымаў загад пакінуць Забайкальскую акругу і неадкладна выехаць у Маскву за новым прызначэннем. «Чырвоная зорка» (26 траўня 1984

года) сведчыць, што 22 чэрвеня 1941 года генерал-лейтэнант Курачкін знаходзіўся ў вагоне хуткага цягніка, падыходзіўшага да Іркуцка… А Забайкальская вайсковая акруга была пакінута без кіраўніка. Савецкая вайсковая энцыклапедыя (т. 3, с. 357) паведамляе, што новы кіраўнік у Забайкаллі з'явіўся толькі ў верасні 1941 года.

Але не толькі із унутраных і напалову франтавых акруг, але і з сапраўднага фронту перакідалі генералаў і афіцэраў на германскую і румынскую мяжу. На Далёкім Усходзе існаваў пастаянны агмень вайны, узброеныя сутычкі неаднаразова перарасталі ў канфлікты з удзелам сотняў танкаў і самалётаў з абодвух бакоў. У той час вайна паміж Японіяй і Савецкім Звязам здавалася вельмі магчымай, а некаторым замежным назіральнікам – нават непазбежнай. Таму на Далёкім Усходзе існавала не вайсковая акруга, а фронт у складзе трох армій.

З канца 1940 года генералаў (а таксама войска цэлымі дывізіямі і карпусамі) таемна, у нарастальным тэмпе перамяшчаюць на захад. Перамяшчэнні не абмяжоўваліся генераламі сярэдняй рукі: шмат хто із вышэйшых камандыраў з'язджалі з Далёкаўсходняга фронту без годнай замены ці без замены наогул. Так, без замены, на захад з’ехаў кіраўнік аператыўнага аддзела штаба фронту генерал-маёр Т. П. Котаў.

Генерал-маёр П. Г. Грыгарэнка (у той час падпалкоўнік у штабе Далёкаўсходняга фронту) згадвае: «выправілі на Захад Яна Сцяпанавіча Конева, Маркіяна Міхайлавіча Папова, Васіля Янавіча Чуйкова і яшчэ шмат каго із ліку вышэйшага вайсковага кіраўніцтва».

Каб ацаніць нават гэты вельмі кароткі спіс, нагадаю, што генерал-лейтэнант М. М. Папоў (у будучым генерал арміі) кіраваў на Далёкім Усходзе 1-ай арміяй, а генерал-лейтэнант І. С. Конеў (пазьней Маршал Савецкага Звязу) – 2-ой арміяй. Розныя прыдумкі пра тое, што перамяшчэнні генералаў рабіліся ў прадбачанні германскага ўварвання, я адкідаю начыста. Папоў сустрэне вайну на пасадзе камандуючага Паўночным фронтам на фінскай мяжы, а Конеў перамяшчаў сваю ўдарную армію да румынскай мяжы.

Цікавым выяўляецца шлях генерала Конева ад пасады камандуючага 2-ой арміяй на Далёкім Усходзе да пасады камандуючага 19-ай арміяй на румынскай мяжы. Конеў едзе не прама. Віхляе. Здаўшы 2-ую армію на Далёкім Усходзе ў красавіку 1941 года (Савецкая вайсковая энцыклапедыя. т. 2, с. 409), Конеў бярэ пад кіраванне Забайкальскую вайсковую акругу. Адзначыўшыся ў Забайкаллі, ён без усякай рэкламы ціха з'яўляецца ў Растове і бярэ пад кіраванне Паўночна-Каўказскую вайсковую акругу. Тут Конеў завяршае фармаванне 19-ай арміі, прызначаецца яе камандуючым і «ў стане самага строгай сакрэтнасьці» (выказванне генерала арміі С. М. Шцяменкі для дадзенага выпадку) пад канец траўня 1941 года пачынае перамяшчэнне дывізій і карпусоў сваёй арміі да румынскай мяжы. За кароткі тэрмін – чатыры пасады, ад самай усходняй часткі мяжы – да самай заходняй. Ліса ў генеральскай форме. Як яго па-іншаму назавеш? Перад усімі наступальнымі (але не перад абарончымі) аперацыямі Сталін хаваў сваіх лепшых генералаў і маршалаў. Гэта, перадусім, мела дачыненне да Жукава, Васілеўскага, Конева, Ракасоўскага, Мерацкова. Вось і вясной 1941 года, як перад усімі вялізнымі наступальнымі аперацыямі, Конеў заблытвае сляды так, каб нават яго самыя блізкія сябры не ведалі, куды ён знік.

Не адзін Конеў блытае сьляды. Нават калі паглядзець на пасады, якія Конеў для блізіру часова прынімаў, то выявяцца і іншыя камандыры, выкарыстоўваўшыя тыя ж пасады для замятання слядоў. Вось генерал-палкоўнік Ф. І. Кузняцоў,

пакінуўшы кіраванне Акадэміяй Генеральнага штаба, прыняў Паўночна-Каўказскую вайсковую акругу, потым, пакінуўшы яе Коневу, з'яўляецца на мяжы Усходняй Прусіі на пасадзе камандуючага Паўночна-заходнім фронтам.

Пасьля таемнага знікнення генерала Конева з Далёкага Ўсходу пакінутая ім 2-ая армія не атрымала годнай замены.

А ў 1-ай арміі Далёкаўсходняга фронту сітуацыя была яшчэ больш цікавай. Пасьля ад'езду генерала М. М. Папова на Паўночны фронт яму была прызначана годная замена – генерал-лейтэнант А. І. Яроменка (пазьней Маршал Савецкага Звязу). Але доўга Яроменка не кіраваў. 19 чэрвеня 1941 года ён атрымаў загад перадаць 1-ую армія і тэрмінова прыбыць у Маскву за новым прызначэннем.

Гітлер перамяшаў усе карты, і ўжо пасьля пачатку германскага ўварвання Яроменка прызначаецца камандуючым Заходнім фронтам замест пазбаўленага пасады генерала Д. Г. Паўлава. Аднак 19 чэрвеня такі паварот, вядома, не прадбачыўся. Паўлаў моцна трымаўся на пасадзе камандуючага Заходнім фронтам. Сталін паклікаў Яроменку для выканання нейкай іншай місіі, якая так і засталася невядомай і, магчыма, невыкананай. Мне асабіста пашчасьціла сустракацца з маршалам Савецкага Звязу Яроменка і размаўляць з ім. Вельмі асьцярожна, каб не выклікаць падазрэнняў, я спрабаваў гэта пытанне вырашыць. Маё ўражанне, што Яроменка не хітрыў, а сапраўды не ведаў, навошта ён спатрэбіўся Сталіну 19 чэрвеня 1941 года. Я звярнуў увагу маршала на тое, што ён быў цалкам не адзін. Вось, кажу, і Курачкін у цягніку ехаў, і Сіўкоў, і Курдзюмаў, і Жадаў, і Пятроў, і Лучынскі. Маршала гэта вельмі зацікавіла. Вельмі шкадую, што я не заходні гісторык з пашпартам дэмакратычнай краіны ў кішэні, таму далёка заводзіць размову з маршалам проста не меў магчымасьці.

Зацікаўлены Яроменка назваў мне яшчэ пару генералаў, якіх забралі із Далёкага Ўсходу, агаліўшы амаль начыста савецкую абарону: генерал-маёр Н. Э. Берзарын быў намесьнікам камандуючага 1-ай арміі. Яроменка паведаміў мне тое, пра што ў мемуарах не згадвае: ад'язджаючы із Далёкага Ўсходу, ён павінен быў здаць армію свайму намесьніку Берзарыну. На тое намесьнік і прыдуманы! Але Берзарына яшчэ пад канец траўня Сталін выклікаў у Маскву і таемна прызначыў краваць 27-ай арміяй у Прыбалтыцы, недалёка ад германскай мяжы.

Могуць і тут запярэчыць, што Сталін заклікаў Яроменка, Берзарына і іншых генералаў із Далёкаўсходняга фронту для ўмацавання абароны. Каб канчаткова адкінуць сумневы, назаву яшчэ аднаго генерала, якога мне таксама падказаў Яроменка: генерал-маёр В. А. Глазуноў (пазьней генерал-лейтэнант, камандуючы паветрана-дэсантным войскам Чырвонага войска) напачатку 1941 года шанаваў 59-ю стралковую дывізію ў 1-ай арміі Далёкаўсходняга фронту. Яроменка вельмі шанаваў 1-ую армію і не жадаў пакідаць яе без камандзіра на самаволю «штабнога пацука» Шэлехава. Але намесьніка ў Яроменкі Сталін ужо забраў, камандыраў карпусоў – таксама, і дасьведчаных камандыраў дывізій даўно на захад перакінулі. Вось толькі на кіраванні 59-й дывізіі знаходзіўся дасьведчаны, баявы, перспектыўны генерал Глазуноў. Яроменка паведаміў, што неадкладна выправіў шыфраванне ў Генеральны штаб з прапановай прызначыць кіраўнікам 1-ай арміі генерала Глазунова. Із дывізіі непасрэдна на армію – гэта вялікі скок, але што ж рабіць, калі іншых баявых камандыраў на Далёкім Усходзе ўжо не застаецца?

Масква пагадзілася, што Глазуноў сапраўды годны камандзір, і адказваючай шыфроўкай загадала Глазунову дывізію здаць, тэрмінова прыбыць на румынскую

мяжу і атрымаць пад кіраванне 3-і паветрана-дэсантны корпус. А 1-ая армія Далёкаўсходняга фронту так і засталася без баявога камандыра.

Згодна з загадам Сталіна напачатку чэрвеня 1941 года на заходняй мяжы было сканцэнтравана не толькі ЎСЁ савецкае паветрана-дэсантнае войска, уключаючы і нядаўна перакінутыя часткі із Далёкага Ўсходу, але ў самы апошні момант Сталін пяхотных і кавалерыйскіх генералаў забірае із далёкіх адрэзкаў мяжы і тэрмінова перарабляе іх у камандыраў паветрана-дэсантных карпусоў. Гэта мае дачыненне не толькі да генералаў Глазунову і Жадава, але і да генералаў М. А. Вусенка, Ф. М. Харытонава, І. С. Безвуглага.

Хуткія перашыванні генералаў із пяхотных і кавалерыйскіх у дэсантныя – гэта не падрыхтоўка да абароны, і нават не падрыхтоўкя да контрнаступлення. Гэта выразныя прыкметы рыхтуемай агрэсіі: непазбежнай, хуткай, жахлівай.

# Глава XXVIII

## Навошта Сталін разгарнуў франты.

«Вайна бедных супраць багатых будзе самай крывавай із
усіх войнаў, якія калі-небудзь вяліся паміж людзьмі».
Ф.Энгельс

Тэрмін «фронт» на савецкай вайсковай мове азначае, перадусім, вайсковае фармаванне колькасьцю ад некалькіх соцень тысяч да мільёна і больш жаўнер. Фронт уключае ў свой склад кіраванне і штаб, некалькі армій, злучэнні авіяцыі, злучэнні ППА, часткі і злучэнні ўзмацнення, франтавыя тылы. Толькі ў складзе тылавых частак і ўстановаў, непасрэдна падначаленых кіраўніцтву кожнага фронта, згодна з даваеннымі дадзенымі, меркавалася мець да 200 000 жаўнераў. У мірны час франты не існуюць. Замест іх існуюць вайсковыя акругі. Франты ствараюцца напачатку вайны (СВЭ. т. 8, с. 332).

У 1938 годзе дачыненні з Японіяй абвастрыліся да такой ступені, што ў складзе РСЧВ быў створаны Далёкаўсходні фронт. У склад фронту спачатку былі ўключаны дзьве арміі, потым, праз два гады, яшчэ адна. 13 красавіка 1941 года з Японіяй была падпісана дамова пра нейтралітэт, але Далёкаўсходні фронт так і не быў расфармаваны.

На савецкай заходняй частцы мяжы у 1939-1940 гадах кароткачасова ствараліся франты для «вызваляючых паходаў» у Польшчу, Румынію, Фінляндыю. Але пасьля заканчэння паходаў франты неадкладна расфармоўваліся і замест іх зноў ствараліся вайсковыя акругі. Гісторыкі папракаюць Сталіна: з Германіяй – пакт і з Японіяй – пакт, але супраць Японіі разгорнуты фронт, а супраць Германіі – не.

На першы пагляд, нелагічна. Але што робіць Гітлер? Гітлер выяўляе хітрасць. У першай палове 1941 года фюрар супраць Вялікабрытаніі разгарнуў штабы з гучнымі назвамі, але без войска, а супраць Савецкага Звязу разгарнуў амаль усё сваё войска, але без гучных штабоў. З першага погляду – супраць Вялікабрытаніі магутнае войска, але калі прыгледзецца, то выяўляецца, што Гітлер лепшае войска і лепшых генералаў таемна накіроўвае да мяжы Савецкага Звязу. Так рыхтуецца раптоўны ўдар. Але і Сталін робіць тое ж: на Далёкім Усходзе створаны фронт, але войска і генералы таемна яго пакідаюць. На заходнім адрэзку мяжы працягваюць афіцыйна існаваць вайсковыя акругі, але тут ідзе канцэнтрацыя войска. Параўнанне магутнасьці Далёкаўсходняга фронту і кожнай заходняй акругі

цалкам не на карысць фронту. Прыклад: на Далёкаўсходнім фронце – тры арміі, усе звычайныя; а ў Заходняй асобнай вайсковай акрузе – чатыры арміі, у тым ліку тры ўдарныя і адна звышударная. Акрамя таго, на тэрыторыю Заходняй асобнай вайсковай акругі прыбываюць яшчэ тры арміі Другога Стратэгічнага эшалона. На Далёкаўсходні фронт ніхто не прыбывае, наадварот, адтуль вывозяцца карпусы і дывізіі. На Далёкаўсходнім фронце – адзін механізаваны корпус, у Заходняй акрузе іх шэсць. На Далёкаўсходнім фронце няма паветрана-дэсантнага войска, у Заходняй акрузе – цэлы корпус. Параўнанні можна працягваць і далей. Але патрэбна памятаць, што Заходняя асобная вайсковая акруга не самая магутная, Кіеўская – значна больш магутная.

Калі яе параўнаць з Далёкаўсходнім фронтам, то мы наогул будзем пагардліва ставіцца да фронта. Фронт на Далёкім Усходзе – гэта шырма, каб прадэманстраваць усяму сьвету: тут магчыма вайна. Але і пяць заходніх вайсковых акруг – таксама шырма, каб прадэманстраваць: тут ніякай вайны не прадбачыцца. А на самай справе пяць заходніх памежных акруг даўно ўжо ператварыліся ў нешта незвычайнае. Звычайнымі яны былі да 1939 года. А пасьля падпісання пакта ў іх засяроджана такая магутнасць, якую рэдка які-небудзь із савецкі фронтоў меў падчас самых бязлітасных бітваў вайны.

На Далёкім Усходзе створаны фронт так, каб усе пра гэта ведалі. А вось на захадзе створаны не адзін, а ПЯЦЬ франтоў, але так, каб пра гэта ніхто не ведаў. У папярэдніх главах я згадваў Паўночны, Паўночна-заходні, Заходні, Паўднёва-заходні і Паўднёвы франты, і гэта не памылка. Афіцыйна яны створаны пасьля германскага ўварвання – як рэакцыя на гэтае ўварванне. Але зазірнём у архівы і будзем здзіўлены: пачынаючы з лютага 1941 года гэтыя назвы ўжо фігуруюць у дакументах, быўшымі ў той час вельмі сакрэтнымі. Частка дакументаў ужо разсакрэчана і пушчана ў навуковае абарачэнне. Цытую: «У лютым 1941 года вайсковым радам памежных акруг былі накіраваны… указанні пра неадкладнае абсталяванне франтавых камандных пунктаў» (ВІЖ, 1978, №4, с. 86).

Афіцыйна – на заходнім адрэзку мяжы – пяць вайсковых акруг. Неафіцыйна – кожная вайсковая акруга ўжо рыхтуе франтавы камандны пункт, г.зн. стварае не вайскова-тэрытарыяльную структуру, а чыста вайсковую, якая ўзнікае толькі падчас вайны і толькі для кіравання войскам падчас вайны.

Камуністычныя гісторыкі запэўніваюць нас, што да 22 чэрвеня 1941 года паміж ЗССР і Германіяй існаваў мір, які нібы-та 22 чэрвеня быў парушаны Германіяй. Гэтая гіпотэза фактамі не падмацоўваецца. Факты сведчаць пра адваротнае. Стварыўшы ў лютым 1941 года камандныя пункты франтоў, Савецкі Звяз фактычна пачаў вайну супраць Германіі, хоць пра гэта і не заявіў афіцыйна.

Камандуючы вайсковай акругай у мірны час мае дзьве асноўныя функцыі, і роля яго двоістая. З аднаго боку, ён чыста вайсковы кіраўнік, у падначаленні якога знаходзяцца некалькі дывізій, часам – некалькі карпусоў ці нават – некалькі армій. З другога боку, у мірны час кіраўнік акругі кантралюе строга вызначаную тэрыторыю, выконваючы ролю намесьніка ці вайсковага губернатара.

У выпадку вайны памежная вайсковая акруга ператвараецца ў фронт. Пры гэтым могуць узнікнуць тры сітуацыі.

Першая сітуацыя: фронт ваюе на той жа тэрыторыі, дзе да вайны знаходзілася вайсковая акруга. У гэтым выпадку камандуючы фронтам працягвае заставацца чыста вайсковым камандырам і, акрамя таго, працягвае кантраляваць

даручаныя яму тэрыторыі, выконваючы ў тылавых раёнах ролю вайсковага губернатара.

Другая сітуацыя: пад ціскам суперніка фронт адыходзіць назад. У гэтым выпадку камандуючы фронтам застаецца баявым камандырам і падчас адыходу забірае з сабой установы тэрытарыяльнага кіравання.

Трэцяя сітуацыя: з пачаткам вайны фронт ідзе наперад на тэрыторыю суперніка. Толькі ў прадбачанні гэтай сітуацыі праводзіцца падзел функцый камандуючага. Ён робіцца чыста вайсковым камандырам і вядзе свае войска наперад, а на тэрыторыі акругі павінен застацца нехта меншы рангам, для таго каб выконваць функцыі вайсковага губернатара.

У лютым 1941 года адбылася падзея, якая засталася незаўважанай сучаснымі гісторыкамі. У Заходняй асобнай вайсковай акрузе была заснавана пасада яшчэ аднаго намесьніка камандуючага акругай. Якое гэта мае значэнне? У генерала арміі Д. Г. Паўлава і без таго існуе некалькі намесьнікаў! Некалькі месяцаў дадатковая пасада намесьніка заставалася вакантнай. Потым на гэтую пасаду прыбыў генерал-лейтэнант В. Н. Курдзюмаў.

Значэнне гэтай падзеі вялізнае.

У мірны час у Менску знаходзіцца камандуючы генерал арміі Д. Г. Паўлаў, яго намесьнік генерал-лейтэнант Ё. В. Болдзін, кіраўнік штаба генерал-маёр В. Е. Клімоўскіх. Мабілізацыйнае прызначэнне Паўлава – камандуючы Заходнім фронтам, Клімоўскіх – кіраўнік штаба Заходняга фронту, а Болдзін адпаведна з планам павінен стаць кіраўніком рухомага згуртавання Заходняга фронту.

Я вось да чаго вяду: калі б Заходняму фронту было наканавана ваяваць там, дзе ён знаходзіўся перад вайной, г.зн. у Беларусі, то ніякіх структурных перамен рабіць непатрэбна. Але Заходні фронт рыхтуецца пайсьці на тэрыторыю суперніка. Яго павядуць генералы Паўлаў, Болдзін, Клімоўскіх. Калі яны пойдуць і павядуць з сабой усе арміі, карпусы, дывізіі, брыгады, хто ж застанецца ў Менску? Вось на гэты выпадак і заснавана дадатковая пасада намесьніка – генерал-лейтэнант Курдзюмаў. Падзел структур здзейсніўся ўжо ў мірны час. Генерал арміі Паўлаў засяродзіў сваю ўвагу на чыста вайсковых праблемах, а яго новы намесьнік – на чыста тэрытарыяльных. Калі Заходні фронт на чале з Паўлавым пойдзе на тэрыторыю суперніка, генерал Курдзюмаў застанецца ў Менску, выконваючы ролю чыста тэрытарыяльнага вайсковага губернатара, ахоўваючы мясцовыя ўлады, лініі камунікацый, кантралюючы прамысловасць і транспарт, праводзячы дадатковыя мабілізацыі і рыхтуючы рэзервы для фронту, пайшоўшага далёка наперад.

Генерал Курдзюмаў кіраваў аддзелам баявой падрыхтоўкі РСЧВ. Зараз ён прызначаны ў Менск. З боку гледжання «вызваляючай» вайны – гэта шыкоўнае рашэнне: генерал з такім досьведам сядзіць на шляхах, якімі ўсе новыя і новыя рэзервы пойдуць на захад. Ён лепш за ўсіх у стане даць праходзячаму войску апошнія ўказанні перад уступленнем у бой.

Чатыры арміі, дзесяць асобных карпусоў і дзесяць авіяцыйных дывізій, размешчаныя на тэрыторыі Кіеўскай асобнай вайсковай акругі, таксама рыхтуюцца пайсьці на тэрыторыю суперніка. Іх павядзе камандуючы Паўднёва-заходнім фронтам генерал-палкоўнік М. П. Кірпанос. У прадбачанні гэтага патрэбна тэрмінова падзяліць дзьве функцыі камандуючага: пакінуць яму толькі чыста вайсковыя абавязкі, перадаўшы чыста тэрытарыяльныя камусьці іншаму. Для гэтага і ўводзіцца дадатковая пасада намесьніка, на якую прызначаецца генерал-лейтэнант В. Ф. Якаўлеў. Кірпанос з войскам пойдзе наперад, Якаўлеў застанецца ў

Кіеве. З пачатку лютага мы ўсе больш выразна назіраем падзел двух структур. У Цярнопалі ствараецца таемны камандны пункт – гэта цэнтр вайсковай структуры, у Кіеве застаецца штаб – гэта цэнтр тэрытарыяльнай структуры. У Браварах, у раёне Кіева, створаны звышмагутны падземны камандны пункт для тэрытарыяльнай сістэмы кіравання. У Цярнопалі ствараецца камандны пункт вельмі лёгкага тыпу: зямлянкі ў адзін накат. Вельмі лагічна: вайсковая структура не прызначана доўга заставацца на Украіне, навошта ж узводзіць магутныя бетонныя казематы?

У Прыбалтыйскай асобнай вайсковай акрузе таксама адбыўся падзел структур. Вышэйшы кіручы склад пайшоў у Панявежыс, які з гэтага часу з'яўляецца сакрэтным цэнтрам чыста вайсковай структуры Паўночна-заходняга фронту, а ў Рызе пакінуты другарадны генерал Е: П. Сафронаў, які будзе ажыццяўляць вайскова-тэрытарыяльны кантроль пасьля сыходу асноўнай масы савецкага войска на захад.

У Адэскай вайсковай акрузе невялікі нюанс. Тут таксама адбыўся падзел структур. Але са штаба акругі вылучыўся не штаб цэлага фронту, а штаб самай магутнай із усіх савецкіх армій – 9-й. Пераважная частка афіцэраў штаба Адэскай вайсковай акругі на чале з кіраўніком штаба генерал-маёрам М. В. Захаравым таемна пераведзена ў штаб 9-ай арміі. Маршал Савецкага Звязу І. С. Конеў сведчыць, што 20 чэрвеня штаб 9-ай арміі быў падняты па баявой трывозе і таемна выведзены із Адэсы на палявое КПП (ВІЖ, 1968, №7, с. 42). Камандуючы Адэскай вайсковай акругай генерал-палкоўнік Я. Т. Чаравічэнка ўжо даўно не ў Адэсе. Ён таемна пабываў у Крыму, дзе браў пад кіраванне прыбыўшы із Каўказа 9-ы асобны стралковы корпус і побач з Адэсай у цягніку едзе на сакрэтны камандны пункт 9-ай арміі, якім яму даручана кіраваць. Маршал Савецкага Звязу М. В. Захараў паведамляе, што падчас германскага ўварвання Чаравічэнка быў у цягніку (Пытанні гісторыі, 1970, №5, с. 46). 9-ая армія павінна была пакінуць межы савецкай тэрыторыі, вось чаму ў Адэсе ДА германскага ўварвання з'явіўся дадатковы генерал Н. Е. Чыбісаў. Пасьля сыходу вайсковай структуры 9-ай арміі ён павінен быў заставацца на паловупустых, з вайсковага боку гледжання, тэрыторыях і ўжыццяўляць вайскова-тэрытарыяльны кантроль.

А Ленінградзкая вайсковая акруга – выключэнне. Тут таксама таемна ствараецца Паўночны фронт, але падзелу структур не адбываецца. Вельмі лагічна: Паўночны фронт пакуль не рыхтуецца ісьці далёка наперад ад тэрыторыі Карэліі, таму няма патрэбы дзяліць камандыраў на тых, хто пойдзе далёка наперад, і тых, хто застанецца. Паўночны фронт будзе дзейнічаць прыкладна на тых жа тэрыторыях, дзе раней месцавалася вайсковая акруга, таму дзьве розныя структуры тут ствараць няма патрэбы. Дзьве структуры патрэбны толькі там, дзе адны камандыры і войска павінны пайсьці наперад, а іншыя павінны застацца. Вось таму ў Ленінградзкай вайсковай акрузе і не ўведзена дадатковая пасада намесьніка. І баявыя дзеянні і кантроль тэрыторыі тут будуць ажыццяўляцца із адзінага цэнтра – са штаба Паўночнага фронту. Ён нікуды не пойдзе, таму для яго не прадугледжваецца ніякай замяняючай яго структуры кіравання.

13 чэрвеня 1941 года, пад час дня перадачы па радыё Паведамлення ТАСЗ, адбыўся канчатковы і поўны падзел структур кіравання ў заходніх памежных вайсковых акругах, акрамя Ленінградзкай. У той дзень Наркам абароны аддаў загад вывесьці кіраванне франтамі на палявыя камандныя пункты.

З гэтага моманту ў Беларусі існуюць дзьве незалежныя вайсковыя сістэмы кіравання: таемна створаны Заходні фронт (камандуючы фронтам генерал арміі Д.

Г. Паўлаў, камандны пункт у лесе, у раёне станцыі Лесна) і Заходняя асобная вайсковая акруга (камандуючы генерал-лейтэнант В. Н. Курдзюмаў, штаб у Менску). Паўлаў працягвае выконваць абавязкі камандуючага акругай, але ён афіцыйна ужо – камандуючы фронтам, і яго штаб ужо перамшчаецца на таемны камандны пункт, каб існаваць незалежна ад Заходняй вайсковай акругі.

Дзьве паралельныя вайсковыя сістэмы кіравання на адной і той жа тэрыторыі – гэта прыкладнае тое ж самае, што два капітаны на адным караблі, два лідары ў адной камуністычнай партыі ці два завадатары ў адной бандзе. Падвойнае вайсковае кіраванне на адной тэрыторыі існаваць не можа і створана толькі таму, што Заходні фронт хутка павінен гэтыя тэрыторыі пакінуць.

У гэты ж час на Ўкраіне ўзніклі дзьве незалежныя структуры вайсковага кіравання: Паўднёва-заходні фронт і Кіеўская асобная вайсковая акруга. Маршал Савецкага Звязу І. Х. Баграмян сведчыць: была асобная шыфроўка Жукава пра тое, каб «захаваць гэта ў самай строгай таямніцы, пра што папярэдзіць асабісты склад штаба акругі» (Так пачыналася вайна. с. 83).

Тут, як і ў Менску, ставіцца тая ж камедыя: для чужога пагляду вайсковае кіраўніцтва на Ўкраіне ажыццяўляе толькі штаб Кіеўскай асобнай вайсковай акругі. Асабовы склад штаба акругі асабіста папярэджаны і пра нейкую іншую сістэму вайсковага кіраўніцтва лішняга не бапаведамляе. Але акрамя штаба акругі на той жа тэрыторыі створана іншая структура вайсковага кіравання – Паўднёва-заходні фронт. Ці доўга на адной тэрыторыі могуць функцыянаваць дзьве незалежныя структуры вайсковага кіравання?

Генерал-лейтэнант войска сувязі П. М. Курачкін (у той час генерал-маёр, кіраўнік сувязі Паўночна-заходняга фронту) тое ж самае паведамляе пра Прыбалтыку: «у раён Панявежыса пачало прыбываць кіраўніцтва і аддзелы штаба. Акруговае кіраванне фактычнаператварылася ў франтавое, хаця фармальна да пачатку вайны называлася акруговым. У Рызе было пакінута некалькі генералаў і афіцэраў, на якіх ускладаліся функцыі кіраўніцтва акругай» (На Паўночна-заходнім фронце (1941-1943). Зборнік артыкулаў. с. 196).

Стварэнне двух незалежных сістэм кіравання непазбежна мела наступствам стварэнне двух незалежных сістэм сувязі. У Прыбалтыцы франтавую сувязь узначаліў асабіста генерал-маёр П. М. Курачкін, а яго былы намесьнік палкоўнік Н. П. Акімаў кіруе незалежнай сістэмай сувязі вайсковай акругі.

Генерал Курачкін энергічна стварае сістэму сувязі для таемна існуючага ПЗФ[21]. Гэта робіцца «як бы дзеля праверкі». А каб не насьцярожыць суперніка раптоўным узнікненнем стасункаў па новых вайсковых каналах сувязі, выкарыстоўваюцца грамадзянскія лініі сувязі. Дарэчы, слова «грамадзянскія» патрэбна браць у двухкоссе. Такіх у Савецкім Звязе не існавала. У 1939 годзе дзяржаўная сістэма сувязі была цалкам ваенізавана і пастаўлена на службу войска. Наркамат сувязі быў непасрэдна падначалены Наркамату абароны. Ва ўсіх нармальных краінах сістэма вайсковай сувязі з'яўляецца часткай агульнадзяржаўнай сістэмы сувязі, а ў Савецкім Звязе наадварот – агульнадзяржаўная сувязь – частка вайсковай сувязі, а Наркам сувязі ЗССР Перасыпкін афіцыйна з'яўляецца намесьнікам кіраўніка сувязі Чырвонага войска.

Кіраванне Паўночна-заходняга фронту выйшла на палявы камандны пункт не на вучэнні, а на вайну: «стваралася вышэйшая аператыўная арганізацыя для

[21] Паўночна Заходні Фронт.

кіравання баявымі дзеяннямі» (Генерал-лейтэнант П. М. Курачкін. Пазыўныя фронту. с. 117).

Франтавая сістэма сувязі для вайсковага часу была загадзя добра падрыхтавана і адладжана. «Усе дакументы плана, частоты, пазыўныя, паролі захоўваліся ў штабе акругі, і ў выпадку вайны іх патрэбна было рассылаць у войска. Радыёстанцый жа ў акрузе налічвалася некалькі тысяч, такім чынам, каб перабудаваць працу на вайсковы лад, патрабавалася мінімум тыдзень. Праводзіць гэтыя захады загадзя не дазвалялася» (там жа, с. 115).

Адзначым для сябе, што ўся сістэма перабудовы сувязі з мірнага на ваенны рэжым у РСЧВ была пабудавана не на здагадцы, што супернік можа напасьці і таму давядзецца праводзіць перабудову практычна імгненна, а на здагадцы, што папярэдні сігнал паступіць із Масквы ў прызначаны Масквой час. Іншымі словамі, план перабудовы сувязі быў створаны не для ўмоваў абарончай вайны, а для ўмоваў войны наступальнай, агрэсіўнай, з перыядам таемнай падрыхтоўкі да яе. І гэты таемны перыяд апошніх прыгатаванняў Чырвонага войска да ўварвання настаў. 19 чэрвеня кіраўнік штаба Паўночна-заходняга фронту генерал-лейтэнант П. С. Клёнаў аддае загад генерал-маёру войска сувязі Курачкіну:

— Дзейнічаць згодна з вялікім планам. Вам зразумела, пра што ідзе гаворка?

— Так, мне ўсё зразумела, – адказаў я» (П. М. Курачкін. На Паўночна-заходнім фронце. (1941-1943). Зборнік артыкулаў. с. 195).

Шкада, што нам не ўсё зразумела пра «вялікі план», і ніхто із савецкіх генералаў не тлумачыць, што такое «вялікі план». Але нам зразумела, што планы ў савецкіх генералаў існавалі, і іх ужо пачалі выконваць. Праз некалькі дзён павінна было нешта здарыцца ў адпаведнасьці з «вялікім планам», але Гітлер сваімі дзеяннямі не даў магчымасьці ажыццявіцца «вялікаму плану», вымусіўшы савецкіх камандыраў дзейнічаць не адпаведна са створанымі планамі, а імправізаваць.

Вось як генерал Курачкін забяспечвае выкананне «вялікага плана»: «Аддзел сувязі акругі выслаў дакументы, маючыя дачыненне да арганізацыі радыёсувязі… у штабы армій і злучэнні акруговага падначалення. Усе гэтыя дакументы, адпаведным чынам перапрацаваныя, павінны былі прайсьці праз корпусныя, дывізійныя, палкавыя, батальённыя кіруючыя інстанцыі і дайсьці да экіпажа кожнай радыёстанцыі. На гэта выдаткуецца, як я ўжо паведамляў, не менш тыдня» (там жа, с. 118).

Такім чынам, вельмі сакрэтныя паведамленні, якія можна даводзіць да выканаўцаў толькі ў выпадку вайны, пачынаючы з 19 чэрвеня даводзіліся да тысяч выканаўцаў. Гэта неабарачальны працэс. Вярнуць сакрэты і схаваць іх у сейфы больш немагчыма. Як толькі матэрыялы выйшлі із сейфаў, вайна стала цалкам непазбежнай. Падрыхтоўка наступальнай вайны чымсьці падобна на падрыхтоўкю дзяржаўнага перавароту: план рыхтуе вельмі невялікая купка людзей, не давяраючы тысячам будучых удзельнікаў ні самай маленькой часткі інфармацыі. Як толькі кіраўнікі змовы давялі да тысяч выканаўцаў часьцінкі свайго плана, выступленне робіцца цалкам непазбежным. У адваротным выпадку змоўшчыкі губляюць фактар раптоўнасьці, што з'яўляецца іхным галоўным козырам, і вымушае суперніка неадкладна пачынаць адказваючыя захады.

Але, магчыма, генерал-лейтэнант Клёнаў даў загад давесьці да тысяч выканаўцаў элементы «вялікага плана» прадбачучы германскую агрэсію? Ніяк не. Генерал Клёнаў катэгарычна не верыць у магчымасьць германскага ўварвання. Нават пасьля таго як яно пачалося, Клёнаў адмаўляецца верыць і не пачынае ніякіх

захадаў для адбівання агрэсіі. Да генерала Клёнава і яго агрэсіўных прапановаў на снежаньскай (1940 года) нарадзе вышэйшага кіруючага складу мы яшчэ вернемся ў другім томе гэтай кнігі. Клёнаў прапанаваў весьці толькі агрэсіўныя войны, пачынаючыяся раптоўным ударам Чырвонага войска. Па агрэсіўнасьці ён перасягаў нават самога Жукава і меў адвагу спрачацца з Жукавым пры Сталіне пра тое, як патрэбна наносіць раптоўны ўдар. А ў магчымасць германскага ўварвання ён не верыў, як і яго апякун сябра Палітбюро А. А. Жданаў, як, дарэчы, і шматлікія іншыя савецкія вайскоўцы і палітычныя лідары, уключаючы самога Сталіна.

13 чэрвеня 1941 года і на працягу некалькіх наступных дзён у Савецкім Звязе былі запушчаны ў дзеянне ўсе механізмы вайны. Працэс разгортвання савецкіх франтоў зайшоў так далёка, што тысячы выканаўцаў ужо былі пасьвечаны ў сакрэты экстраардынарнай важнасьці. У сярэдзіне чэрвеня 1941 года Савецкі Звяз ужо прайшоў крытычную мяжу, пасьля якой вайна рабілася непазбежнай. Калі б Гітлер вырашыў праводзіць «Барбаросу» на некалькі тыдняў пазьней, то Чырвонае Войска прыйшло б у Берлін не ў 1945 годзе, а раней.

Перад тым, як зрабіць крок наперад, камандыр аглядае размешчаную перад ім мясцовасць. Вядома, выведка ўжо шмат чаго даведалася і шмат што паведаміла; вядома, камандыр верыць сваёй выведцы; але ўсё ж, перад тым як зрабіць крок наперад, ён яшчэ раз аглядае ўсю мясцовасць сваім камандырскім вокам. Калі наперад мае ісьці батальён, то мясцовасць доўга і ўважліва ў бінокль аглядае асабіста камандыр батальёна. А калі наперад ідзе корпус, што ж – мясцовасць аглядае асабіста камандыр корпуса. Гэта не традыцыя і не пусты рытуал. Перад тым як кінуць войска наперад, камандыр абавязаны асабіста пабачыць і адчуць размешчаную перад ім прастору: вунь там лагчынка – не загрузлі б танкі ў брудзе, вунь там масток – ах, ці не падпілаваны палі, а вунь із таго ляска магчыма контратака.

Калі камандыр асабіста не адчуе размешчаную перад ім прастору, калі яго ўяўленне не зможа прайсьці ўсю прастору наперадзе жаўнера пяхоты і калі камандыр не зможа перад боем уяўна ўзважыць усе цяжкасьці, якія выпадуць на долю яго жаўнераў, то адплатай будзе параза. Вось чаму кожны камандыр, незалежна ад рангу, перад наступальным боем апранаецца ў жаўнерскую форму і на жываце паўзе па бруду каля дзяржаўнай мяжы ці пярэдняга краю, доўгімі гадзінамі аглядаючы прастору, размешчаную наперадзе, і спрабуючы да пачатку бою ўявіць і здагадацца пра ўсе цяжкасьці, якія чакаюць заўтра.

Візуальнае вывучэнне суперніка і мясцовасьці мае назву рэкагнасцыроўка. З'яўленне рэкагнасцыровачных згуртаванняў на мяжы – гэта не самая прыемная неспадзяванка. Не вельмі добра, калі на вас із-за мяжы ў бінокль доўгімі гадзінамі глядзіць камандыр савецкай танкавай дывізіі. Але ўявіце сабе, што ў раёне вашага адрэзку мяжы з'явіўся камандуючы савецкай вайсковай акругі, ды не адзін, а ў суправаджэнні сябра Палітбюро і не гадзінамі, а тыднямі яны аціраюцца на памежных заставах. Што вы тады падумаеце?

Так было перад кожным «вызваленнем». Вось, напрыклад, яшчэ ў студзені 1939 года камандуючы Ленінградзкай вайсковай акругай К. А. Мерацкоў і А. А. Жданаў, які хутка зрабіўся сябрам Палітбюро, у адной машыне аб'ездзілі ўсю фінскую мяжу. Іхныя вандроўкі працягваюцца вясной, летам, восенню. На самым заканчэнні восені яны завяршылі сваю працу, вярнуліся ў Ленінград, і вось тут «фінская ваеншчына справакавала вайну».

З пачатку 1941 года германскія афіцэры і генералы пачынаюць паціху, а потым усё больш часта рабіць на германа-савецкай мяжы тое, што зусім нядаўна Мерацкоў і Жданаў рабілі на савецка-фінскай мяжы. Над маім сталом – знакаміты фотаздымак: генерал Г. Гудэрыян з афіцэрамі свайго штаба праводзіць апошнюю рэкагнасцыроўку пад Бярэсьцем ноччу на 22 чэрвеня 1941 года. Не толькі Гудэрыян, але ўсе германскія генералы глядзелі ў біноклі на савецкую тэрыторыю. Чым бліжэй набліжалася дата пачатку «Барбаросы», тым больш важныя германскія генералы з'яўляліся на савецкай мяжых. Савецкія генералы і маршалы адзначаюць усё больш і больш рэкагнасцыровачных згуртаванняў. (Галоўны маршал авіяцыі А. А. Новікаў. У небе Ленінграда, с. 41). Германскія рэкагнасцыровачныя згуртананні хаваліся, маскіравалі свае дзеянні рознымі спосабамі, апраналіся ў форму памежнікаў і шараговых жаўнераў, але дасьведчанае вока, вядома, адрозніць рэкагнасцыровачнае згуртаванне ад памежнага патруля. З савецкай мяжы сыпаліся паведамленні пра тое, што германскія афіцэры інтэнсіўна вядут рэкагнасцыроўку. Гэта відавочная прыкмета набліжэння вайны.

Маршал Савецкага Звязу М. В. Захараў (у той час генерал-маёр, кіраўнік штаба 9-ай арміі) паведамляе, што пачынаючы з красавіка 1941 года ўзнікла «новае становішча» (выдзелена М. В. Захаравым), яно характарызавалася тым, што «на рацэ Прут з'явіліся згуртананні афіцэраў у форме румынскага і германскага войска. Згодна з ўсімі прыкметамі, яны праводзілі рэкагнасцыроўку» («Пытанні гісторыі». (1970, №5, с. 43). Рэкагнасцыроўка – гэта падрыхтоўка да наступлення, і маршал Захараў гэта разумее ў 1970 годзе, як разумеў у 1941-м. З'яўленне рэкагнасцыровачных згуртаванняў па той бок яшчэ не азначае пачатак вайны, але вызначана азначае заканчэнне міру.

Што ж робяць савецкія камандыры? Чаму яны не пачынаюць тэрміновых захадаў абарончага накірунку для адбівання агрэсіі, няпазбежнасць якой падмацоўваецца інтэнсіўнай працай рэкагнасцыровачных згуртаванняў суперніка? Савецкія генералы не рэагуюць на рэкагнасцыровачныя захады суперніка грунтуючыся на простай падставе. Савецкія генералы не маюць часу – яны самі праводзяць рэкагнасцыроўку.

Генерал-маёр П. В. Севасцьянаў (у той час кіраўнік палітаддзела 5-й стралковай ім. Чэхаславацкага пралетарыяту Віцебскай Чырванасьцяжнай дывізіі 16-га стралковага корпуса 11-ай арміі Паўночна-заходняга фронту): «Назіраючы за нямецкімі памежнікамі на адлегласьці нейкіх дваццаці-трыццаці крокаў, сустракаючыся з імі паглядамі, мы і выгляду не падавалі, што яны існуюць для нас, што мы імі хаця б у малой ступені цікавімся». (Нёман – Волга – Дунай. с. 7).

Апісанне генерала Севасцьянава азначае, што ён не адзін раз назіраў германскіх памежнікаў на адлегласьці «дваццаці-трыццаці» крокаў, гэта здаралася рэгулярна. Вось і пытанне: таварыш генерал, а што вам, уласна кажучы, патрэбна ў такой блізкасьці ад мяжы? Калі ваша галава ўстрывожана магчымасьцю германскага ўварвання, то патрэбна даць загад нацягнуць радоў пяць-шэсць калючага дроту ўздоўж мяжы, а каб нікому не пажадалася праз той дрот лезьці – панаставіць мін-пастак, ды як мага больш густа. А за драцянымі загародамі стварыць сапраўднае міннае поле кіламетры на тры ў глыбіню, а за міннымі палямі супрацьтанкавыя равы выкапаць ды фугасамі агнямётнымі іх прыкрыць, а ззаду яшчэ шэрагаў дваццаць-трыццаць калючага дроту нацягнуць, ды на металічных калах. Яшчэ лепш не калы выкарыстаць, а рэйкі сталёвыя, і не проста так, а ў бетон іх, у бетон! А ўжо ззаду – яшчэ міннае поле. Ілжывае. А за ім – сапраўднае. І яшчэ

адзін роў супрацьтанкавы выкапаць. А ззаду ўсяго гэтага наладзіць лясныя завалы і інш. і мнш. Калі генерал рыхтуецца да абароны, то ў яго наогул няма патрэбы непасрэдна назіраць за германскімі памежнікамі. Яму патрэбна вывучаць не чужую тэрыторыю, а сваю, і чым глыбей, тым лепш. А каля мяжы можна трымаць невялікія рухомыя атрады, якія ў выпадку нападу могуць лёгка праз сакрэтныя праходы прайсьці за паласу загарод, мінуючы за сабой шляхі адыходу.

Прыкладна такім чынам рыхтавалася да абароны Фінляндыя, і фінскім генералам цалкам не было патрэбы стаяць на памежнай лініі і разглядаць чужую тэрыторыю…

А вось Чырвонае Войска загарод на межах не будуе, і савецкія генералы, дакладна як і іхныя германскія калегі, тыднямі і месяцамі сядзяць на самым ускрайку сваёй тэрыторыі на адлегласьці некалькіх крокаў ад дзяржаўнай мяжы.

Палкоўнік Д. І. Качаткоў згадвае, што камандыр савецкай танкавай дывізіі ў Бярэсьці (генерал-маёр танкавага войска У. П. Пуганаў, камандыр 22-й танкавай дывізіі 14-га механізаванага корпуса 4-ай арміі Заходняга фронту. – В. С.) выбраў такое месца для штаба дывізіі і такі кабінет у гэтым штабе, што «мы сядзелі з палкавым камісарам А. А. Іларыёнавым у кабінеце камдыва і з вакна глядзелі ў бінокль на нямецкіх жаўнераў на процілеглым беразе Заходняга Буга» (З зачыненымі люкамі. с. 8).

Ідыёцтва! – абураемся мы. Пачніся вайна, у вакно камандыра танкавай дывізіі можна проста із аўтамата страляць з іншага берага ці лепш таго – із гарматы стукнуць. Па штабу дывізіі можна страляць із чаго заўгодна: із кулямётаў, із мінамётаў, можна трымаць штаб пад снайперскім агнём, а із гарматы па яму можна страляць прамым навядзеннем нават без прыстрэлкі – не памылішся.

Не будзем абурацца. З абарончага боку гледжання такое размяшчэнне штаба танкавай дывізіі сапраўды, мякка кажучы, не вельмі ўдалае. Але ж танкавая дывізія ў Бярэсьці «ў непасрэднай блізкасьці ад мяжы» (Савецкае танкавае войска. с. 27) не для абароны ж знаходзіцца! А калі глядзець на сітуацыю з наступальнага боку гледжання, то ўсё правільна. Германскае танкавае згуртананне Гудэрыяна на тым баку таксама непасрэдна да берага прысунута. І сам Гудэрыян на процілеглым беразе робіць тое ж самае: з вакенца ў бінокль разглядае савецкі бераг.

Часам Гудэрыян, маскіруючыся, з'ўляецца з біноклем каля самай вады. А перад пачаткам «Барбаросы» ўжо і маскіравацца перастаў: стаіць у генеральскай форме са сваімі афіцэрамі і глядзіць у бінокль дакладна так жа, як і яго савецкія супернікі. Не будзем называць савецкіх генералаў ідыётамі. Мы ж не заўважаем нічога ідыёцкага ў дзеяннях германскіх генералаў. Гэта проста звычайная падрыхтоўка да наступлення. Так робіцца заўсёды ў войску ўсіх краін, уключаючы савецкае, уключаючы германскае. Адрозненне толькі ў тым, што Савецкі Звяз рыхтаваў аперацыю непараўнальна большага размаху, чым германская аперацыя «Барбароса», таму савецкія камандыры пачалі рэкагнасцыровачныя працы значна раней, чым германскія камандыры, але мелі намер завяршыць яе ў ліпені 1941 года. Ёсць згадванні пра тое, што Баграмян, вывучаючы горныя перавалы ў Карпатах, адначасова «старанна адрэкагнысцаваў значную пляцоўку мяжы» (ВІЖ, 1976, №1). І было гэта ў верасні 1940 года.

Рэкагнасцыроўку з савецкага боку праводзяць камандыры ўсіх рангаў. Кіраўнік інжынернага войска Паўднёва-заходняга фронту генерал-маёр А. Ф. Іллін-Міцкевіч у момант пачатку вайны апынуўся на самай мяжы ў Рова-Рускай (Палкоўнік Р. Г. Уманскі. На баявых рубяжах. с. 39).

Згодна з загадам генерала арміі К. А. Мерацкова ў ліпені 1940 года была праведзена рэкагнасцыроўка на працягу ўсяго заходняга адрэзка мяжы. У ёй бралі ўдзел тысячы камандыраў усіх рангаў, уключаючы генералаў і маршалаў, займаўшых самыя высокія пасады, а Мерацкоў, які нядаўна разглядаў фінскую мяжу, робіць тое ж самае зараз на румынскім і германскім адрэзку мяжы. Таварыш Маршал Савецкага Звязу, вам слова: «Я асабіста здзйсніў працяглае назіранне із перадавых памежных пастоў» (На службе народа. с. 202). «Потым я аб'ехаў памежныя часткі» (там жа, с. 203). Мерацкоў разам з камандуючым Паўднёва-заходнім фронтам генерал-палкоўнікам М. П. Кірпаносам паўтараюць рэкагнасцыроўку на ўсім працягу Кіеўскай асобнай вайсковай акругі. «Із Кіева я выправіўся ў Адэсу, дзе сустрэўся з кіраўнікам штаба акругі генерал-маёрам М. В. Захаравым… я разам з ім паехаў да румынскага кардону. Глядзім на той бок, а адтуль на нас глядзіць гурток вайскоўцаў». Тут патрэбна заўважыць, што генерал Мерацкоў праводзіць рэкагнасцыроўку разам з генералам Захаравым, тым самым Захаравым, які паведамляе, што правядзенне гурткамі германскіх генералаў і афіцэраў рэкагнасцыровачных прац стварыла ў красавіку 1941 года «новую сітуацыю». А ці не задумваліся вы, таварышы маршалы і генералы, над тым, што германскія рэкагнасцыроўкі, пачаўшыяся ў красавіку 1941 года, былі проста адказам на масіраваныя савецкія рэкагнасцыроўкі, праводзімыя яшчэ з ліпеня 1940 года?

Але вернемся да Мерацкова. Із Адэскай вайсковай акругі ён спяшаецца ў Беларусь, дзе з генералам арміі Д. Г. Паўлавым старанна рэкагнасцыруе савецка-германскую мяжу і германскую тэрыторыю. Кароткі візіт у Маскву, і Мерацкоў ужо на Паўночным фронце. Адначасова ён паведамляе, што камандуючага Паўночна-заходнім фронтам ён у штабе не застаў, той праводзіць шмат часу на мяжы. Камандуючага Паўночным фронтам генерал-лейтэнанта М. М. Папова таксама няма ў штабе – ён на мяжы.

Да ўсяго гэтага дададзім, што ў 1945 годзе Сталін і яго генералы старанна падрыхтавалі і бліскуча правялі раптоўны ўдар па японскаму войску і захапілі Маньчжурыю, Паўночную Карэю і некаторыя правінцыі Кітая. Падрыхтоўка да нанясення раптоўнага ўдару ажыццяўлялася дакладна так жа, як і падрыхтоўка ўдару па Германіі летам 1941 года. На мяжы з'явіўся ўсё той жа Мерацкоў. Ён ужо Маршал Савецкага Звязу. Ён з'яўляецца на маньчжурскай мяжы таемна пад псеўданімам «генерал-палкоўнік Максімаў». Адзін із галоўных элементаў падрыхтоўкі – рэкагнасцыроўка. «Сам аб'ездзіў на ўсюдыходзе, а дзе і верхам на кані ўсе пляцоўкі» («Чырвоная зорка», 7 чэрвеня 1987 года).

Генерал-лейтэнант інжынернага войска В. Ф. Зотаў (у той час генерал-маёр, кіраўнік інжынераў Паўночна-заходняга фронту) паведамляе, што камандуючы Паўночна-заходнім фронтам генерал-палкоўнік Ф. І. Кузняцоў амаль увесь чэрвень 1941 года аж да 22-га правёў у раёне штаба 125-й стралковай дывізіі. Вайсковая рада фронту знаходзілася тут жа. А штаб 125-й стралковай дывізіі знаходзіўся так блізка ад мяжы, што «першы ж снарад у яго патрапіў» (На ПЗФ, с. 173-174). Можна сказаць: ах, якія ж гэтыя рускія дурні, так блізка штабы да мяжы перанеслі! Я таксама так выказваўся. А потым сабраў паведамленні пра размяшчэнне штабоў савецкіх дывізій і карпусоў на турэцкай і маньчжурскай мяжы. Дык вось там нічога падобнага не было. Штабы дывізій там размяшчаліся мінімум на адлегласьці 10 кіламетраў ад мяжы. А вось калі рыхтаваліся «вызваляючыя паходы», тады штабы шчыльна пераносіліся да самай мяжы. І не толькі штабы дывізій, але і нават

карпусоў, армій, франтоў. Так Жукаў перанёс свой штаб наперад перад нанясеннем раптоўнага ўдару на Халхін-Голе. Так усе савецкія генералы і маршалы дзейнічалі перад кожным наступленнем. Гудэрыян, дарэчы, рабіў тое ж самае. І Манштэйн. І Ромель. І Клейст.

Камандыры савецкіх дывізій і карпусоў, размешчаных у глыбіні савецкай тэрыторыі, таксама наведвалі мяжу, і вельмі інтэнсіўна. Маршал Савецкага Звязу К. К. Ракасоўскі (у той час ён быў генерал-маёрам і кіраваў механізаваным корпусам, але не каля самай мяжы) паведамляе, што часта наведваў І. І. Фядзюнінскага, корпус якога быў непасрэдна на мяжы. Генерал арміі І. І. Фядзюнінскі ў сваіх мемуарах згадвае, што сапраўды калегі наведвалі, вось напрыклад, Ракасоўскі. Такіх момантаў у мемуарах савецкіх маршалаў і генералаў мы знойдзем сотні і тысячы.

Маршал Савецкага Звязу К. С. Маскаленка (у той час генерал-маёр артылерыі, камандыр 1-й супрацьтанкавай брыгады РГК) непасрэдна злучае Паведамленне ТАСЗ з рэзкім узмацненнем рэкагнасцыровачнай актыўнасьці савецкіх камандыраў. Камандуючы 5-й арміяй генерал-маёр танкавага войска М. І. Патапаў абмеркаваў з генералам Маскаленкам Паведамленне ТАСЗ і ставіць заданне: «Падбяры добрых, адукаваных у вайсковым дачыненні людзей і выправі на мяжу, хай правядуць рэкагнасцыроўку мясцовасьці і паназіраюць за немцамі і іхнымі паводзінамі. Ды і для цябе гэта будзе карысна» (На паўднёва-заходнім накірунку. с. 21).

Пазначым для сябе, што супрацьтанкавай брыгадзе на пярэднім краі ў абарончай аперацыі рабіць няма чаго. Камандуючы арміяй уводзіць супрацьтанкавую брыгаду ў бітву толькі ў самай крытычнай сітуацыі, калі супернік ужо прарваў абарону батальёнаў, палкоў, брыгад, дывізій і карпусоў, калі ўзнік крызіс армейскага маштабу і калі накірунак галоўнага ўдару суперніка цалкам выразна пазначыўся. І гэта можа адбыцца толькі далёка ў глыбіні савецкай абароны. Але брыгада генерала Маскаленка не армейская і нават не франтавая. Гэта брыгада РГК – Рэзерву Галоўнага Камандавання. У абароне яе можна кідаць у бітву, калі абарона арміі і нават франту ўжо прабіта і відавочна наспеў крызіс стратэгічнага маштабу. Каб стратэгічны крызіс ліквідаваць, брыгада павінна знаходзіцца не каля мяжы, а ў дзясятках і нават сотнях кіламетраў ад мяжы, там, дзе стратэгічны крызіс можа ўзнікнуць! Пры падрыхтоўцы абарончай аперацыі камандыру супрацьтанкавай брыгады РГК каля мяжы рашуча няма чаго рабіць. А калі рыхтуецца грандыёзнае савецкае наступленне з Ільвоўскага выступу ў глыбіню тэрыторыі суперніка, то левы фланг самай магутнай групоўкі войска, якая калі-небудзь да гэтага стваралася ў гісторыі чалавецтва, будзе прыкрыты Карпатамі (і горнымі арміямі, якія там з'явяцца), а правы фланг патрэбна будзе абараніць звышмагутным супрацьтанкавым фармаваннем, прытым каля самай мяжы. Менавіта там брыгада і знаходзіцца, і генерал Маскаленка згодна з загадам генерала Патапава асабіста выпраўляецца на рэкагнасцыроўку тэрыторыі суперніка.

Калі нехта паспрабуе патлумачыць савецкія рэкагнасцыроўкі тым, што Савецкі Звяз рыхтаваўся да абароны і таму, маўляў, савецкія камандыры глядзелі праз мяжу, я тады нагадаю, што ў складзе савецкіх рэкагнасцыровачных згуртаванняў было вельмі шмат сапёраў, уключаючы сапёраў самага вышэйшага гатунку. Калі рыхтуецца абарона, то сапёру няма патрэбы аглядаць мясцовасць суперніка, яму на сваёй тэрыторыі працы дастаткова, і чым глыбей адыходзіш на

